

М. ШМАТАВА. ІЛЮСТРАЦЫЯ ДА ВЕРШАЎ М. БАГДАНОВІЧА

# Маладосць

ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА
ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ
БЕЛАРУСІ

ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

Выдаецца з 1953 года

9 · 89

(439) ВЕРАСЕНЬ

МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА
ЦК КП БЕЛАРУСІ

# У нумары

## Паэзія • Проза

**АКСАК Валянціна.** Вершы . . . . . 4

**ПАШКОЎ Генадзь.** Вершы . . . . . 6

**КЛІМОВІЧ Уладзімір.** Рапсодыя яе кахання. Шарык. Што можа «эўрыка!». Апавяданні . . . . . . . . . . 11

**ДРАНЬКО-МАЙСЮК Леанід.** Вершы . . . 17

**МАЛЬДЗІС Адам.** Звястун абнаўлення. Старонкі з будучай кнігі-эсэ пра Уладзіміра Караткевіча . . . 21

**МІНКІН Алег.** Вершы . . . . . . 42

**ГАЛЬПЯРОВІЧ Навум.** Вершы . . . . 44

**КАПУСЦІН Аляксандр.** Хата з ясенем пад вокнамі. Апавяданне . . . . . . 47

**ЛІПСКІ Уладзімір.** Невядомы. Аповесць 55

**ЕРМАЛОВІЧ Мікола.** Старажытная Беларусь. Гістарычныя нарысы. Заканчэнне 112

## Публіцыстыка

**ШАГУН Алесь.** Электронны «чалавек» . . 120

**ГЛУШАКОЎ Уладзімір.** Арандатары і гаспадары . . . . . . . . . . 129

**АРЭХВА Мікалай, КАЛЕСНІК Уладзімір, МАКАЛЬ Пятрусь, БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА Данута, БЕЛАКОЗ Алесь.** 1939—1989. Праз 50 гадоў: успаміны, думкі, сённяшні погляд . . . . . . . . 138

**ДЗЯЛЕЦ Міхась.** Усё жыццё і сустрэча, якая не адбылася . . . . . . . . . . . 151

**ЦЫПІС Навум.** Палёт да зямлі . . . . . 168

**Папытай у кнігарні** . . . . . . . 174

**Нашы аўтары** . . . . . . . . . 176



Вокладка **М. Анемпадзістава.**

На шмуцтытуле паэзіі і прозы — **М. Шматава. Успамін пра лета** (туш, акварэль, 1988).

На шмуцтытуле публіцыстыкі — фота **С. Брушко.**







# Паэзія Проза



*Упершыню ў „Маладосці"*

## *Валянціна Аксак*

■

Выйду ў ноч да чужой камяніцы,
Дзе агеньчык самотны дрыжыць,
Не зачынены ў ёй аканіцы,
Хтось жыве і не хоча там жыць.

На стале ў яго кніжка святая,
У куце ўкрыжаваны Хрыстос,
І дубовая лава пустая,
Густа скрэмзаных аркушаў стос.

Кожнай ноччу іду да яго я,
Кожнай ноччу — ні кроку бліжэй.
Дзённай споведзі слова даўгое
Мне аб святасці ночы ілжэ.

■

Дрэва спалілі,
Пакінулі лісцік кляновы,
Залевы пабілі
Сужылкі спляценняў нервовых.

Неадчувальны
Да ветру і сцюжаў бясконцых,
Неўратавальны
Аднолькава ветлівым сонцам.

Лісцік распнуты
Вісіць на паўночным паўшар'і,
Звыклыя путы
Церпіць, як боскую кару,

Што не прыпомніў
Наступнікаў д'яблавай маткі,
Якія ў катоўні
Таўклі на мякіну крылаткі.

Нема трывае
І трызніць: на гэтым кладзішчы,
Семка малая
Яшчэ прарасце з папялішча.

■

Застрэлілі памяць,
Як тую ваўчыцу на ўзлессі.
Пакінулі дзетак малых,
Ваўчанят, сірацін без пары.
Ніяк не уцямяць,
Чаму гэта выюць ваўкі не па-воўчы
Дагэтуль на нашым двары.

## КАЛЯДНІК

У царстве здрадлівых марозаў
Танюткім прадзівам па шкле
Карункавых метамарфозаў
Хітраспляценні на святле.

І толькі квет на падваконні —
У мёртвай шыбіне прасвет,
У залюстэркавым сутонні —
Жыцця зазімленага след.



## СЯРГЕЮ ЦІМОХАВУ

Сполахі водсветаў мякка спляліся
над ацішэлым сутоннем,
фарбы твайго шматгалосся зліліся
ў рэха нячутных сімфоній.

Цесна ім, цесна ў казённым пакоі,
просяцца вонкі, ірвуцца
ў далі палёў, у тваё Прыдняпроўе —
шырака там разгарнуцца.

І задзівуюцца позніх госці
сполахам ззяння над полем:
як хараство тут знайшлося такое?
Ці то зарніцамі ўспыхнулі косці?
Ці то мастак насваволіў?

■

Вадаспады воску
Крута прыкіпелі
Да старой стальніцы
Ля чужой пасцелі.

Саламяны кошык
Шчодры на пігулкі.
Пакручасты почырк
Крэсліць загагулькі.

## ЛІСТАПАД

Дождж змывае золата з бярэзін,
Вецер рве рубіны з арабін,
Металёвы храбусткі пярэдзім
Лье на крохкі восеньскі бурштын.

Нізка голле звісла з вербалозаў,
Слёзы-льдзінкі скідвае на дол
І люляе ў мроіве марозным
Так даўно астылае гняздо.





## *Генадзь Пашкоў*

■

Над палямі звіняць
тэлеграфныя гуслі,
а ў навіслай сінечы
замглёных нябёс
падхапілі іх песню
самотныя гусі,
і па нервах прабег
маладзенькі мароз.

У лясах пасвятлелых
палаюць крывава
ацяжэлыя гроны
такою парой.
Ападае лісцё
ў забуялыя травы,
круг зрабіўшы павольны
над галавой.

А вакола — святло
ад зямлі пасвятлелай,
нібы з першаю рунню
у майскія дні.
Ды нядоўга чакаць
залюцелую вею,
што баярскія шапкі
напяліць на пні.

Так мінаецца ўсё,
як пяшчотнае лета,
і ты сам неўпрыкмет,
перайначаны ўвесь,
адчуваеш журбы
узыходжанне светлае
у душы,
што прыціхла,
як выстылы лес.



## ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОВА

*К. Цвірку*

Старыя Дарогі.
З-пад шатаў турок
пратуркае глуха замову,
ледзь толькі паверне гасцінец
убок,
да вёскі
Зялёнай Дубровы.

Здалёку,
з-за голля,
маўкліва глядзяць
маёваю сінню акенцы.
Выходзіць чаромха за вёску
страчаць
у воблачна-хмельнай сукенцы.

А там і салоўка,
салодкі,
як грэх!
І толькі адно маладзіцы
вякуюць,
з вайны дажываючы век,
ля сумнай скачальскай вадзіцы.

А ты,
разагрэты,
у возера скоч —
працяты да кожнае жылкі,
успомніш
любімае мамкі апроч
і вершы
дубровенца Цвіркі!

Ашпарыўшы ногі,
не чуючы рук,
згадаецца казка былая:
яно то і праўда,
што тут паляшук
агонь да вадзіцы мяшае.

Старыя Дарогі.
Дарог
родны край,
задумлівы,
шчыры,
вясновы,
як гэты чысцюткі
пралескавы май
у вокнах
Зялёнай Дубровы!

■

Зноў зямельцы дакукі стае:
свішча шпак,
і паводка віруе.
Як паверыць цяпер,
што яе
прагна
атамны шашаль
свідруе?
І я сёння
у жудасным сне
прахапіўся
з мальбою няўцямнай.
Гэтай ноччу
прыснілася мне,
быццам тыя,
што леглі пластамі
пад нагамі дрымучых лясоў,
у цяжкіх і нямых сутарэннях,
лучаць рукі
праз жоўты пясок,
праз балотную твань
і карэнне,
каб Зямельку,
што глуха трашчыць,
прасядае,
дрыжыць пад касцямі,
ад пагібелі
уберагчы —
арматураю робяцца самі.

■

Як рыцарства працяг,
пабліскваюць металам
бляшанкі на грудзях,
а на вачах —
забрала.

Матацыклетны роў
над месячнаю сцежкай.
Сухі жаргончык слоў
ды бляклыя усмешкі.

Які жыцця парыў
надзеў на грудзі латы?
Каб век,
на нораў злы,
вятрамі душ не кратаў?

Ці рыцары тады?
Бо рыцары
штомоцы
даказвалі заўжды
дух рыцарскі
у бойцы...

Які асіліць страх,—
пабліскваюць металам
кальчуга на грудзях,
а на вачах
забрала?..

## СКАЛАЛАЗ

Ледзь расступіўся бор,
і на пагорак выплыў,
азяблы ўвесь,
сабор
паміж дуплястых ліпаў.

Вітаючы багоў,
гурмой манашай пела
з-пад купалаў яго
вароніна капэла.

Да званоў
па сцяне
чарнелі, быццам свечкі,
напэўна,
на вайне
набытыя
засечкі.

Ды кажуць: «Альпініст,
перш чым падацца ў горы,
не маючы гары,
браў вопыт на саборы».

Мацуючы кручча,
пагляд закідваў высака.
І цэгла на плячо
крывёй рудою пырскала.

А потым з вышыні
птушынага палёту

глядзеў з-пад далані
на блізкае балота.

Свяцілася ўваччу —
усё-такі падзея!
...Ён так і не адчуў
душы сваёй
падзення.

■

Пабудзіць світальная птушка,
і твой перапынены сон
цяжкая галіна загушкае
ля ўсходніх
ружовых акон.

Ты сонцу насустрач выходзіш
дня новага слухаць
паслоў
і мокрую сцежку знаходзіш
між пыльных,
густых лапухоў.

Над быстраю рэчкай
ялінаў
зялёныя ўсталі крамлі.
Іх шышкі ўрачыстым рубінам
палаюць у верхнім галлі.

Ідзеш на абрывы крутыя
і гэткую бачыш красу,
пакуль хабаткі залатыя
высмоктваюць з лісця расу!

— Гэй, бусел! —
крычыш,
і выходзіць
з-за вольхі
на дымны папар
апеты у нашым народзе
з павагай
цыбаты гусар.

А вокал —
разводдзе ад пахаў
гарачага сена ў стагах.
Нырцуеш у зёлкі з размаху,
не ўстояўшы больш на нагах.

І ў гэтай туманнасці дзіўнай
скрозь сон
адчуваеш з травы,
як сіла зямелькі радзімай
ажно закіпае ў крыві.



## БАНАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

Не змружыць стомленых павек
да ранку
душнай ноччу мая:
любоўю трызніць чалавек,
якой нясцерпна не хапае.

Не праміну́ць бы незнарок.
Яны усё-такі павінны
паміж крутых
зямных дарог
перасячыся,
дзве сцяжыны.
Яны зліюцца,
сцежкі дзве,
у свеце тлумным і бясконцым.
Два сэрцы, поўныя надзей,—
гарачыя паўшар'і сонца.
І у пякельным ззянні тым,
дзе ад агню пасмягнуць словы,
аднойчы лёс
падорыць ім
шчаслівы парастак вясновы.

І той сямейны сплаў жыцця
каб распазнаць якое пробы,
на віражах крутых быцця
не раз падкіне лёс
калдобы:
то перабор,
то нелады,
то гром пракоціцца апальны,
і сонца іхняе тады
заб'ецца ў шэрані банальнай,
дзе, астываючы, няўзнак
атрутным чадам захліснецца.
Хто вінаваты?
Дзе і як?
Тут ЭВМ не разбярэцца.

А ледзьве скончыць шчасце
рэй,
і дэкарацыяй для драмы
пастануць сумна ля дзвярэй
вузлы,
пакункі,
чамаданы.
Усё,
што мелі на дваіх,—
нібы сляпая выпадковасць.
...Маўкліва сын глядзіць на іх,
як недзялімая маёмасць.

Што на вірах,
дзе каламуць,
па крохкай веснавой ільдзіне —
скразныя трэшчыны ідуць
па сэрцы,
быццам павуцінне.

■

Пра мёртвых кепска не кажы...
Яго даставілі з палаты,
чужы і сцішаны ляжыць
у акружэнні вінаватым.

А быў вясёлы ён якраз.
Быў таварыскі.
Быў гарачы.
Адно часцей, можа,
чым нас,
яго наведвалі
удачы.
Не выпадковыя,
як лёс
спагадны раптам падвінецца,—
ён крыж будзённы цяжка нёс,
што чорнай працаю завецца.

Ён разбіваўся да крыві.
Ён усміхаўся вінавата,
калі, узбуджаныя, мы
ішлі
у бойку
брат на брата!

І зноў
у стылым,
страшным сне —
ажно мароз пульсуе ў венах! —
усмешка вусны ледзь кране
пад лёгкім
сонечным праменнем.

І ад марознага агню,
ад той усмешкі вінаватай
адчулі мы
упершыню
і кошт жыцця,
і горыч страты;
што мёртвых любім,
а жывых —
радзей адкрыта,
больш употай —
за недахоп,
за поспех іх —
закопваем,
**як далакопы!**

■

Шчаслівы птах прывечвае вясну,
спявае ад світанку і да поўні.
Ён славіць сад ружовы,
баразну,
ну, і само сабой,—
сваю шпакоўню.

А што такое робіцца між нас:
нібы ў душы паплеснелі ўсе скарбы,—
мінулы
перакрэсліваем
**час**
і без разбору
мажам чорнай фарбай?..





*Упершыню ў „Маладосці"*

*Уладзімір Клімовіч*

АПАВЯДАННІ

# РАПСОДЫЯ ЯЕ КАХАННЯ

Яна прыйшла да яго сама, бо ён не клікаў і даўно ўжо не бачыў яе. А наогул, яна прывыкла з ім так. Яго заўсёды больш цікавілі свае клопаты. Прынамсі, яна і не патрабавала нечага вялікага, незямнога. Усяго толькі крышачку пачуцця ўзамен на яе здранцвелае, не атрымаўшае водгуку ў яго сэрцы каханне.

Яна доўга збіралася з думкамі, пакуль ляжала ў бальніцы, хоць і ведала, што хутка ўсё гэта скончыцца, канец будзе скора і абавязкова. Але тады стане яшчэ больш балюча і цяжка, бо яна пачынала да яго прывыкаць.

Ён сядзеў у сваім агромністым інтэрнацкім залепленым крыклівымі плакатамі замежных фільмаў пакоі адзін, зноў нешта крэмзаючы ў сшытку. Ён часта вось так садзіўся за стол, не зважаючы ні на кога, і пачынаў апантана спісваць свой тоўсты шэры сшытак. Яна ведала, што ён піша апавяданні, хоць ні разу іх і не чытала. Ён быў студэнтам, вучыўся ў інстытуце і рыхтаваўся стаць акторам. Гэта ёй не падабалася, таму што, калі заставаліся ўдваіх, ён быццам нацягваў на сябе нейкую тэатральную маску, а самім сабой заставаўся рэдка. Вось і цяпер адвярнуўся, звычна загортваючы сшытак, угледзеў, хто прыйшоў, і зноў пачаў нікому не патрэбную гульню: устаў, высока ўскінуўшы бровы, падышоў і ўткнуўся галавой да яе ў грудзі.

— Колькі лет, колькі зім,— голас гучаў ненатуральна і фальшыва.

У такія імгненні ёй здавалася, што ён уяўляе сябе на сцэне і адначасова пазірае на сябе збоку.

— Прывітанне,— яна ўзяла яго за руку.

— Прыехала? Куды ты знікла? Спрабаваў некалькі разоў да цябе зайсці. Кажуць, паехала недзе. Я ўжо думаў... Распранайся.

Мал. **М. Шматавай.**

І дапамог зняць паліто. Тут ён быў заўсёды джэнтльменам. Яна прысела на ложак. Торгнуўшы плячыма, бы адганяючы апошнія мроі і надзеі, ціха сказала:

— Я ў бальніцы была...

Ён яшчэ не здагадаўся, у чым справа.

— Захварэла, ці што?

— Так... ну...

Тут яна паглядзела яму ў вочы — мо ўпершыню за той час, што ведала яго, — так адкрыта і прама. Вочы ёй падабаліся — блакітныя і глыбокія. Цяпер у іх нешта падалося, два маленькія азярцы звузіліся.

— Што — гэта?.. — Ён зрабіў невыразны жэст.

Яна моўчкі ўсміхнулася.

— Ад мяне?

Нейкія хвілі ў пакойчыку стаяла анямелая цішыня.

— Але чаму ты мне раней не сказала? — убачыўшы, што яна не жартуе, у яго задрыжаў голас.

— Не турбуйся, яго не будзе... І мяне таксама.

— Што?!

— Я прыйшла развітацца.

І зноў усё сціхлася, быццам у вакууме. Толькі нудна цікаў мудры гадзіннік, адбіваючы сваімі старымі механізмамі толікі часу.

— У рэшце рэшт, я ўсё роўна не была табе патрэбная. Можа... нават, замінала.

Ён ускінуў вочы і памкнуўся нешта сказаць. Яна ведала, што ён зараз пачне даказваць адваротнае, будзе старацца запэўніць яе. Ведала і баялася, што не зможа ўстаяць, а пасля зноў будзе сябе дакараць. Таму перахапіла яго думку і сказала першая:

— У мяне з'явіўся сябар.

— Хто ён? — На хвіліну блакітныя азерцы замутнелі чырванню рэўнасці.

Ды толькі яна ведала, што рэўнасць гэтая не з-за яе, а з таго, што ёсць нехта лепшы за яго і спрытнейшы, які змог захапіць тое, што было ягоным.

— Ён ваенны. Лейтэнант. Хутка будзе капітанам.

— Як гэта? — Ён аж узвіўся. — З лейтэнанта і адразу да капітана?.. Усё ясна — запудрыў мазгі.

Яна глянула спачувальна, уздыхнула і ледзь чутна сказала:

— Проста цяпер ён старшы лейтэнант... І наогул, мы хутка кудынебудзь з'едзем... Памятаеш, я табе казала, што можна нават і спаць разам, а быць чужымі. А можна і наадварот.

— Лейтэнант, напэўна, лысы?

Яна ўразілася і праз смех адказвала:

— Не. А скуль ты ўзяў?

Тут яго быццам прарвала:

— Таму, што палова ваенных лысыя. І жонкі ім маняць, з другімі гуляюць. А што за жыццё ў цябе будзе, ты падумала? Адны калёсы і чамаданы. Ну чаму, чаму, калі на тое пайшло, ты не змагла знайсці сабе сябра з іншай прафесіяй?..

Ён разумеў, што меле нейкую лухту, але спыніцца не мог. І толькі ўсё выразней адчуваў, што паміж імі ўсё скончана.

— Учора мяне запрасілі на тэлебачанне здымацца, — гэта была апошняя спроба, апошняе намаганне.



Але яна не звярнула на ягоную навіну асаблівай увагі.

— Буду рада, калі ўбачу цябе на тэлеэкране.

Ён канчаткова апаў духам. Разумеў, што ўсё скончана. Трэба было толькі нейк прыгожа паставіць кропку. І таму сеў на падлогу і паклаў галаву ёй на калені.

— Ты яго кахаеш?

Яна правяла рукой па капе чорных валасоў, што рассыпаліся па сукенцы.

— Напэўна.

— А ён цябе?

— Вельмі.

Яна не хацела задаваць гэтае пытанне і ўсё ж не ўтрывала:

— А ты?

Ён не ведаў, што адказаць, але хутка знайшоўся:

— Яго — не!

Яго галава ўсё так жа ляжала на каленях, дык ён не бачыў, як коцціца ў яе па твары крышталёвая кропелька.

— Даруй, мне трэба ісці, — яна ўстала і пачала апранацца.

Ён таксама ўскочыў.

— Я цябе правяду.

Яны выйшлі з інтэрната. Быў марозны вечар. Прыпынак знаходзіўся тут жа, амаль ля самых дзвярэй. Яна ўчапілася яму ў руку і ўглядалася ў твар.

— Ты мяне не праводзь дадому, добра? Усё роўна спаць з табой не змагу. Я баюся цяпер...

Гэта яго аж аглушыла. Навошта яна абражае? Ці хоча кпіць з яго да апошняй хвіліны? Але тут нарэшце зразумеў, што ва ўсім вінаваты сам. Бо колькі да яе ні прыходзіў, кожны раз усё зводзілася толькі да аднаго...

Пад'ехаў аўтобус, разявіўшы дзверы. Ён прыцягнуў яе да сябе і, адчуўшы, як раптам затахкала сэрца, сказаў:

— Жадаю шчасця.

Але чамусьці зноў усё атрымалася плакатна, недарэчна і нейк танна, бы фальшывая капейка. Яна адштурхнулася і пабегла да аўтобуса.

Ён развярнуўся і моўчкі пакрочыў прэч, не разбіраючы дарогі. Выразна ўяўляючы, як расце паміж імі адлегласць, а разам з ёй і бяздонне.

Яна стаяла ля акна аўтобуса, глядзела праз бруднае шкло, як ён аддаляецца, і хацела ў гэты момант толькі аднаго: каб хутчэй зачыніліся дзверы, пакуль яна не крыкнула яму, што ўсё гэта няпраўда і выдуманая ёй байка. Што ніякага лейтэнанта ў яе няма і што каханне, яе каханне да яго, хоць і кволае, здранцвелае, а ўсё ж спрабуе даць атожылкі, каб выжыць. І што для гэтага менавіта ад яго трэба зусім нямнога — толькі чулы і пяшчотны дотык, толькі цёплы подых сэрца.

А ён усё гэтак жа і крочыў, не гледзячы ні на кога. Звярнуў з тратуара і пайшоў прама праз вуліцу. Мажны міліцыянер, што стаяў на перакрыжаванні вуліц, адразу ж угледзеў адзінокага парушальніка і даў гучны адрывісты свісток.

Ён не спыніўся і не змяніў напрамку. Міліцыянер падбег да парушальніка, каб узяць штраф. Але той чамусьці і не спрачаўся — дастаў нейкую купюру, сунуў яе мажному ў кішэню зашмальцаванага форменнага кажушка і паволі рушыў далей. Міліцыянер дастаў грошы, вылупіў на іх вочы і, азірнуўшыся, пайшоў на сваё ранейшае месца.

Горад падслепавата ўглядваўся рэдкімі вокнамі ў марозную цемень.

# ШАРЫК

Мы назвалі яго Шарыкам. Нейк увечары бацька прынёс яго, яшчэ шчанюком, аднекуль з вёскі — проста ў дом. Дастаў з-за свайго вайсковага брудна-зялёнага бушлата малюсенькі трапяткі камячок і беражліва апусціў на падлогу.

— Прымайце, дзеці, у гаспадарку!

Я з сястрою заверашчалі ад радасці, кінуліся да Шарыка. А ён, асляплены электрычнасцю, аглушаны нашымі крыкамі, прыціснуўся да цаглянай печы і дрыжаў кожнай валасінкай. Толькі бліпічалі ў чорнай поўсці, бы згубленыя пацеркі, вочы.

З цягам часу Шарык падрос і лічыў сябе паўнапраўным гаспадаром будкі, што перайшла яму ў спадчыну ад папярэдняга сабакі, і ўсяго двара. Цыбаты суседскі певень Цыпрук, дурань і свавольнік, больш не крыўдзіў нашага, слабейшага і маладзейшага, а зводдаль паглядаў на заступніка, фанабэрліва трос чырвонай барадой і прыдуркавата касіўся на ўласны ўжо аднойчы пашкамутаны Шарыкам хвост. А той, хоць і быў невялікі і не адразу кідаўся ў вочы, адчуваў сябе на двары каралём. Было ў гэтай невялікай калматай чацвераногай істоты вельмі абвострана пачуццё ўласнай годнасці. Мы прывыклі да Шарыка, да яго залівіста-галоснага брэху. Павінен сказаць, што Шарык і брахаў на кожнага па-свойму, па-шарыкаўску. Я нават навучыўся па яго голасе пазнаваць, што робіцца на двары: ці то Цыпрук прабіраецца агародамі да курэй, ці то варона цікуе куранят, ці то ідзе хто незнаёмы ў дом...

Ды толькі хутка ў нас з'явіўся другі сабака — вялізны гультаяватыВаўчак. Яго навязалі на тоўсты ланцуг ля будкі, і ён увесь час там спаў. А Шарыка бацька адвёз сваяку ў суседнюю вёску...

Недзе праз тыдзень маці разбудзіла мяне з сястрой ранкам. Трэба было перад школай з'ездзіць на рынак купіць нам патрэбныя рэчы. Прыгарадны цягнік спыняўся на пераездзе кіламетры за тры ад вёскі. Мы крыху прыпазніліся і ўсю дарогу ішлі подбегам. Ля самага пераезда я здрыгануўся ад нечаканасці: у ранішнім змроку нешта цёмнае, імклівае бясшумнай стралой кінулася мне ў ногі. І адразу ж адчуў, як гэтае мяккае, шурпатавільготнае дакранулася да рукі. Шарык!

А ён скакаў ля нас, цяўкаў і стараўся злавіць языком нашы рукі. Ды тут ужо азваўся цягнік. Я апошні залез па прыступках у тамбур і клікаў, клікаў Шарыка да сябе. Ён на хвіліну завагаўся, і дзверы з грукатам сашчапіліся паміж намі.

Цягнік набіраў хуткасць. Я стаяў ля вакна і ўглядаўся ў гэтую маленькую істоту, што ўжо аднойчы змагла даравацъ людзям іх здраду, а цяпер з усіх сваіх малюсенькіх лап старалася не адстаць, дагнаць цягнік. На душы было прыкра і горка...

Дні праз два я паехаў да сваяка, каб забраць Шарыка. Няхай дома бацькі кажуць, што хочуць. Толькі яго ўжо там не было. Шарык перагрыз нашыйнік у той ранак і больш не з'яўляўся. Не прыйшоў ён і да нас.

У яго было вострае пачуццё ўласнай сабачай годнасці.



# ШТО МОЖА «ЭЎРЫКА!»

— Колька! Бяжы хутчэй сюды! Ну што ты бегаеш, як Паўлюкова свіння, — нецярпліва кліча свайго сябрука белабрысы Віцька — жах для вясковых вераб'ёў.

Нават і цяпер у левай яго руцэ матляецца па-майстэрску зробленая рагатка.

— Вось зараз як пульну ў твой гарбуз, дык адразу пахудзееш кілаграмы на два, бегаць будзе лягчэй, — крычыць Віцька, нацэльваючыся ў сябраў жывот.

Да яго, засопшыся, падбягае Колька. Даядаючы дранік, пытае:

— Чаму як Паўлюкова свіння?

— Бо я ёй учора нагу перабіў. Цяпер яна як у цырку — на трох па двары скача. Толькі ж ты — нікому.

— Не-е. Я — маўчок, — запэўнівае Колька Віцьку, які ўжо спахапіўся, што замнога сказаў.

Сябры стаяць пасярэдзіне брукаванай вуліцы, такія не падобныя адзін да аднаго. Віцька — высокі і худы, з дробнымі рысамі твару. Колька — зусім наадварот, поўная процілегласць Віцьку. У іх нават колер валасоў розны. У аднаго белыя, а ў другога чорныя. І што іх яднае?

Я пакідаю сваю схованку і выходжу на вуліцу да хлопцаў.

— Навіну чуў? — пытае Віцька ў Колі, але, угледзеўшы мяне, змаўкае.

— Добры дзень, — вітаюся з кожным за руку.

Гэта іх крыху бянтэжыць, але яны рады, што старэйшы з імі роўня.

— Ну, расказвайце, якая ў вас навіна?

Віцька глядзіць зверху ўніз на Кольку, пасля знізу ўверх на мяне. Я здагадваюся, што знае гэту навіну адзін толькі Віцька. Ён перамінаецца з нагі на нагу і аб'яўляе сур'ёзным тонам:

— Учора вечарам воўк Данілу каля Песчыны заступіў.

— Ну і як? З'еў?! — пытаюся, дражнячы хлопца.

— А што ж яго есці — адна скура ды косці. Ды барада яшчэ да пояса. Якога чорта воўк зубы будзе ламаць? Але дзед усё роўна спалохаўся, а потым сабакам прыкінуўся.

— Што?.. Як?!

— Не ведаю, але воўк уцёк.

— А дзе ж ты гэта чуў?

— Ды я на яблыні сядзеў у Данілавым агародзе, калі ён дамоў прыйшоў і сваёй бабе расказваў, — з гонарам заяўляе Віцька.

Хлопцы ідуць у другі бок вёскі. Я застаюся адзін. Цяпер з галавы не выходзіць Даніла. Цікавы ён дзед. Неяк, памятаю, прыйшлося мне з ім пасвіць кароў, дык ён мне столькі неверагодных гісторый нарасказваў, што, напэўна, сам барон Мюнхаўзен пазайздросціў бы дзеду. То ён іголку на падлозе згубіць, а пасля ў акулярах без шкельцаў шукае. То ў канцы вайны снарады абясшкоджвае: возьме жэрдку доўгую, замахнецца ды калі ўлупіць, то так вухне, што жэрдкі няма, яма метры на тры ўглыбіню,

усё кругом чорнае, і ён чорны. А яшчэ пахваліўся, што добра ведае польскую мову. На маё пытанне, як жа па-польску будзе карова, Даніла, не міргнуўшы вокам, адказаў: «Мукала!».

І вось праз некалькі дзён пасля таго, як Віцька расказаў мне гэтую навіну, я неяк нечакана (хто б падумаў!) у лесе сустракаюся з дзедам Данілам. Мы вітаемся. Гаворым пра грыбы, пра надвор'е... А ў мяне ўсё карціць спытаць яго пра ваўка. Нарэшце я не вытрымліваю:

— І не баіцеся вы ў лес хадзіць. А раптам зноў ваўка спаткаеце?

— Ваўка? А адкуль ты гэта ведаеш?.. От старая, не вытрымала.

— Дык пра гэта ж уся вёска ведае.

— От хвароба! — разгубіўся дзед.

— А ўсё-ткі раскажыце, як было.

Я бачу, што Данілу не хочацца расказваць. Але падзецца няма куды.

— Давай прысядзем... Ось так. Мне ўжо цяжка стаяць.

Мы ўладкоўваемся пад высокай разгалістай хвойкай.

— Ну, слухай. Раскажу табе ўсё па парадку... Значыцца, быў я ў гасцях у свайго зяця, на хутары. Выпілі мы з ім добра... І час як бачыш прайшоў: ужо і сцямнела дужа. Ну, сабраўся я дый пайшоў дамоў. Іду, спяваю сабе паціху. Ужо быў пасярэдзіне Песчыны (невялікі лясок), калі пачуў некага за спіною. Я бачу ўжо дрэнна, а слых у мяне яшчэ — ого-го, дай божа кожнаму. Азірнуўся, бачу, чатыры агеньчыкі блішчаць. Добра прыгледзеўся — напалавіну меней. Гэта ад гарэлкі мне чатыры здалося. Воўк! Што тут, брат, рабіць? Я крок уперад, а ён — два. Я стаю — ён стаіць. Ну, павярнуўся я да яго, значыцца, на ўсю фігуру. А тут і месяц з-за хмары выглянуў. Дарогу асвяціў. Стаім мы ўдвайгу на гэтай дарозе, і больш нікога. «Хоць бы заяц які выскачыў з-пад куста на вячэру яму замест мяне», — думаю. А воўк тут падыходзіць пачаў. Ціха так і асцярожна. І вочкі свецяцца — такія малюсенькія, як у блашчыцы. Насунуў я шапку на вочы — будзь, што будзе — і стаў на карачкі. Бачу праз дзірку ў сваім галаўным уборы, пачвара гэтая спынілася. Напэўна, не адразу зразумеў ён, што да чаго. А я тут яшчэ брахаць пачаў і скакаць па дарозе. Шапка перакруцілася другім бокам, і я ўжо нічога не бачу. Скачу ўсляпую. І тут мяне такая адчайнасць узяла... Цяўкнуў я мацней і пайшоў на воўка. Адступаць жа нельга. Ну, і пачаў я кукарэкаць, мяўкаць, бляяць... Не памятаю, колькі часу я даваў тыя гастролі і які епертуар выконваў, але калі зняў шапку, то воўка нідзе паблізу не было. Ось так, брат...

Пасля доўгага маўчання ён узнімае палец і зусім нечакана дадае:

— Эўрыка!

Хто яго ведае, можа, на гэты раз дзед Даніла кажа чысцюткую праўду.



# *Леанід Дранько-Майсюк*

## ВУЧАНЬ

Пішу — ма́ю ў тым асалоду,
Рыфмую — «табе» і «сабе».
Ад раніцы і да заходу
Пілую вучнёўства калоду
Да зморы, да болю ў гарбе.

І колькі яшчэ давядзецца
Пісаць-рыфмаваць неўпапад?
Вучнёўства ці стане майстэрствам?
Вучнёўства аблытала сэрца —
І ўжо ні туды, ні назад.

Назад — сапраўды немагчыма.
Туды — ёсць надзея, аднак
Надзея з пустымі вачыма,
Надзея з хадою качынай —
Ёй верыць? Хацеў бы. Ды як?

Яна ж на бальшак не выводзіць,
А так — па дрыгве, па куп'і,
Па жвіры і зноў па балоце —
Вядзе, і падманліва ў слоце,
Як жабы, пяюць салаўі.

Яе не папросіш: «Даволі»,
Не крыкнеш у твар: «Адыдзі!»
Па жылах цячэ алкаголем,
Звісае пятлёю са столі,
Смяецца і цвеліць: «Глядзі,

Вяроўка — таксама ж магчымасць
Наблізіць сябе да багоў.
Ты шыю не сцісквай плячыма,
Паперу бяры і прычыну
Тлумач — адышоў да майстроў.

Маўляў, пры жыцці не ўдалося
Стаць майстрам (ён гэтакі — лёс),
Аднак жа даволі знайшлося
Рашучасці ў шэранькім лёсе...
І вось — у нябёсы панёс».

Штукарка. У гэтыя штукі
Хіба што адпеты вар'ят
Паверыць без лішняй прынукі,
Уздыме набраклыя рукі —
Ахвяра і сам сабе кат.

А я не вар'ят, не падучы,
І ўсе адхіленні мае
У тым у адным, што я — вучань,
Рамеснік, якому балюча
Глядзець на «майстэрствы» свае.

Як боскую светлую ласку,
Прымаю жыцця кожны міг,
Пражыў ці не большую частку
І трапіў у боль, нібы ў пастку,
Шапчу... А мой шэпт быццам крык.

Крычу і сябе разумею,
І ў тым разуменні адно:
Хачу развітацца з надзеяй —
А як развітацца? Не ўмею.
Закрыць, нібы накрыўкай дно?

Забыцца на вуліцы недзе?
На снезе пакінуць? Ды не,
Нішто ёй не стане на снезе,
На лёдзе нішто, на жалезе...
Дарма ўсё! Яна ж ува мне!

Вось тут, каля сэрца,— цяжкая,
З сябе не пагоніш, ані,

Бо гэта надзея пустая,
Як тая пухліна, пускае
Глыбей і глыбей карані.

Самому — на снег, на жалеззе?
Упасці на лёд, растапіць —
Хай цела ў палонку пралезе,
Ні гімнаў яму, ні паэзій —
Нічога. Ды хочацца жыць.

Адзінае выйсце — майстэрства.
Адзіна шчаслівы зыход:
Вучнёўскія путы раздзерці,
Стаць майстрам і майстрам памерці,
А там — хоць палын, хоць асот.

Вядома, на ўласнай магіле...
Пакуль жа пакутна марнець...
Да самай апошняе хвілі,
Да скону прабуючы крылле,
А ў неба ні раз не ўзляцець.

Вялікія, дапамажыце!
Іван Дамінікавіч, Вы
Няслі ў сабе нашыя жыцці,
За гэта і джалы, і кіпці
Да Вашай паўзлі галавы.

За гэта, як ордэн, пакуты,
За гэта ж і памяць, як храм..
Таксама да страху прыкуты,
Вы зведалі тыя мінуты,
Што Бог ахвяруе майстрам.

Гадзюкаю тая надзея
Ад Вас адышла, адпаўзла.
Надзея, з якою тупее,
Надзея, з якою нямее
Душа і прыходзіць імгла.

Прашу я, зрабіце такое —
Няхай ад мяне адпаўзе!
Вы ж маеце сілу, з якою
Аблокі ў блакітным спакоі
Да Бога стаяць у чарзе.

Вы — майстар, а майстар умее
Самога сябе ўваскрасіць.
Пакуль у душы залацее
Іскрынка сапраўднай надзеі —
Вас буду прасіць і прасіць.

Як вучань, што ў лапленай свіце,
Хіба ж я багата хачу?
Патрэбныя словы шапніце,
Святыя радкі падкажыце,
Чым хочаце, тым заплачу.

■

О, колькі кніг, о, колькі кніг!
Яны — малыя і вялікія —
Не спеў, а толькі хрып і крык
У параўнанні з тою кнігаю:

У дні шчаслівыя святой,
Святою і ў гадзіны гіблыя,
У параўнанні з кнігай той,
Якую называем Біблія...

І дудары, і скрыпачы,
Паэты модныя й нямодныя —
Усе мы толькі чытачы
Той кнігі, з веку ў век самотнае.

■

*Ну колькі можна*
*пра душу?*
Алесь Пісьмянкоў

Не выказаць душу чужую —
Душу відушчую, сляпую,
Душу старую, маладую,
Святую, грэшную, жывую,
Змярцвелую, зусім глухую
І нават блізкую — любую!
Не выказаць душу чужую,—
Хоць будзеш мудрым удвая...

Ды што тут гаварыць урэшце:
Душа чужая — не свая,
Дый са сваёй не разбярэшся.

■

Падсцерагу, яго пачую
Яшчэ здалёку, з аддалення...
Абавязкова падпільную
Сваё апошняе імгненне.

З яго, як з дурня, пасмяюся,
І выпіхну за дзверы прэч,
І супакоена стаюся,
З ім новых прагнучы сустрэч.

■

А ці многа ў нас цярпення?
А ці мудрасці даволі?
Рэстаўрацыя сумлення
Адбываецца паволі.



Што не хутка — дзякуй богу!
Маем час падумаць дбала,
Каб на гэтую работу
Нам хапіла матэр'ялу.

■

Застаньцеся, дом і сям'я,
Для кожнага будзьце надзеяй.
Яшчэ не абтрэсла зямля
Пракляцце за грэхападзенне,—

Яшчэ не прачнуліся, спяць
Апошнія нашыя стрэсы,
І ў кожным імгненні рыпяць
На райскіх варотах завесы.

■

Усё, што ў музыцы,— у сэрцы тое ж,
І значыць, ад метафар не ўцячы,
Тады магчыма ўсё — і вёска Тонеж
Прачнецца у Парыжа на плячы.

Тады і лёс твой парадніўся толькі
Не з пустатою — з лёсамі двума,
І зоркі ўсе да Васіля і Вольгі
Ляцяць, ляцяць, і ліку ім няма.

■

А хто каму перашкаджае
Сабою быць, адзіным быць,
Каб лёс не дробязным адчаем —
Высокім болем наталіць?

Ніхто!.. А самалюбаванне,
Так неадольнае ў рабе,
І найсалодкае жаданне
Рабіць пакутніка з сябе.

■

1

Агорне ноч. Не бойся ночы!
І страх, што месціцца ў душы,
Як ворага свайго, па-воўчы
Зубамі люта задушы.

2

Ці маладога, ці старога —
Цябе заўсёднага сюд-тут
Той страх палохае хваробай,
Страшнейшаю за страшны суд.

## ЧОРНЫ СОН

Чорны сон напалохаў мяне
Сваім крыкам: «Яго праклянiце
І, настоенае на палыне,
Быццам мяса, віно праглыніце!»

Як вандроўнік без роднай зямлі,
Дзе жыве хараство і ў балоце,
Я не бачу сябе без сям'і,
Я не чую сябе ў адзіноце.

Зоркі свецяць аднолькава нам,
І касмічныя веюць завеі,
І палынная кропля віна
На бялюткім абрусе чарнее.

І гарынская ноч навакол
У абскубленай хустцы туману...
Я ніколі не быў дзіваком,
Гэтай ноччу, напэўна, ім стану.

Чорны сон адлятае ў імжу,
Не спазнаеш яго вандраванні.
Я на сына і жонку гляджу
Першы раз як на выратаванне.

Чорны сон, ты звяртаўся да іх,
Ты будзіў іх, калі яны спалі
І, ні крыку, ні словаў тваіх
Не пачуўшы, мяне ўратавалі.

■

Не хацеў бы я нічога,
Толькі б раз убачыць Бога,
Толькі б раз у вочы Богавы зірнуць.
Што ў іх — поспех? перамога?
Ці звычайная знямога?
Ад якой ні варухнуцца, ні ўздыхнуць.

Пацяшэнне з нашай волі?
З хлеба нашага і солі?
Ці спагада нашай долі існуе?
Нашай песні, нашай хаце,
Нашай бедненькай зарплаце,
Што адразу нам памерці не дае?

Разуменне нашых бедаў
І няпэўных нашых ведаў
І ні ў тым вось, і ні ў гэтым,
і ні ў чым.
Мы крычым, калі магчыма,
Немагчыма — дык маўчым мы,
Так да смерці то крычым, а то маўчым...

Хто ж у гэтым вінаваты:
Нашы мамы, нашы таты?
Самі мы? Ці ўсё яны — кіраўнікі?
Вінен Бог адзін, няйначай,
І таму яго не ўбачыш
Ні ў бінокль, ні у тэлескоп,
ні з-пад рукі.

Ён высока, ён далёка,
Ён схаваўся ад папрокаў —
Душы нашыя пакінуў назаўжды.
І ў краіне-агародзе
Густа палыны ўзыходзяць,
Сохнуць вёскі і буяюць гарады.

Лёс такі — адна дарога,
Камянёў на ёй замнога,
Ды ніяк з дарогі гэтай не звярнуць.
І не хочацца нічога,
Толькі б раз убачыць Бога,
Толькі б раз у вочы Богавы зірнуць.





*Адам Мальдзіс*

# ЗВЯСТУН АБНАЎЛЕННЯ

**СТАРОНКІ
З БУДУЧАЙ КНІГІ-ЭСЭ
ПРА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА**

Доўга я не мог прымусіць сябе, каб распачаць гэтыя ўспаміны. Усё здавалася, што яны атрымаюцца занадта суб'ектыўнымі, няпоўнымі. І галоўнае, што яшчэ зарана пісаць іх, бо вялікае, як сказаў паэт, бачыцца на адлегласці. Ды і не ўсю праўду яшчэ сёння скажаш — з увагі на жывых людзей, для якіх яна будзе празмерна балючая. Да таго ж згадвалася, як Уладзімір Караткевіч прарэагаваў на падобныя ўспаміны Івана Шамякіна пра Андрэя Макаёнка, што нарабілі многа шуму:

— Напісана здорава! Але такое трэба, відаць, пісаць гадоў праз дваццаць пяць пасля смерці сябра. Або, напісаўшы, пакласці надоўга ў шуфляду...

Адным словам, сумненні былі: пісаць — не пісаць, пачынаць — не пачынаць. Адны знаёмыя горача ўгаворвалі адкласці ўсе іншыя справы і «рабіць галоўную», бо час няўмольна сцірае з памяці не толькі асобныя дэталі, але і цэлыя сцэны, размовы, здарэнні. Другія выказвалі сумненні, а то і раілі махнуць на ўсё рукой. Бо як жа ты, маўляў, абыдзеш чалавечыя слабасці? А не паказаўшы іх, ты, маўляў, міжвольна створыш вакол абліча сябра німб святога.

Аднак ваганні мае скончыліся, калі недзе на пачатку 1988 года, гледзячы папулярную тэлепраграму «Ліра», я пачуў словы аднаго маладога пісьменніка і мастака, які выказваў новае для беларускай літаратуры, «урбаністычнае» крэда, адмаўляючы ўсё «старое». Палемізуючы, відаць, і з маімі вуснымі ўспамінамі пра Уладзіміра Караткевіча, ён сказаў тады (запісаў тут жа), што сябры ствараюць з мёртвых куміраў для моладзі. Значыць, выходзіла, ствараюць штучна, з людзей, не вартых таго, з «канфармістаў», якія не толькі друкаваліся, але і здабылі сабе славу ў застой-

---

Малюнкі Уладзіміра **КАРАТКЕВІЧА** (з архіваў **А. В. Мальдзіса і Н. С. Кучкоўскай).**

 

ным часе... У падтэксце выступлення таго аўтара мне адчулася спрадвечнае імкненне сцвердзіць сябе і сваё пакаленне, ідучы «ў рожкі са старымі»: маўляў, усе яны былі дрэнныя, з застойнымі комплексамі, а мы ўсе добрыя, усе «перабудаваныя»... Але ж гэта, падумалася тады, будзе смяротным грэхам супраць гістарычнай праўды. Бо «пакаленне» — гэта паняцце не толькі гарызантальнае, але і вертыкальнае. Колькі маладых людзей, заражаных бацыламі бездухоўнасці і кар'ерызму, сустракаецца сёння і колькі змагароў за абнаўленне было і ў гады сталінізму, і ў гады яго звarотнай хвалі, няхай паслабленай (тэрор фізічны саступіў месца тэрору духоўнаму), але таксама пякучай, асабліва для творчай інтэлігенцыі. І Уладзімір Караткевіч быў адным з такіх змагароў — паслядоўным і ўвогуле бескампрамісным. Мастацкае слова стала для яго дзейснай зброяй супраць усяго застойнага. Ён будзіў гэтым словам грамадскую думку, гістарычную памяць народа, чалавечае сумленне і тым самым паскараў ход падзей. Ён апярэджваў свой час, жыў прадчуваннем тых змен, што адбыліся ў апошнія месяцы яго жыцця і пасля смерці. І таму творы Уладзіміра Караткевіча хораша чытаюцца (доказ — шасцідзесяцітысячны тыраж васьмітомнага збору яго твораў), так актуальна гучаць і сёння, калі здзейсніліся або пачалі здзяйсняцца многія з яго яўных і патаемных спадзяванняў.

Зрэшты, пра тое, што Уладзімір Караткевіч — не ўяўны, а сапраўдны кумір нашай моладзі, яе ўзор для пераймання, сведчаць і прызнанні саміх маладых. Адказваючы на пытанне пра свае творчыя арыенціры, Сяргей Шупа піша: «Пачну пералік з імя, якое сталася ў пэўным сэнсе сцягам «адраджэнцкае» моладзі майго пакалення. Уладзімір Караткевіч. Караткевічава Слова зрабіла найбольшы, вырашальны ўплыў на фармаванне маёй грамадзянскай і творчай пазіцыі. Адбылося гэта, відаць, таму, што шал нацыянальнага нігілізму на пераломе 70 — 80-х гадоў дасягнуў такой ступені, што стыхійна і аб'ектыўна пачаў спараджаць сваю процілегласць — патрыятызм, цягу да беларусчыны. У моры трыбуннае хлусні, грубага матэрыялізму і прагматызму творчасць Караткевіча сталася збаўчай выспай шчырасці, чысціні, рамантычнасці і, галоўнае, — гаючай крыніцай нацыянальна-гістарычнай свядомасці» («Маладосць», 1988, № 4).

Такой жа думкі і многія людзі сярэдняга і старэйшага пакалення. Выступаючы на метадалагічным семінары ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, Міхась Тычына неяк сказаў: «Для мяне Быкаў і Караткевіч — куміры на ўсё жыццё». А вось як узнёсла і разам з тым дакладна заканчваюцца разважанні Уладзіміра Калесніка пра апошні зборнік Уладзіміра Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду»: «Кніга яго — вымпел, узняты насустрач абнаўленню, яна гаворыць многа мудрага пра нормы і дэфармацыі ў сферы каштоўнасцей, шчыра падказвае здаровыя суадносіны нацыянальнага і сацыялістычнага ў ідэале савецкага патрыятызму і агульналюдскога братэрства» («Беларусь», 1987, № 12). Ці вось яшчэ, з успамінаў Алеся Асіпенкі: «Ён вытрымаў, выстаяў, адстаяў сябе ў літаратуры і грамадстве» («Літаратура і мастацтва», 1988, 8 ліпеня).

Такім чынам, сёння нібы суіснуюць дзве пазіцыі ў дачыненні да Караткевіча: з аднаго боку, прызнанне бясспрэчнай значнасці (калі не сказаць велічы) і актуальнасці ўсяго зробленага ім, з другога боку, затоены недавер да яго, скепсіс, выкліканы тым, што жыў і тварыў ён яшчэ да галоснасці і перабудовы, а значыць, мусіў прыстасоўвацца.

Задача гэтых успамінаў бачыцца мне ў тым, каб падмацаваць новымі аргументамі першую пазіцыю і развеяць сумненні, якія пачуліся мне ў выступленні таго аўтара. Ці, дакладней, канкрэтызаваць гаворку пра кампрамісы Уладзіміра Караткевіча, бо, зразумела ж, ён не мог не лічыцца з агульнай атмасферай застойных часоў, мусіў ісці на «тактычныя» ўступкі ў чымсьці прыватным дзеля таго, каб дайшло да чытача галоўнае. Але затое тут, у прынцыпова важным, ён быў паслядоўны, непахісны.




Перш чым пачаць непасрэднае апавяданне, я павінен зрабіць некалькі тлумачэнняў. Тое, што прапануецца тут чытачу, безумоўна ж, будзе вельмі суб'ектыўным. Я далёкі ад таго, каб прэтэндаваць на нейкія ісціны ў апошняй інстанцыі, бо абапіраюся пераважна на тое, што асабіста бачыў і чуў, што было занатавана (прызнаюся ў гэтым) адразу ж, вечарам ці на наступны дзень, а то і непасрэдна ў час выступленняў Караткевіча ў самых розных аўдыторыях. Праўда, мушу пакаяцца: на пачатку нашага знаёмства, у гады шасцідзесятыя, яшчэ не ўсведамляючы ўсёй значнасці таго, што адбывалася на маіх вачах, усёй адказнасці перад гісторыяй, такія занатоўкі я рабіў рэдка і бегла. Адсюль — і значныя прагалы.

Хачу таксама падкрэсліць, што падрабязны аналіз творчасці Уладзіміра Караткевіча не ўваходзіць у мае задачы. Часткова ён зроблены ў кнізе Анатоля Вераб'я «Жывая повязь часоў», у артыкулах іншых калег. На фундаментальную ж манаграфію яшчэ зарана. Таму буду абапірацца пераважна на асабістыя ўражанні.

Наша асабістае знаёмства пачалося з рэцэнзіі на раман «Нельга забыць». Неяк так здарылася, што, заняты напісаннем кандыдацкай дысертацыі пра XIX стагоддзе, я стаў прапускаць міма ўвагі вартыя літаратурныя навінкі і не прыкмеціў першага паэтычнага зборніка Уладзіміра Ка-

 

 

раткевіча «Матчына душа» (1958). Другі ж, «Вячэрнія ветразі» (1960), прачытаў з вялікім спазненнем. А пра кнігу прозы «Блакіт і золата дня» (1961) найперш даведаўся ад супрацоўніцы Інстытута літаратуры Валянціны Ігнатаўны Гапавай. Яна была ў захапленні ад зборніка, напісала на яго ўзнёслую рэцэнзію, якая прымусіла і мяне прачытаць кнігу. Зборнік шакіраваў мяне нязвычным тады абвостраным адчуваннем гісторыі нашага народа, светлым і цнатлівым успрыняццем навакольнага жыцця. І калі ў часопісе «Полымя» (1962, №№ 5—6) з'явіўся раман таго ж аўтара «Нельга забыць», я ўжо без «падказкі» прачытаў яго і, захапіўшыся яго аўтарам яшчэ больш, тут жа напісаў на яго рэцэнзію, якая была апублікавана ў газеце «Літаратура і мастацтва» 17 ліпеня 1962 года пад назвай «Права мастака».

Хаця ў гэтай, першай рэцэнзіі на раман з празмернай сур'ёзнасцю даказвалася відочнае, хаця некаторыя папрокі сёння выглядаюць дробязнымі, але ўсё ж Уладзімір Караткевіч, відаць, застаўся задаволены ёю. Бо на пленуме (ці нейкім іншым сходзе) у Саюзе пісьменнікаў БССР ён спытаў у Янкі Брыля:

— А хто ды хто той рэцэнзент? Пазнаём мяне з ім.

Янка Брыль паклікаў мяне і прадставіў высокаму і плячыстаму мужчыну, амаль яшчэ юнаку. Ён прымружана і дапытліва глядзеў рознакаляровымі (адно шараватае, а другое сіняватае) вачыма і шырока, крыху іранічна ўсміхаўся. Мы неяк збянтэжана паціснулі ўзаемна рукі. І Караткевіч тут жа, неяк вельмі натуральна перайшоўшы на «ты», запрапанаваў:

— То пасля ўсяго пойдзем да мяне, паседзімо. Згодзен?

І мы пайшлі ў кватэру, якую ён толькі што атрымаў у блочным, «хрушчоўскім» доме па вуліцы Чарнышэўскага пад нумарам 7. У доме жылі і іншыя пісьменнікі (на першым паверсе, помніцца, Валодзя паказаў мне кватэру Адамчыкаў). Халасцяцкае жытло Караткевіча было на «Парнасе» — на пятым паверсе і складалася з аднаго пакоя і цеснай кухні. Пра адзін пакой згадваю спецыяльна, бо нядаўна ў цікавых успамінах Арсена Ліса напаткаў сцвярджэнне, нібы тая кватэра была двухпакаёвая. Аўтара ўспамінаў, відаць, падвяло тое, што потым, пасля пераезду з Оршы маці Валодзі, Надзеі Васільеўны, «хата» была перагароджана шафай з прыбітай да яе шырмай: злева, ля акна, месціўся «габінэт» з раскладным крэслам, справа, ад уваходу, — мікраскапічная спаленька з тахтой... Але тады, у нашу першую сустрэчу, пакой быў яшчэ неразгароджаны, не застаўлены кніжнымі паліцамі.

— Кнігі яшчэ засталіся ў Оршы, — тлумачыў гаспадар, паказваючы сціплую «хату». — Цеснавата тут.

Але я стаў супакойваць яго, параўноўваючы свой прыватны пакойчык на Сельгаспасёлку з ягоным «цывілізаваным» жыллём. Зрэшты, потым Валодзя не раз казаў, што нідзе яму не пісалася так хораша, як на Чарнышэўскага. Ды яшчэ ў Оршы.

У той вечар, аднак, мы не спыніліся ў пакоі, а пайшлі на кухню, «самае ўтульнае і зручнае месцайка», дзе Валодзя запарыў у «турцы» каву (гэта ён умеў рабіць, як ніхто), выцягнуў з «затыркі» бутэльку сухога віна. І прасядзелі мы разам аж да трох гадзін ночы. Натуральна, я распытваў пра раман «Нельга забыць», Караткевіч прызнаў, што ён сапраўды вельмі аўтабіяграфічны. Ды і ў іншых герояў ёсць рэальныя прататыпы. Яніс — гэта, да прыкладу, цудоўны латышскі паэт Еранім Стулпан. Няўхвальна, з унутраным болем Валодзя гаварыў толькі пра М., маскоўскую даследчыцу гісторыі мастацтваў, выведзеную ў рамане пад прозвішчам Гаравай, — здалося, з ёю былі звязаны сур'ёзныя пачуцці і нявдзейсненыя надзеі... Без непатрэбнай сціпласці аўтар лічыў раман сваёй удачай і спадзяваўся хутка пабачыць яго ў выглядзе асобнай кніжкі.



Потым мы сталі ўзаемна расказваць, што было «да таго». Валодзя згадваў Оршу, дзе прайшло яго дзяцінства і школьныя гады, ваеннае ліхалецце, калі ён аказаўся ў Арэнбургу (урэзаліся ў памяць вярблюды, якія, раззлаваўшыся, дужа пляваліся), разбураны пасляваенны Кіеў, дзе ён жыў у цёткі, вучобу ў Кіеўскім універсітэце, адкуль яго ледзь не выключылі за нацыяналізм... украінскі. Гэтаму універсітэту Караткевіч быў асабліва ўдзячны: там ён сустрэў верных сяброў, мудрых настаўнікаў накшталт прафесара Бялецкага, там, удалечыні ад Беларусі, зразумеў, што такое Радзіма.

— Калі б гэта ад мяне залежала, то кожнага вучня, дзесьці ў класе дзевятым, пасылаў бы на які час у іншую рэспубліку, каб адчуў тугу па сваім. Рос патрыётам.

Потым гаворка пайшла пра першыя крокі ў літаратуры. «Непісьменным» Валодзя сябе не памятаў. Рыфмаваць, дзеля забавы, пачаў яшчэ ў дзяцінстве. Першы верш напісаў дзесьці год у чатырнаццаць («але гэта было яшчэ дзеля смеху»). Сур'ёзна заняўся паэзіяй пасля універсітэта, калі працаваў настаўнікам у Таращчы на Украіне, а потым у Оршы. З Оршы паслаў некалькі вершаў сябру (здаецца, Валянціну Краўцу, потым выкладчыку політэхнічнага інстытута) у Мінск, а той, без ведама аўтара, аднёс іх у «Полымя». Такім чынам у 1955 годзе пабачыў свет караткевічаўскі «Машэка». Амаль адначасна ў зборніку пра Янку Купалу былі апублікаваны ўражанні з паездкі ў Вязынку (Валодзя лічыў іх «сапраўдным дэбютам»).

— Некалькі вершаў, — працягваў Караткевіч, — я неабачна аддаў у аршанскі «Ленінскі прызыў». Неабачна, бо не падумаў, як іх успрымуць дамарошчаныя «знаўцы». А яны, аказалася, дыхалі яшчэ сталінскім духам. Вядома, былі там і слабаватыя вершы. Але мне папала за іншае — за безнадзейнасць, чорную меланхолію, захапленне гісторыяй. Адным словам — за безыдэйнасць. Супрацоўнік рэдакцыі Высоцкі напісаў (мусіць, яму «падказалі») супраць мяне разносны артыкул «Не ў нагу з жыццём». Гэта ён — у нагу, заўсёды ў нагу, паводле загаду, як былы вайсковец, а я — не... Найбольш лаяў ён верш «Вадарод» — нібы я прадракаю там пагібель нашай краіны. А я ж толькі хацеў папярэдзіць: атам — магутная, карысная, але і небяспечная сіла. Дураксы, а дураксаў на свеце многа, могуць знішчыць зямлю... Што пасля таго артыкула пачалося! Арганізаваныя лісты ў рэдакцыю, спецыяльная канферэнцыя «абураных» чытачоў на льнозаводзе. Нават дайшло да таго, што аршанская газета пачала вучыць розуму самога Броўку: замест таго, каб прызнаць крытыку «знізу» і паўшчуваць мяне за памылкі, ён сказаў на адным сходзе, што я падаю цікавы голас... У школе працаваць стала ну проста немагчыма. І тады я рашыў падацца ў Маскву — на Вышэйшыя літаратурныя курсы. А потым — сцэнарныя. Многа там спазнаў новага... Так што цяпер, выходзіць, я павінен нават дзякаваць таму салдафону Высоцкаму. Ворагаў мне ён прыдбаў, але — і сяброў. Пасыпаліся абураныя лісты ў Мінск, Глебка з Казекам выступілі ў маю абарону ў «Звяздзе». У саюз мяне прынялі.

Праўда, па словах Караткевіча, і ў Мінску не ўсім яго вершы прыйшліся даспадобы. Палохала смеласць думкі, нязвычная форма. Некаторыя старэйшыя паэты ўвогуле адмаўлялі яго здольнасці.



— К. сказаў, — крыўдаваў Валодзя, — што з маім талентам толькі каменне на бруку біць...

У адказ я расказаў Караткевічу пра некалькі падобных выпадкаў з мінскага літаратурнага жыцця, з уласнага, няхай і небагатага аспіранцкага вопыту. Мы пагадзіліся, што тыя змены, якія пачаліся пасля смерці Сталіна і асабліва пасля XX партыйнага з'езда, ідуць са скрыпам. Занадта многа людзей, не зацікаўленых у іх. А іншыя баяцца, не ведаючы, чыя возьме. Таму адседжваюцца, чакаюць.

Перад развітаннем Валодзя, нібы спахапіўшыся, пачаў распытваць пра маё «аўтабія». Даведаўшыся, што я з заходняй, «каталіцкай» часткі Беларусі, з беларуска-літоўскага памежжа, ён усклікнуў:

— Ты глядзі! Я з Оршы, з самага ўсходу, а ты — з-пад Вільні — і нішто не перашкаджае нам у гамонцы. А некаторым жа хочацца падзяліць беларусаў на «ўсходнікаў» і «заходнікаў», на праваслаўных і католікаў. Сіл жа і так мала... А тут гэтая праклятая, наканаваная лёсам раз'яднанасць. Хіба хто з католікаў не можа быць беларусам?! Памятаю, была ў мяне нянька-каталічка. Гаварыла чысцютка па-беларуску. Пасля яды вучыла складваць ручкі і дзякаваць: «Ацю, божанька».

— Ацю — гэта ад літоўскага ачу, дзякуй.

— Бач ты, куды трапіла літоўскае слоўца. А я і не ведаў.

Вярнуўшыся дамоў, я, нягледзячы на позні час, занатаваў на гаспадаровай кухні найбольш істотнае з таго, што пачуў у той дзень. І даў сабе слова завесці дзеля гэтага асобны сшытак. На жаль, стрымаў яго не адразу. І таму пра нашы наступныя сустрэчы — на нашай прыватнай кватэры





(Валодзя выклікаў фурор сярод суседзяў, стаўшы пасярод вуліцы на калені перад маёй Марыяй за нязначнае спазненне), у Юльяна Пшыркова, дзе яго жонка, Нона Іванаўна, частавала нас самаробнымі стравамі і напоямі, у Алега Лойкі, якому Караткевіч быў вельмі ўдзячны за рэцэнзію ў «Маладосці» на «Вячэрнія ветразі», — не магу сёння сказаць нічога пэўнага. Памятаецца толькі, што Валодзя спяваў старыя беларускія і ўкраінскія песні, з гумарам расказваў пра свайго гаспадара ў Таращы, гэтакага народнага філосафа («калі свінню не есці, то яна стане есці людзей»), каларытна падносіў забаўныя эпізоды з аршанскіх, кіеўскіх і маскоўскіх часоў...

На жаль, мая першая рэцэнзія на раман «Нельга забыць» аказалася тады і адзінай. Ацэнкі, дадзеныя ў ёй, не знайшлі падтрымкі ў друку. А можа, нават выклікалі адваротную рэакцыю. Бо праз колькі месяцаў у газеце «Советская Белоруссия» быў надрукаваны артыкул Я. Герцовіча «Пошукі, знаходкі, страты», дзе аўтару рамана былі прад'яўлены сур'ёзныя абвінавачванні. Тагачасны «афіцыйны» крытык папракаў Караткевіча ў кніжнасці, другаснасці, у тым, што яго галоўны герой «Андрэй Грынкевіч і яго таварышы — адарваныя ад жыцця фармалісты, якіх мала цікавіць змест нашага мастацтва, яго ідэйная накіраванасць. Форма для іх ператвараецца ў самамэту і набывае «самастойнасць» і «незалежнасць» ад зместу, ад ідэйна-эстэтычных функцый». Галоўны герой рамана здаўся крытыку абмежаваным і глухім на ўсё «цацеруком»... У няўдалым выбары галоўнага героя, у няправільным паказе жыцця Літаратурнага інстытута абвінавацціў Караткевіча маскоўскі рэцэнзент В. Чалмаеў. Выказваліся

таксама сумненні ў верагоднасці ўсяго таго, што адбывалася ў пралогу рамана.

Артыкулы Я. Герцовіча і В. Чалмаева былі ўспрыняты не як выражэнне прыватнай думкі іх аўтараў, а як дырэктыўнае ўказанне. Справа ў тым, што ў краіне тады, у канцы 1962 года, узнялася хваля барацьбы з «фармалізмам». Пачалося ўсё з таго, што М. С. Хрушчоў наведаў маскоўскіх мастакоў і рэзка раскрытыкаваў іх (сёння мы ведаем, што «добразычліўцы» спецыяльна «падзавялі» яго), а скончылася тым, што «ведзьмаў» пачалі шукаць ва ўсіх творчых калектывах, у тым ліку і ў Саюзе пісьменнікаў БССР, Інстытуце літаратуры АН БССР (ох і дасталася мне тады за «шчанюкоўскі», як сказаў Валодзя, артыкул «Каб з пер'я выраслі галубы...»). Караткевіч быў у курсе ўсіх яўных і закулісных падзей, бо меў інфармацыю, як кажуць, з першых вуснаў (М. з'ўлялася жонкай аднаго з галоўных маскоўскіх «абстракцыяністаў»). Вярнуўшыся з паездкі ў Маскву, Караткевіч падрабязна расказваў, як усё адбылося. 17 снежня 1962 года, зайшоўшы ў выдавецтва «Беларусь», я застаў там яго ў акружэнні сяброў і знаёмых, сярод якіх вылучаўся Янка Брыль.

— Цкаванне абстракцыяністаў пачалося па ініцыятыве Герасімава,— Валодзя дужа нерваваўся, прыкурваў адну «беламорыну» ад другой.— У выяўленчым жа мастацтве няма ў нас такой моцнай і талковай асобы, як Шастаковіч у музыцы... На іхняй выстаўцы Мікіта Сяргеевіч вельмі злаваў і нават крычаў. Аднаму з фармалістаў — ды якія яны ўсе фармалісты, глядзеў іх выстаўку ў Літаратурным інстытуце... Дык вось, аднаму з фармалістаў ён сказаў: «Руку дай! О, моцная рука! Такой — лапату або сякеру трымаць, а не мазню разводзіць! У Брацк, у Сібір! Вон з Масквы!» Тут у гаворку ўмяшаўся Неізвесны, пачаў бараніць сяброў. «Вы — іншая справа,— нейтралізаваў яго Хрушчоў.— Вы талент. Дарэчы, дзе вы бераце бронзу для скульптур?» «Крадзем. У металаломшчыкаў часам, на заводзе. Дарэмна вы, Мікіта Сяргеевіч, паўсталі супраць бронзавых помнікаў». «Магчыма...» Ну і гэтак далей...— абарваў расказ Караткевіч, пабачыўшы, што зайшоў нехта непажаданы.

Размова пераключылася на беларускі тэатр. Караткевіч пахваліўся, што яму прапанавалі напісаць п'есу для купалаўцаў. Янка Брыль стаў яго пераконваць, што гэта вельмі важна. Бо хутка, «калі ўсе майстры пойдуць на пенсію», не будзе чаго ставіць. Затым па просьбе Караткевіча Брыль расказаў пра сваю нядаўнюю паездку ў Польшчу, дзе ён быў разам з С. Кірсанавым. Савецкіх гасцей прымаў Уладзіслаў Бранеўскі. Стомлены «траскучай» паэзіяй, ён папрасіў кагосьці з блізкіх прынесці яго кнігу і прачытаў з яе ўсяго адно чатырохрадкоўе — пра тое, як чалавек едзе цягніком і бачыць за акном верасы...

— Так і ў жывапісе,— вярнуўся да праціўнікаў маскоўскіх «фармалістаў» Караткевіч.— Трашчаць, пафаснічаюць, фатаграфуюць... І Рэпін, і Ярашэнка — не фатаграфія. І Матэйка з яго «Грунвальдам» таксама... А гэтыя...

— Што ты, Валодзя, сёння нейкі змрочны? — стараўся разрадзіць атмасферу Брыль.— Махні рукой на ўсіх і пішы свае раманы. Пра Багушэвіча хаця б. Пра яго акружэнне.

— Баюся, стары, што гэта пачатак канца. Знак, што мы зноў вяртаемся да ранейшага. Таго самага... А пра Багушэвіча я падумаю... Дайце перш з Каліноўскім разабрацца!

Караткевіч тады нібы ў ваду глядзеў. Сапраўды, у наступным, 1963 годзе «адліга», што пачалася з сярэдзіны пяцідзесятых, імкліва стала змяняцца новымі «замаразкамі». У наступ пайшлі кансерватыўныя сілы, якім па нутру былі сталінскія парадкі. Як праявы фармалізму ці абстракцыянізму сталі асуджацца творчыя пошукі ў змесце і форме, усё наватарскае і неардынарнае. У беларускай літаратуры адной з першых ахвяр «пахаладання» стаў Уладзімір Караткевіч. Крытычныя выказванні Я. Герцовіча і В. Чалмаева рашуча паўплывалі на далейшы лёс яго рамана «Нельга забыць». Яго кніжны варыянт, набраны да друку, у нейкай там інстанцыі (аўтару не казалі ў якой) «не быў рэкамендаваны» да друку. Караткевіч адчайна ўхапіў у выдавецтве карэктурны адбітак і прыхаваў яго да «лепшых часоў».

Нанава раман «Нельга забыць» быў набраны і на гэты раз аддрукаваны толькі праз дваццаць год. І аказалася, што ён не ўстарэў, вытрымаў выпрабаванне часам. Рэцэнзія Міхася Тычыны на кніжнае выданне рамана так і называлася: «Выпрабаванне часам» («Полымя», 1983, № 11). Тое, што раней лічылася скажэннем рэчаіснасці, цяпер называлася яе рамантызацыяй, якая адпавядае спрадвечнай і заўсёды актуальнай патрэбе «ў ідэальным, высокім, вечным».

Час, гэты мудры і справядлівы суддзя, усё паставіў на сваё месца. Раман «Нельга забыць» быў нарэшце ацэнены як буйное мастацкае дасягненне, удастоены ў 1983 годзе літаратурнай прэміі імя Івана Мележа. Адказваючы на пытанні карэспандэнта газеты «Літаратура і мастацтва» Уладзіміра Ягоўдзіка, Уладзімір Караткевіч растлумачыў тады, у чым была прычына ранейшага непрыняцця рамана і сакрэт яго шчаслівага вяртання: «Твор гэты — шматпланавы, у пэўнай меры эксперыментальны. Гісторыя тут суседнічае з сучаснасцю, проза — з паэзіяй, лірыка — з жыццёвым сухім рэалізмам. Такое спалучэнне было тады навіной у нашай літаратуры, дый цяпер яшчэ рэдка сустракаецца. Мабыць, у гэтым адна з прычын, што раман чытаецца... Адна з прычын — але не галоўная, бо акрамя чыста літаратурных прыёмаў і формаў чалавек у творы заўсёды знаходзіць яшчэ штосьці сваё, глыбока асабістае...»

Аднак вернемся ў першую палову шасцідзесятых. Прыкладна праз два гады пасля з'яўлення «палымянскага» варыянта рамана «Нельга забыць» у часопісе «Маладосць» была апублікавана гістарычна-дэтэктыўная аповесць Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха», якая і да сённяшняга часу цешыцца вялікай папулярнасцю. Напісана ж яна была нават раней першага рамана — яшчэ да вучобы аўтара ў Маскве.

На жаль, як і ў выпадку з раманам «Нельга забыць», аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» не адразу была належным чынам ацэнена тагачаснай крытыкай. Той жа Я. Герцовіч убачыў у ёй і прыхарошванне, ідэалізацыю гісторыі, і элементарнае эпігонства — маўляў, аналагічная сюжэтная схема ўжо выкарыстана ў вядомым апавяданні А. Конан-Дойля «Сабака Баскервіляў». Аднак ідэалізацыяй лічылася звычайная вернасць напаўлегендарнага караля Стаха Горскага сваёй айчыне і свайму народу, яго непрынянцце ўлады польскага караля. Што ж датычыцца эпігонства, то тут Я. Герцовіч міжвольна ці свядома не прыкмеціў галоўнага — таго, што Караткевіч напоўніў распаўсюджаную сюжэтную схему новым, арыгінальным зместам.

Нягледзячы, аднак, на рэцэнзію Я. Герцовіча а то і наперакор ёй «Дзікае паляванне караля Стаха» карысталася вялікай папулярнасцю сярод чытачоў, якім прыелася прэсная «вытворчая» проза. Асабліва палюбілі аповесць падлеткі. Расказвалі пра выпадкі, калі, прыкрыўшы коўдрай ліхтарык, хлапчук адолеў яе за адну ноч, калі за яе браліся школьнікі, вы-











зваленыя ад вывучэння беларускай мовы (тады гэта рабілася модным), зусім не абазнаныя з ёю. Аповесць рабіла справу сваю куды лепш, чым іншыя заклікі.

Поспех «Дзікага палявання караля Стаха» крыху акрыліў Уладзіміра Караткевіча, «спляжанага» забаронай рамана «Нельга забыць», і ён, адкінуўшы ўсё іншае, стаў рыхтаваць да друку раман «Каласы пад сярпом тваім» (пачатак рамана, занатаваў Валодзя ў сваёй запісной кніжцы, прыйшоў у галаву 7 жніўня 1959 года ў Азярышчы над Дняпром, дзе ўзвышалася над кручай пахілая груша). Абвінавачванні Герцовіча і яго аднадумцаў у адрыве ад рэальнасці, у скажэнні гістарычнай праўды прымусілі пісьменніка нанава перагледзець некаторыя дакументы, выкарыстаць дадатковыя архіўныя крыніцы. І Караткевіч стаў угаворваць мяне, каб мы разам паехалі ў Вільнюс, дзе я ўжо не раз працаваў над рукапісамі.

— У выпадку чаго, калі не будзе гатэлю, у мяне там ёсць аднакашнікі па Маскве — Бронюс Мацкявічус, Юозас Мацявічус, Юдзіта Вайчунайтэ, яшчэ колькі паэтаў. Бронюса я нават выратаваў аднойчы ад смерці — затрымаў за крысо на вышыні дваццатага паверха... У цябе ж, казаў, там таксама ёсць сваякі. Кісялевічуса знойдзем, — Караткевіч любіў «перарабляць» прозвішчы: я ў яго часта бываў Мальдзісевічам або Адасевічам, літаратуразнавец Мікола Прашковіч — «слаўным сынам літоўскага народа Мікалоюсам Прашкявічусам», а Мікола Грынчык — «містэрам Грынчыгзам». Звычайная скумбрыя ў яго ўрачыста іменавалася скумбрыевічам, а густы грыбны суп — супешнікам. І словы пры гэтай гульні набывалі незвычайны, ледзь не магічны сэнс.

Аргументы здаліся мне пераканальнымі, і мы двойчы, у 1964 і 1966 гадах, папрацавалі разам у вільнюскіх архівах. У першую паездку



сышлі па дарозе на маёй станцыі Гудагай, зайшлі да сваякоў. Вечарам была сустрэча з чытачамі ў Астравецкай раённай бібліятэцы. А назаўтра, чакаючы цягніка на Вільнюс, сядзелі мы ў паўпустым станцыйным буфеце і ля распаленай печкі пацягвалі піва (яго потым Валодзя ўспомніў у вершы, прысвечаным 500-годдзю Астраўца). Гледзячы на групку калгаснікаў, якія прывезлі на станцыю з-пад Svіра здаваць ільноваланко, разгаварыліся пра вёску, пра тое, чаму з яе ўцякае моладзь, чаму знікае любоў да зямлі. Пагадзіліся: таму што чалавек не адчувае сябе яе гаспадаром.

— Дай вось ім усім зямлі столькі, колькі яны могуць абрабляць, і ўсё будзе ў парадку, — гарачыўся Валодзя. — Не прадаваць, а перадаваць на які час. А не справіцца — адбяры назад, — Караткевічу мроілася нешта накшталт сённяшніх арэнды або падраду.

У Вільнюс мы дабраліся вечарам і амаль без надзеі, на ўсякі выпадак сунуліся ў новую тады гасцініцу «Нерынга». На наша здзіўленне, адміністратарка прапанавала нам ажно двухпакаёвы нумар (было перад святам). Цана ў шэсць рублёў за суткі кусалася, але Караткевіч не мог не паказаць гонар і рашуча сказаў:

— Вядома ж, бярэм!

Ноччу, вярнуўшыся ад Бронюса Мацкявічуса, ён ціха ўлёгся. Але праз колькі часу разбудзіў мяне гучным трызненнем:

— Вясёлку мне! Хоць кавалачак вясёлкі! Ну калі ласачка... А то ўсё загіне.

Назаўтра аказалася, што яму снілася, нібы свет складваецца ў «столкі». І каб выратаваць яго, для распоркі, патрэбен быў кавалак вясёлкі.

Праз пару дзён выявілася, што «Нерынга» нам яўна не па кішэні, і мы перасяліліся спачатку ў халодны «Наруціс», вокны якога ўпіраліся ў змрочныя Святаянскія муры, а потым, з дапамогай Юозаса Мацявічуса, у гасцінічныя пакоі пры Саюзе пісьменнікаў Літвы — у былыя людскія, здаецца, Агінскіх. На новым месцы Валодзя адразу знайшоў аднадумца ў асобе празаіка Вітаўтаса Пяткявічуса, які прыехаў у Вільнюс са сваёй «глыбінкі». Абодва яны з запалам даказвалі ўзаемна, што чалавек сам сабе найгоршы вораг, бо знішчае тое, адкуль выйшаў, — прыроду. Розныя там лысенкі думаюць, што яны ўхапілі за бараду самога пана бога. Але ў адказ атрымліваюць вялізную хвігу.

У Вільнюсе мы найперш пайшлі да Генадзя Кісялёва, які жыў тады з маці ў старым, ледзь не рэнесансным дворыку па вуліцы Гедрыса. Амаль насупраць было кафэ «Бочу», якое Валодзя тут жа «зарыфмаваў»:

По дарозе ў «Бочу»
Нікуды не збочу.

А чуць далей — Дамініканскія муры, дзе Каліноўскі сядзеў у вязніцы, і Святаянскія муры, дзе яго арыштавалі.

Аднапакаёвая кватэра Кісялёвых, вялікая, але цемнаватая і халаднаватая, таксама нагадвала ці то турэмную камеру, ці то манастырскую келлю. Казалі, што раней тут жыла самая вучоная віленская манашка, а ўсе сцены пакоя былі абстаўлены кнігамі. Кніг хапала і цяпер, асабліва пра паўстанне 1863 года. І Караткевіч, ледзь увайшоўшы і павітаўшыся, ужо ухапіў нешта — ажно не адарваць, нават у час вячэры.

Назаўтра Кісялёў і яго сябар гісторык Бікуліч павялі нас у Святаянскія муры шукаць той дом і тыя сходы, на якіх здраджаны Кастусь Каліноўскі спакойна сустрэў са свечкаю ў руцэ царскіх жандараў, кажучы ім, што ён Вітажэнц. Апісанні сучаснікаў доўга не сыходзіліся з рэальнасцю, бо прайшоў не адзін капітальны рамонт. Але нарэшце, у «дворыку Міцкевіча», канчаткова і цвёрда ўстанавілі: гэта было тут, у двухпавярховым флігелі справа. Усцешаны Караткевіч прапанаваў усім пайсці ў «Дайнаву», вялікі і мадэрновы рэстаран, упрыгожаны паганскімі ідаламі, пляцёнкай і свяцільнікамі-«павукамі». Валодзя жартам прасіў абмяняць яму ну хоць куточак з «Дайнавы» на які літоўскі па назве горад — Ашмяны ці Ліду.

Яшчэ праз дзень мы пайшлі ў Карцінную галерэю, якая знаходзілася ў кафедральным саборы на плошчы Гедымінаса, каб знайсці яе вартаўніка, колішняга рэдактара віленскіх беларускіх выданняў Янку Шутовіча. Але ў адміністрацыі сказалі, што ён прыходзіць дзяжурыць толькі на ноч, і мы рашылі, карыстаючыся выпадкам, паглядзець экспазіцыю. Валодзя доўга стаяў ля партрэта Уладзіслава Сыракомлі, усё вызначаючы, якія ж у яго вочы.

— Мусіць, колеру табакі, — зрабіў заключэнне.

Асабліва Караткевічу спадабалася падзямелле, дзе пахаваны польскія каралі і вялікія літоўскія князі, багата аздобленая капліца з металічнай трунай святога Казіміра, звезеныя з прыдарожжаў драўляныя скульптуры-«смуткялісы» і часовая выстаўка, прысвечаная гадавіне вызваленчага паўстання 1863 — 1864 гадоў. Экспанаваныя там творы прываблівалі смеласцю, наватарствам пошукаў у нацыянальным рэчышчы.

— Не дай бог, каб гэта пабачыў Мікіта Сяргеевіч, — уздыхнуў Валодзя. — Разнёс бы ўшчэнт — як аднаўленне Тракайскага замка...



Шукаючы Шутовіча, мы зайшлі да яго на кватэру па вуліцы Антакальнё, дзе нас сустрэла яго жонка, літоўская паэтэса і перакладчыца Она Міцютэ (яна дзесяць год чакала з турмы рэпрэсіраванага мужа, хоць ёй і прапаноўвалі адмовіцца ад яго). Гаспадара дома не аказалася — паехаў на нейкі засценак. Але затое гаспадыня расказала нам многа цікавага — пра сумесныя даваенныя беларуска-літоўскія вечары, пра свае пераклады вершаў Максіма Танка.

— Пад уплывам Янкі я і сама спрабавала пісаць па-беларуску, — прызналася Она Міцютэ. — У акадэмічнай бібліятэцы вы можаце знайсці маю рукапісную п'еску «Чароўная скрыначка», прызначаную для беларускага школьнага тэатра.

У тым жа двухпавярховым доме, што і Шутовіч, жыў таленавіты беларускі мастак Пятро Сергіевіч. Мы не прамінулі аказіі зайсці да яго ў майстэрню. Дзядзька Пятро, як яго называў Караткевіч, аказаўся нездаровы, але даведаўшыся, што прыйшлі госці з Мінска, хутка падняўся, выйшаў у прадпакой, сардэчна павітаўся і павёў далей. У майстэрні якраз вісела ў рабоце карціна пра Паўлюка Багрыма. Юны паэт стаяў перад высокім начальствам са сшыткам у руках, а на ўсё са страхам пазіралі маці і сястра. У вачах, усёй постаці галоўнага героя былі выклік, дзёрзкасць.

— Якраз такім я ўяўляў яго, калі пісаў свайго «Паўлюка Багрыма», — пахваліў карціну Караткевіч.

Потым Сергіевіч паказаў нам увесь свой запаснік. А таксама дзівосныя карціны Язэпа Драздовіча, амаль невядомага яшчэ ў Мінску. Асабліва ўразіла фантастычнае «Вітанне вясны на Сатурне»: сотні зусім аднолькавых незямных істот стаялі ў строгіх шарэнгах і чагосьці чакалі.

— Глядзі ты, прадбачыў! — адрэагаваў Валодзя, думаючы пра нешта сваё.

Ну і, вядома ж, мы многа сядзелі ў гістарычным архіве на Добрай Радзе. Кісялёў прыносіў Караткевічу, здаецца, нават без належнага афармлення, дакументы пра паўстанне 1863 года, Кастуся Каліноўскага. Валодзю было цікава ўсё: і папера, і подпісы, і паўстанцкія пячаткі. Здавалася, што ён бачыць тых, хто іх ставіў, і нават размаўляе з імі, варушачы засмяглымі ад курэння губамі.

У тую паездку Караткевіч здзівіў мяне сваёй здольнасцю быць натуральным, цікавым і не паўтарацца ў самых розных кампаніях — пісьменнікаў, вучоных, з абслугай у гасцініцах і прадаўшчыцамі ў кніжных магазінах (куплены аднатомнік японца Руноске Акутагавы на нейкі час стаў яго настольнай кнігай). Мы хадзілі па старых вулках, узбіраліся на вежу Гедымінаса. Доўга стаялі каля Вострай брамы, Святадухаўскай царквы, у Базыльянскіх мурах («во дзе была талеранцыя: зусім побач мірна сужылі каталіцкая, праваслаўная і уніяцкая святыні»). Зайшлі «пад галю» — на калгасны рынак, які, мабыць, памятаў Багушэвіча, каб купіць там кветак і ўскласці іх на пліту, пакладзеную на месцы пакарання смерцю Каліноўскага (каля касцёла святога Якуба на Лукішках). Нанеслі колькі візітаў маім сваякам (цётка Жукоўская цярпліва вучыла нас, як з мёду, спірту і спецый варыць стары беларуска-літоўскі крупнік). Хадзілі ў кіно на фільмы «з дрыжыкамі».

Наша прабыванне закончылася даволі камічна. Грошы неяк нечакана зніклі, а пазычаць не дазваляў гонар. І тады праз Мацявічуса Караткевіч дамовіўся, што нам дадуць мінут дваццаць у літаратурным тэлечасопісе. Ледзь не на апошні рубель паабедалі. Валодзя апрануў свой эфектны, блакітны з белым, світэр. Галантна цалаваў ручкі рэжысёркам і дыктарцы.

Узнёсла гаварыў, як шукаў у Вільнюсе сляды Каліноўскага. Я ж расказваў пра дружбу нашых літаратур... Вярнуліся мы ў былыя людскія па вуліцы Рашытою, папілі чаю і ўлегліся спаць з ціхай надзеяй, што нашы фінансавыя справы заўтра палепшацца.

— Званіць у бухгалтэрыю будзеш ты, — папярэдзіў Валодзя. — Хоць паздароўкаешся па-літоўску.

Але «лабас рытас» нас не ўратавала. На маё пытанне, ці нельга было б атрымаць ганарар за ўчарашняе тэлевыступленне, у трубцы пачулася:

— А вы — савецкія грамадзяне?

— Безумоўна! — узрадаваўся я.

— Тады атрымаеце пераводы ў канцы месяца ва ўстаноўленым парадку. Адразу мы плацім толькі замежным грамадзянам...

Давялося паступіцца сваім гонарам і звярнуцца за субсідыяй да сваякоў.

У наступны свой прыезд у Вільнюс, у канцы лютага і пачатку сакавіка 1966 года, мы былі больш абачлівыя: загадзя дагаварыліся пра пакой у больш дэмакратычнай гасцініцы «Гінтарас», а потым перабраліся на кватэру да майго школьнага сябра Часлава Мекіна на вуліцы Дзуку («у краіне Дзукіі», у «дзукаў», як паўтараў Валодзя).

У Літоўскім драмтэатры якраз паставілі гістарычную драму Вінцаса Крэве «Скіргайла». Яна выклікала вострыя спрэчкі: аўтар памёр у эміграцыі, доўгі час быў ледзь не пад забаронай, ды і на гістарычную праблематыку тады накладвалася табу... Таму Мацкявічусы рашылі звадзіць нас на гэтую пастаноўку. Білеты ім удалося здабыць з цяжкасцю, бо ўсе былі раскуплены загадзя. Аднак для «беларускага Сянкевіча і яго сяброў» усё ж знайшлася бронь. Караткевіч быў у захапленні ад маналогаў Скіргайлы пра тое, якім багам яму пакланяцца, ад «несіметрычнасці» драмы: крыжак аказваецца героем, а літовец — здраднікам. Разам з усімі Валодзя доўга апладзіраваў стоячы, а потым, у гардэробе, узрушана сказаў:

— Трэба перакласці для купалаўцаў! — ды тут жа аціх: — Хто ў нас цяпер такое паставіць?!

На наступны дзень вядомая літоўская фалькларыстка Ванда Ёнаўна павезла нас у Каўнас. Валодзя быў не ў гуморы: напярэдадні, адыходзячы ў тэатр, жонка Мацкявічуса прыпудрыла яму рассечанае пры рэзкім тармажэнні аўтобуса брыво, і сёння ў невялікай ранцы пачалася злая інфекцыя. І таму на карціны Чурлёніса ў Каўнасе глядзеў ён неяк адным вокам, прымружана. Асабліва ўразіла Валодзю нарастанне змроку, беспрасветнасці ў цыкле «Хаўтуры». Ён доўга стаяў перад карцінамі, нешта шаптаў (пасля з усяго гэтага нарадзіўся верш «Чурлёніс»). Дужа шкадаваў, што лепшыя творы літоўскага генія знаходзяцца ў цёмным запасніку: пісаныя дрэннымі фарбамі, на святле яны хутка губляюць колер. Затым нам паказалі скульптуры Даўгвілене, прысвечаныя паўстанцам 1863 года (у тым ліку дзеду мастачкі). Кавалкі кары (здаецца, дубовай), наклееныя на нацягнутае палатно, стваралі незвычайны эфект.

— Якое адзінства формы і зместу! — захапляўся Караткевіч. — І кім зроблена: не прафесіяналам, а швачкай.

А яшчэ спадабаліся яму скульптуры Рымшы, асабліва праект помніка лётчыкам Дарусу і Гірэнасу, якія перад вайной пераляцелі Атлантыку, але загінулі ў аварыі над прускім ці літоўскім лесам. Таму ўся скульптурная група нібы вырастала з лясной гушчэчы.

Паколькі музей вітража (музея чарцей тады, здаецца, яшчэ не было) аказаўся на рамонце, Караткевіч запрасіўся ехаць назад, аднак абачлівая







Ванда Ёнаўна прымусіла, каб ён зайшоў у паліклініку і даўся зрабіць «самую маленькую ў свеце аперацыю». Хірургічнае ўмяшанне пайшло на карысць, і па дарозе назад Валодзя ўжо сыпаў анекдотамі і нават пахваліў (а з раніцы лаяў) сучасную архітэктуру Электрэнай.

У абодва прыезды Караткевіч любіў хадзіць у маленькую кавярню па вуліцы Тотару (цяпер Палецкіса), дзе за буфетам стаяла («пры ўсіх уладах») магутная жанчына родам з-пад Мсціслава. Калі яна злавалася, вока ў яе мружылася ў нервовым ціку. Казалі, што ў выпадку чаго яна не выклікала міліцыю, а сама хапала дэбашыра за шкірку і выкідвала за дзверы. Валодзю, які галантна цалаваў ёй ручкі і па-зямляцку называў «мамусяй», яна паважала і магла нават даць «на борг крупніку». У доўг, да зарплаты ці ганарару, бралі і іншыя — пісьменнікі, акцёры. Потым, па неасцярожнасці Караткевіча, кавярню прыкрылі: ён, захапіўшыся нейкім сюжэтам, расказаў пра норавы, якія там пануюць, аднаму высокапастаўленаму літоўцу, а той рашыў: хопіць!

Праз два дзесяцігоддзі рысы вільнюскай «мамусі» я пабачыў у шынкарцы з караткевічаўскай драмы «Маці ўрагану».

Ці не апошні раз мы пабывалі разам з Караткевічам у Вільнюсе ў жніўні таго ж 1966 года. Рэжысёр Юрый Цвяткоў тады здымаў па яго сцэнарыю дакументальны фільм «Памяць» — пра помнікі архітэктуры. У Гудагай, дзе я тады адпачываў, уся кінагрупа прыехала «рафікам». Спачатку я павёз яе ў Варняны, паказаў ансамбль XVIII стагоддзя. Валодзю

захапіла вежа, узведзеная невядома дзеля чаго на востраве пасярод ставоў. Яна здалася яму маленькім паўтарэннем Камянецкага стаўпа. І сцэнарыст запатрабаваў, каб вежу дадаткова ўвесці ў фільм, ганяў галінай буслоў, каб яны трапілі ў кадр і «прыўкрасілі» яго. Потым быў касцёл аўгустынаў у Міхалішках, упрыгожаны скульптурамі знакамітага італьянца Перці — таго самага, што абяссмерціў сабор святых Пятра і Паўла ў Вільнюсе. Уражаны Караткевіч, перафразаваўшы назву аповесці Івана Шамякіна, раз-пораз усклікаў:

— Ах, Міхалішкі, Міхалішкі!

Заехалі мы і да дубовага крыжа, што стаяў на старым гасцінцы ля былога маёнтачка Анялін. Мясцовая легенда (расказваў яе стары «баечнік» з Палушаў Грыва) сведчыла, што сюды, да сваёй Марыські, няшлюбнай дачкі сялянкі і паніча, прыязджаў «правадыр» паўстанцаў 1863 года. І крыж быў асвечаны ў яго прысутнасці. Паглядзеўшы на прыступкі, што засталіся ад анялінскага дома і ўжо нікуды не вялі, на старое гумно, высокія дрэвы над берагам Лошы і густы шыпшыннік («здзічэлыя ружы»), Караткевіч узважыў усе акалічнасці і прыйшоў да вываду:

— Ну, вядома, тут быў ён, Каліноўскі! Бо хто ж яшчэ? — і папрасіў Цвяткова дадаткова зняць крыж для фільма (не памятаю, ці засталіся гэтыя кадры ў стужцы).

Па дарозе з Аняліна ў Гудагай Валодзя стаў пераконваць мяне:

— Давай пра ўсё гэта напішам па аповесці. Паглядзім, што выйдзе.

— Але ж я не пішу прозу. Толькі навуковае, крытыку. Не атрымаецца!

— Атрымаецца! І ведаеш чаму? Ты любіш разыгрываць людзей. Бывае, і не вельмі дасціпна... Памятаеш, як званіў Барадуліну ад імя польскага перакладчыка Антоняга Ольхі, як Рыгор бегаў па гасцініцах, шукаючы яго?! А ведаеш чаму? Таму, што не зганяеш ахвоту, разыгрываючы сваіх герояў. Даказана гісторыяй...

— Не ведаю. Няма часу: планавая тэма, свае і чужыя «хвасты»...

— Кідай усю непатрэбшчыну і пішы! Зашыйся сюды. Кажу табе! Потым за локці сябе будзеш кусаць, што ўпусціў час.

— Як быццам ты яго мала марнуеш...

У той дзень мы нават крыху пасварыліся. Але Караткевіч усё ж угаварыў мяне паехаць разам у Вільнюс, паказаць усім будынкі, узведзеныя беларускімі дойлідамі. Хаця Цвяткоў рашуча пратэставаў, што на ўсё гэта не хопіць аніякага метражу, але сцэнарыст настойваў:

— Інакш кіну вас, і рабіце ўсё адны, калі вы такія разумненькія...

Па дарозе паглядзелі руіны Медніцкага замка («не раўня нашым — дагледжаны»), заехалі ў Барэйкаўшчыну, дзе жыў Сыракомля, пашукалі Свіраны, у якіх нарадзіўся Багушэвіч. У Вільнюсе гасцініцы не аказалася (тут Цвяткоў вінаваціў Караткевіча), і мы, зноў пасварыўшыся, скіраваліся хто куды. Цвяткоў з жонкай, аператаршай і шафёрам прыстроіўся да беларускай кінагрупы, што здымала «Усходні калідор». А мы аддаліся пад апеку Генадзю Кісялёву.

Назаўтра, калі ўсе сустрэліся каля гатычнага касцёла святой Ганны, узведзенага рукамі гервяцкіх мужыкоў (Напалеон нібыта хацеў перанесці гэты цуд архітэктуры на далоні ў Парыж), гуморы ва ўсіх былі яшчэ дрэнныя, пералік узаемных крыўдаў узрастаў. Дастаткова было невялікай іскры, каб з яе ўзгарэлася полымя, і такая іскра знайшлася. Караткевіч спытаў у прысутных:

— А ведаеце, панове, чаму старыя муры так доўга стаяць?



— Не.

— Тады слухайце. Калі будавалі мінарэты ў Сярэдняй Азіі, то раствор замешвалі на крыві палонных. Секір башка і... А калі ўзводзілі Маскоўскі крэмль, то дабаўлялі яечнага бялку. На ўсе ўладанні было накладзена нешта падобнае на харчовую развёрстку: казанцам — трыццаць тысяч яек, разанцам — дваццаць тысяч... І што вы сабе думаеце: разанцы прыслалі ўсе яйкі варанымі ўкрутую.

— Гэта каб зрабіць урэд царскаму ўраду, — знайшоў нехта тлумачэнне.

— Які там урэд — па дурасці!

Не ведаю, чаму адзін з прысутных, родам далёка не разанец, гэтыя словы ўспрыняў як абразу. Калі б не ўмяшанне Кісялёва, які стаў мурам паміж канфліктуючымі бакамі, іх слоўная дуэль магла б перарасці ў бойку... Караткевіч канчаткова адмовіўся ехаць з кінагрупай на Гродзеншчыну («ёсць сцэнар — то рабіце, што хочаце») і прапанаваў мне з Кісялёвым тут жа пайсці да Зоські Верас.

— Падумаць толькі: жывая легенда, з самім Багдановічам сустракалася, а мы не выбралі часу, каб засведчыць ёй сваю павагу.

Але знайсці ў Панарскім лесе «беларускую хатку» Зоські Верас, пабудаваную яшчэ да вайны яе мужам, аказалася не так проста. Сышлі з аўтобуса на праспекце Чырвонай Арміі, перайшлі чыгунку — і адразу апынуліся ў лясным гушчары. Сцежкі вялі ў розных кірунках. Мы выбралі адну, другую, трэцюю — нічога не выйшла. Пазмрачнелыя, зноў выбраліся на праспект і рашылі («з гора») наведаць сяброў Генадзя Кісялёва. Караткевіч у гэтай сям'і быў добра вядомы. Нас гасцінна сустрэлі. Пачалося чытанне вершаў. А там — і застолле. І тут нечакана ў дзверы зазванілі. На парозе з'явіўся хлапчук і радасна абвясціў:

— А ўслед за мной і мама ідзе!

— ? — прачытаў я на твары Валодзі.

— І папа!

— ?!

— І дзядуля!

— !! — запасы ж для пачастунку былі абмежаваны нашымі сціплымі магчымасцямі.

А вундэркінд тым часам сунуў кожнаму з нас сваю руку і казаў:

— Здрастуй, старына!

— Здароў, калі так, — у голасе Валодзі не было энтузіязму.

Неўзабаве сапраўды з'явілася сям'я рээмігранта з Ізраіля вядомага вільнюскага інжынера Л. Паехаўшы на зямлю «абяцаную», ён ажаніўся там, у кібуцы, з камсамолкай і прывёз яе на зямлю бацькоў.

Новыя госці дружна накінуліся на ўсё тое, што стаяла на стале. Бачачы такое спусташэнне, Валодзя ўсё змрачнеў і змрачнеў. Нарэшце прамовіў да Л.:

— Ведаеце, міленькі, хутка па майму сцэнарыю павінен здымацца фільм «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Там апрача Хрыста будуць дзейнічаць і апосталы... Дык вось, ролю аднаго з іх я мог бы прапанаваць вам!

— Цікава, якую ж?

— Ролю Іуды!

Усе мы чакалі, што прапанова скончыцца аплявухай. Але Л., не зразумеўшы абставін і падтэксту, прарэагаваў на дзіва спакойна:

— А вы ведаеце, я змог бы! Тады... Тады паедземце ўсе да мяне!

Валодзя змяніў гнеў на літасць. І мы, цудам уціснуўшыся ў таксі, паехалі да Л. на Антакальніс. І пад каву з меднага егіпецкага кафейніка пачалася дужа цікавая гаворка пра традыцыі розных народаў, агульнасць чалавечай культуры.

— Зямля і так маленькая, а мы будзем раз'ядаць яе сваімі сваркамі, — Валодзя яўна паціхамірнеў. — Трэба знаходзіць тое, што яднае людзей, а не наадварот. Бо ў кожным народзе ёсць і благое, і добрае. У нас, беларусаў, — згубная, так бы мовіць, флегматычнасць. Ведаеце анекдатычную гісторыю? У мужыка разам з ураджаем згарэла гумно. Ляснуў увесь гадавы запас неабмалочанага збожжа. Як сям'ю пракарміць — аднаму пану богу вядома. І тут да мужыка прыходзіць такое ма-аленькае суцяшэнне: «Але ж затое колькі мышэй ляснула!» Беларусы ўсе ў гэтым анекдоце... Ну, а ў вас — празмерная, так бы мовіць, дзелавітасць, гешэфтнасць. Аднак жа гэта не перашкаджае нам разам сядзець ды піць каву. У вас тут, у Вільні, дзівосная агульнасць. Учора выпадкам на вуліцы чуў фразу: пачаў чалавек па-літоўску, увярнуў польскае, беларускае і яўрэйскае слоўцы, а скончыў па-руску.

У той вечар Караткевіч здзівіў усіх нас здольнасцю адчуваць сэнс зусім незразумелай мовы. Паміж сабой гаспадары гаварылі па-арамейску. Аднак па інтанацыі, жэстах, міміцы твараў Валодзя ўгадваў, што было сказана. З цікавасцю разглядаў кнігі, энцыклапедычныя даведнікі, надрукаваныя нязвычнымі літарамі — ужо на ідыш.

Як аўтара сцэнарыя фільма, у якім можна сыграць ролю Іуды, Караткевіча паклалі на раскладушцы. А мяне, як менш перспектыўнага госця, — на падлозе, побач з ім. Дзесьці ў шэсць гадзін раніцы перад намі паўстаў вундэркінд і стаў нас цягаць за «вухі»:

— Эй ты, старына, уставай, мне ў дзіцячы садзік пара!

Выйшлі мы на вуліцу, да тралейбуснага прыпынку, каб ехаць на вакзал. І тут я спытаў:

— Ну як, Валодзя, будзеш болей прапаноўваць ролі ў сваіх фільмах?

— Дальбог, не буду.

Караткевіч нейкі час вагаўся: вяртацца яму ў Мінск ці даганяць Цвяткова ў Гродне. Але потым рашыў, што абыдуцца там і без яго, бо асноўная частка матэрыялу ўжо адзнята. Ды сцэнарыст і не абавязаны ўвесь час ездзіць з рэжысёрам... Дарэчы, фільм «Памяць» неўзабаве выйшаў на экраны і здзівіў гледачоў: аказваецца, і ў Беларусі ёсць многа вартага дбайнай аховы — замкі і храмы, палацы і ансамблі жылых дамоў, ветракі і лямусы, корчмы і паштовыя скрынкі. У часы, калі мінуўшчына аддавалася анафеме, калі ў Віцебску ўзарвалі Благавешчанне, у Магілёве — ратушу, а ў Гродне — касцёл, пабудаваны яшчэ пры Вітаўце, усё гэта ўспрымалася як смелае, ледзь не крамольнае.

Ці бываў болей Караткевіч у Вільнюсе — не памятаю (здаецца, ездзіў туды яшчэ ў 1967 годзе). Але заўсёды з вялікім сентыментам успамінаў гэты горад, з нязменнай павагай ставіўся да самабытнай літоўскай культуры, ахвотна пісаў артыкулы і даваў інтэрв'ю для літоўскага друку (ці не апошняе было для часопіса «Културос барай»?).

Сваю абазнанасць з гісторыяй літоўскай літаратуры ён бліскуча прадэманстраваў у час сустрэч з Онай Главацкене (Прыс), дачкой літоўскай пісьменніцы Марыі Ластаўскене (пад псеўданімам Лаздзіну Пяледа яна выступала разам са сваёй сястрой Софіяй) і беларускага гісторыка Вацлава Ластоўскага. У сярэдзіне шасцідзесятых гадоў мы з Валодзем некалькі разоў пабывалі на яе мінскай кватэры (у доме па Ленінскаму праспекту, дзе цяпер месціцца магазін «Антыкварыят»). Она Вацлаваўна, нягледзячы на свае гады, была вельмі жвавая і прывабная. Казала, што яе дзед (наколькі я зразумеў, па мацярынскай лініі) быў польскі паэт, паказвала яго п'есу пра паўстанне 1863 года (ці не гэта прывяло сюды ў першы раз Валодзю?). У Савецкім Саюзе яна з часоў першай сусветнай вайны — у адрозненне ад малодшай сястры, якая жыла ў Каўнасе (яна ж «пусціла па свету жмудскую бібліятэку» бацькі, якога бацькам не лічыла).

Она Главацкене ўспамінала нам, хоць і цьмяна помнячы, пра «нашаніўскую» пару, калі ў Вільні, па вуліцы Завальнай, на кватэры Ластоўскіх бывалі Янка Купала, Людас Гіра, мастак Жмуйдзінавічус. Звычайна ў сутарэнні, дзе месціўся склад беларускай кнігарні, пілі гарбату з абаранкамі, елі селядцы з бульбай, абрэзкі таннай каўбасы. Дзецям куплялі цукеркі. Па словах Оны Вацлаваўны, Янка Купала і яе бацька дужа паважалі эрудыта Івана Луцкевіча, хоць і папракалі яго за тое, што ён прадаў музейную жырандолю, каб фінансава падтрымаць «Нашу ніву».

Она Главацкене ўдзельнічала ва ўрачыстасцях у снежні 1940 года, прысвечаных 35-годдзю творчай працы Янкі Купалы. З савецкага ўжо Вільнюса ў Мінск тады прыехалі Пятрас Цвірка і Антанас Венцлава. Першы быў вельмі вясёлы і непасрэдны, нейкую высокую госцю называў «мандалінай балалаеўнай», чым выклікаў незадавальненне скаванага («штыўнага») Венцлавы. Беларускія і літоўскія пісьменнікі дамовіліся тады ўзнаўляць кантакты, аслабленыя ў часы, калі ў Літве панавала буржуазная ўлада, і спачатку ўсё ішло добра: за год Купала двойчы пабываў у Вільнюсе і Каўнасе. Аднак з яго смерцю абарваліся многія жывыя ніткі. І нікому асабліва не баліць, жалілася гаспадыня, каб іх снаваць нанава.

— Вашы творы, Уладзімір Сямёнавіч, мне вельмі падабаюцца, — сказала Она Вацлаваўна на развітанне ў другі ці трэці наш прыход. — Абяцаю што-небудзь перакласці на літоўскую мову. Ну хаця б «Каласы», якія, чула я, вы заканчваеце.

Аднак Она Главацкене пачала хварэць, праз пару гадоў памерла, так і не здзейсніўшы многіх сваіх задум (у тым ліку і напісаць успаміны — «у піку Мядзёлцы»). Засталіся ад яе некалькі перакладаў з літоўскай на беларускую мову, зробленых у сааўтарстве, ды добрая памяць.

Але пара вярнуцца да рамана «Каласы пад сярпом тваім». Закончыўшы першую яго кнігу, Уладзімір Караткевіч аднёс яе ў «Полымя», дзе, насцярожаныя герцовічаўскімі адмоўнымі ацэнкамі папярэдніх яго твораў, не дужа спяшаліся друкаваць. Між тым аўтар чытаў урыўкі з рамана сябрам — у аспіранцкім пакоі Арсена Ліса, на кватэрах у супрацоўніц Інстытута літаратуры Валянціны Гапавай і Ірыны Крэнь. Патрыятычныя маналогі і дыялогі Алеся Загорскага, галоўнага героя, узбуджалі слухачоў, спараджалі розныя асацыяцыі з сучаснасцю. Нехта прапанаваў зрабіць копіі і пусціць іх па руках, але Караткевіч быў супраць усялякай «нелегальшчыны»:

— Вялікую і святую справу трэба рабіць з адкрытым забралам.

Нарэшце ў другім — шостым нумарах часопіса «Полымя» за 1965 год

раман пабачыў свет. На «сінкліце» сяброў (рэй вёў Рыгор Барадулін) было вырашана, што я зноў напішу рэцэнзію — толькі як мага дыпламатычней, са спасылкамі на гісторыкаў («каб выбіць падрыхтаваныя козыры ў Герцовіча і іжэ з ім»). На гэты раз свой водгук я даў пачытаць Караткевічу, і ён, выкрасліўшы некалькі гучных эпітэтаў, благаславіў опус у друк. Рэцэнзія з'явілася даволі хутка, 6 жніўня таго ж года, у газеце «Літаратура і мастацтва» пад назвай «Праўда мастацкая і праўда гісторыі».

Раман «Каласы пад сярпом тваім», вяршыннае (побач з раманам «Хрыстос прызямліўся ў Гародні») дасягненне ў прозе Уладзіміра Караткевіча, этапны твор для развіцця беларускай літаратуры ўвогуле, быў з энтузіязмам успрыняты моладдзю, узняў папулярнасць аўтара ў самых розных асяроддзях — нават там, дзе па-беларуску не чыталі. Адны яго ўзносілі пад нябёсы, другія (такіх было меней, але ў іх руках засяроджвалася духоўная ўлада) з такой жа рашучасцю яго не прымалі — маўляў, ідэаліст, рамантык, адарваны ад жыцця містыфікатар... Нейтральных я не памятаю. Нейтральных людзей у акружэнні Караткевіча не было ўвогуле — яго або любілі, прымаючы з усімі недахопамі, або ненавідзелі, гіпербалізуючы тыя ж зусім не смяротныя грахі.

Многа новых сяброў знайшоў Караткевіч на Далёкім Усходзе, куды ён нечакана трапіў на ваенныя зборы ў жніўні — верасні 1965 года (маю рэцэнзію на «Каласы» пераслалі яму ўжо ва Уладзівасток). А было яно так. Неяк сабраліся вечарам у Караткевіча Рыгор Барадулін і Генадзь Кляўко і рашылі дзеля жарту пазваніць пісьменніку Мікалаю Аляксееву, які займаўся ваенна-шэфскімі справамі, і пачалі жаліцца, што ён іх забыў, што яны, прагнучы прыгод, хацелі б куды паехаць — хоць на Чукотку, хоць на Камчатку. Той, не дужа ўнікнуўшы ў сітуацыю, пахваліў іх за такое імкненне і абяцаў што-небудзь прыдумаць. А праз месяц, калі пра званок усе забылі, нечакана прыйшлі павесткі на зборы ў «Боевую вахту», штодзённую газету Ціхаакіянскага флоту. Барадулін і Кляўко, будучы людзьмі жанатымі, крыху прызадумаліся, пачалі шкадаваць, што патрывожылі Аляксеева. А Караткевіч, наадварот, узрадаваўся:

— Што вы, хлопцы! За казённы кошт паглядзець такі кавалак краіны! Туды палецімо самалётам, а назад ужо абавязкова будзем ехаць цягніком. Каб ведаць, што такое Сібір.

З Далёкага Усходу Валодзя прыслаў мне тры лісты. Першы з іх напісаны на рэдакцыйным бланку «Боевой вахты» і датаваны 18 жніўня.

«Дарагі Адам!

Даслалі мне твой артыкул. Прачытаў. Выдатна. Думаю, і надалей з тымі «Каласамі» ўсё абыдзецца. Хацелася б гэтага ад усёй душы.

Работу па рэдагаванню канчаю. Сёе-тое скараціў, сёе-тое дапісаў. Пасля сяду за трэці варыянт «Хрыста» і ўсё разам дашлю ў Мінск.

Вось ужо ідзе трэці тыдзень маёй службы. Акрамя сваіх спраў нічога путнага не зрабіў. Для газеты я яшчэ, пакуль тое, тэра інкогніта. Хіба што здаў пераклад «Здратаваных магіл» у літаратурную старонку. Пераклаў адзін такі мясцовы паэт. Кепскавата пераклаў, ну ды ладна.

Пакуль што тут глухі туман і марась. Імжыць і імжыць. Варта кінуць на тры дні туфлі, як яны зацвітаюць. Прасціны прасыхаюць толькі да раніцы — клімат аж вельмі спрыяльны, асабліва для сухотных. Але днямі абяцаюць мора сонца: пачнецца залатая прыморская восень. Вось тады мы ўжо дамо раскрутку. Былі ў сакратара краёвага, Чарнышова (той раней



быў у нас, на Беларусі), і ён паабяцаў нам даць на тыдзень машыну, каб паездзілі па краю, пазнаёміліся. Ну і на флоце, на караблях пабываем, паплаваем.

Шкада, але на Курылах і Камчатцы нам, відаць, пабываць не давядзецца.

Ну добра. На пачатку кастрычніка будзем у Мінску, зноў работа, а пасля Новага года паедзем, як дамаўляліся, у Вільню, пасядзім у архівах, ды трэба выпускаць з рук хаця трэцюю частку «Каласоў».

А як у цябе? Як пачалася праца, калі пачалася? Як здароўе Мальдзісовай і Мальдзісянятка і мамы? Што новага бачыў? Перадавай прывітанне ўсім, як адзін, акадэмшам і акадэмам. Ужо трохі скучыў па Мінску і па ўсіх вас, братове.

У Прымор'е, вядома, трэба ехаць не на дзяржаўны кошт, каб не сядзець па рэдакцыях, а швэндацца па краю.

Прывітанне табе ад Рыгора і Генкі.

Твой сябар Уладзімір».

**(Заканчэнне ў наступным нумары)**



*Алег Мінкін*

## РАСКОЛІНА

У багне, разбэшчанай багне,
Што мглой забівала раты,
Скажыце, ну хто з нас не прагнуў
Разжыцца драбком яснаты?

Скажыце, ну хто з нас не марыў
Хоць вокам адным зазірнуць
Туды, дзе ўжо не валадарыць
Зрудзелай дрыгвы каламуць?

І вось жа настала хвіліна,
Што гэтулькі снілася нам,
І свет раскалоўся, як шкліна,
Не змогшы брыды, напалам:

Налева — сябры-аднадумцы
Да зор неспазнаных ляцяць,
Направа — паскудныя людцы
У курчы смяротным хрыпяць.

Ды вось жа якая прыгода —
Так глыбака ўелася мгла,
Што трэшчына тая не воддаль,
А ў сэрцы маім пралягла...

## ЭЦЮД

На шыбінах высозных хмарачосаў
У набрынялай зыкамі смузе
Тым вечарам згасала пакрысе
Барвовая агонія нябёсаў
Прыгадкаю па страчанай красе
Жыцця, якое бліснула спрасонку,
Як недарэчны зыркі маскарад,
І сталася спустошанай скарбонкай,
Дзе развітальны бляск на шкліне тонкай —
Апошні незбаёданы дукат.

## ЗНОЎ ВІЯЛАНЧЭЛЬ

Віяланчэль, не трэба з даўніны
Выплакваць згукі паўзабытых песень:
Маёй душы не гояць больш яны,
А толькі прыкрай аддаюцца рэззю,
Бо іншым стала неба і зямля,
І смак паветра і вады стаў іншы,
І сам я так змяніўся спакваля,
Што ад тугі б сканаў я той, калішні,
Калі б зірнуў за каламуць начэй,
У пустку маіх высахлых вачэй.

## НАСЛАННЁ

Мне здаўся гэты свет намаляваным,
Скажоным, несапраўдным, нежывым:
Ён засціў вочы мне, як шчытны дым,
І свет сапраўдны быў за ім схаваны,
І, апавіты дымам, нечакана
Сабе самому зданню я ўявіўся —
Стварэннем ворашнага сну, што сніўся
Камусь, хто сам глухім быў і сляпым...
Глытаючы атрутны, едкі дым,
Сярод пачварных я хімераў віўся
І сапраўся думкаю аб тым,
Што я яшчэ на свет не нарадзіўся.

## АКУЛЯРЫ

Не — я не сляпы. Проста на вачох у мяне акуляры з люстранымі шкельцамі, звернутымі да майго твару. Я неапусна ўглядваюся ў шкельцы-люстэркі і бачу сябе да самага дна. Калі я радуюся — шкельцы падвойваюць маю радасць. Калі пакутую — падвойваецца мая пакута. Аднак часам я аб нешта спатыкаюся, акуляры спадаюць з вачэй, і я бачу перад сабою то зялёную свечку ядлоўца, то шэры валун каля сажалкі, падобны да жывёліны, якая ідзе да вадапою, то бухматае ад сонечных промняў дрэва, абсыпанае кроплямі расы: і здзіўляюся прыгажосці, у якой мне не наканавана жыць... Якія ж мы з табою чужыя, дрэва!

■

Шэры валун, ты мне першы сваяк,
Бо дзень пры дні я ўсё больш камянею,
Фарбы губляючы, нікну, цьмянею —
Шэры валун, ты мне першы сваяк!

Дзьмухай не дзьмухай на прысак — ніяк
Полым ачахлы не запалымнее...
Шэры валун, ты мне першы сваяк,
Бо дзень пры дні я ўсё больш камянею.

## КАЙ

**1.**

А прыгаршчы снегу, відаць, нездарма
У твар мне шалёна шпурляла зіма —
Крышталік халодны і востры, бы шкельца,
У зрэнку мне ўбіўся і высцюдзіў сэрца.

Усё як было засталося наўкол:
Пахмурае неба, аснежаны дол...
І толькі адно не патраплю даўмецца,
Чаму гэта пустка Радзімай завецца?

**2.**

У палацы пустым, дзе адны скразнякі
Па пакоях туляюцца ўлегцы,
Ледзякі, ледзякі, дзень пры дні ледзякі
Перакладваю з месца на месца.

Ледзякі-ледзякі. Замест сэрца — лядзяк.
Зіхаценне халоднае слепіць.
Засяроджаны твар — і не выйсці ніяк
З ледзянога празрыстага склепа.

**3.**

Не ўявіць анічога марней:
Ты кахала мяне без мяне,
Існавала адным толькі мной
І маёю бясконцай маной.

Ты, спавітаяззяннем, плыла,
З цеплыні ўся наскрозь, са святла...
І не бачыла з мроіва мар
Мой бяскроўны, адчужаны твар.

## У ШАРЫМ ПРЫЦЕМКУ

Шары прыцемак паволі злізваў барвы наваколля.
Горад стойваўся і глухнуў. Змрок насоўваўся густы.
Ані гуку, ані руху... Толькі булькалі на кухні
Аднастайна, мерна, глуха кроплі цяжкія вады.

І было мне прыкра, пуста, што жыццё маё бязглузда
З жылаў точыцца, нібыта кроплі цяжкія вады...
Раптам знекуль, як з нябыту, загучаў даўно забыты
Мой матыў, што з іншым зблытаць я не мог і праз гады.

І здалося: смутак, стома адступаюць пакрыёма,
Адплываюць, як аблокі, адыходзяць назаўжды...
Я вяртаюся здалёку да жыцця майго вытокаў,
Дзе не чутна, як у змроку глуха падаюць гады.

■

Мы — шолах задумны нябачнага ў змроку лісця,
Мы — водбліскі вогнішча, што адгарыць неўпрыцям,
Мы — толькі трысцінкі вакол жарала небыцця,
Што хіляцца долу і з вечнасцю прагнуць зліцця.





## *Навум Гальпяровіч*

■

Вось і я. А за акном імжа.
Вецер гоніць лісце па дарозе.
Божа, як стамілася душа,
Але я дайшоў, я — на парозе.

Вось і я. Вы прымеце мяне?
Я стаміўся, я ляцеў і падаў.
Вось сляды маланак на спіне.
Язвіны ад хцівасці і здрадаў.

Я дайшоў. У вас гарыць святло,
Як яго агонь праз ноч зіхціцца!
Гэта і ратунак, і жытло,
Я дайшоў. Вы мне дасцё напіцца?

Ведаеце, колькі я згубіў,
Што навек пакінуў за спіною,
Што я ўспомніў, што я разлюбіў
І якой пазначаны віною?

Я стаю. Перада мною вы.
Колькі я начэй пра гэта марыў!..
Я зрываю шапку з галавы —
І салёны смак на мокрым твары.

### БАЛОТА

Перавернута неба,
І вада, і зямля.
Тут спяшацца не трэба,
Калі збіўся з руля.

Толькі чэзлай іржою
Цьмяна твань зіхаціць.
І рудою вадою
Смагі не наталіць.

І заплачаш употай
Паміж рэдкіх бяроз.
А навокал — балота,
Як ратунак і лёс.

### ПАРТРЭТ

Старым нажом ён чысціў бульбу
На кухні, дзе вісеў партрэт.
Гадзюкай песцілася кульба
На стосе кінутых газет.

Ён мармытаў, што верыць будзе
Ва ўсё: што і раней казаў.
Стралком аховы ж у Дальбудзе
Сваё здароўе падрываў.

Нагадваў мне пра лес і трэскі,
Пра непазбежнасць жорсткіх мер.
Пра тое, што не ўсё нам трэба
Прымаць і зараз напавер.

Мяне ён клікаў у дарадцы
І падымаў на светлы гнеў.
Ён мне пра сілу і парадак
У нейкай роспачы бубнеў.

Пра старасць гаварыў і стому
І выклікаў не жах, а жаль.
Ды профіль бачыўся знаёмы
На сточаным лязе нажа.



■

Здаецца, паўтараю, бы вада,
Чыесьці рысы, словы, справы, рухі,
Чыёсьці шчасце, і чыесьці мукі,
І жыцці, спрасаваныя ў гадáх.

Здаецца, гэта — я, а ўжо — не я,
Здаецца часам, нехта мною водзіць.
І ў нейкім фантастычным карагодзе
Істота растварылася мая.

І ўсё ж праз адзіноту і нуду
Убачыцца шчаслівым прасвятленнем,
Што ўсё-такі сябе ў сабе знайду,
Як долю, як Радзіму, як карэнне.

■

А ранак лужы выстудзіў да дна.
Апошні міг — і з восенню расстанне.
Якое неба і якое ззянне
Мне сёння дорыць на ўспамін яна!

Гарбата стыне і грыбны пірог.
Не трэба слоў, ні музыкі. Нічога.
І птушкаю, што скінула пяро,
Ускрыкне ў сэрцы даўняя трывога.

Не ведаю, што я знайду ў снягах,
Якія сёння лягуць над ракою...
Халодных пальцаў светлая туга
Заручвае і нас з табой з зімою.

■

Зноў раніца ўзмахне туманам белым,
Схаваўшы ў ім адвечны свой сакрэт:
Чыя душа у вырай адляцела,
Хто вачаняты расчыніў у свет.

І ў хваляванні тым ад таямніцы,
Якую прынясе нам новы дзень,
Зноў сэрца стане раптам гулка біцца,
Нібы праз момант вырвецца з грудзей.

■

Ты пачуеш мяне?
Гэта я — лёгкі воблак і водбліск на шэрай сцяне,
Гэта — сэрца маё, як вавёрка, што скача на цёплай сасне,
О, яму не скарыцца ніколі маркоце, бядзе, сівізне...
Не?

Ты ўратуеш мяне?
Калі страх мой халодны цуркамі цячэ па спіне,
Калі здрада знянацку глыжом з-за вугла секане,
Калі скрушна і вусцішна стане ў людской гамане?
Не?

Ты пакінеш мяне?
Калі сівер суровы пяшчоту марозам кране,
Калі морак і золь у хаціну маю зазірне,
Калі светлыя мроі не ўбачацца нават у сне?
Не?





*Аляксандр Капусцін*

**АПАВЯДАННЕ**

# ХАТА З ЯСЕНЕМ ПАД ВОКНАМІ

У вочы яе называлі і Маня, і Марыйка — як хто. За вочы — найчасцей гэтак жа. Але нярэдка — і чортава Маня. Калі, скажам, трэба было ўдакладніць, пра каго, пра якую Маню, ідзе гаворка: іх жа, Маняў, у Шарпілаўцы — не пералічыць. Была яна вельмі прыгожая: авальны твар з тонкім носам і невялікімі, калі ўсміхалася, ямачкамі на ружаватых шчоках; спакойныя, чыстыя блакітныя вочы, у глыбіні якіх блішчалі цёплыя агеньчыкі; доўгая, амаль да пояса, аўсяна-жаўтлявая каса...

Дык чаму такая прыгажуня і на табе: чортава?

Не, яна тут была ні пры чым. Справа ў тым, што такую мянушку насіў яе бацька, высокі, статны і ў свае не маладыя гады Халімон Аверкін. Быў ён не сказаць каб і злы, паганы чалавек. Не горшы за іншых. Ва ўсякім разе за тых, што прылічвалі сябе да паборнікаў праўды і справядлівасці, а самі, гаворачы высокія прыгожыя словы, тым часам спадцішка злосна кусалі іншых за якую сапраўдную ці ўяўную віну. З гэтай мянушкаю ён і нарадзіўся, бо так вяскоўцы клікалі яго бацьку. Праўда ці не, а старыя людзі расказвалі, што сама маці галубіла маленькага Халімона: «Чорцік ты мой любы, ненаглядны». Халімон настолькі звыкся са сваёй мянушкаю, што не крыўдзіўся, па крайняй меры не паказваў крыўды, калі хто ў запале ці незнарок гэтак называў яго. Ён толькі ціха, маркотна ўсміхаўся.

Так і Маня — калі чула што. Характарам яна ўся была акурат бацечка.

Скончыўшы сямігодку, ці, як тады казалі, школу калгаснай моладзі, Маня гады тры рабіла ў калгасе. Потым пайшла працаваць на чыгунку. Сонца пад шпалы заганяла. Работа гэтая, калі хто ведае, выконвалася папарна. Двое станавіліся адзін насупраць аднаго і папераменна вялікімі кіркамі, якія называліся кайло, дзяўблі баласт, падбіваючы яго пад шпалы. Напарнікам у Мані быў Цярэшка Арцюхоў, хлопец высокі, падборысты,

Мал. **М. Шматавай.**

праворны. Усе, хто бачыў, як яны працавалі, любаваліся і імі, і працаю іхняй. Атрымлівалася ў іх спорна, заўзята і весела. І нярэдка — з песняй. У два галасы яны спявалі зладжана і прыгожа.

Пасылала мяне маці,
Пасылала мяне маці,
Па-а-асылала мяне маці
Яравое жыта жаці.

Цярэшкаў барытон цягнуў мякка, вольна, а Маня ў лад яму брала высока і звонка.

Вось толькі на вечарынках не бачылі іх разам. Маня на вечарынкі не хадзіла, казала, танцаваць не навучылася. А Цярэшка і там хват быў: што польку, што кракавяк — да ўпаду. Натанцуецца — і пайшоў дадому адзін. Дзяўчаты гарэзавалі: «Цярэшачка, яшчэ — падыспанец, харошанькі танец. Ай табе не дазваляе хто?» Ён дурасліва зацягваў:

Падыспанец — харошанькі танец.
Падыспанец танцуюць усе...

Бліскаў задорнай усмешкай і борзда тупацеў па прыступках высокага клубнага ганка.

Сонечным нядзельным днём Цярэшка з Маняй завіталі ў сельсавет. У блакітнай у белую гарошынку сукенцы з прыкладзеным да грудзей букетам барвовых ружаў, якія падарыў Цярэшка, Маня выглядала яшчэ больш прыгожай і бязмежна шчаслівай. Старшыня сельсавета, круглатвары мацачок у падперазанай шырокім рэменем цёмна-сіняй шарсцяной гімнасцёрцы з адкладным каўняром, віншуючы маладых, не стрымаў свайго захаплення:

— Царыца!

Усе, хто быў у сельсавеце, дружна заляпалі ў ладкі. Дзябёлая постаць старшыні раптам наструнілася, быццам гэтыя воплескі адрасаваліся не жаніху і нявесце, а камусьці іншаму, усюдыіснаму і няўмольнаму, што нябачна прысутнічаў там. Затым адразу на яго круглым твары адбілася збянтэжанасць. Адольваючы дзіўную неспадзеўку, старшыня машынальна скубануў тоўстымі пальцамі каўнер гімнасцёркі і, надаўшы голасу ўрачыстасці, шчыра пажадаў маладым:

— Няхай ваша жыццё будзе такім прыгожым, як вы самі, як сённяшні сонечны дзень.

Увечары справілі застолле. Не ў Цярэшкі — у Халімонавай пяцісценцы, пад вокнамі якой прыгожа раскашаваўся магутны ясень. У Цярэшкі не было як, ён жыў адзін.

Хлопец рос сіратою, пад наглядам родзічаў і суседзяў. Бацька, сельскі грамацей, з маладых гадоў быў селькорам, зрэдку пісаў у раённую газету і пра добрае, і пра кепскае, што адбывалася ў вёсцы. Цёмным асеннім вечарам ён вяртаўся з хаты-чытальні, куды хадзіў узяць кніжку. На вуліцы вясковы хуліган і злодзей па мянушцы Труцень загнаў яму паміж лапатак швайку. Ці бандыта падбухторыў хто, ці сапраўды, як казаў, сп'яну розум у яго памуціўся, высветліць не ўдалося. Маці з гора дужа занудзілася, захварэла на сухоты. Яе не стала, калі хлапчук ужо заканчваў школу.

Вясельную вячэру гатавалі Маня і яе суседка Вольга, якая жыла цераз вуліцу. Вольга і застоллем запраўляла. Яна весела, з жартамі і прымаўкамі падавала стравы і выпіўку, падахвочвала гасцей частавацца за здароўе маладых. Тым часам не прамінала выпадку, каб не кінуць з блазенскім намёкам:



— Піце, ежце, госцейкі, ды хутчэй, бо маладым некалі, ім трэба адным застацца.

Госці разышліся апоўначы. Цярэшка прыгарнуў Маню да сябе, зазірнуў у вочы:

— Цяпер, любая, хадзем дадому. — Ускінуў вузел з падушкамі і коўдрамі на плечы, узяў жонку пад руку, і яны ступілі ў зорную ноч.

Вяскоўцы называлі Маню, як і раней, хіба толькі цяпер часцей крыху, — чортавай. Дзяўчаты — з зайздрасцю, што запаланіла такога прыгожага хлопца. Хто-ніхто з іх часам яхіднічаў: «Можа, яна прысухай якой зачаравала яго, чортавым зеллем — недарма ж чортава...»

Вясною ў сэрцы маладажонаў нахлынула новая вялікая радасць — Маня нарадзіла сына. Цёплы май буяў азімымі нівамі, цвіў буйной квеценню яблыневых і вішнёвых садоў, звінеў птушынымі галасамі. «Радасць ты наша маёвая!» — галубілі шчаслівыя бацькі галасістага шустрага хлапчука. І марылі пра дачушку.

А на пачатку лета Маня забрала дзіця і вярнулася ў бацькаву хату.

Развіталіся яны на двары каля веснічак. Цярэшку страшэнна карцела сказаць жонцы знаёмыя да болю сардэчныя, пяшчотныя словы, але нясцерпна горкая крыўда быццам сашчапіла, замкнула яму рот. Словы тыя, не вырваўшыся з-за зубоў, зляпіліся ў даўкі камяк. Маня стаяла з зацятым, як скамянелым тварам. Ён дзвюма рукамі схапіў яе за плечы, страсянуў. Дзіця, што было ў яе на руках, заплакала і неяк адразу змоўкла. Штосьці абарвалася ў грудзях Цярэшкі, сцінаючы дыханне. «Заб'ю!» — зашумела ў яго ў галаве. Ён схамянуўся, жахнуўся гэтай жудаснай думкі... Так яны і не сказалі адзін аднаму нічога. Ды і што было гаварыць, калі ўсё ўжо сказана-пераказана!

Вяскоўцы дзівіліся, губляліся ў здагадках: што здарылася? Не чуваць жа было, ці каб пасварыліся, ці хто паганцам якім стаў... Цярэшка, калі ў яго з мужчын хто пытаў, толькі сумна, вінавата ўсміхаўся і паціскаў плячамі:

— У Мані спытай. Яна ж ад мяне пайшла, а не я ад яе...

Жанчыны былі больш цікаўныя і настырныя, то з аднаго боку падступаліся да Мані, то з другога:

— Такога мужыка адцурацца! Ён што, знюхаўся з кім ці, можа, рукі на цябе клаў?

Вусны Маніны балюча ўздрыгвалі:

— Што я магу сказаць кепскага на свайго мужа?..

Тады хітрэйшая каторая мяняла ход:

— Яны пакуль хлопцамі — дык усе добранькія. А як ажаніліся, узялі сваё, яго, іншага, быццам падмянілі. Былы мужык твой, Маня, грошай, можа, табе не даваў?

— Ты ж сама гаворыш — былы. Дык што я магу сказаць кепскага пра чужога чалавека? — Маніны вочы зацягваліся паваолкай слёз.

Пры сустрэчах былыя муж і жонка стрымана віталіся:

— Добры дзень, Маня.

— Добры дзень, Цярэшка.

— Як сын?

— Прыйдзі паглядзі.

І абое стрымлівалі цяжкія ўздыхі, якія рвалі грудзі.

З цягам часу па вёсцы пачалі распаўзацца чуткі, што чортава Маня пасварылася з Цярэшкам з-за бога.

Маці яе пайшла на той свет, калі дзяўчынка толькі пачала хадзіць у

школу. Была яна сектанткай. Паміраючы, як цяпер прыгадалі людзі, наказвала малой: «Глядзі, дачушка, жыві з богам у душы, з якім нарадзілася». І дамаглася ў дзяўчынкі клятвы, што яна, калі вырасце і народзіць дзяцей, ахрысціць іх у сектанцкага прэсвітэра.

Цяпер Маня адступіцца ад клятвы не магла, а Цярэшка не мог з гэтым згадзіцца.

Усю сваю любоў і ласку, якой у яе хапала на мужа і сына, жанчына аддавала цяпер дзіцяці. «Цярэшачка мой ненаглядны, саколік шызакрылы! Расці здаровы і дужы, як... як тата твой. І вочкі твае ясныя няхай заўсёды свецяцца радасцю, і кудзеркі на тваёй галоўцы няхай так буйна кучаравяцца, як у таты...» Часам здавалася, што яна, гаворачы гэтыя словы да сына, бачыла перад сабой мужа. Стары Халімон, калі яму выпадала глядзець на дачку ў такія мінуты, скрушліва хітаў галавой і казаў, каб пераключыць яе ўвагу на іншае:

— А ў свеце чула што робіцца? Газеты пішуць, у Сібіры вунь новы горад пабудавалі. — І дадаваў: — Людзі не спяць у шапку.

Так ён заўсёды заканчваў кожную сваю думку, якую лічыў грунтоўнай і важнай. «Людзі не спяць у шапку» — было яго любімае выслоўе.

Малы Цярэшка ўжо борздa тэпаў па зямлі моцнымі цыбатымі нагамі, калі пачалася вайна. Ганяўся на двары за курамі, цягаў за сабой дзедаву пугу. Дзед, прыйшоўшы з работы, даваў яму пугу пазабаўляцца і казаў:

— На, чалавек, паганяй каня. Вырасцеш — будзеш, можа, як дзед твой, зямлю араць, хлеб сеяць. На хлебе, унучак, усё на гэтым свеце трымаецца.

Хлапчук пазіраў на старога няўцямнымі даверлівымі вачанятамі, і пунсовыя пухлыя вусны яго ціхутка паварушваліся. Ён быццам паўтараў у думках незразумелыя дзедавы словы, якія той неаднойчы казаў яму: «Чуеш, як вунь птушка на яблыньцы звініць-спявае? І ў полі ж, унучачак, птушкі так заліваюцца ў паднябессі. Падвясельваюць чалавека, каб яму спарней працавалася. Чалавек і птушка спрадвеку ў згодзе жывуць. Вунь чуеш? Ціл-цілі — цюр-р!..»

Часам да хлапчука прыходзіў бацька. Прыносіў які гасцінец, забаўляўся з ім. Гушкаў на нагах, бегаў па двары, то ўцякаючы, то даганяючы яго. Потым браў на рукі, таямніча, сцішыўшы голас, пытаў:

— Ты любіш маму? — І дадаваў: — Любі яе, сынок, яна прыгожая і добрая.

На развітанне падкідваў сына высока над галавой і прыгаворваў: «Вось такі вялікі расці — як твой дзед». Цалаваў мяккую ружовую шчаку і, не азіраючыся, шпарка ступаў з двара.

У армію Цярэшку не мабілізавалі, — як чыгуначніку, далі бронь. А перад самым прыходам немцаў ён некуды знік з вёскі. Казалі, эвакуіраваўся.

У першыя ж дні акупацыі гітлераўцы выдалі загад: усім, хто дзе працаваў да вайны, прыступіць да працы. І Маня зноў узяла кірку. Немцы далі ёй аўсвайс — пасведчанне на права ўдзень хадзіць па чыгунцы.

Восень і зіму вёска жыла насцярожана-прыціхла. Рабіла, як каму даводзілася, звыклую сялянскую працу, гадавала дзяцей. З напружанай прытоенай чуйнасцю прыслухоўвалася да розных навін акупацыйнага быцця, сапраўдных ці, нярэдка, і выдуманых, народжаных падсвядомым людскім імкненнем прымаць уяўнае за сапраўднае; да скупых цяжкіх чутак з-за фронту, якія са спасылкай: «Людзі казалі» невядома хто і як прыносіў.

Па вясне вёску ўзбудзіла ліхаманкавая пагалоска аб партызанах. Яна пракацілася з канца ў канец, як водгалас далёкай перуновай грымоты: за Рэчыцай партызаны цягнік пад адхон скінулі!.. З тых пор усё часцей з вуснаў у вусны перадавалася: там, на шашы, мост узарвалі, там паліцэйскі ўчастак разграмілі... І на чыгунцы выбухі сталі раздавацца бліжэй.

Неўзабаве па людзях спасцярожліва, з апаскаю папаўзло, нібыта сярод партызан бачылі Цярэшку. З аўтаматам, з гранатамі на рэмені. Маня чыгунку рамантуе немцам, а Цярэшка ўзрывае...

І сталі вяскоўцы заўважаць, што Маня зрабілася нейкая быццам сама не свая: панурая, замкнёная, людзей цуралася. Бяжыць раніцай на чыгунку, павітаецца, з кім сустрэнецца, і стараецца хуценька, як мыш, прашмыгнуць, каб не зачапілі, не загаварылі з ёй.

Аднаго разу ў нядзелю, калі быў выхадны дзень, Маня сабралася адведаць цётку, адзінокую старую, што жыла ў аддаленай вёсцы, па другі бок чыгункі. Дастала з-пад падлогі нейкі невялікі, як брус гаспадарчага мыла, загорнуты ў чорную анучу пакунак, паклала ў кашолку. Укінула туды, узяўшы з паліцы каля печы, сталовы нож з вострай дзюбай. Сыпнула ў кашолку ігруш і яблыкаў, наверх наклала дзесятак яечак і накрыла вышытым кужэльным ручніком. Зняла з вешалкі ў шафе сваю любімую святочную сукенку, блакітную, у белую гарошынку, якую дужа зберагала — у ёй яна была, калі запісвалася з Цярэшкам. Прыклала да грудзей, паглядзелася ў люстэрка, горка ўсміхнулася. Затым, як апамятаўшыся, хуценька надзела сукенку, узяла на рукі сына, перайшла цераз вуліцу да суседкі Вольгі. Тая пасля мыцця вешала фіранкі на вокнах.

— Куды гэта ты так прыбралася? — Яна здзіўлена агледзела Маню з галавы да ног.

— Гэта ж во трэба адведаць у Вербавічах цётку, бацькаву сястру. Старэйшая яна за бацьку, і людзі пераказвалі — занядужыла зусім. А тут, як на тое ліха, бацька злёг. Распарыўся і вады халоднай напіўся, цяпер гарыць увесь, горла сціснула — слова не скажа. Дык, можа б, ты, Вольгачка, малога паглядзела? Я мігам — туды і назад.

Маня быццам не так словамі ўпрошвала, як нейкай пякучай трывогаю і болем, што мардавалі яе душу і чуліся ў іх.

— Пагляджу, Манечка, пагляджу, а ты не тарнуйся так, не спяшайся. — Вольга кінула на крэсла фіранку, працягнула рукі да дзіцяці. — Ідзі да мяне, Цярэшачка, мама хутка вернецца, ідзі.

Маня моцна пацалавала сына, аддала суседцы.

— Пабудзь, сыночак, з цёцяй, я хуценька вярнуся, і мы тады з табою будзем у козлікі гуляць.

Хлапчук няўцямна, з недзіцячай сур'ёзнасцю моўчкі глядзеў то на маці, то на цёцю, якая пяшчотна прыцiскала яго да сябе.

Не азіраючыся, Маня ледзь не подбегам выскачыла з хаты.

Апоўдні на чыгунцы ва ўрочышчы Ласіны Горб прагрымеў выбух. Поезд, які ішоў на ўсход, спускаючыся з пад'ёму, наскочыў на міну. З высокага адкосу паляцела амаль палова саставу.

А пад вечар у вёску панаехала на машынах немцаў. На вясковай плошчы яны скінулі з машыны Маню і тры бервяны. У грудзях у Мані тырчаў вялікі сталовы нож, вочы былі расплюшчаны і нерухома невідушча пазіралі ў блакітнае неба.

Засіпелі пілы, заляпалі сякеры, майструючы шыбеніцу. Карнікі сагналі на плошчу ўсіх, хто не паспеў схавацца. Халімона Аверкіна прывялі са звязанымі рукамі.

Усё — і людзі, і хаты, і дрэвы — нібы здранцвела ў жаху. Два гітлераўцы схапілі Маню за рукі, прывалаклі да шыбеніцы, і яе безжыццёвае цела

загайдалася на вяроўцы. Затым адзін з немцаў падышоў да Халімона, штурхнуў у плечы — ідзі. Накінуў яму пятлю на шыю. Халімон ліхаманкава паварочваў галаву туды-сюды, як шукаў каго вачамі сярод людзей. Куцай нагою, абутай у бот з шырокай халявай, гітлеравец штурхнуў табурэтку, на якой стаяў стары. Шыбеніца рыпнула, быццам войкнула. У натоўпе хтосьці ўскрыкнуў. Той пранзлівы ўскрык прагучаў, як ляск бізуна, страсянуў знямелы натоўп. Цёплы ветрык ціха варушыў сівыя валасы на галаве Халімона, злёгку надзімаў блакітную ў белыя гарошынкі сукенку каля Маніных выцягнутых ног.

У купцы карнікаў, што стаялі непадалёку ад шыбеніцы, адзін загаварыў па-нямецку, другі стаў перакладаць:

— Германскі ўлада даў гэты... гэты чортаф Манья аўсвайс, каб сумленна працаваць на новы пар'ядак. Усіх, каторы будзье нам шкодзіць, спасціґне такой кар'я. — Яны абодва, адзін за адным, павярнуліся, паказалі рукамі на шыбеніцу. І міласціва дадалі: — Усьё, можаце разыходзіцца...

На другі дзень гітлераўцы дазволілі пахаваць павешаных. На кладаўі Вольга з малым Цярэшкам на руках стаяла ззаду натоўпу, каб дзіця, якое нічога не разумела, не пабачыла маці і дзеда ў дамавінах.

Уначы Вольга пачула ціхі стук у шыбу. Адхінула ражок фіранкі і пазнала Цярэшку.

Ступіўшы цераз парог, Цярэшка хрыплым, перадаўленым голасам спытаў:

— Дзе сын?

Дзіця ціхамірна спала на ложку, раскінуўшы выцягнутыя з-пад пасцілкі рукі. Цярэшка далікатна крануўся дрыжачымі пальцамі яго цёплай далонькі. Хвіліну стаяў як скамянелы. Потым адышоў да акна, абхапіў рукамі галаву. Прастагнаў:

— Я вінаваты. — І несуцешна каючыся, усё паўтараў: — Я, я, я...

Вольга ўсхліпнула:

— Ён жа ўсё пытае ў мяне, дзе мама. Жаласна так пазірае пільнымі вочачкамі, быццам здагадваецца пра ўсё, і — дзе мама, дзе мама?.. «Заўтра, дзіцятачка, прыйдзе, кажу, мама твая». А ў самой душа заходзіцца... Войвой, як жа ёй страшна было — нажом сабе ў сэрца! Дык жа яшчэ страшней было — каб жывой не схапілі...

Цярэшка асцярожна ўзяў яе за плечы:

— Ты ўжо, Вольгачка, паглядзі малога, пакуль што.

— А як жа, не сумнявайся, Цярэшачка, што маім будзе, тое і яму.

Ён парывіста паднёс яе руку да вуснаў, моцна пацалаваў. Яшчэ хвіліну паглядзеў на сына і пайшоў у цёмную, нямую трывожную ноч.

Праз месяц Вольга дачулася, што Цярэшка загінуў. Пасля смерці Мані ён стаў як утрапёны. У кожным баі, у кожнай сутычцы з немцамі ці паліцаямі люта кідаўся ў самае пекла. ВерасНёўскай ноччу яго падрыўная група ўзарвала поезд, які вёз гітлераўцам на фронт баявую тэхніку. Стомленыя партызаны вярталіся ў лагер. Ужо не дужа далёка было да лагера, калі іх на аўтамашынах і матацыклах дагналі карнікі. Сталі акружаць. Цярэшка загадаў сваім таварышам адыходзіць у глыб лесу, а сам застаўся прыкрываць іх. Адстрэльваўся з аўтамата, пакуль не апусцелі дыскі. Тады размахнуўся гранатай, ды кулі прашылі яму грудзі. Яго, ужо мёртвага, фашысты ўсяго скалолі штыкамі.

У той дзень, калі Вольга даведалася пра гібель Цярэшкі, да яе прыехала на лядашчым каньку старая Маніна цётка з Вербавіч.

— Забяру хлапчука, маладзічка, — прагаварыла яна, глытаючы слёзы і выціраючы вочы ражком хусткі. — Табе сваіх жаўтаротых карміць трэба, а я адна, выгадую крывінку...

У канцы вайны яна памерла, і малога Цярэшку аддалі ў дзіцячы дом.



Млеў надвячорак гарачага жнівеньскага дня. На лавачцы каля падворка ў цяньку сядзела старая жанчына. Каля яе весела забаўляўся са сваім «грузавіком» шустры хлапчук. Бойка тараторыў, задаючы бабулі розныя свае дзіцячыя пытанні, на якія яна ледзь паспявала адказваць. Над галавой у яго пырхаў чырвона-жоўты матылёк. То апускаўся, то ўзлятаў угору. З падваротні, як клубочак, выкульнуўся рабы шчанюк, стаў лашчыцца каля малога. Хлапчук лёгенька гулліва тузануў яго за адвіслае вуха і радасна засмяяўся.

Да бабулі з унукам падышоў высокі, сярэдніх гадоў мужчына ў форме чыгуначніка, з чорным бліскучым чамаданчыкам-«дыпламатам». Прывітаўся. Хлапчук паглядзеў на яго, перавёў позірк на «дыпламат», і цёмныя вочкі-жучкі засвяціліся дзіцячай зайздрасцю. Мужчына ўсміхнуўся:

— Добры дзень табе, малец. — Падаў малому руку. Той выцер аб штонікі замурзаныя ў пясок пальцы, размахнуўся і ляпнуў па шырокай далоні.

— Чамаданчык мой спадабаўся табе? Ну, зараз мы там нешта пашукаем. — Чыгуначнік шчоўкнуў бліскучымі замкамі і працягнуў хлапчуку кулёк з цукеркамі. — Як цябе завуць?

— Цялэшка.

— Ого, дык мы з табою цёзкі! Вось што, цёзка, ты памый спачатку рукі, потым возьмешся за цукеркі. Добра?

— Добла, — кіўнуў галавой хлапчук. Забыўшыся на сваю машыну, прыпусціўся ў двор.

— Там у тазіку каля ганка чыстая вадзічка! — гукнула яму наўздагон старая і растлумачыла чыгуначніку: — Такі ўжо акуратыст, налею яму вады, ён, перад тым як ісці ў хату, паплёскаецца, ручаняты абпаласне і задаволены: «Во, бабуля, памыў!»

— Імя рэдкае па цяперашнім часе ў вашага ўнука, — заўважыў чыгуначнік.

— Гэта не ўнук, а праўнук. — На твар старой лёг цень якогасьці неспадзяванага одуму. — Ага, рэдкае... Калісьці ў нашай сям'і жыў хлапчуксірата Цярэшка. Дачка мая малая была, а запомніла яго. Сваіх ужо дзяцей у яе чацвёра, ды ўсе дзеўкі. А калі яе старэйшая нарадзіла хлопчыка, во гэтага падшыванца, яна папрасіла дачку і зяця: «Цярэшкам назавіце». Не хацелі спачатку, пакуль не расказала чаму. Тады зяць і кажа: «Толькі Цярэшкам».

— Вы — цётка Вольга? — Бровы чыгуначніка падскочылі ўгору.

— Ага, цётка Вольга. — Старая ўстала з лавачкі, быццам так ёй лепш было разгледзець наваяўленага пляменніка. — А хто ж ты, маладзец, будзеш?

— Цярэнцій Арцюхоў. Цярэшка я, цёця Вольга!..

Жанчына неяк тузанулася ўся, як падскочыла.

— Манін сын? Вой-вой, — пляснула далонямі. — І як жа я адразу не разгледзела: увесь чыста ж Маня!

Цярэнцію Цярэнцевічу захацелася сказаць жанчыне самыя цёплыя, самыя ласкавыя словы, якія гаворыць чалавек толькі маці. Але яны не ішлі, не знаходзіліся. Можа, таму, што ён ніколі не гаварыў іх, не ведаў? І ад

горкай роспачы, якая раптам нагарнулася ў сэрца, яму на момант зрабілася страшна. У галаве зашумела, быццам глынуў нашча горкага хмельнага. У мінулы раз, калі прыязджаў сюды, каб пакласці на магілы маці і дзеда запазнелыя сыноўскія кветкі, ён не бачыў цётку: яна гасцявала ў дачкі недзе ў другой вёсцы. Цяпер сустрэча з ёю была для яго як нечаканы дарагі падарунак.

— А мой жа ты галубок, а мой саколік, дай жа я пагляджу на цябе харашэнька!..— Старая то прыціскала рукі да грудзей, то апускала іх, зморшчынены жаўтлявы твар яе пaпляміўся пунсовымі лапікамі.— Дзе ж ты жывеш, саколік ясны, у якім краі?

— У Паволжы, цёця Вольга, на чыгунцы працую.— Цярэнцій Цярэнцевіч паглядзеў цераз вуліцу на хату з вялізным ясенем пад вокнамі.

Яна перахапіла яго погляд.

— На бацькаўшчыну, Цярэшачка, пацягнула? А то ж вунь ваша хата.

У макаўцы ясеня далікатна прайшоўся ціхі верхавы вецер. Над вуліцай праляцеў бусел. Недзе непадалёку сеў у гняздо — адтуль пачуўся яго заўзяты клёкат. З весніц выбег малы Цярэшка.

— Дзядзя, а я таксама пачастую цябе цукелкамі, як мне тата купіць.

— Добра, цёзка, добра, мы будзем з табой сябраваць.— Шырокая далонь Цярэнція Цярэнцевіча далікатна кранулася чарнявых валасоў малога. Хлапчук, усцешаны прыязнасцю ласкавага дзядзькі, даверліва ўсміхнуўся яму. Раптам ён сарваўся з месца і кінуўся да пеўня, які, высока падымаючы ногі, спаважна пераходзіў вуліцу.

— Кыш, лазбойнік, зноў надумаўся ў нашы гляды!

Цярэнцій Цярэнцевіч усміхнуўся:

— А ты, цёзка, пільны!

— Вой, што гэта я госця за парог не пускаю! — спахапілася цётка Вольга.— Здарожыўся ж, мусіць, сокал ясны, хадзем, хадзем да стала.

Яны зайшлі ў хату. Цётка замітусілася, накрыла доўгі і шырокі стол белым кужэльным абрусам, паклала непачаты круглы бохан хлеба. Хлеб быў свежы і патыхаў густым хмельна-саладжавым духам.

Цярэнцій Цярэнцевіч сеў каля расчыненага акна, пазіраў цераз вуліцу. У млосную цішыню надвячорка з чыгункі ўварваўся грукат цяжкагрузнага саставу. Колы вагонаў імпэтна праляскаталі па рэйках, і праз мінуту-дзве поезда як і не было. «Тады я прыязджаў, каб пакланіцца дарагім магілам, цяпер таксама,— неспадзявана падумалася Цярэнцію Цярэнцевічу.— Што яшчэ ў мяне тут засталося?..»

Цётка Вольга, ставячы на стол талеркі і міскі са стравамі, гаварыла:

— А хата ваша яшчэ крэпкая, бярвенні стрыжнёвыя. Калгас сёлета падрубу новую даў, вунь бялеюць два вянцы. Пастаіць яшчэ ваша хата.

Ён слухаў цётку і ўсё пазіраў, пазіраў на пяцісценку з вялізным ясенем пад вокнамі.



*Уладзімір Ліпскі*




**АПОВЕСЦЬ ПРА ІГНАТА ГРЫНЯВІЦКАГА ***

*Карэта цара выязджае.*
*(Гэткі на колах гадзючнік!)*
*У канале Кацьчыным воды*
*Да блізкага мора бягуць.*
*Вось бомба. Хай з падлы смярдзючай,*
*Хай з яго, ката народаў,*
*Ката маёй Беларусі,*
*Зараз шматкі палятуць.*
*Выбух. Той здох. Але*
*І яго смерч асколкаў нізрынуў,*
*Вось нясуць... Вось колюць... Пытанні...*
*Гэта каб іншых гнаць.*
*Не, ён ім не скажа, хто ён,*
*«Ігнась Грынявіцкі»,— не кіне,*
*Гонару многа ім, гноям,*
*Па імю, па бацьку, па прозвішчу,*
*Гонару многа ім, шлюхам,*
*Сыноў Беларусі знаць...*

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ
(«Смяротная страта»)

## НАРАДЖЭННЕ

Жнівень тым летам выдаўся спякотны. Зранку бралася прыпарваць, удзень усё жывое шукала цяньку, прахалоды, пітва.

Аканому Яўхіму Грынявіцкаму таксама хацелася спачыну. Карцела кінуцца ў духмяны мурог, пакласці рукі пад галаву, заплюшчыць вочы і за-

* Фрагмент.

быцца на ўсё на свеце. Цахаеш, як той ганчак, ад досвітку да поначы, а ласкі мала: ні ад гаспадара Незабытоўскага, ні ад людзей.

Каб уладзіць пану, трэба падганяць галоту. Будзеш паблажлівым да яе — той-сёй лайдачыць пачне. Упусціш жніво, спознішся з капаннем бульбы. Не атрымаеш свой месячны правіянт на сям'ю: сорак фунтаў мукі, два пуды жыта.

Грынявіцкі шоргаў нагамі па свежай пожні. Рукавом кашулі выціраў пот. У другой руцэ трымаў купку парыжэлых каласоў.

Жнеі даўно прыкмецілі аканома. Шпарчэй пачалі ўзмахваць сярпамі. Прыціхла іх песня.

Яўхім любіў спевы, музыку. У душы нават пашкадаваў, што жнеі змоўклі, сцішыліся, насцярожыліся, як бы да іх падыходзіў не чалавек, а лясны драпежнік, як бы да іх падпаўзаў балотны гад, як бы да іх ляцеў нябесны каршак. Ад гэткіх уяўленняў яму стала яшчэ больш горача. І раптам, нечакана нават для самога сябе, Грынявіцкі ўзмахнуў рукой і са злосцю шпурлянуў, рассыпаў па пожні калоссе, буркнуў: «Ліха на іх, ягамосць». Аж палягчэла на душы, як бы ачысціўся ад бруду, што нёс з сабой і хацеў выліць вунь на тых няшчасных маладзіц.

Паважліва павітаўся:

— Дзень добры. Памагай, божа.

— Дзінькуем, ясны пане, — амаль хорам адказалі кабеты.

— Урадзіў, дзякуй богу, хлябок... Цяжкі — рук не чуем, — адазвалася Пелагея, жонка Рамана Ціта.

— Айё, акурат што каноплі, — падтакнула Аўдоцця, жонка Саўкі Аверкава.

— Усё, што цяжка летам ды ўвосень, лёгка зімой, — разважыў Грынявіцкі.

— Анёж, паночак...

— Толькі палёўкам не пакідайце каласоў, — напусціў на сябе строгасці аканом.

— Каб мы калі каму хоць што якое, пане, — пачала тараторыць Варка, жонка Хведара Лявонава, і жнеі разам з аканомам рагатнулі, бо ведалі, як яна далей сыпане: — Але ж мы ніколі, нікому, нічога, ніякага, то нашто нас лаяць, пане. Хоць, можа, яно будзе і лепей, ды хто яго ведае...

Грынявіцкі даўно зразумеў, што простых людзей дарэмна панства ахрысціла быдлам, шаракамі, нікчэмнасцю. Праўда, абэцэдлы, як яны называюць азбуку, не ўсе ведаюць, але ж ім палец у рот не кладзі. Вось і Мар'яна, жонка Сцяпана Зайца, устаўляе свае тры грошы:

— Пане аканом, а ў які час можна абедаць?

Грынявіцкі пачухаў пасівелую чупрыну, пакратаў кароткія вусы, патрапіў адказаць з той жа хітрынкай, з якой зададзена пытанне:

— А я вось у адной вучонай кнізе вычытаў: калі чалавек багаты, дык абедае калі захоча, а калі бедны, дык калі ёсць...

— Аўжож, светлы пане, наша Мар'яна можа абедаць, калі захоча...

Мар'яна стаяла з апушчанымі худымі рукамі, у вачах бліснулі слёзы:

— Пане аканом, няхай бог крые і ратуе, няўжо за такі доўгі дзень можна зарабіць толькі дзесяць капеек?..

— Што пісар зробіць — сам чорт не пераробіць, — кіўнуў аканом у адрас «вашамосці» Незабытоўскага. — Старайцеся, ды няхай дапаможа вам бог...

Яўхім Грынявіцкі падлічыў снапы на пожні, паспяшаўся ў лог міжрэчча, дзе лінёўцы і міхалаўцы шчыравалі. Ішоў па ржышчы, а перад вачыма стаяў збялелы твар сумнай Мар'яны.



У яго самога кішэні, у якіх павінны брынчэць грошы, амаль пустыя. У яго, як і ў многіх вясковых беласвітачнікаў, няма нават сталага жытла. Тую хату, якую дакляраваў яго сям'і ўпраўляючы Незабытоўскага ў Басіне, могуць у любы дзень забраць, выгнаць разам з дзецьмі ў ельнік. Каб не выгналі, сам павінен штодня выганяць людзей на панскія палеткі, вытрушваць падаткі.

Перад самым аканомам нізка над зямлёй праляцеў бацян з жабаю ў дзюбе. Грынявіцкі правёў яго вачыма, нават передражніў:

— Бусел, бусел — клекатун, схапіў бабу за каўтун!..

Кажуць, некалі гэта птушка была чалавекам. Сабраў бог аднойчы ў мяшок рознага роду паўзуноў, мышэй, жаб, моцна завязаў і папрасіў чалавека: «Занясі ў рэчку і ўтапі. Толькі не заглядвай!» Цікавасць перамагла: зазірнуў чалавек у мяшок, а ўся брыдота ў міг зноў распаўзлася, разбеглася па зямлі. Засердаваў бог і ператварыў таго чалавека ў бацяна. На́ табе доўгую дзюбу, на́ табе чырвоныя боты, хадзі і ўсё вылоўлівай, што выпусціў з мяшка.

Яўхім Грынявіцкі падумаў, што нехта і з яго роду, з далёкіх прашчураў быў занадта цікаўны, відаць, зазірнуў у нейкую забароненую таямніцу ці, можа, зрабіў нешта недазволенае, бо, адчуваецца, разгневаўся на яго род божы намеснік на зямлі, а разам з ім і ўсе яго дзюбатыя ды кіпцюрастыя анёлы.

Як помніць Яўхім, цяжка жылося бацьку. Нейкай тайнаю быў намоцна звязаны, так намоцна, што нават дзецям да смерці не даверыў яе. А маёнтачак свой на Падляшшы, у Грынявічах Вялікіх, перадаў дзецям: Яўхіму, Анэлі, Эмілі з вялікімі даўгамі — 1099 рублёў і 88 капеек.

Дзе ўзяць такі капітал? Вось і вымушаны Яўхім на правах адзінага мужчыны сярод наследнікаў прыняць рашэнне: здаць маёнтак з зямлёй у арэнду багатаму памешчыку-суседу Дзіянісію Саковічу, а самому ехаць у заробкі. Трапіў аж на Міншчыну, ва ўладанні Незабытоўскага, у маёнтак Басіна.

Сцежка выводзіла цяпер Яўхіма Грынявіцкага якраз да тых трох хат, якія складалі паселішча Басіна. Яму раптам здалося, што чуе стогн сваёй жонкі Бальбіны, яе поклічнае маленне, каб ён хутчэй, у гэты ж міг, прыляцеў да яе, і ён памчаў да сваёй хаты.

Лясная сцяжына хутка выскачыла на поплаў, на якім пасвіліся спутаныя коні і за якім пачыналася дворышча аканома. Тут ужо Грынявіцкі сцішыў ходу.

Трывожнае прадчуванне спраўдзілася. Бацьку ўгледзелі ў акно старэйшыя дочкі Віка, Юля, усхваляваныя выбеглі насустрач.

— Татко, таточка!.. Мамцы плоха!.. Войкае!.. Цябе кліча!..

— Бягу, доні!..

Яўхім ускочыў у хату, падбег да ложка, апусціўся на калені.

— Што?!

— Яўхімко, кліч бабку!.. Хуценька!..

— Я зараз!.. Віка, не адыходзься ад мамы!.. А ты, Юлька, збегай да Каранеўскіх, няхай ахмістрыню прышлюць...

Праз некалькі хвілін Яўхім ужо ляцеў на панскай каламажцы па бальшаку ў Віркава. Як грэнадзёры ў страі, стаялі па баках дарогі кашлатыя елкі. Хмара прайшла бокам. Парыла. Насустрач ішлі абадраныя, паўсляпыя старцы з белымі торбамі крыж-накрыж, іх вялі за рукі бледныя дзеткі,

босыя, у палатняных штоніках. Усе кланяліся пану аканому, доўга пазіралі ўслед, разгадваючы дзівосную для сябе загадку: куды ета так шалёна паляцеў пан аканом?

Праз якую гадзіну ў хаце Грынявіцкіх гаспадарыла бабка Дар'я, свякруха той гаманкой і вострай на язык жняі Варкі Лявонавай, з якой заўсёды пацяшаўся аканом. Бабка Дар'я — знакамітая на ўсё наваколле павітуха — нязменна прытрымлівалася адзінай умовы: ніхто ў хаце не павінен ёй ні пярэчыць, ні падказваць.

Найперш бабка Дар'я, перахрысціўшыся і пастаяўшы перад абразом дзевы Марыі, агледзела парадзіху, знайшла суцяшальныя словы. Пасля абышла ўсю хату, паразвязвала вузлы, разматала клубок нітак. Паклікала да сябе дачок аканома:

— Віка, Юля, Эмілька, парасплятайце свае косы. І Казімірцы малой таксама, — гаспадару, які нерухома сядзеў у парозе, кіўнула. — Гэта ўсё, каб лягчэй зрабілася вашай Бальбіне Андрэеўне.

Перад тварам парадзіхі запаліла грамнічую свечку, шапнула:

— Агонь — божая сіла, ачышчае ад злых духаў.

Мякка і ціха прайшлася па хаце, зазірнула ў запечак, дзе тоўпіліся дзеці, звярнулася зноў да гаспадара:

— Яўхім Міхайлавіч, як толькі кугакне дзіця, яму трэба даць у ручку нешта патрымаць. Да чаго даткнецца, да таго будзе цягнуцца ўсё жыццейка.

Грынявіцкі падняўся з лавы, целяпнуў плячыма, задумаўся. Ніколі такой прымхі не чуў, але ж трэба слухацца бабку. Ён пакешкаўся ў кішэнях, дастаў срэбранік і аловак, з букета, які сабралі дочкі ў лузе, выцягнуў незабудку.

— Дайце, бабка Дар'я, патрымаць грошы. З імі лягчэй жыць. Калі дачушка народзіцца, няхай возьмецца за кветку. Хачу, каб прыгожай і каханай была. А калі сын — дайце патрымаць аловак. Няхай вучоным стане.

— А цяпер усе ціха маліцеся, — сур'ёзна загадала Дар'я і пайшла да парадзіхі.

Пакутна доўжыўся час. Войканне Бальбіны чулі праз дашчатую перагародку муж і дзеці, балюча адгукаўся яе голас у іх сэрцах. Ды раптам усе пачулі звонкі голас дзіцяткі:

— І-і — я-я-я!..

— І ты, і ты, чалавечак божы, убачыў свет, — бубніла над немаўляткам бабка Дар'я.

— Хто? — не стрымаўся, выкрыкнуў з-за перагародкі Яўхім.

— Салдацік! — адказала бабка Дар'я.

Грынявіцкі падбег да запечка, пацалаваў кожную з дачок. Тыя вішчалі ад задавальнення:

— Брацік у нас... Як запішам?..

— Прыдумаем, доні...

Праз нейкі час да іх выйшла бабка Дар'я.

— Чуў, Яўхім Міхайлавіч, які галасісты?

— Няўжо ж.

— Добрая прыкмета, калі адразу ўскрыквае, — аўтарытэтна давяла павітуха. — Свой голас займее ў жыцці.

— Дай божа, — перахрысціўся Грынявіцкі.

— Дала патрымацца за грошы і за аловак, а яшчэ спавіла ў чыстую матчыну спадніцу. Каб каханне меў, каб дзяўчаты млелі па ім...

— Не ведаю, як вам і аддзячыць, — радаваўся аканом.

Хуценька накрылі стол. Яўхім наліў бабцы поўную чарку гарэлкі. Тая



перахрысцілася перад абразом, акуратна выцерла насоўкай вусны і, перад тым як кульнуць, праказала:

— Дай бог анёлку вашаму шчаслівага жыцця, багацця, доўгі век і добры савет.

— На мілае здароўе.

Пасля другой чарчыны бабка Дар'я заспявала:

Ой, наша Бальбіна
Нарадзіла сына.
Расці, наш сыночак,
Расці, як дубочак,
Будзь жа разумны,
Каб мог палічыці
Усе ў вёсцы гумны...

І назвалі народжанага Ігнатам Грынявіцкім.

У тым жа годзе ў Расіі стаў царом-імператарам Усерасійскім, царом Польскім, вялікім князем Фінляндскім і прочая, і прочая, і прочая Аляксандр II. Па міласці божай, як тады сцвярджалі, самадзержац прыняў на сябе вялікую і адказную місію — быць намеснікам бога на зямлі.

Перад паміраючым бацькам Мікалаем I ён пакляўся ў вернасці гербу Раманавых, у які здаўна ўнесены крыж і карона са славутым дубам, з двума львамі: адзін з дзяржавай, другі са скіпетрам у лапах.

Аляксандр II стаў трынаццатым манархам за трохсотгадовую самадзяржаўную ўладу роду Раманавых. Ён нарадзіўся як цар, заступіў на трон у пару сваёй чалавечай сталасці, у трыццаць сем гадоў ад роду.

Стаяў спякотны жнівень.

У Басіне, на Мінпічыне, гулялі хрэсьбіны. За сталом сядзелі кум і кума. На стале стаяла духмяная каша. Весела спявалі і не забываліся пра Ігнатку, які соладка спаў у драўлянай калысцы:

Расці ў шчасці, наша дзяціна,
Красуй, як тая ў полі каліна!..

Патаўчэм талеркі, паб'ем усе міскі
За шчасце таго малога з калыскі...

У Маскве, у Гранавітай палаце Крамля, у гэты час праходзіў урачысты прыём, арганізаваны адразу пасля каранацыі Аляксандра II у Вялікім Успенскім саборы. Новы гасудар сядзеў на троне. Пад гарматную пальбу пілі за здароўе імператара, імператрыцы, усяго царскага дома, духоўных асоб і ўсіх вернападданых. У царскім застоллі з выпадку каранацыі манарха прымалі ўдзел у поўным складзе ўсе вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы — Сенат, Сінод, Дзяржаўны Савет.

Праз дваццаць пяць гадоў Ігнат Грынявіцкі і Аляксандр II сустрэнуцца каля Кацярынінскага канала ў Санкт-Пецярбургу. І на адно імгненне зазірнуць адзін аднаму ў вочы...

## САМОТНАЯ СКРЫПКА

Калі Грынявіцкія пераехалі з Басіна ў свае Грынявічы Вялікія, у іхняй прыземістай хаце штовечар жаласліва плакала скрыпка. З-пад пачарнелага саламянага даху, з вузкіх вокнаў, якія нястомна пазіралі на дарогу, абсаджаную кашлатым кустоўем бэзу, вырываліся ў вячэрні паўзмрок чуллівы покліч, разрываючы душу плач, адчайныя весялосць і смутак.

Скрыпка, здаецца, падавала сігнал восеньскім каляным скразнякам, імклівым хвалям тутэйшай рэчкі Белай, якая трымала некалі на сваіх берагах паселішча старажытнага племя ўсходніх славян. Далей той сігнал чалавечай трывогі ўрываўся ў абшары Белавежскай пушчы, скаланаў адвечныя дубровы, бары, трывожыў усіх яго насельнікаў. А пасля пушчы паклічная мелодыя скрыпкі, відаць, ляцела ў сусвет. Але нават калі і не далятала гэтак далёка, то, ва ўсякім разе, прасілася ў тое бязмежжа, шукала ў ім свайго паратунку.

Іграў на скрыпцы Яўхім Міхайлавіч Грынявіцкі. Не было каму па шчырасці апроч жонкі і дзяцей адкрыць сваю бяду, бо вісеў над Падляшшам, як і над усім Паўночна-Заходнім краем, смутак чорных дзён і начэй.

Жонка Бальбіна, жанчына мяккая і ласкавая, прадстаўніца старажытнага роду Дамброўскіх, умела слухаць і разумець Яўхімаву скрыпку. Гэтай няпростай мудрасці навучыла ўсіх дзяцей: Віку, Юлю, Эмілю, Казіміру, Ігнатку. Далучала да яе і маленькага Яначку, якога «знайшлі» яшчэ ў Басіне, перад ад'ездам у Грынявічы Вялікія.

Як поначы на святло лямпы злятаюцца крылатыя казюркі, матылькі, так на голас скрыпкі заходзілі да Грынявіцкіх нечаканыя госці. А то проста бяздомнікі, якія безнадзейна бадзяліся па свеце ў вечным пошуку спажывы.

Вось аднойчы ў парозе іхняй хаты, як прывід, з'явіўся ўшчэнт абадраны незнаёмец. Першы яго прыкмеціў Ігнатка. Яму ішоў ужо восьмы гадок, і ён адрозніваўся ад усіх дзяцей у сям'і пільнай назіральнасцю, не па-дзіцячы роздумнай задуменнасцю, сваімі сур'ёзнымі запытаннямі.

І цяпер Ігнат першы прыкмеціў незнаёмца ў парозе, бліжэй прыціснуўся да маці.

Прыкмеціў чалавека ў парозе і Яўхім, перастаў іграць. І як толькі змоўкла скрыпка, загаварыў незнаёмец:

— Паночак родненькі, не ганіце.— Зірнуў на гаспадыню з дзецьмі і ў яе пачаў прасіць спагады: — Матухна, зязюлюхна, вутухна, зорухна, не ганіце...

Яўхіму спадабаўся чалавек сваёй напеўнай мовай. Ён, адчувалася, не тутэйшы, бо насельнікі Падляшша ў гаворцы націскалі на «о» («вон», «вона», «хутко», «осё»), як бы толькі гэту літару яны пераняли і прызналі з рускай мовы, якую сілком уводзілі ў край царскія ўлады. А незнаёмец гаварыў чыстай беларусінскай мовай, да якой так прывык Яўхім на Міншчыне.

— Праходзь, чалавек, сядай,— запрасіў гаспадар.

— Паночак добрае сэрца мае, але не выходзіць мне сядзець перад светлым панам.

— Дык расказвай, хто ты, адкуль?

— Здалёк, паночак, аж з-пад Навагрудка. Хату цівуны спалілі. Жонка і дзеці паўміралі. Вось адзін, што сакол.

— Даўно бадзяешся?

— Ад Юр'ева дня. Кажуць у нас, што той Юрый ездзіць на пачатку вясны на белым кані і ключамі адмыкае зямлю. Высыпае расу на рунь, на траву, на кветкі. Выпускае ў лясы птушак, звяроў. Людзям дорыць каханне. А мяне ключнік выпусціў у свет. Вось і на скрыпачку натрапіў...

— А імя ў цябе ёсць?

— Як жа, паночак,— Юльян Якасюк...

Яўхім зірнуў на Юльянавы рукі: тоўстыя, жылістыя, такіх якраз і не хапае ў гаспадарцы. Бачыў, чалавек з-пад Навагрудка спадабаўся Бальбіне, і дзеці, асабліва Ігнатка, не зводзяць з яго вачэй. Але з прапановай не спяшаўся, спытаў:

— Ходзіш па свеце, Юльян, што добрага чуў?

— Вохці мне, паночак, боўтаецца сярод людзей шмат чаго, але адна прымаўка мне вельмі спадабалася.

— Раскажы нам.

Юльян азірнуўся, ці не слухае яго яшчэ хто, сцішыў на ўсялякі выпадак голас, пачаў баяць:

— Вылецеў арол з арлінага гнязда, а ў яго трынаццаць галоў. Выйшаў леў з пушчы лясной і пачаў праклінаць арла: «Арол, ты арол! Царства тваё драпежнае, крывавае. Згінь ты, арол, у моры салёным, якое ўтварылася з чалавечых слёз! Упаў арол у салёнае мора, і пачалі галовы ў яго адсыхаць: адна адвалілася, тады другая, трэцяя. А як адсохла апошняя, трынаццатая, дык і гняздо арлінае ўпала на зямлю...— Юльян яшчэ раз азірнуўся наўкол і амаль шэптам дадаў: — Ну, цяпер пералічыце, паночак, Раманавых, і выходзіць, што сын іхні Аляксандр не другі, а трынаццаты...

— Цікавая байка,— задумаўся Грынявіцкі.

А Юльян тым часам спалохана пачаў прасіцца:

— Не выдавайце мяне, паночак. Што блізенька сядзела на языку, тое і збаяў. Вохці мне, мо ашукаўся?

— Вось што, чалавек, заставайся-ка ты ў нас,— рашуча сказаў гаспадар і запытальна зірнуў на Бальбіну, а тая ў знак згоды кіўнула галавой. Юльян як стаяў у парозе, так і бразнуўся на калені.

— Паночак светлы, паночак ясны, буду служыць верна і праведна. Спадарыня, перапёлачка, сонейка, буду слухацца, рабіць, што загадаеце. Усё ўмею, мне б толькі кавалачак хлебца з вадою...

— Будзеш мець дах над галавой і харч. На большае, браток, не разлічвай.

— Паночак светлы, да саменькай дамавіны служыць буду, толькі аднаго яшчэ асмелюся прасіць — скрыпачку вашу слухаць. Душа ад яе спявае маладзее...

Яўхіму спадабалася Юльянава просьба, як спадабалася і яго байка, і ў знак згоды і разумення, нейкай патаемнай роднаснасці душ ён падхапіў скрыпку і зайграў мяцежную мелодыю. Нібыта застагнала бура, зашумеў дождж, наводдаль гром грымеў, і вятры ў нетрах бушавалі.

Так вялікая сям'я Яўхіма Грынявіцкага, а па тым часе з ім яшчэ жылі дзве незамужнія наследніцы, сёстры Анэля і Эміля, папоўнілася новым работнікам Юльянам Якасюком.

Неўзабаве на спеў скрыпкі завіталі новыя прышэльцы: Карп Аўсюк з сынамі Піліпам і Базылём, з малой дачкой Кацяй. Жонку і хату спаліла маланка, а ім пераказалі людзі, што памешчыку добрага сэрца Грынявіцкаму патрэбны рабочыя рукі. Ішлі пехатою аж з-пад Свіслачы Ваўкавыскай.

Яўхім прыняў і гэтых бяскутнікаў у сваю гаспадарку.

Непадалёк у вёсцы стаяла сялянская сядзіба Юзэфа Трахімчука, сям'я якога таксама намоцна звязана з маёнткам Грынявіцкага. Ад'язджаючы ў заробкі на Міншчыну, Яўхім вылучыў Юзэфу шэсць дзесяцін ворнай зямлі, дзве — сенакосу, безумоўна, за пэўную плату рукамі і грашыма.

Вось такім дружным гуртам, улічваючы, безумоўна, самога гаспадара, яго жонку, дзяцей, апрацоўваўся спадчынны кавалак зямлі Грынявіцкіх. Памеру ён быў невялікага, усяго шэсцьдзесят дзесяцін, разам з лесам, сенажацямі, сядзібамі. Калі ўлічыць, што Незабытоўскі, у якога служыў аканом Яўхім, меў у розных мясцінах звыш дваццаці пяці тысяч дзесяцін зям-

лі, то ў параўнанні з ім памешчык Грынявіцкі выглядаў мізэрнасцю, лапцюжным дваранінам. Дый то зямля яго спадчынная ішла не ў слодыч, а давалася даўкім, гаркавым камяком, які ўсё жыццё трымаў гаспадара ў вялікай нястачы. Чаму?

Спадчынная зямля перайшла да Яўхіма, Анэлі, Эмілі Грынявіцкіх з вялікім доўгам — 1099 рублёў 88 капеек. Гэта адбылося пасля польскага паўстання ў трыццатых гадах. Сярод паўстанцаў ёсць прозвішчы Даніловічаў, Грынявіцкіх. Магчыма, і бацька Яўхіма ахвяраваў свой капітал на карысць паўстанцаў, а пасля жорстка паплаціўся за гэта і пасадзіў у адвечную даўгавую кабалу сваіх дзяцей-наследнікаў.

Так гэта ці не, але Яўхім Міхайлавіч Грынявіцкі (як адзіны мужчына сярод наследнікаў) найбольш ламаў галаву, каб неяк выкруціцца з даўгоў. І выязджаў на Міншчыну служыць аканомам, каб зарабіць грошай. А перад гэтым нейкі час, як давераны князя Радзівіла па гандлю хлебам, раз'язджаў па губернях, бываў нават за мяжой. Пры ад'ездзе ў Басіна здаваў свой надзел у арэнду багатаму суседу Дзіянісію Саковічу.

У Грынявічы Вялікія Яўхім Грынявіцкі вярнуўся пасля вялікіх падзей: пасля царскага маніфеста аб адмене прыгоннага права, пасля паўстання 1863 года. Што ж застаў Яўхім Міхайлавіч у сваім маёнтачку? Чаму так самотна-жаласліва заспявала яго скрыпка?

Бельскі павятовы суд і Гродзенскае губернскае па сялянскіх справах Прысуцтвіе завялі на маёнтак Грынявіцкага цэлую справу. А ўсё ў тым, што сын памешчыка Дзіянісія Саковіча Іван Саковіч, які да таго часу прыняў у спадчыну бацькоўскую зямлю, быў аб'яўлены палітычным злачынцам. І таму яго зямельныя ўладанні пераходзілі ў дзяржаўныя рукі. Даўжнік Яўхім Грынявіцкі цяпер павінен быў сплочваць грошы не памешчыку Саковічу, а ўносіць іх у дзяржаўную казну. А царскія служкі вельмі лоўка ўмелі спаганяць грошы з людзей. Як жа інакш? Грошы патрэбны галоўнаму крывасмоку — гасудару імператару, грошы патрэбны ім, служкам цмока, для жыццёвай уцехі.

Вось у канцылярыі Гродзенскага губернатара і завялі справу па маёнтку Грынявічы Вялікія Бельскага павета памешчыкаў Яўхіма, Анэлі і Эмілі Грынявіцкіх. Справа больш як на ста старонках, у якой улічылі ўсё, да капеечкі. Да агульнай запазычанасці далучылі гербавай пошліны 6 рублёў, аплату перакладчыку Грамадзянскай палаты 3 рублі 50 капеек. Пружанскае казначэйства паведаміла пра нейкую нядоімку на суму 3 рублі 83,5 капейкі. Нядоімка за пляц пры вёсцы Куклічы Ваўкавыскага павета склала 2 рублі 2 капейкі. Усё разам збіралася ў такую суму, якой памешчык Яўхім Грынявіцкі ніколі не трымаў у руках.

У гэты час сям'я Грынявіцкіх перажыла яшчэ адно вялікае гора: заўчасна памерла чатырнаццацігадовая Казімірка.

Гучала па вечарах у хаце Грынявіцкіх самотная скрыпка. Адной ёй, чуллівай і спагадлівай, давяраў музыка свае трывожныя думкі.

Сэрцам слухаў бацькаву скрыпку Ігнат Грынявіцкі. Яна давала яму суровыя ўрокі жыцця. Хлопчык усё больш задумваўся. Згасалі вясёлыя іскрынкі ў дзіцячых вачах...



А дзе ж у гэты час быў божы памазаннік на зямлі, заступнік і абаронца людзей? Няўжо так хутка аглух і аслеп? Няўжо так адразу адцураўся мудрых запаветаў свайго настаўніка Жукоўскага?



Некалі, яшчэ ў адзінаццацігадовым узросце, наследнік Аляксандр праязджаў са сваім бацькам царом Мікалаем І па Паўночна-Заходніх губернях. Тады ён, упершыню пачуўшы ў полі жаўручка, крычаў ад радасці. А калі праязджалі па вёсках, то не мог паверыць, што ў паўгнілых, нахіленых шарачковых будынінах жывуць людзі, здзіўляўся іх беднасці.

З акенца царскай карэты ўсяго не ўбачыш, усё не зразумееш. І, відаць, бацька, цар Мікалай І, які сядзеў поруч, растлумачыў яму, па якіх губернях яны праязджаюць, якія людзі тут жывуць. Толькі наўрад ці праўду гаварыў свайму наследніку, бо цары праўды не любяць.

Некалі з прычыны паднясення да высачайшага падпісання праекта ўказа, у якім упаміналіся губерні беларускія і літоўскія, гасудар Мікалай І закрэсліў словы «беларускія» і «літоўскія» і загадаў перапісаць указ з найменнем губерняў кожнай паасобку — Віцебская, Магілёўская, Мінская, Гродзенская, Віленская. Паступіла ўласнаручнае высокае павяленне: правіла гэтага трымацца і наперад, беларусаў у афіцыйных дакументах называць «заходнерусамі».

А вельмі было б цікава ведаць наследніку, калі ён рыхтаваўся стаць намеснікам бога на зямлі, чаму яго бацька не дазваляў нават успамінаць, не тое што пісаць, словы «Беларусь», «беларусы».

Малады наследнік хутка забыўся пра шарачковы край, які так уразіў яго дзіцячае ўяўленне спевам жаўручка.

Пра Паўночна-Заходні край цар Аляксандр ІІ выказаўся неўзабаве пасля заступу на трон:

— Назва Беларусь ёсць геаграфічны тэрмін і не мае асаблівага этнаграфічнага значэння, бо ні асобнай народнасці, ні нават асобнага племя беларускага не існуе...

Пралічыўся празорлівец. Зашумеў дубровамі, загудзеў узбуджанымі галасамі Паўночна-Заходні край.

Царскія газеты ахрысцілі манарха вялікім вызваліцелем прыгонных сялян. У яго гонар служыліся штодня малебны. А з заходніх губерняў агенты Трэцяга аддзялення даносілі ў канцылярыю яго вялікасці трывожныя весткі: «Распаўсюджваецца ананімны твор «Гутарка двух суседаў» на беларускай мове. Ён так пераканаўча дзейнічае на сялян, што, дзе толькі з'яўляецца, сяляне пакідаюць быць прыхільнымі да цара».

Пра што гутарылі цёмны, непісьменны селянін Юзэф і па-сялянску разумны, дасціпны дзядзька Матэвуш?

Чыноўнікі усе збыткуюць,
Абдзіраюць і катуюць,
Тлумяць, крыўдзяць, разбіваюць
І плакаць не пазваляюць.

Але цар пра нас не дбае
І на мыслі толькі мае,
Каб як усіх ашукаці
І каб грошай больш надраці...

«Гутарку» друкавалі ў Гродзенскай губерні, на Падляшшы, польскі эмігрант Бранiслаў Шварц і нейкі Грынявіцкі. Можа, гэта і быў Міхаіл Грынявіцкі, які з такімі абцяжаранымі даўгамі перадаў у спадчыну сваю зямлю ў Грынявічах Вялікіх? Вядома, што нумар «Гутарак» сяляне знайшлі не так ужо і далёка ад Грынявіч Вялікіх, у вёсцы Ковелі Бельскага павета, сярод бярвення, складзенага каля карчмы.

А пасля ўзняў свой бунтарскі голас адчайны сын беларускага племя, якое не прызнаў, якім пагрэбаваў міласцівец Аляксандр ІІ, мужны і смелы

беларус Кастусь Каліноўскі. Яго поклічная газета «Мужыцкая праўда» ўскалыхнула ўвесь край.

Вось тут бы самы час прыгадаць праўдалюбцу-цару мудрую педагогіку яго настаўніка Жукоўскага: «Паважай агульную думку—яна часта бывае асветнікам манарха... Любі волю, правасуддзе, бо ў іх і міласэрнасць цароў і воля народаў... Уладар не сілай, а парадкам...»

Аляксандр II кіраваўся той «мудрасцю», якой карысталіся ўсе Раманавы на працягу трохсот гадоў: пакараць вальнадумцаў без малейшай палёгкі!

З такой усмірэнчай місіяй накіраваў ён у Паўночна-Заходні край свайго прафесійнага ката-вешальніка графа Мураўёва. Перад провадамі ў дарогу, як некалі рабіў і яго бацька Мікалай I, падаў Мураўёву белую хустачку:

— Не ўпускайце, Міхаіл Мікалаевіч, выпадку выцерці слёзы няшчасным і пакрыўджаным—вось вам, міласцівы граф, мая інструкцыя...

Гарэлі вёскі і засценкі. Пажыткі пагарэльцаў прадавалі з малатка. Грошы, запэцканыя ў крыві, клалі ў казну самадзержца, а паўстанцаў катавалі, вешалі, гналі ў Сібір.

Напрадвесні на рыначную плошчу Лукішкі ў Вільні вывелі Кастуся Каліноўскага. Каля высокай шыбеніцы з «мураўёўскім гальштукам», як празваў народ гэту пянькову пятлю, патрыёт кінуў у натоўп свой апошні заклік:

— У нас няма дваран, усе роўныя!.. Судзіць мяне можа толькі мой народ!..

Мураўёў спяшаўся данесці асабіста гасудару імператару Аляксандру II у Санкт-Пецярбург:

«Пакідаючы Паўночна-Заходні край і зрабіўшы ўсё згодна з Высачайшымі Вашай імператарскай Вялікасцю ўказаннямі, якія былі неабходны для падаўлення бунту і ўмацавання ў оным краі рускай народнасці і праваслаўя, асьмельваюся ўсепадданейша прадставіць Вашай Імператарскай Вялікасці наступныя меры: не здымаць ваеннага становішча яшчэ некалькі гадоў; доўгі час не вяртаць сюды высланых у Сібір, можна змякчыць ім пакаранне там, і то пасля пяцігадовага тэрміну; не дазваляць заводзіць школ...»

Царскія падпявалы разносілі, раздувалі пра міласэрнасць гасудара хлуслівыя чуткі, узносілі яго да неба, як святога вызваліцеля народа. А народ усё больш пераставаў верыць не толькі божаму намесніку на грэшнай зямлі, а і самому богу на нябесным троне.

Людзі задумваліся пра нейкага іншага свайго, яшчэ невядомага ім, але справядлівага бога, які абавязкова прыйдзе, разбярэцца, пакарае злачынцаў і ўзвысіць праведнікаў.

Марыў пра такі шчаслівы міг Яўхім Грынявіцкі, калі давяраў свае патаемныя пачуцці самотнай скрыпцы.

Задумваўся пра нешта сваё русявы яго сынок Ігнат Грынявіцкі.

## ЗНАХОДКА

На сенажаці Кужалева завіхаліся два касцы. Той, што ішоў наперадзе, як і належыць важаку, меў упартасць, шырокія плечы, дужыя рукі. Махаў і махаў касой без стомы, быццам гуляючы.

А ззаду, як цвыркунок, патрапляў за ім падлетак. Упачатку махаў сваёй «літоўкай» упапад: р-раз—і занеслі косы на правую руку, д-два—і застагнала трава ў пакосе. А пасля збіваўся з рытму: ці то нечакана нарываўся на купінку, ці то каса ўтыкалася «носам» у дзірван.



— Што, панічок,—абарочваўся да яго дарослы касец.—Не слухаецца каса?

— Юльян, не абзывай панічом,—падлетак яснымі вачыма пазіраў на работніка.

— Добра, Ігнаська, калі не забудуся.

— Падвастры-ка мне лепш касу.

У тую жаданую хвіліну адпачынку Ігнат з замілаваннем пазіраў на спрытныя рукі Юльяна і зайздросціў яму: умее ўсё рабіць.

І зноў шчыравалі касцы на сенажаці Кужалева.

— Вохці мне, Ігнаська, даўно нам заглядуха падказвае, каб гоцнуліся ў траўку пад цянёк.

Заглядухай Юльян называў сонца. Зверху ж, казаў, яму ўсё бачна. Касцы назбіралі па ахапку свежай травы, прыладкаваліся пад лазовым карчом. Юльян падклаў рукі пад галаву, пазірае ў неба.

— Вохці мне, Ігнаська, пасябраваць бы калі з Белуном ды падцерці яму нос.

— А хто гэта?

— Ходзіць, кажуць, сярод беларусцаў стары дзед з доўгай белай барадой. Запомні: белай, але не сівой. У белай світце ды белых лапцях. З белым кіем.

— Юльян, а ты сустракаў яго калі-небудзь?

— Каб жа, Ігнаська. Ён ходзіць па лесе, выводзіць на дарогу ўсіх, хто заблудзіцца. З'яўляецца ў жыце—падсабляе жнеям. Завітвае на сенажаці—падмагае касцам.

— Мо і нам?

— Але ж ён ходзіць нябачным. А калі ўжо прыкмеціць бедняка, то, кажуць, кліча да сябе. Махае рукой і просіць, каб бядняк падцёр яму нос. І як толькі чалавек датыкнецца да яго твару, з вялікага носа Белуна пачынаюць сыпацца грошы. Туды сыплецца, чым падцёр нос. Рукой—у руку, шапкай—у шапку, хусткай—у хустку...

— А ты, Юльян, чым бы падцёр?

— Я б ухапіў посцілку.

— Навошта табе столькі грошай, Юльян?

— Вохці мне, панічок...

— Зноў абзываешся?

— Даруй, Ігнаська,—Юльян лёгенька даткнуўся да ўзмакрэлай ад касьбы хлапчуковай кашулі.—Я за тыя грошы, Ігнаська, пабудаваў бы сабе вялізную хату, купіў бы каня, а мо б і два: на адным—поле араць, на другім—у царкву ездзіць.

— А нашто табе аднаму вялізная хата?

— Эх, Ігнаська, ёсць у мяне адно жаданне...

— Якое, Юльян?

Юльяну, у тры разы старэйшаму за падлетка Ігната, падабалася, што паніч так паважліва звяртаецца да яго, любіць слухаць ягоныя байкі, спачувае і, здаецца, разумее ўсё. «Яму можна даверыцца»,—вырашыў парабак.

— Слухай, Ігнаська, што я, вохці мне грэшнаму, хацеў бы...—Юльян хваляваўся, травінку, якую трымаў у роце, аж перакусіў.—Панну Казіміру, тваю дамашнюю настаўніцу, вельмі ўпадабаў. Не сплю, Ігнась, начамі, усё думаю пра яе...

Крыху памаўчалі, думалі кожны пра сваё. Першы азваўся Ігнат:

— Слухай, Юльян, а панна Казіміра распытвала пра цябе.

— Няўжо, Ігнаська?! — Юльян падхапіўся з травы, стаў наўколенкі, аж буравіў хлапца вачыма: ці праўду сказаў?

— Ага, распытвала, — пацвердзіў Ігнат. — А яшчэ панна Казіміра хваліла твае рукі ўмелыя. От, кажа, каб Юльян змайстраваў мне чамаданчык для кніг.

— Вохці мне, Ігнаська, чаму не сказаў адразу? Я ж ёй такі чамаданчык выштукую, што ніводзін майстар Бельска, Гродні, а мо й самога Пецярбурга не зробіць такога...

Юльян адкінуўся на траву, змоўк. А Ігнат цішком радаваўся: нешта прыемнае зрабіў для свайго сябра. Няхай крыху схлусіў, што панна Казіміра прасіла зрабіць чамаданчык, але ж ён вельмі патрэбен ёй. Ды хіба яна адмовіцца ўзяць? А хіба не зірне на Юльяна ласкава? Задаволены сваёй задумай, Ігнат распытваў далей:

— Юльян, а што б ты яшчэ зрабіў з грашыма, у цябе ж іх была б цэлая прасціна?

— Вохці мне, Ігнаська, столькі дзірак на іх. Я б насыпаў паўнюсенькую ярмолку і даў бы твайму бацьку: «На, ясны пан Яўхім Міхайлавіч Грынявіцкі, разлічыся з даўгамі і адпраў свайго Ігнася вучыцца ў Беласток!..»

— Ось дзякуй, Юльян.

— Яшчэ б я раздаў па шапцы грошай кожнаму бедаку ў Грынявічах Вялікіх, — марыў далей Юльян. — А калі б засталіся, пайшоў бы па вёсках нашай Пасынкаўскай воласці, — у Белую, Відава, Кноразы, Котлы, Крывую, Мякішы, Агароднікі, Арлянку, Пілінкі, Суботку, Сакі, Шчыты... Хадзіў бы і дарыў кожнаму па шапцы грошай. Наце, людзі, лячыце свае каўтуны, купляйце апранахі, каб сарамоццем не свяціліся, ды спамінайце дабром Юльяна.

— Ты, Юльян, як цар расшчадрыўся.

— Хіба цары шчодрыя бываюць?! — Юльян рэзка падхапіўся з травы, пільна зазірнуў у хлапчуковы вочы, аж збялеў. — Яны толькі браць умеюць, кроў чалавечую смактаць прызвычаіліся. І ўсе слугі іхнія збрыдзелі. Няма каму й пажаліцца. Хіба вось табе, мой добры Ігнаська...

Да касцоў падыходзілі Юзэф Трахімчук з сынам Максімам, і Юльян з Ігнатам, як сапраўдныя змоўшчыкі, кожны сам сабе прыставілі да рота па пальцу: маўляў, рот на замок, маўчок. Ляжалі цішком і думалі пра сваё.

Заспявалі чатыры касы на сенажаці Кужалева. Шчыраваў у апошнім пракосе Ігнат. Хацелася здзюжыць за дарослымі, не падкачаць перад паваДыром. А Юльян, ведаючы фізічныя магчымасці свайго сябра, часцей прыпыняўся, даваў каманду падтачыць косы.

Стомлены, вяртаўся Ігнат дахаты. Падбадзёрваў яго песняй Юльян, хаця мелодыяй не зусім вясёлай:

Наляцелі гусі  
Ды з беленькай Русі,  
Селі-палі на крыніцы,  
Сталі ваду піці...

Яны ішлі лугавінай, берагам ракі Белай. Кішма кішэла трава божымі насельнікамі. Стварыў жа гасподзь не для сваёй уцехі жабу гідлівую і матылька вясёлкавага, страказу лупатую і чмяля пузатага, варону глюгастую і жаўрука паднябеснага. Красуе прырода ў абдымках сонейка.

У Ігната на плячы каса, кашуля вільготная ад поту, валасы злямчаныя. Гудзяць рукі і ногі, а душа спявае разам з Юльянам. Хочацца ўславіць божы дзянёк, як новы знайдыш, як новую песню ў жыцці.



Праз некалькі дзён Ігнат з Юльянам пачалі разбіраць стары саламяны дах на хаце. Ён, яшчэ дзедаўскі, настолькі пачарнеў, а мясцінамі струхлявеў, што не вытрымліваў залевы. Вырашылі замяніць дах свежаабмалочанымі жытнёвымі снапамі. Бацька паехаў у Бельск прасіць майстра Енкеля накрыць хату, а хлопцы ўзяліся разбіраць.

Юльян па драбіне залез на самы вільчык даху, зняў «канёк», пачаў асцярожна здзіраць старую салому. Ігнат стаяў на гарышчы і знізу падшавельваў рагацінай, каб Юльяну лягчэй было. Ды раптам з падстрэшша з саламянай трухі ўпаў к Ігнатавым нагам скрутачак папер.

— Э-э, Юльян, што зверху кідаеш?

— Нічога, апроч саломы.

— Зірні, што з неба звалілася.

Юльян спрытна ўхапіўся за лату-жэрдку, якімі абрашочаны дах, падвіс на руках і скокнуў на гарышча да Ігната.

— Што знайшоў?.. Ці не золата продкаў?..

— Паперы нейкія. Мо божае пасланне?.. — Ігнат асцярожна развязваў ніткі.

— Вохці мне, ось каб грошы!

Ігнат урэшце развязаў, раскруціў паперы, стаў чытаць і вачам сваім не паверыў: у руках ён трымаў лісткі «Мужыцкай праўды», якія выпускаў сам Кастусь Каліноўскі. Ён чуў крыху пра гэту газету: ад бацькі, ад дзядзькі Дамброўскага з Беластока, ад цёткі, мамінай сястры, Людвігі Андрэеўны, па мужу Горскай. Усе шэптам гаварылі пра гэту газету, хаця даўно завяршыліся крывавыя падзеі. Казалі, для Мураўёва яна была што бомба. Цяпер перапалоханы паніч трымаў гэтыя бомбы ў сваіх руках. Што рабіць: спусціцца ўніз з імі і тут жа спаліць ці расказаць Юльяну?

— Што гэта, паніч? — «панічом» Юльян называў Ігната ці то на людзях, ці калі не давяраў яму.

— «Мужыцкая праўда», вось што! — Ігнат падняў угору скрутачак і гатоў быў кінуць яго.

Юльян перахапіў Ігнатаву руку, шмаргануў газеты да сябе:

— Няўжо?! Я ж чуў пра іх!.. Хаця паўзірацца...

Юльян разгарнуў невялікія лісткі, доўга разглядваў роўныя радкі, відаць, вельмі шкадаваў, што не ўмее чытаць, а пасля з трымценнем у голасе загадаў:

— Чытай!.. Ігнась, чытай кожнае слоўца!..

Ігнат яшчэ ніколі не бачыў такім уз'юшаным работніка, пакорліва падпарадкаваўся яго загаду, бо і самому карцела ведаць, пра што пісаў смелы Каліноўскі.

— «Дзецюкі!» — прачытаў першае слова-зварот Ігнат і зірнуў на Юльяна.

— Ось як добра сказаў: дзецюкі!.. Чытай без супынку, — папрасіў Юльян.

— «Мінула ўжо тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здатна толькі да сахі, — цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядлівую, як бог на небе. О, загрыміць наша праўда і як маланка праляціць па свеце! Няхай пазнаюць, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, но яшчэ і вучыць сваёй мужыцкай праўдай...»

Ігнат прыпыніўся, адчуваў, што ўвесь змакрэў, а ў роце перасохла ўшчэнт, язык ледзь варочаецца. «Госпадзі, — падумаў Ігнат, — што я раблю? Калі ж бацька ўведае, па галоўцы не пагладзіць. А калі раптам станавы прыстаў унюхае? Крый, божа міласцівы, і ратуй мяне грэшнага».

— Чаму змоўк?.. Чытай, Ігнась!..

— «Пыталі і пытаюць усе, што чуваці на свеце, хто нам, бедным мужыкам, дасць вольнасць? Но, праўду сказаўшы, мала хто хоча сказаць так, як сумленне кажа,— па справядлівасці. Мы, мужыкі, браты вашыя, мы вам будзем гаварыць усю праўду, толькі слухайце нас!

Маскалі, чыноўнікі і многа паноў будуць перапыняць пісьмо наша да вас, но знойдуцца людзі і з мужыкоў разумнейшыя, і з панскага роду, і з мястэчковых, што хочуць вашай свабоды, вашага шчасця — яны то вам самі гэта пісьмо даваці будуць, каб вы зналі, хто ваш прыяцель, а хто ваш вораг...»

Ігнат далей чытаць не мог. Не ставала сіл. Яго ўсяго калаціла. Слова за словам — і адкрывалася дрымучая тайна.

— Мне страшна, Юльян... Што з намі будзе?..

— Дай сюды!.. — Юльян хуценька выхапіў з яго рук паперы, разглядваў, як бы правяраў, ці правільна прачытаў Ігнат, тыцнуў тоўстым пальцам у канец газеты: — А што тут напісана?

— «Гэту «Мужыцкую праўду» напісаў і зноў пісаць будзе Яська-гаспадар з-пад Вільні».

— Вохці мне, во гэта Яська!.. Во гэта гаспадар!.. Што ж атрымліваецца, Ігнась, гаспадар не толькі той, у каго грошы, а і той, хто праўду мае, га?..

Ігнат маўчаў, што анямелы.

Юльян акуратна скруціў паперы, зноў перавязаў ніткамі, асцярожна паклаў за пазуху.

— Знаходку бяру сабе! — рашуча сказаў, вочы адчайна свяціліся.— І маўчок! Гэта наша самая вялікая тайна. Зразумеў, паніч?

— Ага,— ледзь не плакаў разгублены Ігнат.

Юльян зразумеў: перагнуў! Знаходка і так перапалохала абодвух да паўсмерці, а тут яшчэ — крык, загады. Ён прысеў каля Ігната, паклаў яму руку на плячо:

— Даруй, павысіў голас, вохці мне грэшнаму. Буду прасіць, Ігнась, каб паказаў усе літары. Хачу сам Яськавы пісьмы прачытаць.

— Я ж, Юльян, еду вучыцца ў Беласток. Прасі панну Казіміру...



Па міласці царскай вольныя сяляне заставаліся рабамі. А цар (які саманадзейны эгаіст!) у дзень свайго нараджэння ўстанавіў медаль на аляксандраўскай стужцы са сваім партрэтам і надпісам «Благодарю всем, кто участвует в трудах по освобождению крестьян». Такі медаль Аляксандр II найперш павінен быў уручыць вялікаму заступніку сялян Кастусю Каліноўскаму, а ўручыў ка́ту беларускіх сялян Мураўёву-вешальніку, крываваму ка́ту Кастуся Каліноўскага.

Аляксандр II велікадушна змякчыў цялесныя пакаранні: зменшыў напалову колькасць ударaў. Калі прысуджалася шэсць тысяч ударaў бізуном, то па новаму велікадушнаму ўказу вінаваты атрымліваў усяго тры тысячы. Пасля тысячы, як правіла, бізун свістаў па мёртваму целу.

Аляксандр II нібыта ўвёў дэмакратызацыю ў суды, але часта ўмешваўся ў іх рашэнні, падпраўляў сваёй самадурнай рукой, выносіў больш строгія прысуды.

Аляксандр II няўмела кіраваў і працэсам асветы ў Расіі, выхаваннем моладзі. У сваім рэскрыпце на імя старшыні Камітэта міністраў князя Гагарына даводзіў: «Мая ўвага ўжо звернута на выхаванне юнацтва. Мной дадзены ўказанні, каб яно было скіравана ў духу ісцін рэлігіі, павагі да правоў уласнасці і захавання карэнных пачаткаў грамадскага парадку, каб у навучальных установах усіх ведамстваў не было дапушчана ні яўных, ні тайных прапаведзей тых разбуральных разуменняў, якія аднолькава варожыя ўсім умовам маральнага і матэрыяльнага дабрабыту народа...»



І прагучаў ашаламляльны стрэл на ўсю Расію. Яго зрабіў смелы юнак з Волгі, студэнт, выключаны з Казанскага, а пасля і Маскоўскага універсітэтаў Дзмітрый Каракозаў. Здарылася гэта 4 красавіка 1866 года, каля чатырох гадзін дня, у час прагулкі Аляксандра II у Летнім садзе.

Дзмітрыя Каракозава пакаралі смерцю на Смаленскім полі ў Пецярбургзе. Губернатара Льва Мікалаевіча Пяроўскага пазбавілі высокага чыну. Закрылі часопісы «Современник» і «Русское слово».

Аляксандр II усё ніжэй апускаўся ў балота дэспатызму, варожай лютасці да ўсяго светлага, што мроілася ў заўтрашнім дні расіянам, стомленым ад раманаўскага прыгнёту.

Ігнат Грынявіцкі ехаў вучыцца ў Беласток. Хацеў вышэй узняцца да разумення жыцця і знайсці сябе ў ім.

## КРОКІ Ў ЗАЎТРА

Сяляне ў Беластоку гаварылі па-беларуску, інтэлігенты карысталіся польскай мовай, а службовай была руская. Калі Ігнат пачынаў вельмі сумаваць па сваіх Грынявічах, то абавязкова ішоў на кірмаш. Ішла па наваколлю пагалоска, што на беластоцкім кірмашы можна набыць усё, апроч слана афрыканскага.

Ідзе Ігнат, разглядае тавары, узіраецца ў гандляроў, слухае іх гамонкі, а думкамі дома. Няма лепей дамоўкі. Пад крылом бацькі ахоўна, надзейна.

Спыніўся Ігнат каля тоўстай цёткі, якая галасіста крычала на ўвесь кірмаш:

— Чай духмяны!.. Блінцы румяны!..

Пакешкаўся ў кішэнях, адшукаў апошнія капейкі: аддаў цётцы.

— Пі, студэнцік пахвалёны, чаёк мой духмяны,— крычыць цётка, як бы ўжо не ўмее гаварыць спакойна.

Прысёрбвае Ігнат чай з талерачкі, а на блінец румяны касавурыцца. Крыўдна: не хапіла капеек.

Толькі на першых трох класах падсабляў бацька: выдзяляў на месяц па 1 рублю 50 капеек. А дзядзька Дамброўскі дамогся і прыладкаваў яго на жытло ў сіроцкі дом: хоць за дах над галавой не трэба плаціць. Усё суцяшаў Ігната: «Сытае чэрава да вучэння чэрствае, глухое». Так то так, але ж галоднаму жабракі сняцца, а не кніжкі.

З чацвёртага класа, вось ужо другі год, Ігнат вучыцца і зарабляе сабе на харчы ўрокамі ў прыватных дамах. Наймалі вучыць лемантар з дзецьмі фабрычнага канторшчыка. Удзёўбваў арыфметыку тупым блазнюкам млынара.

Цяпер Ігнат шукаў новага для сябе пекла. Гатоў пагадзіцца на любыя ўмовы, бо здырдзіцца, памерці з голаду, зразумеў Ігнат, гэтак жа проста, як трапіць пад кулю на вайне.

Неўпрыкмет ён выйшаў з базарнага гармідару на невялічкую плошчу, дзе прыпыняліся гарадскія вазкі, фурманкі, кібіткі. Там стаяла круглая тумба-аб'яўніца, на якой — самыя розныя абвесткі.

О, здаецца, тое, што трэба: «Шукаю для сваёй дачкі настаўніка па ма-

— Чаму змоўк?.. Чытай, Ігнась!..

— «Пыталі і пытаюць усе, што чуваці на свеце, хто нам, бедным мужыкам, дасць вольнасць? Но, праўду сказаўшы, мала хто хоча сказаць так, як сумленне кажа,—па справядлівасці. Мы, мужыкі, браты вашыя, мы вам будзем гаварыць усю праўду, толькі слухайце нас!

Маскалі, чыноўнікі і многа паноў будуць перапыняць пісьмо наша да вас, но знойдуцца людзі і з мужыкоў разумнейшыя, і з панскага роду, і з местачковых, што хочуць вашай свабоды, вашага шчасця—яны то вам самі гэта пісьмо даваці будуць, каб вы зналі, хто ваш прыяцель, а хто ваш вораг...»

Ігнат далей чытаць не мог. Не ставала сіл. Яго ўсяго калаціла. Слова за словам—і адкрывалася дрымучая тайна.

— Мне страшна, Юльян... Што з намі будзе?..

— Дай сюды!..—Юльян хуценька выхапіў з яго рук паперы, разглядваў, як бы правяраў, ці правільна прачытаў Ігнат, тыцнуў тоўстым пальцам у канец газеты:—А што тут напісана?

— «Гэту «Мужыцкую праўду» напісаў і зноў пісаць будзе Яська-гаспадар з-пад Вільні».

— Вохці мне, во гэта Яська!.. Во гэта гаспадар!.. Што ж атрымліваецца, Ігнась, гаспадар не толькі той, у каго грошы, а і той, хто праўду мае, га?..

Ігнат маўчаў, што анямелы.

Юльян акуратна скруціў паперы, зноў перавязаў ніткамі, асцярожна паклаў за пазуху.

— Знаходку бяру сабе!—рашуча сказаў, вочы адчайна свяціліся.—І маўчок! Гэта наша самая вялікая тайна. Зразумеў, паніч?

— Ага,—ледзь не плакаў разгублены Ігнат.

Юльян зразумеў: перагнуў! Знаходка і так перапалохала абодвух да паўсмерці, а тут яшчэ—крык, загады. Ён прысеў каля Ігната, паклаў яму руку на плячо:

— Даруй, павысіў голас, вохці мне грэшнаму. Буду прасіць, Ігнась, каб паказаў усе літары. Хачу сам Яськавы пісьмы прачытаць.

— Я ж, Юльян, еду вучыцца ў Беласток. Прасі панну Казіміру...



Па міласці царскай вольныя сяляне заставаліся рабамі. А цар (які саманадзейны эгаіст!) у дзень свайго нараджэння ўстанавіў медаль на аляксандраўскай стужцы са сваім партрэтам і надпісам «Благодарю всем, кто участвует в трудах по освобождению крестьян». Такі медаль Аляксандр II найперш павінен быў уручыць вялікаму заступніку сялян Кастусю Каліноўскаму, а ўручыў ка́ту беларускіх сялян Мураўёву-вешальніку, крываваму ка́ту Кастуся Каліноўскага.

Аляксандр II велікадушна змякчыў цялесныя пакаранні: зменшыў напалову колькасць удараў. Калі прысуджалася шэсць тысяч удараў бізуном, то па новаму велікадушнаму ўказу вінаваты атрымліваў усяго тры тысячы. Пасля тысячы, як правіла, бізун свістаў па мёртваму целу.

Аляксандр II нібыта ўвёў дэмакратызацыю ў суды, але часта ўмешваўся ў іх рашэнні, падпраўляў сваёй самадурнай рукой, выносіў больш строгія прысуды.

Аляксандр II няўмела кіраваў і працэсам асветы ў Расіі, выхаваннем моладзі. У сваім рэскрыпце на імя старшыні Камітэта міністраў князя Гагарына даводзіў: «Мая ўвага ўжо звернута на выхаванне юнацтва. Мной



дадзены ўказанні, каб яно было скіравана ў духу ісцін рэлігіі, павагі да правоў уласнасці і захавання карэнных пачаткаў грамадскага парадку, каб у навучальных установах усіх ведамстваў не было дапушчана ні яўных, ні тайных пропаведзей тых разбуральных разуменняў, якія аднолькава варожыя ўсім умовам маральнага і матэрыяльнага дабрабыту народа...»

І прагучаў ашаламляльны стрэл на ўсю Расію. Яго зрабіў смелы юнак з Волгі, студэнт, выключаны з Казанскага, а пасля і Маскоўскага універсітэтаў Дзмітрый Каракозаў. Здарылася гэта 4 красавіка 1866 года, каля чатырох гадзін дня, у час прагулкі Аляксандра II у Летнім садзе.

Дзмітрыя Каракозава пакаралі смерцю на Смаленскім полі ў Пецярбургзе. Губернатара Льва Мікалаевіча Пяроўскага пазбавілі высокага чыну. Закрылі часопісы «Современник» і «Русское слово».

Аляксандр II усё ніжэй апускаўся ў балота дэспатызму, варожай лютасці да ўсяго светлага, што мроілася ў заўтрашнім дні расіянам, стомленым ад раманаўскага прыгнёту.

Ігнат Грынявіцкі ехаў вучыцца ў Беласток. Хацеў вышэй узняцца да разумення жыцця і знайсці сябе ў ім.

## КРОКІ Ў ЗАЎТРА

Сяляне ў Беластоку гаварылі па-беларуску, інтэлігенты карысталіся польскай мовай, а службовай была руская. Калі Ігнат пачынаў вельмі сумаваць па сваіх Грынявічах, то абавязкова ішоў на кірмаш. Ішла па наваколлю пагалоска, што на беластоцкім кірмашы можна набыць усё, апроч слана афрыканскага.

Ідзе Ігнат, разглядае тавары, узіраецца ў гандляроў, слухае іх гамонкі, а думкамі дома. Няма лепей дамоўкі. Пад крылом бацькі ахоўна, надзейна.

Спыніўся Ігнат каля тоўстай цёткі, якая галасіста крычала на ўвесь кірмаш:

— Чай духмяны!.. Блінцы румяны!..

Пакешкаўся ў кішэнях, адшукаў апошнія капейкі: аддаў цётцы.

— Пі, студэнцік пахвалёны, чаёк мой духмяны,—крычыць цётка, як бы ўжо не ўмее гаварыць спакойна.

Прысёрбвае Ігнат чай з талерачкі, а на блінец румяны касавурыцца. Крыўдна: не хапіла капеек.

Толькі на першых трох класах падсабляў бацька: выдзяляў на месяц па 1 рублю 50 капеек. А дзядзька Дамброўскі дамогся і прыладкаваў яго на жытло ў сіроцкі дом: хоць за дах над галавой не трэба плаціць. Усё суцяшаў Ігната: «Сытае чэрава да вучэння чэрствае, глухое». Так то так, але ж галоднаму жабракі сняцца, а не кніжкі.

З чацвёртага класа, вось ужо другі год, Ігнат вучыцца і зарабляе сабе на харчы ўрокамі ў прыватных дамах. Наймалі вучыць лемантар з дзецьмі фабрычнага канторшчыка. Удзёўбваў арыфметыку тупым блазнюкам млынара.

Цяпер Ігнат шукаў новага для сябе пекла. Гатоў пагадзіцца на любыя ўмовы, бо здырдзіцца, памерці з голаду, зразумеў Ігнат, гэтак жа проста, як трапіць пад кулю на вайне.

Неўпрыкмет ён выйшаў з базарнага гармідару на невялічкую плошчу, дзе прыпыняліся гарадскія вазкі, фурманкі, кібіткі. Там стаяла круглая тумба-аб'яўніца, на якой—самыя розныя абвесткі.

О, здаецца, тое, што трэба: «Шукаю для сваёй дачкі настаўніка па ма-

ляванню. Адрас...» Ігнат не паверыў, перачытаў яшчэ раз. Сэрца затахкала: хаця б не спазніцца, каб хто не перабег дарогу.

Ігнат яшчэ раз прачытаў адрас. Так, гэта за рэчкай Белай, за Памыйкай, як яе называюць у Беластоку, у раёне прадзільні. Хуценька пакіраваў туды.

І не прыкмеціў, як падышоў да патрэбнай хаты. Чатырма белымі вокнамі, з разнымі ліштвамі, пазірала яна на вуліцу, абнесеная высокім і шчыльным плотам, размаляваная рознымі фарбамі ў кубікі-шашачкі, а зверху — арнамент з усіх колераў вясёлкі. «Тут жыве душа мастака», — падумаў Ігнат і, асмялелы ад такой мроі, пацягнуў за шнурок у брамцы.

Адкрыла прывабная гаспадыня, уважліва зірнула на юнака ў чорным рамесніцкім кіцельку з белым падкаўнерыкам і бліскучым радам гузікаў. Ігнат апярэдзіў яе запытанне.

— Па вашай аб'яве, пані.

— А-а, настаўнік малявання. То праходзьце, прошу.

У раскошнай альтанцы, пад выгляд шатра, у мяккай качалцы сядзеў сівы, маршчакаваты дзед. Ён адразу ж упіўся сваімі ўчэпістымі вачыма ў незнаёмца.

— Гэта настаўнік малявання, татуль.

— Настаўнік? — здзівіўся дзед.

— Я пакуль што, шаноўны пане, займаюся ў рэальным вучылішчы. У пятым класе ўжо. Збіраюся быць майстрам на прадзільні. А маляванне — мой найлюбшы занятак.

Дзеду, відаць, падабалася, як крыху залішне хваляваўся і чырванеў Ігнат, і ён спытаў:

— А прозвішча якое мае васпан, роду якога, родам адкуль?

Ігнат зразумеў, што вось гэты белы лунь і ёсць галоўны экзаменатар у хаце, ад яго волі залежыць рашэнне: будзе ён дамашнім настаўнікам малявання ці не. Ігнат узяўся расказваць усё чыста, як на споведзі, пра сваю сям'ю, пра сябе самога.

— Гм, Грынявіцкі? — дзед задумаўся, нахмурыў твар, як бы зазіраў у нейкую сваю, толькі яму вядомую далячынь. — Ведаў я аднаго Грынявіцкага. Ці не з вашага роду які?

— Калі добры, то з нашага, — адказаў Ігнат.

Дзеду спадабаўся хлопец з праніклівымі, задуменнымі вачыма, і ён, запрасіўшы Ігната і сваю дачку прысесці, пачаў успамін здалёк:

— У вашым вучылішчы даўней была гімназія, створаная пад пратэктаратам гетманавай Ізабэлы Браніцкай. Было гэта яшчэ ў тым веку. Дырэктар Лявіцкі дбаў больш пра сябе, чым пра гімназію. А маладзейшыя настаўнікі імкнуліся да нечага свайго. Міхал Рукевіч стварыў тайную арганізацыю «Таварыства згодных братоў». Членам яго нельга было піць гарэлку, гуляць у азартныя гульні, вадзіцца з распустай. Галоўны клопат — дапамагаць сябрам у бядзе, вучобе. За парушэнне ўмоў таварыства на сходах выносілі вымову альбо штраф — пятнаццаць капеек срэбрам. Як, га?

— Мяне б прынялі ў такое змоўніцтва, бо якраз прытрымліваюся гэткіх жа жыццёвых правіл, — адказаў Ігнат, на якога пільна пазіраў сівы чалавек.

— Ага, васпан, вось што было далей. Таварыства неўзабаве перайменавалі ў «Заран». І запісалі для сябе галоўны дэвіз такі: «Як свет зары папярэджвае промні сонца, так і заране сваімі добрымі імкненнямі папярэджваюць прыход на зямлю сапраўднай дабрачыннасці». Гэткі ж заранскі факел запаліў Феликс Ляховіч і ў Свіслацкай гімназіі...



Ігнат падумаў, што вельмі ж падрабязна дзед расказвае: ці не сам ён быў у тых тайных таварыствах? Ды і пры чым тут Грынявіцкі, пра якога ён успомніў і, мо́жа, даўно забыўся. Але дзед як бы разгадаў Ігнатавы думкі, пачаў расказваць пра знаёмага яму Грынявіцкага.

— Пазней заране наладзілі сувязь з афіцэрамі Літоўскага піянерскага батальёна ў Беластоку, утварылі тайнае таварыства ваенных сяброў. Вось з імі і пачаў супрацоўнічаць калежскі рэгістратар Беластоцкага дваранскага дэпутацкага сходу Аляксандр Мацвееў Грынявіцкі. Тады, Ігнась, мо твой бацька толькі яшчэ пад стол хадзіў...

Дзед прыпыніўся і, відаць, не збіраўся прадаўжаць успамін, а наадварот, здаецца, пачынаў шкадаваць ці то сумнявацца, што падахвоціўся расказаць пра мінулую, але вельмі тайную справу. А Ігнату карцела ведаць нешта большае пра свайго аднафамільца, а мо і родзіча, і ён асмеліўся спытаць:

— Скажыце, шаноўны пане, што больш вядома вам пра калежскага рэгістратара Грынявіцкага?

— Шэф жандараў Бенкендорф раскрыў яўную тайну таварыства. Усе жорстка пакараны. Аляксандр Мацвееў Грынявіцкі пазбаўлены чыну і дваранскага звання, адпраўлены ў Сібір...

Дзед задумаўся. Разгубленая сядзела гаспадыня, спагадліва пазірала на свайго бацьку. Маўчанне зацягвалася. Сэрца Ігнатава шчымліва сцялася.

— Добра, васпан, ты нам спадабаўся, — урэшце сказаў стары. — Адказ дадзім заўтра.

Ігнат падумаў: хітры дзед, хоча навесці пра яго даведкі ў вучылішчы, можа, нават у самога дырэктара Гвайта ці ў настаўнікаў. Няхай сабе, бо хто ж наплявузгае дрэннае пра яго, лепшага вучня рэальнага вучылішча? Упэўнены ў сабе і сваёй рэпутацыі, адчуўшы, што пытанне амаль вырашана, Ігнат асмеліўся спытаць:

— Не ведаю, якое прымеце рашэнне, шаноўны пане, — зірнуў на жанчыну і моўчкі пакланіўся ёй. — Але мне б хацелася, калі гэта магчыма, зірнуць на сваю вучаніцу, бо я ж таксама павінен прыняць рашэнне.

Стары гаспадар і яго дачка ацанілі просьбу маладога настаўніка пасвойму: разборлівы, ведае сабе цану. І дзед загадаў:

— Пакліч, Ядзя, сваю Верку.

— Зараз, татуль.

Праз некалькі хвілін у садовую альтанку прыбеглі адразу дзве дзедавы ўнучкі: адной было гадоў восем, а другая бадай што аднагодак настаўніка. Якая ж з іх Верка? Няўжо вось гэта, з блакітнымі азярынамі, якая зірнула імі на Ігната і з першага мігу загубіла яго.

— Знаёмцеся, настаўнік малявання Ігнат Яўхімаў Грынявіцкі, — паважліва прадставіў госця іхні дзед.

— Дзень добры, панічу. Я — Верачка, — малая ўхапілася ручкамі за спаднічку і лоўка выдала рэверанс Ігнату.

— А гэта наша старэйшая — Марыся, навучэнка інстытута шляхетных дзяўчат.

Ігнат і Марыся сустрэліся вачамі і нейкі момант узіраліся адзін у аднаго. Марыся лёгенькім кіўком прывітала Ігната, на пунсовыя, крамяныя шчочкі ўскочылі ўсмешлівыя ямачкі. А Ігнат не помніць, як павітаўся, мо нават нешта і сказаў, бо цела ўсё абмякла і ён адчуў: вельмі хвалюецца.

Выратавала Ігната Верачка, сунула яму ў рукі свой альбом:

— Пане настаўнік, зірніце на мае малюнкі.

— А-а як жа, панначка, пакажы.

Ігнат уважліва пачаў гартаць альбом. Пасля, перадаючы яго малой, сказаў:

— Мне спадабаліся твае малюнкі, панначка. Але я хацеў бы навучыць цябе бачыць свет вачыма сапраўднага мастака.

— Зойдзеце, паніч, заўтра, а такой жа гадзіне,— закончыў аўдыенцыю дзед.

Ігнат пакланіўся ўсім на развітанне. Яго праводзіла да брамкі маці чароўных дзвюх дзяўчынак.

Неба над Ігнатам пасвятлела. Зайграла душа, як бы адгукнуліся ў ёй бадзёрыя ноткі бацькавай скрыпкі, азартныя песні Юльяна. Усплылі ў памяці, як малітва, радкі з кнігі, якую даў пад вялікай тайнай пачытаць дзядзька Дамброўскі:

«Я хачу рабіць толькі тое, чаго буду хацець, і няхай іншыя робяць гэтак жа; я не хачу ні ад кога патрабаваць нічога, я хачу не абмяжоўваць нічыёй волі і сама хачу быць вольнай...»

Гэтак гаварыла-малілася Вера Паўлаўна. Ігнат зайздросціў Чарнышэўскаму, які, напэўна ж, бачыўся, быў знаёмы з той вольнай птушкай, Верай Паўлаўнай, якую так хараша апісаў у сваім рамане.

Тры кніжкі «Современника», выдадзеныя вясной 1869 года ў Санкт-Пецярбурзе, у друкарні Карла Вульфа, Ігнат прачытаў на адным дыханні. Расказы пра новых людзей перавярнулі ўсё ў ім. Узіраўся наўкол, шукаў такіх людзей побач.

Ішоў па вуліцах Беластока навучэнец рэальнага вучылішча Ігнат Грынявіцкі, і яму, можа, упершыню за ўсе гады тут захацелася спяваць. Ён убачыў і паверыў, што сустрэў сваю Веру Паўлаўну, толькі завуць яе Марыся. Не гаварыў з ёй, толькі ўбачыў. Але ж хіба не існуе мовы вачэй, мовы сэрца! Ды яны могуць такое перадаць, што не хопіць слоў у Пушкіна і Гогаля. Не, не можа быць звычайнай дзяўчына Марыся! Яна, і гэта абавязкова,—радня па духу самой Веры Паўлаўне.

Ігнат неўпрыкмет выйшаў да гарадской вежы з гадзіннікам. Паўзіраўся на людзей, сярод якіх лёгка распазнаваў жабракоў, чыноўнікаў, перакупшчыкаў, гандляроў. А дзе ж сярод іх Рахметавы? Хаця б вачыма, тварам падобныя на таго, выпісанага ў рамане «Что делать?», рэдкай пароды чалавека. На жаль, няма іх у Беластоку, а можа, ён проста іх не ведае, не прыглядаўся раней. Ды іх мала, піша Чарнышэўскі, і ў самім Санкт-Пецярбурзе. Але ж сэнс, калі ўдумацца, зусім у іншым: «Мала іх, але імі расцвітае жыццё ўсіх; без іх яно заглухла б, пракісла б; мала іх, але яны даюць усім людзям дыхаць, без іх людзі задыхнуліся б...»

Ігнат толькі цяпер асэнсаваў, што ён даўно ў касцёле, у адным парыве з веруючымі звяртаецца да бога. Але ў яго свая малітва, свая размова з уладаром нябесным.

Перад абразамі святых ён перабраў у памяці сваіх настаўнікаў па вучылішчы. І як бы ўпершыню за ўсе гэтыя гады ўбачыў іх і зразумеў па-новаму. Яму раптам стала сумна і страшна. Чаму можа навучыць настаўнік гісторыі і геаграфіі Карл Іванавіч Вельц, калі ён з гонарам носіць медаль «За ўціхамiранне польскага мяцяжу»? Такая ўзнагарода ўпрыгожвае кіцель дырэктара вучылішча Гвайта, настаўніка французскай мовы Шміта, інспектара Ходатава. Хіба могуць такія і падобныя ім стацкія саветнікі выхаваць у навучэнцах новых людзей? Не, не могуць, бо яны самі найпершыя гвалтаўнікі ўсяго новага. Дык у такім разе губляецца сэнс усёй навукі, працэсу навучання. Для чаго, атрымліваецца, вучаць іх? Каб яны, маладыя выпускнікі вучылішча, новым, свежым струменем абаранялі стары рэжым, адвечны прыгнёт? Даюць святло ведаў, каб тут жа зноў загнаць у цемру жыцця? О літасцівы божа, якую страшную тайну ты адкрыў свайму паслушніку Ігнату Грынявіцкаму! Дык падкажы, божа, што рабіць цяпер, дзе, як, з кім шукаць паратунку, выйсця?



На памяць пачалі прыходзіць усе трыста хлопцаў з рэальнага вучылішча. Ігнат, на правах старшакласніка, ведаў кожнага. Сярод іх — праваслаўныя, каталікі, лютэране, яўрэі. Большасць — сынкі багатых чыноўнікаў і памешчыкаў. Яны і па калідорах вучылішча ходзяць, капіруючы сваіх бацькоў, сытыя і задаволеныя ўсім. Такія, кажа бацька, нараджаюцца глухія. Ці праб'юцца праз іх глухату пакліччныя словы Чарнышэўскага? А ў іх жа сэнс жыцця: «Падымайцеся з вашай трушчобы, сябры мае, падымайцеся, гэта не так цяжка, выходзьце на вольны белы свет, слаўна жыць на ім, і шлях лёгкі і заманлівы, паспрабуйце...»

Ігнат горнецца душой да тых хлопцаў, у якіх мазольныя, як і ў яго, рукі, якія ведаюць кошт капеечцы, умеюць потам сваім здабываць яе. Ёсць, ёсць адчайная братва, якой можна даверыцца. Кожны з іх употай шукае сваю каханку Верачку, свайго куміра Рахметава. А калі шукаць разам?

Даверыцца можна брату Яну, які ў вучылішчы трыма класамі ніжэй. Выпрабаванне на вернасць вытрымаў пінчук Антон Барэйша. Ён усё выхваляецца, што з яго пінскіх лясоў старажытныя рымляне вывозілі доўгія і прамыя сосны для будаўніцтва караблёў. Гэта здорава, што ў рэальным вучылішчы знаходзяцца аднадумцы.

Трэба шукаць, Ігнат, у знешне халодных натурах агонь душы. І ён загарыцца, запалае такім вогнівам, які і не сніўся соннай Гродзенскай губерні. Трэба паехаць у Грынявічы Вялікія і папрасіць у Юльяна той неацэнны скрутачак газет, які знайшлі некалі разам, разбіраючы стары саламяны дах. Ой як патрэбна цяпер тая «Мужыцкая праўда»!

«Мой кроўны брат, Кастусе любы, праўдай тваёй наліваецца наша кроў. Вернасць сыноў бацькаўшчыны правяраем тваім баявым паролем: — Каго любіш? — Люблю Беларусь! — То ўзаемна!..

Божа міласэрны, дапамажы перадаць Марысі мае пачуцці. Няхай дойдзе да яе сэрца маё маленне. Няхай паверыць, што закаханы Ігнат дапаможа ёй узвысіцца да незалежнасці і сапраўднай вольнасці...»

Ігнат позна вяртаўся з малення. Дагараў восеньскі дзень. У душы бруілася пакліччная вясна. Клікала ў новы дзень, заманьвала да новага жыцця...



У адным з пісьмаў свайму брату Канстанціну ў Варшаву, дзе вялікі князь служыў намеснікам Царства Польскага, імператар паведаміў: «Любезны Косця! Ёсць надзея, што мы напалі на сапраўдную крыніцу зла. Трэба зрабіць арыштацыю Чарнышэўскага. Знойдзены паперы, якія даказваюць яго сувязь з Герцэнам. Няхай дапаможа нам бог прыпыніць далейшае развіццё зла».

«Як я рады вестцы аб арышце Серна-Салаўёвіча і асабліва Чарнышэўскага, — адказаў у сваім пісьме князь Канстанцін Мікалаевіч. — Даўно пара з імі расправіцца».

Царская «міласць» праявілася 19 мая 1864 года на Мытнай плошчы ў Санкт-Пецярбурзе. На чорным эшафоце ўстанавілі чорны слуп з жалезным ланцугом. Пахмурнай раніцай сюды падвезлі Чарнышэўскага. Вывелі на эшафот. Кат узяў за пляча, падвёў да слупа, прасунуў яго рукі ў кольцы ланцуга. Так, склаўшы рукі на грудзях, Чарнышэўскі стаяў каля ганебнага слупа каля чвэрці гадзіны: чыталі прыгавор.

Аднаму з разумнейшых людзей эпохі, які верыў у моладзь і падказваў ёй, што рабіць, якому паверыла цэлае пакаленне маладых,—за ўсё гэта царскія ўлады прыгаварылі яго да ганебнага пакарання.

Пасля зачытання прыгавору кат паставіў Чарнышэўскага на калені, зняў з яго шапку. Узяў шпагу і з лютай злосцю пераламаў яе над галавой Чарнышэўскага. Абломкі раскідаў ва ўсе бакі.

Так закончыўся гнюсны абрад грамадзянскай кары Чарнышэўскага на Мытнай плошчы. Нявольніка саслалі ў Сібір на цэлых дваццаць гадоў, аж да самай смерці. Пасля грамадзянскага пакарання куміра моладзі Аляксандра II паўсюдна пачалі называць царом-вешальнікам.

Але дэспат быў ужо бяссільны вытравіць у моладзі ідэі Чарнышэўскага. Сотні, тысячы юнакоў выхоўвалі ў сабе характар Рахметава. Дзяўчаты, а іх з'яўлялася ўсё больш і больш, хацелі стаць такімі, як Вера Паўлаўна, жадалі гэтак жа кахаць, як яна, імкнуліся да сапраўднай чалавечай волі.

Маладая Расія пачала з'ядноўвацца ў гурткі. Нячаеўцы, далгушаўцы, чайкоўцы пачалі будзіць закатаваную, сонную, абыякавую да свайго гора айчыну.

Напалоханы дэспат паспяшаўся стварыць Асобую Установу правячага сената для разгляду палітычных працэсаў. Бацькі пачалі судзіць і строга караць дзяцей за тое, што яны шукалі адказаў на зусім натуральныя пытанні: што рабіць, як кахаць?

Пакутліва шукаў адказаў і старшакласнік Беластоцкага рэальнага вучылішча Ігнат Грынявіцкі. У сваіх малітвах перад светлымі абразамі ён яшчэ прыгадваў цара-бацюхну, бо прадаўжаў верыць, што божая справядлівасць павінна быць вышэй за ўсё. Не мог не верыць, што божы намеснік на зямлі, калі трэба, заступіцца і абароніць. Але ўсё часцей узнікалі і ў Ігната Грынявіцкага пытанні, на якія сам ён не знаходзіў адказу: чаму божы намеснік Аляксандр II так жорстка пакараў заступніка моладзі Чарнышэўскага, чаму цар баіцца светлага позірку, вольнага слова, высокага пачуцця?

Чаму?..

## СЛЁЗЫ НА ШКЛЕ

Пасажырскі поезд № 7 Варшава—Санкт-Пецярбург адпраўляўся з Беластока ноччу. А дакладней—пад раніцу. Цягнік жа з Бельска, у якім ехаў і нерваваўся Ігнат Грынявіцкі, прыбываў у Беласток а другой гадзіне ночы. У кароткім прамежку паміж перасадкамі павінна адбыцца сустрэча з Марысяй. Жаданага спаткання чакаў ці не ўсё лета. Колькі разоў парываўся пайсці да яе пешкі, узяць на рукі, прынесці ў Грынявічы Вялікія, упасці перад бацькамі наўколенкі: «Вось, мама і тата, мая нарачоная, тая адзіная, якая адабрала ад мяне сон і спакой, блаславіце нас».

Але гэтага зрабіць ён не мог: Марыся ўсё лета не была ў Беластоку. Выязджала ў бацькаў родавы маёнтачак, некуды аж пад Магілёў. Заставалася толькі ўздыхаць па ёй, прыгадваць тыя шчаслівыя гадзіны, калі прыходзіў на ўрокі малявання да Верачкі.

Аднойчы ўрок быў на рэчцы Белай. Падахвоцілася малявадь і Марыся. Гаварылі. Тады адбылося нешта такое, чаго Ігнат аніяк не чакаў. Выходзіла, што ён прыдумаў сабе Марысю. У жыцці яна не такая. Але адступаць у сваіх пачуццях і дзеях Ігнат не любіў і не жадаў.



Марысіны бацькі—багатыя, і гэта адразу праявілася на бедным настаўніку, які асмеліўся заляцацца да іх дачкі. Яны не спрыялі іх мімаходным сустрэчам, змянілі расклад урокаў для Верачкі так, каб у гэты час Марысі не было дома. Яны адчулі, і гэта небяспадстаўна, што Ігнат мае ў галаве нешта бунтарскае, супярэчлівае, трымае ў сабе тыя думкі і погляды, якія строга караюцца законам, якія некалі завялі і яго аднафамільца ў Сібір.

Ігнат, праўда, сам пісаўся і лічыўся дваранінам. У яго нават мелася пацвярджэнне таму. Але ж ён разумеў нешта большае, аб чым даводзілі паперы, няхай сабе нават гербавыя.

Ён ведаў, што яшчэ цар Мікалай I выдаў загад: кожны дваранін павінен даказаць сваю радаслоўную. У рух прыйшло ўсё адукаванае грамадства. Здаецца, пісары, суды, усе дзяржаўныя ўстановы толькі тым і займаліся, што ўстаноўлівалі прыналежнасць таго ці іншага чалавека да дваранскага звання. Вельмі важна было напісаць прашэнне на дарагой гербавай паперы, рукой умелага і вопытнага пісара. З гэтага выпадку ва ўсёй Расіі спісалі столькі паперы, што яе хапіла б накрыць усю зямлю.

Па тым часе Ігнатаў дзед Міхаіл таксама расстараўся патрэбных папер, і Грынявіцкіх залічылі ў дваране. Яўхім крыху ганарыўся гэткім званнем, але, як пазней зразумеў Ігнат, бацька больш ганарыўся не званнем, бо яго трэба было падмацоўваць багаццем, чаго бацька ніколі не меў. Ён радаваўся проста паперам, якія падсабляілі вучыць дзяцей. Бо калі ты хаця б галадранец, але дваранскага роду, то для цябе крышачку шырэй прыадчыняліся дзверы ў свет.

Цяпер Ігнат нясцерпна чакаў начной сустрэчы ў Беластоку. У яго толькі дзве гадзіны на перасадку, ён едзе ў далёкі і вірлівы Пецярбург, у непазнаны свет. А Марыся застаецца. Так хочацца ўбачыць, пагаварыць, сказаць ёй самае галоўнае. Толькі б прыйшла, адно толькі б вырвалася з сямейнага нерата.

На вакзале ў Беластоку яго сустрэў толькі Антон Барэйша. Абняліся шчыра, як браты.

— Ну што?—стогнам вырвалася запытанне з Ігнатавых грудзей.

— Не змагла... Вось толькі пасланне перадала...

Антон палез у кішэню, але ў гэты міг Ігнат улавіў на сабе пільны позірк гарадавога, папярэдзіў сябра:

— Перадасі ля вагона... Спазняемся... Пабеглі..

І яны растварыліся ў натоўпе. У гэтай мітусні Антон, як сапраўдны канспіратар, лоўка перадаў Ігнату запіску ад Марысі. Ігнат хуценька ўкінуў яе ва ўнутраную кішэню кіцеля. Падумаў: прачытаю спакойна, як сяду ў вагон. Да гаркаты душыла крыўда: не ўбачыць Марысю.

Сябры перазаказалі білет з аднаго поезда на другі. Заставаўся час, і яны забеглі ў кавярню.

— Хачу цябе, Ігнась, сагрэць на дарожку кавай,—прапанаваў Барэйша.

— Ты, Антоне, сагрэў мяне сваёй ласкавай сустрэчай.

— Толькі нос не вельмі задзірай у сваім Санкт-Пецярбурзе.

— Хіба на мяне такое падобна? Антоне, я сябрам не здраджваю.

— Толькі б хутчэй закончыць вучылішча, прымчу да цябе ў сталіцу.

— Буду чакаць, Антоне.

Сябры пакінулі кавярню, бо непадалёк ад іх прыладкаваўся гнюсны тып у пакамечаным капелюшы, які ўсім сваім знешнім выглядам падказваў, што ён служыць філёрам.

Каля вагона па-мужчынску стрымана развіталіся.

— Бывай, Антоне. Пішы аб усім.
— Паведамляй і ты нам сталічныя навіны. Ды паболей.
— Абавязкова!..

Разарваў цішыню трэці званок. Ігнат падхапіў самаробны чамаданчык, ступіў на падножку вагона, маўкліва, ледзь стрымліваючы слёзы, кіўнуў Антону. Варшаўскі пасажырскі састаў лязгнуў буферамі, павольна пакаціўся ў накірунку губернскага горада Гродні.

Цягнік набіраў хуткасць. За акном пачынала шарэць. Цьмяна гарэў ліхтар. Ігнат агледзеўся па баках, дастаў з кішэні Марысіну запіску. Першае, што кінулася ў вочы, калі разгарнуў паперу, расфарбаваныя ў кветкі беражкі. «Любы Ігнаська!» — выпісана чырвоным алоўкам, а далей — пяром. На адным дыханні Ігнат прачытаў:

«Ты ад'язджаеш у Пецярбург, а я стаю перад абразамі, прашу-малю божаньку, каб паслаў табе лёгкую дарогу, каб надаў светлага розуму на іспытах, каб падмог табе, мой яснавокі, стаць тым, кім ты задумаў.

Ты ад'язджаеш, а ў мяне абрываецца сэрца, на волас не магу заснуць, бо, ведаю, насоўваецца на мяне чорная ноч, і, адчуваю, губляю, страчваю цябе назаўжды. Не выпусцяць мяне з дамашняй клеці, а калі і выпусцяць, то ў такую ж клець, каб у ёй было цёпла і сытна. Ну калі ж бацькі пачнуць лічыцца з жаданнем дзяцей?

Знай, родны, што б ні здарылася, ты дапамог інакш зірнуць на свет. І даруй, не карай строга, што не ўмела гаварыць ласкавых слоў пры сустрэчах. Я вельмі паважала цябе, нават баялася. Нават цяпер, калі пішу гэта прызнанне, адчуваю гарачыню і сорам, як бы нешта краду ці раблю злачыннае, недазволенае...»

Ігнат заплюшчыў вочы: перад ім узнікла Марыся ў сваёй любімай блакітнай сукенцы, у блакітных вачах — расінкі, ну чыста вясновая кветка. Любая Марыся, я ж і не думаў, што варты такога твайго прызнання.

Прыхінуўся галавой да шкліны. Знясілены, стомлены ад перажытага за дзень, задрамаў. І прысніўся яму сур'ёзны сон.

Пад перастук вагонных колаў мроілася Ігнату: да іх у грынявіцкую хату пастукаўся і ўвайшоў Кастусь Каліноўскі, а ён якраз з Юльянам чытаў «Мужыцкую праўду». Прайшоўся павольна па пакоі, прыпыніўся каля акна, задумліва зірнуў удалячынь, сказаў: «Добрую справу робіце, дзецюкі. Бо, як я ўжо казаў, мы пазналі, што нам не маніфест, а вольнасць патрэбна — і вольнасць не такая, якую нам цар хоча даць, а якую мы самі, мужыкі, паміж сабой зробім. Толькі, дзецюкі, смела, бо з намі бог і праўда... Няма чаго чакаць ад нікога, бо той толькі жне, хто пасее. Дык сейце, дзецюкі, як прыйдзе пара, поўнай рукой, не шкадуйце працы, каб і мужык быў вольным чалавекам...» — «Кастусь Сямёнавіч, а вы паказвалі сваю газету цару?» — спытаў Ігнат у той міг, як толькі Каліноўскі змоўк. «Цар гэтага не зразумее, Ігнась, бо ў яго першым букваром быў французскі, а не рускі. А нас, беларусінаў, не прызнае нават за людзей». — «Дык чаму ж, Кастусе, у нас такая несправядлівасць?» — цяпер ужо Юльян уставіў сваё пытанне. «Правільна, хіба ў нас іе справядлівая навука ў школах? Хіба іе праўда і справядлівасць у судзе? Хіба можа быць чалавек упэўнены, што яго ніхто не пакрыўдзіць?.. Такія здзекі робяцца не таму, што ў нашым краі няма людзей здатных на чыноўнікаў, гатовых і жыццё сваё аддаць за народ, а таму, што цар такіх людзей у Сібір высылае, а за нашы грошы назначае чыноўнікаў такіх, што адно самі людзей глумяць, другім глуміць пазваляюць і бога не баяцца...» — «Дык што ж нам цяпер рабіць скажаш, Кастусь Сямёнавіч?» — «Дзецюкі! Чакаць моўчкі больш ужо нязмога!.. Падумайце добра, дзецюкі, ды, памаліўшыся богу, станьма дружна разам за нашую вольнасць!..» — сказаў гэтак Кастусь Каліноўскі, павярнуўся да дзвярэй, пачаў развітвацца. А Ігнату шкада, што ён пакідае іх, калі яшчэ вось так убачыцца, ён і просіць напаследак: «Шаноўны Кастусь Сямёнавіч, а ці ёсць у вас якія просьбы да нас?» — «Ёсць, дзецюкі. Кахаў я дзяўчыну Марыську. Калі сустрэнеце яе альбо падобных на яе, то спамяніце й мяне...» Каліноўскі пачаў чытаць вершык пра Марыську. Ігнат заслухаўся дый заснуў. А Каліноўскі ўжо з вуліцы стукаў у шыбіну, усміхаўся і як бы гаварыў: «Як не сорамна спаць, Ігнат!..»



Ігнат прачнуўся. Абмытае гаючымі росамі, спачыўшае пасля ночы, у акно вагона зазірала вясёлае сонца, пасылала прыветную ўсмешку Ігнату, грэла ў яго руках пісьмо ад Марысі. У вушах, здаецца, гучалі словы Каліноўскага: «Марыська, чарнаброва галубка мая...»

За вокнамі вагона праплывалі жытнёвыя шнуры, а на іх варушыліся з сярпамі жнеі. Следам ідуць мужчыны, скошваюць травяністую пожню. Завіхаюцца на конных ды валовых павозках хлапчукі, падбіраюць снапы.

І гадзіну, і другую чухкае Варшаўскі цягнік сярод убогіх палеткаў Гродзенскай губерні. Пазірае Ігнат у акно і нібыта бачыць свае Грынявічы Вялікія. Прыгадвае: каб было за што выправіць яго ў Пецярбург, задумаў бацька спешна зжаць палетак на Яўхімаўшчыне, абмалаціць, прадаць збожжа на Бельскім кірмашы. У поле выйшлі ўсе: Яўхім з Бальбінай, уся сям'я, Юзэф Трахімчук з жонкай і дзецьмі, Карп Аўласюк з сынамі і дачкой ды Юльян Якасюк. На падмогу прыйшлі нават тыя грыневічане, якіх Яўхім Грынявіцкі не клікаў, якія і не абавязаны дапамагаць. Кажуць: «Чулі, Яўхімко, што твой паніч задумаў падскочыць ажно ў саменьку царску сталіцу. Хочам падсабіць табе на жніве, мо і за наша жыццё-кісляўку заступіцца там перад гасударом...»

Працавалі спорна, з песнямі. Хіба можна без радасці сустракаць новы хлеб, якога так доўга чакалі, спадзеўна пазіраючы ў неба?..

Так цэлай арцеллю зараблялі грошы на Ігнатаву паездку ў Пецярбург. Цяпер ён сядзеў у вагоне, пазіраў на палеткі, пачарнелыя хаткі ў вёсках, а ў сэрцы гучалі жніўныя песні ды ад нядаўняй малацьбы нылі мазольныя рукі.

Поезд даўно мінаваў Чорную Весь, Саколку, Кузніцу, набліжаўся да Гродні, губернскага горада. Яшчэ здаля Ігнат прыкмеціў купалы касцёлаў і цэркваў. Яны ўтыкаліся сваімі завостранымі шпілямі ў неба, як бы перадавалі, пасылалі ў нябесную канцылярыю ўсе мольбы праведнікаў і грэшнікаў.

А дзе ж той дом, у якім засядае гродзенскі бажок-губернатар, куды сцякаюцца ручаінкі слёз з усіх дзевяці паветаў губерні — Гродзенскага, Сакольскага, Беластоцкага, Бельскага, Брэсцкага, Кобрынскага, Пружанскага, Слонімскага, Ваўкавыскага? У тым доме, расказваў бацька, некалькі гадоў назад, якраз жа перад паступленнем Ігната ў Беластоцкае рэальнае вучылішча, пад старшынствам самога губернатара, генерал-маёра, князя Дзмітрыя Мікалаевіча Крапоткіна разглядалася справа аб продажы маёнтка Грынявічы Вялікія памешчыка Яўхіма Грынявіцкага за доўг палітычнаму злачынцу Івану Саковічу. На той раз бацьку ўдалося выкруціцца ад поўнага разарэння. Як будзе далей?

Маркотна пазіраў на Гродню Ігнат Грынявіцкі. Затхлае, удушлівае паселішча. І добра, што цягнік тут стаяў усяго дзесяць хвілін.

Далей сталёвая «лыжня» павяла варшаўскі пасажырскі поезд у накірунку Вільні. На паўдарозе, дзесьці за Парэччам, Варэнай, стаіць невялі-

кая станцыя Алькенікі. Там сястра Ігната Юля замужам за начальнікам станцыі Трахімам Пылаевым. «Што рабіць? — задумаўся Ігнат. — От каб заскочыць да іх, пабачыцца, пагаварыць. Калі яшчэ надарыцца такі шчаслівы міг?» За роздумам Ігнат і не прыкмеціў, як цягнік свіснуў каля драўлянай фасоністай будыніны і кандуктар аб'явіў:

— Алькенікі!.. Стаім тры мінуты!..

Ігнат, не раздумваючы, ухапіў чамаданчык і выскачыў на вуліцу.

Сястра з мужам былі бязмежна шчаслівыя сустрэчы. Усю ноч гаварылі-прыгадвалі. А назаўтра праводзілі Ігната на поезд. Яму заставалася, цяпер ужо без перасадак і вымушаных прыпынкаў, праехаць 712 вёрстаў.

Юля плакала. З павільгатнелымі вачыма стаяў каля вагона начальнік станцыі Алькенікі Трахім Дзмітрыевіч Пылаеў. Так расчуліліся, быццам развітваліся з Ігнатам назаўжды.

А Ігнат трымаўся да апошняга. І толькі як сеў на сваё месца ў вагоне, прытуліўся тварам да акна, адчуў: слязіны міжволі выкаціліся з вачэй, паплылі па шкле. Разжаліла Юля са сваім чуллівым Пылаевым. Застаўся адзін-адзінюсенькі, а ўперадзе — далёкая дарога, невядомы горад, пакутлівыя выпрабаванні. Як здзюжыш, Ігнат?

Крыху больш як праз суткі варшаўскі поезд стомлена, быццам нехаця, сцішыў ход. Колы, адтанцаваўшы доўгую і марудную чачотку, павольна, нібыта падкрадаючыся, каціліся да жоўтай прадаўгаватай будыніны Варшаўскага вакзала. Раптам вагоны сутаргава здрыгануліся і сталі. У Ігната супынілася сэрца: няўжо гэта і ёсць Пецярбург?..



Аляксандр II у гэты час святкаваў дваццаціголдзе свайго царавання.

Па ўсіх губернях тагачаснай Расіі, у вялікіх і малых гарадах, мястэчках і вёсках, нястомна бомкалі царкоўныя ды касцельныя званы, склікалі спрацаваны люд на ўрачыстыя малебны. Святыя служкі добра пастаўленымі галасамі, як у меднага звана, услаўлялі міласцівага гасудара, заклікалі, прасілі веруючых верыць свайму ўладару.

Што ж выходзіла? Нават божыя служкі засумняваліся ў веры сваіх парафіян. Бо вера, кажуць, усяму мера. Але ж ёсць мера цярпенню і веры, подласці і ганьбе. І падняліся, узышлі, як свежыя парасткі вясною, новыя людзі ў Расіі з чыстымі намерамі і смелымі перакананнямі, з жыватворнай верай у сэрцы. Яны назвалі сябе народнікамі і рынуліся ў вёскі да мазольнага люду са сваімі светлымі ідэямі. Яны верылі: як бы нізка ні падала і ні разбэшчвалася грамадства, як бы ні таптані праўду, але ж дойдзе ўрэшце павальная распуста да сваёй крайняй меры, і ўздымецца праўда, уздымецца і паўстане ва ўсёй велічы, ва ўсёй сваёй святасці і сіле. Мужайцеся, добрыя людзі!

У пяцьдзесят адну губерню Расіі пайшлі маладыя прапагандысты-энтузіясты. Яны, маладое сумленне эпохі, усведамлялі сэнс і прызначэнне рэвалюцыі, таму што насілі яе ідэі ў сваім сэрцы, таму што пачалі смела выказваць яе словамі, праяўляць справамі.

А цар тым часам прадаўжаў абараняць свой падгнілы трон. Патапаў замяніў Шувалава на пасадзе шэфа жандараў. Тайны спіс паднаглядных у Расіі павялічыўся да 35 тысяч чалавек. З лёгкай рукі Аляксандра II крамольнікамі пачалі называць усіх іншадумцаў, усіх, хто ўвогуле задумваўся аб лёсе радзімы, аб сваім лёсе.

З чыстым, як расінка, намерам прыехаў у Пецярбург Ігнат Грынявіцкі.



Ён хацеў вучыцца, жадаў стаць верным сынам сваёй айчыны. Дваранін з мазольнымі рукамі прыехаў у сталіцу з народа, ён сам быў прадстаўніком яго, знаў душу народа, жыў яго бедамі і слязьмі.

Ігнат Грынявіцкі прыехаў у Пецярбург з далёкай губерні, якая добра ведала, помніла і яшчэ дыхала паветрам мужных паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, Яраслава Дамбро ўскага, Валерыя Урублеўскага, Сігізмунда Сераноўскага...

Аляксандр II святкаваў юбілей свайго царавання ў Лівадзіі. Грэўся пад паўднёвым сонцам. У зацішку кіпарысавых дрэў вырашаў з міністрамі важныя пытанні. Прымаў гасцей, піў вінаграднае віно. Чытаў данясенні Трэцяга аддзялення. І між тым падпісваў самыя розныя паперы, патрэбныя і не зусім.

Аляксандру II і Ігнату Грынявіцкаму да сустрэчы на Кацярынінскім канале заставалася пяць гадоў.

## ПОШУК ВЯСНЫ

Ігнат падхапіў чамаданчык і лёгкім крокам пайшоў берагам Абводнага канала, перайшоў мост і апынуўся на Царскасельскім праспекце. Па шырокай магістралі насіліся самыя незвычайныя экіпажы, зробленыя ў майстэрнях Лондана, Парыжа, Вены і майстрамі дамарослымі — гітары, дрожкі, брычкі, кібіткі, тарантасы, вазкі, перакладныя. Няўжо праўда, што па гэтым праспекце ездзіць у Царскае сяло сам цар? От зірнуць бы калі, які ў яго экіпаж, якія коні возяць, як кучар сядзіць? А можа, пашанцуе і ўбачыць самога гасудара. Хоць было б што расказаць, чым пахваліцца ў Грынявічах Вялікіх. Але ж Юльян наказаў не толькі ўбачыць Аляксандра II, а і спытаць у яго: да якога часу будзе жыць несправядлівасць на зямлі? Смелы ты, Юльян, пад бацькавым крылом. Прыедзь сам дый спытай. Паспрабуй найперш адшукаць яго во ў такім мурашніку, а тады яшчэ прабіся да яго, бо, відаць, сцяной ахоўваюць яго жандары і паліцэйскія.

Так, ідучы і раздумваючы, Ігнат неўпрыкмет выйшаў на развілку вуліц. На іх злучыне стаяў шырокі, з двума крыламі трохпавярховы будынак. Ігнат ад нечаканасці прыпыніўся. Перад ім узвышаўся Тэхналагічны інстытут. Ну што ж, Ігнат, Яўхімаў сын, уваходзь у храм навукі. І, як бы сказаў настаўнік латыні Дамброўскі, рабі тое, што робіш!

Адразу ж за інстытуцкімі дзвярыма яго спыніў строгі вокліч:

— Пропуск!

На Ігната пазіраў вусаты швейцар, чакаў тлумачэння.

— Я — паступаць... Дакументы з сабой. Во тут... — Ігнат кіўнуў на чамаданчык і крыху прыўзняў яго.

— Прайдзіце ў канцылярыю.

На скамянелым твары швейцара не здрыгануўся ніводзін мускул, як бы стаяў манекен, якога навучылі гаварыць некалькі патрэбных слоў.

У канцылярыі Ігната сустрэў чыноўнік у сінім фраку, і зноў жа з вусамі: якраз была мода на вусы і бараду.

— Паступаць прыехаў, — смела сказаў Ігнат чыноўніку.

— Дакументы.

Ігнат хуценька падаў метрыку, пасведчанне аб паходжанні, атэстат Беластоцкага рэальнага вучылішча.

Чыноўнік прачытаў прозвішча, падняў галаву, упіўся вачыма ў Ігната:

— У нас тут нядаўна вучыўся адзін паляк Грынявецкі Міраслаў. Ці не родзічамі будзеце?

— Маё прозвішча Грынявіцкі, — Ігнат зрабіў выразны націск на «і», сустрэўся вачыма з чыноўнікам і з той жа цвёрдасцю, каб запомніў і гэтак запісаў, дадаў: — А родам я не з Царства Польскага, а з Паўночна-Заходняга краю.

— Якой жа ты, браток, веры?

— Запісаны каталіком. Але веравызнанне ў нашым краі не заўсёды супадае з нацыянальным паходжаннем. Вы, спадзяюся, ведаеце пра дзейнасць уніятаў, іезуітаў на нашых землях?

Чыноўнік, крыху атарапелы ад такой дзёрзкасці навічка, якую хвіліну разглядваў яго, пасля аж пацiснуў ад непаразумення плячыма.

— Усюды пішуць, што ў вашым краі людзі цярплівыя, набожныя, незласлівыя. А вы?

— І я такі ж, — шчырай і добрай усмешкай Ігнат асвяціў пакой затхлай канцылярыі.

— Але ж палякі лічаць па-свойму, — не здаваўся чыноўнік. — Калі каталік, значыць — паляк.

— Я — літвін па міласці бога. Я маю сэрца і нашу сімпатыю да Царства Польскага настолькі, наколькі яго лёс звязаны з маёй радзімай.

Чыноўнік кіўнуў галавой, узяўся запісваць у журнал усе Ігнатавы дакументы з нумарамі і датамі выдачы, а яму загадаў пісаць заяву на імя дырэктара.

— Будзьце ласкавы, панове, назваць прозвішча дырэктара, — папрасіў Ігнат.

— Ведайце, паніч, з дваццаць сёмага ліпеня ў нас новы дырэктар, прафесар механікі Іван Аляксеевіч Вышнеградскі.

— Шчыры дзякуй вам, — Ігнат узяўся пісаць заяву аб прыёме, але час ад часу вяртаўся думкамі да чыноўніка: «Бач ты, вычытаў у паперах, што я дваранін, і ўжо паважліва называе панічом».

Ігнат старанна выводзіў на паперы тэкст прашэння:

«Пану Дырэктару Санкт-Пецярбургскага Практычнага Тэхналагічнага Інстытута ад закончыўшага курс Беластоцкага рэальнага вучылішча дваранiна Ігната Яўхімавіча Грынявіцкага.

Жадаючы паступіць пастаянным слухачом Інстытута на першы курс па механічнаму аддзяленню і прадстаўляючы Вам усе патрэбныя дакументы, маю гонар прасіць Вас, Пан Дырэктар, дазволіць мне трымаць уступныя экзамены...»

А ў гэты самы час вусаты чыноўнік канцылярыі дырэктара перачытваў інструкцыю міністра фінансаў і дэпартамента мануфактур і ўнутранага гандлю, у падпарадкаванні якіх знаходзіўся Тэхналагічны інстытут. Інструкцыі той ужо больш за дзесяць гадоў, яшчэ з часоў паўстання ў Польшчы і Паўночна-Заходнім краі, але ёю карысталіся, бо ніхто і не збіраўся адмяняць гэту дырэктыву.

Інструкцыя даводзіла: «Лік пастаянных выхаванцаў польскага паходжання, надалей да асобнага рашэння, не павінен перавышаць $^1/_{10}$ частку ўсіх паступаючых вучыцца ў інстытут. Мець неаслабны нагляд за маральным іх накірункам, неадкладна ўдаляючы тых з іх, якія па складу думак акажуцца палітычна ненадзейнымі. Строга захоўваць прынятае ў інстытуце правіла, каб слухачы пакідалі навучальную ўстанову адразу ж пасля заканчэння заняткаў і не мелі пастаянных зносін з выхаванцамі ўстановы...»

Чыноўнік закончыў чытаць, зірнуў на Ігната, які акуратна пісаў пра-





шэнне, акінуў яго сваім прафесійным вокам і, відаць, падумаў, што пра гэтага ліцвіна трэба абавязкова данесці пану дырэктару, а магчыма, і зрабіць запыт у Гродзенскую губерню аб яго добранадзейнасці.

— Вось прашэнне,— паднёс Ігнат паперу да чыноўніка.

— Добра, паніч, расклад уступных экзаменаў вісіць у калідоры. Так што міласці просім праявіць свае веды.

Нібыта халодным вецярком павеяла. Хто падможа, да каго прыхінуцца? Трэба шукаць аднадумцаў.

Вечарам пісаў першае пісьмо бацькам у Грынявічы Вялікія:

«Дарагія татуля, матулька! Вось я ў Санкт-Пецярбурзе. Уладкаваўся на кватэры з двума землякамі. З Іванам Ільяшуком, аказваецца, вучыліся разам у Беластоку. Ён толькі ніколі не казаў, што мае намер паступаць у Тэхналагічны. Родам з Бельскага павета, з Новаберазоўскага сельскага таварыства. А Карл Багушэвіч родам з Ваўкавыскага павета. Ёсць яшчэ хлопцы з Мінскай і Віцебскай губерняў, з Расіі, з Царства Польскага.

Навін пакуль мала. Трэба сур'ёзна рыхтавацца да экзаменаў. Патрабаванні, кажуць, высокія. Што ж, я гатовы. Трэба толькі праштудзіраваць яшчэ раз вучэбныя праграмы. Маліцеся за мяне...

Ваш паслухмяны сын Ігнат».

Іван і Карл ужо задавалі апетытнага храпака. Хацелася спаць і Ігнату, але ж карцела напісаць яшчэ адно пісьмо. Любая Марыся, задумаўся Ігнат, дзе ты цяпер, ці ўсю праўду даверыла пісьму, якое перачытваю штодня?

— Малады чалавек, ужо позні час. Ці гатовы плаціць за свечку? — нагадала гаспадыня.

— А-а, так-так, позна. Кладуся ўжо...

Ігнат хуценька сабраў паперы, дзьмухнуў на свечку.

Доўга не прыходзіў сон. Думаў-перадумаў пра ўсё. І раптам у сонным мроіве паўстаў перад ім сівы, як голуб, Юльян і перуновым голасам загрукатаў: «Уздыхаеш па Марысі, а тры капейкі пашкадаваў на свечку, не напісаў ёй пісьмо. Можа, пазычыць табе?..»

Ігнат расплюшчыў вочы. Карл моцна хроп. А ён не мог заснуць да раніцы...

Толькі пад заслону верасня склалася новае пісьмо. На гэты раз сувязному Антону Барэйшу ў Беластоцкае рэальнае вучылішча:

«Хрыстосе з табою, мой добры Антоне! Спяшаюся паведаміць, што мяне залічылі пастаянным слухачом Тэхналагічнага інстытута. А прафесары, Антоне, хаця і набожныя, а да малітваў глухія, ім падавай дакладнае вызначэнне законаў фізікі, тлумач тэарэмы з іх аксіёмамі, умей рашаць мудрагелістыя задачы. Віншуй мяне, Антоне, вытрымаў іспыты! Па алгебры, фізіцы і трыганаметрыі атрымаў выдатна. Па геаметрыі — вельмі добра. Вось і набраў я дзевятнаццаць балаў з дваццаці. Такіх усяго семнаццаць чалавек. Усіх нас адразу й залічылі студэнтамі. Радуюся ад душы, бо майго паступлення чакалі хваравітыя бацькі, брат, сёстры, уся наша радня. Выправілі на вучобу на астатнія сродкі. Вось радуюся і за сябе, і за іх.

А цяпер — просьба: мілы дружа, каб жа ты ведаў, як збалела маё сэрца па Марысі. Як бы хацелася сустрэцца з ёй на Пацалуевым мосце цераз раку Мойку. Так і перадай!

Хлопцы ідуць гуляць на Неўскі, і я спяшаюся перадаць пісьмо. Моцна абдымаю. Чакаю адказу. Твой Ігнат».

Праз семдзесят пяць дзён вучобы, 15 лістапада 1875 года, Ігната Грынявіцкага звольнілі з інстытута. Быў распушчаны ўвесь першы клас. Такой



падзеі інстытут яшчэ не ведаў, такіх крутых мер ніводзін дырэктар не прымаў.

Што ж здарылася?

Аднойчы ў аўдыторыі, дзе мелася прайсці рэпетыцыя па фізіцы, за некалькі хвілін да прыходу прафесара падняўся першакурснік, папрасіў цішыні:

— Сябры, што робіцца? Усе мы страшна пакутуем, але бяда ў тым, што не ўсе яшчэ зразумелі, што пакутуем. Замест таго, каб натхніць на вялікую навуку, дырэкцыя імкнецца загнаць нас у ярмо начотніцтва, зрабіць бурлакамі кніжных догмаў. Вось гэтымі рэпетыцыямі нас жывымі закавалі ў кайданы, каб не маглі ні пікнуць, ні дыхнуць, ні азірнуцца наўкол. Ці справядліва, браты?!

— Саша!.. Прафесар!..— выгукнуў ад дзвярэй студэнт, які ў гэты час сачыў за калідорам.

Саша змоўк, прысеў. У аўдыторыі павісла цяжкая цішыня. Кожны асэнсоўваў сказанае смельчаком. Усе, каго выклікаў прафесар да кафедры, адмаўляліся выходзіць, заяўлялі, што не паспелі падрыхтавацца да рэпетыцыі.

— Панове, што з вамі? — прафесар пачаў нервова хадзіць па аўдыторыі, зазіраць студэнтам у вочы.

Маўчанне ў адказ.

— Ну вось вы, выдатнік Грынявіцкі, таксама не гатовы?

Ігнат падняўся, перахапіў на сабе Сашаў позірк.

— Я таксама не падрыхтаваўся, пан прафесар.

— Чаму?!

— Не меў часу, пан прафесар... Не паспяваю...

— Гэта бунт!.. Я вымушаны далажыць дырэктару. Ён знойдзе для вас час!..

Ленц грымнуў дзвярыма.

Аўдыторыя зашумела. Вылучаўся басавіты голас з польскім акцэнтам:

— Нам тшэба трымацца!

Тут жа да першакурснікаў прыляцеў наглядчык, прафесійным нюхам сышчыка пачаў адшукваць завадатара. Аўдыторыя маўчала. І следчыку нічога не заставалася, як пакарыстацца сваёй уладай:

— Заклікаю, панове, не паўтараць падобных бунтаў. Прашу разважнасці, павагі і строгага выканання інстытуцкіх правіл. Папярэджваю: пры паўторы прымем самыя строгія меры!..

Студэнцкія забастоўкі ўсё-ткі паўтарыліся. Цяпер ужо праяўлялі характар першакурснікі з чацвёртага аддзялення. На рэпетыцыі па статыцы і асновах дынамікі студэнты заявілі прафесару Ільіну:

— Мы не гатовы да адказаў, бо на гэтым тыдні ў нас ужо прайшлі рэпетыцыі па хіміі і фізіцы...

Праз тры дні — зрыў рэпетыцыі па матэматыцы.

Падзеі ў інстытуце дасягнулі свайго апагея на рэпетыцыі па фізіцы. Да прыходу прафесара паспелі выказацца некалькі студэнтаў. Ігнат пазіраў на сваіх натхнёных і адчайных аднагодкаў, слухаў іх палымяныя прамовы і нечакана для сябе зрабіў адкрыццё: бог ты мой, гэта ж і ёсць, пэўна, тыя новыя людзі, пра якіх чытаў у рамане Чарнышэўскага. Смелыя, гатовы распяць сябе на крыжы, памерці за людзей. Змагаюцца не за сябе, а каб усім была палёгка. Хочуць вучобы творчай, а не прыгонніцкай.

Спадабалася Ігнату і адзінства аўдыторыі. Ніхто не выдаў прамоўцаў,

хаця дамагаліся гэтага і наглядчык, і дырэктар. Тады начальства пачало сваё следства.

Дырэктар Вышняградскі склікаў экстраннае пасяджэнне вучэбнага камітэта — свой вышэйшы заканадаўчы орган. Рашэнне прынялі аднагалосна: звольніць увесь першы курс, а праз два дні прыняць нанава ўсіх, хто пісьмова падасць заяву, падпарадкуецца інстытуцкім правілам. На данясенні дырэктара міністр фінансаў зрабіў ласку напісаць: «Згодзен».

Два дні лічыўся звольненым і студэнт Ігнат Грынявіцкі. Пераварушыў у памяці ўсе пражытыя гады. Што рабіць?

Падаць заяву — значыць прызнаць інстытуцкі дэспатызм, стаць паслухмяным рабом кабальнай вучэбнай праграмы. А яшчэ горш — здрадзіць хлопцам, якія раскрылі вочы на праўду.

Не падаць заяву — значыць забіраць дакументы. А што далей? Абрываюцца жыццёвыя пуцявіны, гасне святло, наступае цемра, з якой, відаць, ходу ўжо няма. Што скажуць татуля, мама? А Марыся, Ян, Антон, Юльян?..

Не, трэба падаваць заяву, трэба заставацца студэнтам і шукаць выйсця нейкім іншым шляхам. Але абавязкова шукаць!

Звольнілі тады з інстытута дваццаць пяць чалавек. Сярод іх — Саша, Аляксандр Міхайлаў. Праз пяць гадоў у казематы Петрапаўлаўскай крэпасці трапіць адзін з кіраўнікоў рэвалюцыйнай партыі «Народная воля» Аляксандр Дзмітрыевіч Міхайлаў. Надзейны вартаўнік, ахоўнік, «дворнік» партыі, пра якога таварышы з павагай гаварылі, што такіх людзей на манетным двары не чаканяць, папросіць чыстай паперы і напіша нарыс свайго кароткага жыцця. Назаве так: «Справаздача рускаму грамадству і народу ў тых маіх учынках і імі кіруючых матывах і меркаваннях, якія ўвайшлі састаўною часткаю ў падзеі апошніх гадоў, што мелі сур'ёзны ўплыў на рускае жыццё». Ён пачне свой нарыс з падзей на першым курсе Тэхналагічнага інстытута.

А тады, пяць гадоў назад, на паведамленні міністра фінансаў аб падзеях у Тэхналагічным інстытуце цар Аляксандр II напісаў рэзалюцыю: «Спадзяюся, што падобныя беспарадкі пры пільнасці і строгасці цяперашняга начальства не будуць узнаўляцца». Цар памыляўся. Прынятыя нанава першакурснікі, сярод якіх быў і Ігнат Грынявіцкі, прайшлі першы ўрок выпрабавання. Большасць з іх гатовы былі да новых выпрабаванняў і ахвяр...

# СЦЯГ НА ПЛОШЧЫ

Зразумеў Ігнат, і цар на зямлі гэткі ж, як Пярун на небе. Вылятае штораніцы з Зімняга палаца і шугае над усім царствам, выглядвае, дзе людзі, якія думаюць лепш за яго. І нішчыць, паліць, трушчыць усё, што вышэй і лепш за яго. І дапамагаюць яму святыя служкі Гарцукі. Возяць на сабе грамавыя жорны і наганяюць на зямлю вятрыскі, завеі, мяцеліцы.

Ігнат думае пра сваё: чаму дапусцілі бог Пярун і цар Аляксандр II, што адзін са студэнтаў універсітэта звярнуўся ў таварыства апекуноў жывёлы з заявай узяць яго пад абарону? Сярод студэнтаў рукапісна распаўсюджваецца яго просьба: «Не маючы ні капейкі за душой, харчуюся чым бог пашле, звяртаюся да шаноўнага таварыства ўзяць нада мною апеку, падтрымаць маё жывёльнае існаванне, бо я не толькі жывёліна, якая хоча есці, а істота разумная».



Ігнат ідзе па ранішняму Пецярбургу, пазірае ўверх і ўніз і ловіць сябе на думцы, што шумная і вялізная сталіца стала для яго такой жа знаёмай і вядомай, такой жа зразумелай, як і Грынявічы Вялікія.

У роздуме Ігнат і не прыкмеціў, як апынуўся сярод абжорных радоў на Сянной плошчы каля рынку. Тут ужо думаць некалі, а глядзець ва ўсе вочы, бо незнарок ускочыш у які вялізны кацёл, зварышся разам з парасячымі вантробамі, і ў гэтым галодным гармідары скажуць, што так і трэба было. Не, варыцца яму ў катле пакуль рана, а вось адшукаць сваіх хлопцаў ды пасёрбаць з імі нечага гарачага якраз самы час.

Ігнат вельмі хваляваўся: ці прыйдуць яго знаёмыя рабочыя? То тут, то там пабліскваюць нумарныя бляхі гарадавых. Не напароцца б на іх. Бо царскія гарцукі не проста ходзяць, а прынюхваюцца, прыслухоўваюцца. Кожнаму хочацца выслужыцца, зарабіць паболей срэбранікаў.

Ігнат пахадзіў па рынку, папіў чаю, але Астапа і Івана нідзе не знайшоў. «Нешта здарылася», — падумаў. Цяпер адзін накірунак — Казанскі сабор, які знаходзіцца ў якой паўвярсце ад царскага гняздоўя.

Ды раптам, зусім ужо нечакана для Ігната, дагнаў яго расчырванелы Астап. З ім яны некалі пазнаёміліся ў механічнай майстэрні інстытута.

— Даруй, Ігнась, спазніўся.

— Астап, дружа мой, — Ігнат абняў яго.

— Гаспадыня толькі раніцай перадала тваю пісулю. А я адразу здагадаўся, Ігнась, бо ўвесь малады Піцер знае пра сённяшні мітынг.

— Я рады, Астап, што мы разам.

— Раскажы што, Ігнась? — папрасіў Астап.

Ігнат здаўмеўся: рабочы хлопец хоча ведаць нешта большае пра падзею, якая мяркуецца адбыцца. А што можа расказаць Ігнат, завадатар гэтай сустрэчы з ім, калі ён сам амаль нічога не ведае. І зрабіўшы выгляд, што не зусім зразумеў яго, прапанаваў:

— Раскажу табе пра гісторыю Казанскага сабора, хочаш?

— Я люблю розныя гісторыі.

— Сабор Казанскай Божай Маці, каб ты знаў, Астап, задумала яшчэ царыца Анна Іаанаўна. Напачатку гэта была звычайная царква. А імператар Павел вырашыў на гэтым месцы збудаваць сапраўдны храм.

— Які ёсць і цяпер?

— Так, гэты самы. Павел паклаў першы камень у падмурак. Будавалі яго майстры Расіі дзесяць гадоў. Канцамі-дугамі са ста трыццаццю дзвюма калонамі выходзіць сабор на плошчу. Вышыня яго разам з крыжам трыццаць тры сажні. А ведаеш, што за святыя ўпрыгожваюць порцік к Неўскаму праспекту?

— Не ўсіх ведаю.

— Дык ведай: Іаан Хрысціцель, Андрэй Першазваны, князь Уладзімір і Аляксандр Неўскі. А ў самім саборы пахаваны фельдмаршал князь Кутузаў-Смаленскі. Кажуць, ён у 1812 годзе пасля малебну ў саборы адправіўся прымаць начальства над войскамі.

— А хто сёння пакладзе прынародна крыж на сябе? — зноў вярнуўся да свайго пытання Апанас.

— Паглядзім... Зірні, як на фэст збіраюцца людзі!

З усіх накірункаў да Казанскага сабора збіралася моладзь — рабочыя і студэнты. Ігнат і Апанас трымаліся разам да ўваходу ў сабор, а там разышліся.

Паліцыя прыкмеціла незвычайных багамольцаў. Яе звычайна хвалявала купка маладых: мроіўся загавор. А тут, у адным месцы, сабралася да

дзвюх тысяч юнакоў і дзяўчат. На ўсялякі выпадак да сабора паслалі некалькі ўзмоцненых нарадаў гарадавых. Пачалі сюды збіраць дворнікаў.

А пад цыліндрычнай вежай купала з пілястрамі ў гэты час ішоў незвычайны малебен. Нехта заказаў малітву «во здравие» раба божага Мікалая. І большасць «веруючых» ведала, за каго маліцца, — за Мікалая Гаўрылавіча Чарнышэўскага.

Ігнат пазіраў то на абраз Казанскай Божай Маці, то на царскія дзверы, над якімі зіхацеў надпіс: «Бог», і ў яго, як звычайна, нараджалася свая малітва:

— Госпадзі, дапамажы рабу твайму Мікалаю Гаўрылавічу вярнуцца ў Пецярбург, надай яму здароўя і светлага розуму, каб растлумачыў нам, маладым, да канца, што гэта робіцца ў свеце, дзе шукаць праўду і як змагацца за яе. Божа праведны, падмажы і твайму паслушніку Ігнату, выведзі мяне, божа, на шлях праўдзівы, да людзей, якія ўзялі сабе ганаровае імя — рэвалюцыянеры, якія задумалі здзейсніць ператрус у загніўшай нашай імперскай дзяржаве. Я не помслівы, божа, але ёсць багата за каго заступіцца, абараніць іх годнасць, вярнуць ім імя і сапраўднае званне. Надай мне смеласці і рашучасці, госпадзі!..

Пасля малітвы ўсе пачалі выходзіць. Нястрымная чалавечая плынь пацякла ўправа, дзе мелася нешта адбыцца. Раптам Ігнат убачыў, як на крыло каланады лоўка ўскочыў высокі юнак у студэнцкай фуражцы. Чарнявыя вочы яго занепакоена прабеглі па натоўпе, ён сцягнуў фуражку з галавы, сціснуў у кулаку.

— Сябры! — сказаў прамоўца, голас яго ўздрыгнуў, пераадолеўшы хваляванне, прадоўжыў: — Мы вось толькі што адслужылі малебен за здароўе Мікалая Гаўрылавіча Чарнышэўскага. Усім, хто тут сабраўся, даўно пара ўсвядоміць, што гэты пакутнік не проста пісьменнік, ён — наш ідэйны правадыр. Ён пакутуе зараз у Сібіры за тое, што смела назваў цара-«вызваліцеля» падманшчыкам...

Што ўсчалося! Гарадавыя пачалі штурхацца да прамоўцы, але дзе ж ты праб'ешся праз такую шчыльную чалавечую сцяну. Тады яны давай хапаць дэманстрантаў, заломваць рукі і цягнуць у свае кібіткі.

А над Казанскай плошчай упершыню так смела і адкрыта гучала палітычная прамова:

— Сябры! Мы сабраліся тут, каб заявіць перад усім Пецярбургам, перад усёй Расіяй, што сцяг, узняты Чарнышэўскім, у надзейных руках. Вось ён!..

Над галовамі дэманстрантаў малады рабочы ўзняў чырвонае палотнішча. Ігнат прачытаў на ім: «Зямля і Воля». Некалькі галасоў падхапілі заклік: «Няхай жыве зямля і воля! Няхай жыве сацыяльная рэвалюцыя!»

— Сябры! Патрыёты ў нас бывалі, — выкрыкнуў напаследак прамоўца. — А цяпер Расіі патрэбны грамадзяне!.. І яны нараджаюцца!.. Няхай жа множацца рады свядомых грамадзян!..

Далей гаварыць стала небяспечна. Прамоўцу падаў руку хлопец, які ўвесь час стаяў побач, і той лоўка скокнуў у натоўп і растварыўся ў ім. Ігнат ледзь не атарапеў: пазнаў ахоўніка прамоўцы — гэта быў выключаны з інстытута тэхнолаг Аляксандр Міхайлаў. Дык вось дзе ён!

Ігнат не сумняваўся, што Аляксандр адзін з тых, хто арганізаваў гэты мітынг. Значыць, ёсць арганізацыя, ёсць кіраўнікі. Аднаго з іх Ігнат ведае, разам паступалі ў інстытут, разам вучыліся два з паловай месяцы. Хацелася крыкнуць: «Саша!.. Пачакай!.. Я з табой!..»

Але цяпер, зразумеў Ігнат, адзіны накірунак — ратавацца. Натоўп разам з прамоўцам пачаў адступаць да Казанскага завулка, а там — «замятаць сляды», хто як мог. Ірвануў што ёсць сілы і Ігнат.



Бег ад прыліву сіл: ёсць арганізацыя, ёсць партыя, ёсць смелыя кіраўнікі! Шукаць іх! Прасіцца да іх!..

Бег з жаданнем уцячы ад гарадавых, бо як жа будзе недарэчна, калі напачатку шляху, не паспеўшы нічога зрабіць, трапіць у лапы да звяроў. Не, бобікі, не дамся, не жадаю гніць у вашых казематах.

Бег па знаёмых вуліцах і завулках, паміж дамамі, лаўкамі і падхвальваў сябе: так дасканала вывучыў сталіцу, а ўсё таму, што ніколі не карыстаўся ні конкай, ні возчыкамі.

Калі адчуў, што небяспека ззаду, сцішыў бег, перайшоў на звычайны ход. Пачаў асэнсоўваць усё, што адбылося. Трэба запомніць дзень 6 снежня 1876 года, Казанскую плошчу і смелага прамоўцу. Хто ён? Як прозвішча? От бы адшукаць Сашу Міхайлава!..

Студэнцкі тэлеграф працаваў спраўна. І ўжо праз нейкі час усё студэнцтва Пецярбурга — універсітэт, тэхналагі, медыкі, гарнякі — ведалі, што прамоўцам на мітынгу быў студэнт Горнага інстытута Георгій Пляханаў, а сцяг узняў шаснаццацігадовы рабочы Яша Патапаў. Ахоўваў прамоўцу былы тэхнолаг Аляксандр Міхайлаў.

Ведалі студэнты і тое, што на плошчы паліцыя ўчыніла самаўпраўства, сапраўдную бойню. Каля трыццаці чалавек пасаджаны ў «предварилку», вядзецца пракурорскае даследаванне, рыхтуецца яшчэ адзін палітычны працэс.

Што рабіць у такой сітуацыі?

Ігнат адчуваў: барацьба толькі пачынаецца, будуць сутычкі. Трэба рыхтавацца да бою, да самаахвярнасці. Усё часцей прыгадваў Ігнат даверлівыя аповеды дзядзькі Дамброўскага пра паўстанне Каліноўскага. Тады нібыта было ўсё: смелыя і разумныя атаманы, правільныя заклікі, зброя. Не хапала галоўнага — падтрымкі масавай, свядомасці рэвалюцыйнай.

Дык вось з чаго, вырашыў Ігнат, трэба пачынаць: разабрацца, усвядоміць і зразумець сітуацыю, каб разумна выкарыстаць сілы і веды. Вельмі ж хораша сказаў Георгій Пляханаў: «Расіі цяпер патрэбны грамадзяне!»

Ігнат запісаўся ў імператарскую Публічную бібліятэку, што ўзвышалася на рагу Вялікай Садовай і Неўскага праспекта. Гэты будынак мудрасці даўно цікавіў студэнта Грынявіцкага. З прагнасцю накінуўся ён на публіцыстыку Фляроўскага аб становішчы рабочага класа ў Расіі, на гістарычную хроніку Худзякова пра Старажытную Русь, прачытаў «Бацькі і дзеці» Тургенева, «Гістарычныя пісьмы» Міртава, «Фізіялагічныя малюнкі» Бюхнера.

Але Публічная бібліятэка з яе шчодрым багаццем усё-ткі не магла задаволіць жаданні бунтарскага розуму. Яму прапанавалі стаць членам тайнай студэнцкай бібліятэкі. Ігнат не задумваючыся ўнёс узнос — важкі, зароблены сваімі рукамі, сярэбраны рубель. Цяпер і яму перападалі кнігі, якія «велено высочайше» не выдаваць студэнтам у Публічнай бібліятэцы.

А жыццё тым часам давала свае адказы. Вясной 1877 года па Расіі пракацілася трывожная пагалоска аб палітычным працэсе, на якім судзілі адразу пяцьдзесят чалавек. На судзе выступіў з прамовай рабочы суконнай фабрыкі Тарнтона, селянін вёскі Навінская Смаленскай губерні Пётр Аляксееў. Спачатку рукапісна, а пасля праз вольную друкарню «Зямля і Воля» сенсацыйная прамова дайшла да студэнцкіх бібліятэк Пецярбурга. Словы рабочага глыбока запалі ў Ігнатава сэрца. Прамову Пятра Аляксеева вывучыў на памяць.

«Рускаму рабочаму народу застаецца спадзявацца толькі на самога сябе і ні на кога болей, апроч як на адну інтэлігентную моладзь. Яна адна пабрацку працягнула нам рукі. Яна адна адгукнулася, падала свой голас на ўсе пачутыя сялянскія стогны Расійскай імперыі... І яна адна неразлучна пойдзе з намі да таго часу, пакуль падымецца мускулістая рука мільёнаў рабочага люду і ярмо дэспатызму, агароджанае салдацкімі штыкамі, разляціцца ў прах!..»

Напрадвесні прагучала славутая прамова рабочага з заклікам да цара: трэба вызваліць ад прыгону народы Расіі!

А ў гэты самы час Аляксандр II паехаў вызваляць ад турэцкага гнёту балканскія народы. Пачалася руска-турэцкая вайна.

Ігнат Грынявіцкі ў маі закончыў здаваць экзамены за другі курс. Адзнакі, відаць, адлюстроўвалі яго настрой, яго імкненні да новых, не толькі праграмных ведаў. Калі за першы курс, год назад, ён здаў усе экзамены на «4» і «5», то на экзаменах за другі курс атрымаў «выдатна» толькі па любімым прадмеце — чарчэнню і маляванню.

Варшаўскі вакзал праводзіў студэнта Грынявіцкага ў Гродзенскую губерню. Радасны і трывожны быў яго настрой. У вушах гучалі вершы невядомага яму аўтара, якія студэнты перапісвалі і лічылі за гонар ведаць на памяць (то былі вершы Мікалая Марозава, аднаго з рэдактараў тагачаснай газеты «Зямля і Воля»):

Родина-мать! Разверни свои силы,  
Жизнь пробуди средь молчанья могилы!  
Встань! Угнетенье и тьму прекрати  
И за погибших детей отомсти!..

◆

Ва ўсе гарады і паветы, ва ўсе губерні Расіі цыркулярна ішло пісьмо (паўторна!) пад грыфам «вельмі сакрэтна» з Канцылярыі яго вялікасці імператара за подпісам міністра ўнутраных спраў:

«Факты, выяўленыя некалькімі дазнаннямі, праведзенымі апошнім часам у Санкт-Пецярбурзе і Маскве, прымушаюць звярнуць асаблівую ўвагу на сацыяльна-рэвалюцыйную прапаганду, у якой замешаны маладыя людзі... У злачыннай дзейнасці збліжэння з рабочым і заводскім насельніцтвам з мэтай сацыяльнай прапаганды вылучаюцца выхаванцы Санкт-Пецярбургскага Тэхналагічнага інстытута. Улічваючы гэта, Трэцяе аддзяленне Асабістай яго Імператарскай Вялікасці Канцылярыі, па ўзгадненню з Міністрам унутраных спраў, палічыла неабходным...»

Далей з чыноўніцкай пунктуальнасцю было распісана, якія выдаваць студэнтам дакументы, дзе рэгістраваць, як арганізоўваць за імі нагляд. «Кожны слухач Тэхналагічнага інстытута, які прабудзе ў адным якім-небудзь месцы звыш трох дзён, абавязаны прад'явіць свой білет мясцоваму паліцэйскаму начальству, якое робіць на ім належны надпіс». Чамусьці да тэхнолагаў былі асаблівыя прыдзіркі. Ці спакойна, без нагляду, праводзіў лета ў сваіх Грынявічах Вялікіх Ігнат Грынявіцкі?

Тым часам пад непасрэдным кантролем цара-«вызваліцеля» Аляксандра II размяркоўвалася «жыллё» ў казематах Петрапаўлаўскай крэпасці. Пад яго кантролем праходзіў і «працэс 193-х». Цар уласнаручна праглядваў пратаколы кожнага пасяджэння суда, узмацняў пакаранне. Ён, мусіць, карыстаўся метадам кардынала Рышальe: «Напішыце мне якіх-небудзь сем слоў, і я з гэтага зраблю крымінальны працэс, які павінен закончыцца пакараннем вас смерцю».

Ад імя ўсіх 193-х падсудных, сярод якіх былі Андрэй Жалябаў, Соф'я Пяроўская, Мікалай Марозаў, Леў Ціхаміраў, Міхаіл Грачэўскі, Мартын Лангас, Таццяна Лебедзева, Мікалай Саблін, Андрэй Франжолі, Анна Якімава, выступіў на судзе Іпаліт Мышкін.





Пад вогненнае грукатанне рускіх кананад на Балканах, пад салдацкія перадсмяротныя крыкі: «За бацюхну цара-вызваліцеля!» — у пакутлівай і зняволенай Расіі гучаў смелы голас падсуднага Мышкіна, таго самага Мышкіна, які ездзіў у Сібір і спрабаваў вызваліць Чарнышэўскага:

— Рэвалюцыя можа быць здзейснена не інакш, як самім народам, пры ўсведамленні ім, у імя чаго яна здзяйсняецца. Цяперашні лад павінен быць звергнуты...

Аляксандр II закончыў вайну з Турцыяй мірным дагаворам у Сан-Стэфана. Балгарыя на поўнач ад Балкан прызнавалася незалежнай, на поўдзень — пад назвай Румеліі — атрымала аўтаномію, але заставалася ў складзе Турэцкай імперыі. Незалежнасць атрымала Сербія, а Чарнагорыя — порт на Адрыятычным узбярэжжы. Расія ж узнагароджвалася тым, што ёй вярталася Бесарабія...

Крывавая вайна знешняя закончылася.

Бескампрамісная вайна ўнутраная заглыблялася.

# РАЗВІТАННЕ І СУСТРЭЧА

Ён вельмі хваляваўся ў той вечар, бо першы крок да тайнай сходкі мог стаць апошнім. Ды не толькі па-за сценамі «тэхналожкі», а ў сценах Аляксееўскага равеліна. Але цікава пабачыць і паслухаць жывога героя нядаўняга палітычнага працэсу «193-х». Ігнат, мастак па натуры, уяўляў сабе яго партрэт: волат, з барадой і вусамі і, напэўна, з доўгімі валасамі і ў сініх акулярах, якіх вельмі палохаюцца ў Трэцім аддзяленні, бо бяруць у людзей з такой «правінай» падпіску, каб надалей «сіх адметных прыкмет нігілізму не насілі».

А ў пакой, у якім сядзелі за самаварам некалькі тэхнолагаў і студэнтаў, увайшла маладзенькая, вельмі прывабная дзяўчына. Ігнат атарапеў: падалося, што ўбачыў сваю даўнейшую Марысю. Пачаў хвалявацца аж да ліхаманкі, як некалі ў Беластоку, калі першы раз убачыў Марысю. Гэтак жа трэсла, калі даведаўся пра яе замужжа. І вось цяпер перажываў у сваёй душы нешта ўжо вельмі пякуча-знаёмае.

Не верылася, што «прапагатарам» можа быць вось такое шчупленькае, бялявае з блакітнымі вачыма дзяўчо. Адразу вылучаўся яе высокі лоб, тонкія рысы твару, ружовыя поўныя губы. Як вясновы ветрык над зялёнай нівай, прашапацела ў пакоі імя Соф'і Пяроўскай. Некалькі чалавек кінуліся наліваць ёй чай. А яна прысела за стол, правяла строгім позіркам па кожным з прысутных, і хлопцы зразумелі: не проста прыгажуня, а ўладарка сэрцаў.

— Да неба высока, да цара далёка — дык што ж нам рабіць, скажыце? — нечакана пачала яна размову, кароткая асляпляльная ўсмешка прабегла па твары, а вочы заставаліся сур'ёзныя.

— Трэба ўзбройвацца, як Вера Засуліч, — знайшоўся адзін са студэнтаў.

— Стрэлы пакуль не наш метад. Зямлю і волю думаем здабываць іншай зброяй — свядомасцю, ідэйнай перакананасцю. Ад стрэлаў могуць гінуць людзі, а ідэі бессмяротныя. Яны рухаюць Сусвет...

У пакоі гучаў голас-званочак. Ігнат даверыўся яму, бо ў ім чулася тая перакананасць і вера, якія, па евангельскаму выслоўю, зрушваюць горы.

І яшчэ адчуў Ігнат: Соф'я Пяроўская гаварыла не толькі ад сябе. Яна ж некалькі разоў паўтарыла: «што нам рабіць?», «не наш метад». Гэтым заваявала поўны давер слухачоў. Ігнат зразумеў гэта па сабе і па той паважлівай атмасферы, якая асталявалася ў пакоі, па той упэўненасці, з якой гаварыла прапагандыстка.

Было пачуццё, што яны ў нечым вельмі аднолькавыя, нават родныя. Пазней, калі сталі працаваць у адной арганізацыі, пацвердзілася і гэта: маці Соні Варвара Сцяпанаўна Весялоўская родам з Магілёўскай губерні, дачка беднага памешчыка, сваёй строгай прыгажосцю і славянскай натуральнасцю захапіла некалі ў палон адстаўнога афіцэра Льва Мікалаевіча Пяроўскага. Стаўшы пасля пецярбургскім віцэ-губернатарам, муж дэспатычна здзекаваўся з яе. Гэта паслужыла таму, што Соф'я пакінула сям'ю.

У той вечар Ігнат упершыню так блізка бачыў, адчуваў і слухаў сапраўднага рэвалюцыянера. Соф'я Львоўна, як паважліва называлі яе студэнты, прывабіла іх да сябе не толькі дзявоцкім хараством, а і жыццёвым аўтарытэтам. Яна валодала нямецкай мовай і для сябе перакладала «Капітал». Была ў гуртку чайкоўцаў, «хадзіла ў народ» у Самарскую губерню. Сядзела ў турме.

Ігнат успрымаў кожнае слова Пяроўскай, нібыта яны даўно жылі ў яго душы, ды аніяк не маглі набыць гучання. А дзяўчына смела гаварыла ўслых пра самае запаветнае:

— Адусюль пахне мёртвым сном, няма думаючай дзейнасці. Нам трэба расшавяліць народ! Хто гэта зробіць, калі не маладая ды бурлівая сіла!..

Пад канец сустрэчы Соф'я Львоўна звярнулася з просьбай:

— Вы сёння тут — і гэта ўжо паўсправы. Баязліўцы не здольны і на гэты крок. Вы задумаліся, значыць, жывяце. Адчуваю, магу даверыць вам адну справу. Наша партыя выпускае свой часопіс «Зямля і Воля». Гэта неймаверна цяжка і рызыкоўна. І трэба, каб слова партыі як найшырэй пайшло ў народ. Дапамажыце нам...

Пяроўская разгарнула пачак часопісаў, пачала вылучаць жадаючым. Падышоў і Ігнат:

— Мне, калі ласка, дайце некалькі. На нашым курсе ёсць надзейныя хлопцы...

Соф'я Львоўна так пранікнёна зірнула яму ў вочы, што ў Ігната ёкнула сэрца. Сваім позіркам яна, здаецца, бачыла ўсё навылёт. Мо нават прыкмеціла і тое, што вельмі спадабалася студэнту Грынявіцкаму, бо ён зачырванеўся, а ўслых сказала:

— Калі часопіс упадабаюць вашы камрады, падкінем яшчэ.

— Я згодзен, — хуценька адказаў Ігнат, яму не хацелася парываць з чароўнай сувязной, ён даўно ішоў насустрач такім людзям.

— Вось і добра, Ігнат!

Бралі часопісы ўсе студэнты, што прысутнічалі на сходцы. Паверылі Пяроўскай.

Праз некалькі дзён у чарцёжнай аўдыторыі тэхнолагаў пад чарцёжнымі дошкамі з'явіліся забароненыя экземпляры «Зямлі і Волі».

Што ўсчалося! Адны пачалі з цікавасцю перагортваць старонкі падпольнага выдання, чытаць. Другія істэрычна вішчалі, нібыта іх уджаліла гадзюка. А трэція — ох ужо гэтыя трэція! — паляцелі дакладваць начальству.

У інстытуце існаваў такі парадак: за кожным студэнтам у чарцёжнай аўдыторыі было замацавана сваё месца. Чарцяжы і малюнкі выносіць з інстытута катэгарычна забаранялася. Толькі ў выключных выпадках, а то і з дазволу дырэктара. Так што ўстанавіць, на чыіх сталах ляжалі часопісы «Зямля і Воля», для наглядчыка не ўяўляла цяжкасці. Усё гэта ўлічыў механік Саша Самусь. Ён хуценька сабраў усе экземпляры, папрасіў:



— Толькі маўчок. Я вас выручу.

Самусь выбег у паўзмрочны калідор, спусціўся па шырокай лесвіцы на другі паверх. Там спакойна паходжваў па калідоры Ігнат Грынявіцкі, вядомы на ўвесь інстытут як задуменны маўчун і выдатны чарцёжнік.

— Ігнат, выручай! — Самусь паказаў часопісы. — Усё б абышлося, ды паляцелі гаўкалы да начальства. Бяда чакаецца.

Ігнат усміхнуўся і гэтым супакоіў Сашу, сказаў ціха:

— За мной!

Яны зноў падняліся на трэці паверх і ў канцы калідора, у месцы злучэння яго з памяшканнем былой царквы, прыпыніліся. Са сцяны вытыкалася круглая печ, якой даўно ўжо не карысталіся. Ігнат хуценька адчыніў дымавую трубу, загадаў:

— Кідай!

— А не згараць, Ігнат!

— Абы нам з табой не пагарэць...

Хвілін праз пяць у чарцёжную аўдыторыю ўляцеў старшы наглядчык Мамбелі. Студэнты завочна называлі яго «наш Мітрафан».

— Дзе?.. Хто асмеліўся?.. — злосна шыпеў наглядчык.

— Што здарылася, Мітрафан Аляксандравіч? — спакойна спытаў Саша Самусь.

— Вы мне павінны растлумачыць, а не я вам. Дзе анархісцкая літаратура? — Мамбелі кінуўся аглядваць чарцёжныя сталы.

Студэнты толькі ўсміхаліся. Наглядчык злаваўся. А даносчыкі чырванелі.

Ноччу ва ўсіх студэнтаў, якія знаходзіліся ўдзень у чарцёжнай, быў зроблены вобыск. І ён нічога не даў наглядчыку. Яму, прафесійнаму сышчыку, не дадзена было разгадаць, што ўсе экземпляры «Зямлі і Волі» захоўваліся ў інстытуце, каля царквы, у надзейнай схоўні Ігната Грынявіцкага...

На другі дзень Ігнат сядзеў за чайным сталом у кватэры на трэцім паверсе па Царскасельскім праспекце. Вакол — хлопцы-аднадумцы. Даверліва гучаў голас трэцякурсніка Грынявіцкага:

— Таварышы, надыходзіць юбілей Тэхналагічнага інстытута: спаўняецца пяцьдзесят гадоў. Рыхтуецца да юбілею дырэкцыя. Рыхтавацца трэба і нам. На нашым курсе прайшла сходка.

— Што вырашылі?

— Момант зручны: у зале будуць усе выкладчыкі, дырэкцыя, высокія госці. — Ігнат сцішыў голас. — Мяркуецца, што сам Аляксандр II наведае інстытут, «соблаговолит» пабачыць, як жывуць, у якіх умовах вучацца, чаму бунтуюць студэнты.

— І прафесары, — дадаў Браніслаў Беразоўскі.

— Правільна, і прафесары, — пагадзіўся Ігнат і расказаў: — Прафесар хіміі Фёдар Фёдаравіч Бельштэйн нядаўна падаў на імя дырэктара рапарт, у якім паведамляе, што частыя захворванні студэнтаў ад забруджанага паветра ў хімічнай лабараторыі. Цягі не дзейнічаюць...

Размова далей пайшла больш канкрэтная. Кожнаму хацелася ўнесці сваю прапанову.

Пасля «тайнай вячэры» Ігнат Грынявіцкі завітаў да Антона Барэйшы, які з дзевятнаццаццю баламі на прыёмных экзаменах паступіў у Тэхналагічны інстытут.

— Ну, што вырашылі? — спытаў першакурснік.

— Гарачыя галовы накідалі шмат прапаноў. Як толькі будзе? Ці ўсе падтрымаюць?..

— Наша група падтрымае! — рашуча адказаў Антон.

— Пахвальна, дружа.

— Дык што ж усё-ткі? — Антон трымаў у кулаку сваю рэдкую клінковую бародку.

— Сакрэтаў, Антон, ад цябе няма, — на правах старшакурсніка разважліва сказаў Ігнат. — Вырашылі сваімі паводзінамі на ўрачыстасцях праявіць крайнюю незадаволенасць існуючымі парадкамі ў інстытуце. А калі ўдасца, то і выступіць...

Антон выйшаў праводзіць сябра. Ішлі па Загараднаму праспекту. Туды-сюды мітусіліся павозкі, карэты. Сустракаліся людзі ў самых розных апратках. Шэрае неба адбівалася на шэрых тварах. Занепакоеныя крочылі Ігнат з Антонам, але іх непакой даўно перасягнуў межы асабістых клопатаў.

Усе з трывогай чакалі юбілею. І вось наступіў дзень 28 лістапада 1878 года. Студэнтаў сагналі ў інстытуцкую царкву. Законавучыцель Стаўроўскі сказаў прамову, якую закончыў абвяшчэннем мнагалецця імператару і ўсяму царствуючаму дому. У натужлівай цішыні лёгка заўважыць, як студэнты не зусім дружна падтрымалі здравіцу.

Новую акцыю непрыхільнасці да ўрада праявілі ў студэнцкім прывітанні. Калі высокія госці накіраваліся паглядзець вучэбныя памяшканні, пры ўваходзе іх сустракалі выхаванцы ўсіх курсаў, і адзін са студэнтаў, з якім папрацаваў не толькі дырэктар, а і студэнты, знарок піскливым голасам выпаліў без запінкі прамову:

— У гэты ўрачысты для нашай установы дзень мы, выхаванцы Тэхналагічнага інстытута, назаўсёды ўдзячныя заснавальніку яго нябожчыку графу Канкрыну, шчаслівыя тым, што бачым унука яго ў сценах інстытута, і пакорна просім ваша сіяцельства прыняць наша прывітанне...

Студэнты заўсміхаліся, а ўнук Канкрына, таксама граф, амаль аднагодак студэнтам, сур'ёзна і крыху напышліва адказаў:

— Дзякую вам, панове, за ваша прывітанне. Што чуў ад вас, я перадам майму бацьку. Гэта вельмі ўзрадуе яго...

Камедыя, намечаная студэнтамі на гэты дзень, удавалася. Яна закончылася тым, што студэнты адмовіліся пайсці на ўрачысты абед, арганізоўваемы дырэкцыяй. Папрасілі грошы за абед перадаць у студэнцкую касу ўзаемадапамогі.

На другі дзень урачыстасць перанеслі ў інстытуцкую залу. Уваход туды мелі толькі госці і прафесары. А дзе ж студэнты? Ім дазволілі заняць пакой з левага боку залы, які быў адгароджаны ад залы драўлянай рашоткай. Атрымлівалася: студэнты — за кратамі. Ігнат, калі ўціснуўся ў гэты пакой, горка зразумеў, як здзекліва абышлася адміністрацыя з імі і на гэты раз, як яны, баязліўцы пры ўладзе, усё-ткі палохаюцца студэнтаў.

Напачатку праспявалі малітву «Днесь благодать святого духа». Пасля міністр фінансаў уручыў царскія ўзнагароды. Дырэктар Вышняградскі атрымаў брыльянтамі ўпрыгожаную табакерку з партрэтам на ёй цара, прафесар Крупскі — ордэн Святой Анны. Не забыты былі і старшы наглядчык Мамбелі з памочнікам Аўсянікавым. Цар тым самым дзякаваў і падтрымліваў сваіх «гарцукоў».





Ігнат упершыню так глыбока задумаўся, які кошт узнагарод, за што іх можна атрымаць. Выходзіць, за сабачую службу — і аклады высокія і ордэны. А тым, хто корміць, адзяе і абслугоўвае гэту зграю, — дулю пад нос. Гэта ў лепшым выпадку, а ў горшым — краты, Сібір. Па прынцыпу: лепш задушыць, чым вярнуць да жыцця.

Пазіраў Ігнат на партрэт Аляксандра II, які вісеў на сцяне, над сталом прэзідыума, і думаў: «Вісець бы табе, бацюхна, не ў рамцы, а на шыбеніцы. Бач, які фанабэрысты, каршуковы позірк, распушыў вусы». Ігнат да таго ўявіў цара вялізным катом, што аж праслухаў, як міністр фінансаў пачаў чытаць царскае пасланне. Слухай, коцік, — Ігната дома ўсе называлі коцікам за яго ласкавасць і пяшчоту, — пра што вуркоча кот Аляксандр: «Мы спадзяёмся, што выхаванцы, кіруючыся пачуццямі адданасці трону...» А Ігнат думаў сваё: «Не, толькі вольнасць можа зраўняць людзей і аб'яднаць у адзінае, маналітнае брацтва. Як жа выпрасіць у ка́та волі?..»

Тым часам у зале пачалі зачытваць прывітанні ад розных міністэрстваў, інстытутаў, вучылішчаў. Студэнты, як і дамовіліся, пачалі знарок ціснуцца да драўлянай агароджы, як бы надта цікава слухаць нудных прамоўцаў, як бы ўсе разам жадалі апынуцца ў зале, дзе вісеў партрэт цара, дзе драмаў у крэсле прынц Альдэнбургскі. Націснуў сваім шырокім плячом і Ігнат. Адчуў, як пад напорам пачала патрэскваць драўляная агароджа.

А выступаў якраз дэпутат Папоў ад Маскоўскага аддзялення савета гандлю і мануфактур:

— Жадаючы выказаць сваё віншаванне, Маскоўскае аддзяленне вітае інстытут, як расаднік...

У гэты міг драўляная рашотка хруснула, і натоўп студэнтаў уваліўся ў залу, пачуўся свіст. Атарапелы дырэктар Вышняградскі падхапіўся з крэсла. З-пад акуляраў гнеўна бліснулі вочы, твар нельга адрозніць ад белых бакенбардаў.

— Што адбылося, панове?.. Супакойцеся!..

Каля студэнтаў сцяной сталі наглядчык Мамбелі з памочнікам, выкладчыкі, свяшчэннік.

Студэнты зноў паслухмяна стоўпіліся ў адведзеным ім пакоі. Урачыстасць парушылася. І высокія госці, здаецца, толькі тады прыкмецілі студэнтаў, іх прысутнасць і нейкае дачыненне да юбілею.

Папову зноў далі слова, і ён прадоўжыў прывітанне з абарванай фразы:

— Маскоўскае аддзяленне вітае інстытут, як расаднік карысных дзеячоў на ніве айчыннай прамысловасці...

Ігнату вельмі захацелася чхнуць. Ён не вытрымаў і моцна, аж Вышняградскі здрыгануўся, чхнуў. У студэнцкім натоўпе ажывіліся, нехта рагатнуў.

Праз шэсць дзён вучэбны камітэт пад старшынствам Вышняградскага абмяркоўваў студэнцкую сходку, якая адбылася адразу ж пасля юбілею інстытута. Адным з тайных дырыжораў сходкі быў Ігнат Грынявіцкі.

Вучэбны камітэт дзесяццю галасамі «за» і трыма «супраць» прыняў рашэнне звольніць «бунтаўшчыкоў» Канаплянскага, Каўфмана, Вярмішава, Бафталоўскага, Шахтахцінскага. Зроблены ўнушэнні слухачам: Антону Барэйшу, Рыгору Мірапольскаму, Казіміру Сасноўскаму, Уладзіміру Явароўскаму... Ігната Грынявіцкага пазбавілі стыпендыі і пакінулі на другі год на тым жа курсе.

Роўна праз месяц, 25 чэрвеня, у канцылярыю Санкт-Пецярбургскага Тэхналагічнага інстытута прыйшло сакрэтнае пісьмо ад прыстава другога стана Быхаўскага павета Магілёўскай губерні. Размашыстым почыркам (ве-

дайце нашых!) прыстаў, а мо пісаў пад яго дыктоўку які павятовы грамацей, даносіў:

«У давераны мне стан прыбыў дваранін Гродзенскай губерні Ігнацій Яўхімаў Грынявіцкі, асоба даволі падазроная ў палітычнай благанадзейнасці. З адносіны пана Быхаўскага павятовага спраўніка ад 7 чэрвеня за № 68 я асвядомлены, што Грынявіцкі — слухач Санкт-Пецярбургскага Тэхналагічнага інстытута, а Грынявіцкі пра гэта нічога не заяўляе і пасведчання інстытута на адпачынак мне не прад'явіў. З гэтай прычыны пакорна прашу канцылярыю інстытута паведаміць мне тэрмінова, адрасуючы адказ у мястэчка Прапойск, ці выдавалася інстытутам у гэтым годзе Грынявіцкаму пасведчанне для выезду яго на радзіму на час канікулаў. Калі не выдавалася, то чаму? Ці лічыцца ён студэнтам інстытута і, урэшце, усё тое, што вядома інстытуту аб паводзінах і палітычнай благанадзейнасці ўпамянутага Ігнацiя Яўхімава Грынявіцкага».

Крыху раней Магілёўскі губернатар даносіў у Трэцяе аддзяленне, што ў губерні вядзецца шырокая прапаганда гуртком, які ўзначальвае былы студэнт вучылішча правазнаўства Стэфан Язерскі, высланы з Пецярбурга. Па тым часе ўзнік і ў Горы-Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі гуртох, які быў звязаны з магілёўскім, сувалкскім гурткамі. Не ведаў прыстаў другога стана Быхаўскага павета, што Ігнат Грынявіцкі і прыязджаў да іх, каб пазнаёміцца, наладзіць сувязь. Прывозіў ім «Зямлю і Волю».

Не ведалі гэтага і ў канцылярыі Тэхналагічнага інстытута, бо на сакрэтны данос Быхаўскага станавога прыстава адказалі толькі праз два тыдні, у мінорным спакойным тоне.

На гэты раз навальнічныя хмары, злосныя вятрыскі ўдала абмінулі Ігната Грынявіцкага. Яго, прызнанага інстытуцкага «бунтаўшчыка», беражліва ахоўвалі спагадлівыя студэнты. Але ж сярод іх завіхаліся і «стукачы», здольныя ў любы міг выдаць лідэра. І калі царскія служкі кінуцца раскручваць вузельчык Ігнатавых «крамольных злачынстваў», то дарога ў яго адна — Петрапаўлаўка ці Сібір, адкуль ужо байцы не вярталіся.

Трывогу адчуваў сам Ігнат. За яго, смелага і надзейнага тэхнолага, клапаціліся кіраўнікі «Народнай Волі» Андрэй Жалябаў, Аляксандр Міхайлаў, Соф'я Пяроўская. Рашэнне было аднагалосным: рызыкаваць далей нельга, агент партыі Ігнат Грынявіцкі павінен пакінуць інстытут і перайсці на нелегальнае становішча.

У канцылярыю Тэхналагічнага інстытута Ігнат прынёс прашэнне. Прыгожым і роўным почыркам, без усялякіх лішніх ялейнасцей, як даўнымдаўно абдуманае, вырашанае і абмеркаванае, ён напісаў у ім:

«Яго Правасхадзіцельству Пану Дырэктару
Санкт-Пецярбургскага Тэхналагічнага Інстытута ад студэнта
IV курса механічнага аддзялення Ігнацiя Грынявіцкага

Прашэнне.

Не жадаючы заставацца ў Інстытуце, гонар маю прасіць Ваша Правасхадзіцельства выдаць мне мае дакументы, а таксама пасведчанне аб прабыванні ў Інстытуце.

Ігнацій Грынявіцкі. 30 мая 1880 года».

Ігнат Грынявіцкі, Яўхімаў сын, стаў мешчанінам з-пад Вільні Мікалаем Сцяпанавічам Ельнікавым...



Аляксандр II з Царскага Сяла выехаў у Лівадзію праз Ковель, Луцк, Адэсу, Мікалаеў, Севастопаль. Як ніколі трывожныя думкі апаноўвалі цара: трыумфуе крамола, укараняецца і няма сродкаў вытравіць яе. Што дзеецца?

Грэючыся ў Лівадзіі, цар першым чынам зачытваў данясенні генераллейтэнанта Селіверстава, якога пакінуў у Пецярбурзе часова выконваючым абавязкі начальніка Трэцяга аддзялення і шэфа жандараў. Вось адно з іх: «З цяжкім і засмучаным пачуццём бачу сябе абавязаным усёпадданейша данесці Вашай Імператарскай Вялікасці, што ўчора з'явіўся першы нумар новай падпольнай газеты пад назвай ,,Народная Воля"». Рэзалюцыя цара: «Так, яно, сапраўды, і сорамна, і непрыемна». Данясенне з Пецярбурга: «Усе пошукі, арганізаваныя апошнім часам для адкрыцця друкарні, у якой з'явілася падпольная газета, не прывялі да жаданых вынікаў». Цар: «Вельмі шкада!»

Ігнат Грынявіцкі, цяпер ужо Мікалай Ельнікаў, крочыў поруч з тымі, хто ўзначальваў рэвалюцыйную барацьбу з царызмам. Развітаўся з інстытутам, пайшоў на сустрэчу з людзьмі, якія імкнуліся запаліць у Расіі сонца вольнасці. Ігнат узыходзіў на вышыню свайго палымянага жыцця...

## БУРА ХАЙ ГРЫМНЕ!

Новы год нарадавольцы сустракалі разам на Забайкальскім праспекце, у памяшканні дынамітнай майстэрні. Спявалі песні, жартавалі, расказвалі смешныя гісторыі. А Жалябаў вельмі хораша вытанцоўваў гапака.

Новы год — адзіны вечар, калі яны дазволілі сабе пагуляць. Ды хто ж паверыць, што яны так бесклапотна весяліліся? Вось разлілі віно, самкнулі чаркі, павісла ў пакоі цішыня.

— Сябры мае! — вочы Жалябава зухавата свецяцца, а на твары неспакой і сур'ёзнасць. — За тысяча восемсот восемдзесят першы год!..

І гаварыць больш нічога не трэба. Усе разумеюць свайго лідэра. Усе ведаюць: партыя «Народная Воля» ўзяла рашуча курс на перабудову грамадства, на палітычныя змены ў Расіі, і новы год павінен прынесці новыя зрухі.

На той навагодняй вечарынцы прысутнічаў і Ігнат Грынявіцкі. К таму часу ён быў не проста нарадавольцам, а дзейсным і актыўным байцом партыі. Разам з Жалябавым, Пяроўскай, Какоўскім, Франжолі, Целалавым уваходзіў у цэнтральны рабочы гурток, які арганізоўваў, накіроўваў работу ўсіх гурткоў сярод рабочых.

Ігнат Грынявіцкі — актыўны ўдзельнік стварэння і выпуску «Рабочай газеты». Ён у групе, якую стварыла Соф'я Пяроўская, па назіранню за выездамі цара. Ён у складзе баявой дружыны па ахове арганізацыі ад шпіёнаў. Ён сувязны «Народнай Волі» з гурткамі ў Беларусі і польскай гмінай у Пецярбурзе.

Палякі, праўда, прад'яўлялі калі-нікалі Ігнату прэтэнзіі, што ён не так, як з рускімі, актыўна супрацоўнічае з імі. Грынявіцкі меў на гэты дакор сваю цвёрдую пазіцыю:

— Я працую на карысць свабоды народа, з якім рос і пакутаваў, які бязмежна люблю. Я літвін па міласці бацькоў і бога!..

У тое памятлівае навагодняе свята Жалябаў моцна абшчаперыў Ігната, вывеў на круг:

— Пакажы, Міхаіл Іванавіч, як умееш танцаваць!

Грынявіцкі засаромеўся, правёў далонню па русявай чупрыне, кіўнуў гарманісту:

— Іграй барыню!

Нібыта віхор уляцеў у пакой: Ігнат лоўка прыстукваў чаравікамі, рукамі элегантна дачырккваўся да абцасаў, пасля пайшоў упрысядкі.

Усе пляскалі ў ладкі, падахвочвалі танцора:

— Ай ды малайчына!.. Вось табе й ціхоня!..

Успацелага, задыханага, шчаслівага Ігната Андрэй Жалябаў папрасіў сказаць тост. Ігнат пасур'ёзнеў. У пакоі павісла цішыня. Ігнат разумеў: трэба такое і так сказаць, каб было зразумелым і каб не парушыць правіл канспірацыі.

— Давай, Ельнікаў! — падштурхнуў яго Андрэй Жалябаў.

Соня Пяроўская міла падміргнула-падбадзёрыла Ігната, і ён пачаў гаварыць:

— Сябры мае, сёння вельмі зорнае неба. У нашай вёсцы вераць: зоркі на небе запальваюцца ў гонар тых людзей, якія прыгожа жылі на зямлі. Я шчаслівы, што сёння з вамі. Я за прыгожае жыццё на зямлі!..

— За нашу бацькаўшчыну! — Ігнат пачуў чыстую беларускую мову і аж сцепануўся. Перад ім быў і тут жа некуды знік блакітнавокі хлопец. Запомніў: пышныя валасы, рэдкая русявая бародка. Дык ёсць жа і тут землякі!

— Скажы, Коцік, дзе так навучыўся танцаваць? — пацікавілася Геся Гельфман. Яго многія так і называлі — Коцік. Гэта была яго падпольная клічка.

— Пад бацькаву скрыпку, — адказаў Ігнат.

— А спяваць умееш?

— Народныя песні люблю, сумныя і вясёлыя. Змалку наслухаўся ў забытым богам краі.

— Досыць, досыць распытваць, — пайшоў на выратаванне Ігната Андрэй Жалябаў.

Ён узяў Грынявіцкага пад руку, выйшлі ў другі пакой.

— Ігнаська, хвалю! — Жалябаў не хаваў сваёй сімпатыі да хлопца.

— Я рады, што даверылі мне пабыць у вашай кампаніі.

— Мы ўсе — адна сям'я. Ведай гэта, Ігнат! — Жалябаў моцна сціснуў Грынявіцкага за плячо, пасля наблізіў да сябе: — Ёсць просьба, Ігнат.

— Слухаю ўважліва.

— Трэба падзяжурыць на вуліцы. Каб нам сённяшняя весялосць бокам не вылезла. Такое магу даверыць цяпер толькі табе.

— Гуляйце спакойна, — запэўніў Ігнат.

Ён ускінуў на чорны касцюм свой шэры палітончык, шыю абкруціў шалікам і неўпрыкмет для ўсіх шмыгнуў за дзверы.

Цяжкая доля ў канспіратара. Толькі ўдумацца: трэба помніць штодня, штоміг — ты не Грынявіцкі, а Ельнікаў, ты не Ігнат Яўхімавіч, а Мікалай Сцяпанавіч, а яшчэ — Міхаіл Іванавіч, Коцік. Павінен бачыць, чуць і рабіць толькі тое, што патрабуе партыя. І на ўсе гэтыя строгія патрабаванні — добраахвотнік. Да ўсяго гэтага прывяла асабістая перакананасць, поклічнае сэрца.

Ігнат адчуў, што светлы месячык шле яму свае прывітанні.

З двара на Забалконскім праспекце Грынявіцкі выйшаў апошні. Замест дворніка сустракаў і праводзіў кожнага да чыгуннай брамкі. Разыходзіліся па аднаму і парамі: Геся Гельфман з Мікалаем Каладкевічам, Соня Пяроўская з Андрэем Жалябавым, Юра Багдановіч з Аняй Якімавай, Мікалай Кібальчыч, як звычайна, адзін...

Кожны знайшоў удзячнае слова для Ігната Грынявіцкага. А Соня Пяроўская шапнула самае галоўнае:



— Заўтра на тым жа месцы.

— Буду, — паслухмяна адказаў Ігнат.

Жалябаў адпусціў жарт, які надоўга асеў у памяці Грынявіцкага:

— Ідучыя на смерць вітаюць цябе!

Ігнат позна вярнуўся ў сваю далёкую і халодную кватэру. Спаць не хацелася. Пачаў прыгадваць, як яшчэ зусім нядаўна жыў разам з братам на вось гэтай кватэры. Як добра: было каму даверыць свае тайны! Ян па тым часе быў выключаны з Пятроўскай земляробчай і ляснной акадэміі за «спробу арганізаваць студэнцкую сталоўку», што не дапускалася існуючымі правіламі. Апроч таго яго западозрылі ў зносінах з людзьмі «палітычна неблаганадзейнымі». Браты багата пра што марылі, праводзілі разам бяссонныя ночы. Эх, як цяпер не хапае брата. З кім падзяліцца, што дзеецца на душы? Глыбока сядзела такое адчуванне: нібыта наступіў не проста новы год, а ён, Ігнат Грынявіцкі, пераступіў нейкі парог невядомага, зрабіў крок да нейкай таямніцы. Менавіта ў гэтым, 1881, годзе павінен наступіць, адбыцца нейкі рашучы пералом...

Заўтра — новая вахта. Як сказала Соф'я? «Заўтра на тым жа месцы».

Заўтра, а гэта значыць ужо сёння, ён пасля абеду выйдзе са свайго пакоя. На ім будзе найлепшы касцюм, белая накрухмаленая кашуля з чорнай, пад колер касцюма, бабачкай, паліто з бобрыкавым каўняром, кашнэ, трысцінка. Усё гэта набыта на сродкі партыйнай казны, каб прыстойна выконваць ролю назіральніка. Паходкай задаволенага інтэлігента пакіруе ў бок Зімняга палаца. Увесь знешні атрыбут патрэбен для жандараў. Для іх важна, як апрануты чалавек, наколькі ён багаты, каб прымаць рашэнне: «Пушчаць ці не пушчаць».

Ігната ў такім адзенні ніхто не затрымае, будуць нават паклоны, калі хто з падхалімаў-жандараў не вытрымае яго суровага позірку. Жандар, калі не ведае, хто перад ім, якога роду і звання, дзейнічае па вельмі прымітыўнаму спосабу: лепш перагнуцца, чым недагнуцца.

Каля Аляксандраўскай калоны Ігнат прыпыніцца, з цікаўнасцю будзе разглядваць помнік, а на самай справе — чакаць дзяўчыну. Што разглядваць гэту каланчу? На яе столькі ўгрохалі сродкаў, што ўся яго Гродзенская губерня цэлы год ела б хлеб.

Урэшце да калоны падыдзе элегантная дзяўчына — гэта Соф'я Пяроўская. Знешне ўсё прыстойна і міла: кавалер прыгожа абыходзіцца са сваёй дамай, пра нешта зацікаўлена гутарыць, захапляюцца харастовам царскага палаца. І толькі яны самі ды яшчэ некалькі чалавек у партыі ведаюць іх сапраўдныя намеры. Ім трэба высачыць: калі, у які дакладна час, з якога пад'езда, з кім і на колькі выязджае цар.

З гэтай мэтай створаны спецыяльны назіральны атрад. У яго складзе — Пяроўская, Грынявіцкі, Рысакоў, Алавеннікава, Тычынін. Назіранні вядуцца кожны дзень па ўстаноўленаму наперад раскладу. І абавязкова — па два чалавекі: так лягчэй ухіліцца ад шпікаў. Пары назіральнікаў чаргаваліся кожны дзень. Гэта зноў жа для маскіроўкі. Нешта важнае рыхтуецца, здагадваўся Ігнат. Але ж да пары да часу павінен ведаць толькі тое, што ведаеш.

Якім жа будзе царскі маршрут 1 студзеня 1881 года? Ці парушыць Аляксандр II свой рэжым і маршрут? З такімі думкамі засынаў Ігнат Грынявіцкі, сын Яўхімаў з Грынявіч Вялікіх. У першы дзень новага года выпала яму заступіць на вахту з самой Соф'яй Пяроўскай.

Усё здарылася так, як ён і прыкідваў. Яны сустрэліся з Соняй каля Аляксандраўскай калоны. Весела павіталіся, нават паслалі навагодняе вітанне вартаўніку — палацаваму грэнадзёру, які сумна таптаўся каля чатырохкутнай рашоткі. Той сціпла ўсміхнуўся маладым людзям, а яны доўга і зайздросна пазіралі на калону, аглядвалі царскі Палац, нібыта бачылі ўпершыню, і так радаваліся, як бы больш прыемнай хвіліны не мелі ў сваім жыцці.

У гэты час стрыманая на эмоцыі, не вельмі гаваркая Соня расказвала Ігнату самыя дасціпныя жарты, якія гучалі на навагодняй вечарынцы. Яму верылася, хацелася верыць, што Пяроўская прыемна з ім, што недзе далёка ў яе душы схаваны сардэчныя пачуцці да яго. Няхай ён прыдумаў такое, але адно ўяўленне аб гэтым дапамагала яму пераадольваць нягоды канспірацыі, надавала надзеі ў безнадзейныя моманты, улівала настрою, натхнення, веры ў правату той высокай мары, якой прысвяціў жыццё.

Яны ішлі подручкі па Дварцовай плошчы, і Пяроўская нечакана спытала:

— Ігнась, ты кахаў калі-небудзь?

— Мне здаецца, ува мне пастаянна жыве жаданне, прага да кахання...

— Ігнаська, я заўжды адчуваю ў табе паэта, але ж не ўхіляйся ад пытання.

— Сказаць чэсна, без канспірацыі?

— Толькі так. І няхай пачуе Дварцовая плошча.

— У Беластоку закахаўся быў у Марысю. Думаў, яна Вера Паўлаўна, якую апісаў Чарнышэўскі. Памыліўся...

— Бацькі знайшлі ёй багатага?

— Відаць, так... Толькі не веру, што багацце зрабіла яе шчаслівай. Салавей у клеці не спявае...

— Эх, Ігнась, усё чалавечае: каханне, гонар, сумленне, праўда — усё гэта ў клеці трымаецца. А вунь і галоўны ключнік выпаўзае...

Пяроўская і Грынявіцкі прыпыніліся, пазіралі на Зімні палац. З сярэдзіны яго, з вялікай брамы, выехала карэта. Вакол коннікі. Усе, хто быў на плошчы, як бы замерлі. А міма іх белыя коні галопам праносілі царскі экіпаж. Цар ціха не ездзіў. Нібыта палохаўся вуліцы, людзей. Нібыта ехаў па краі вулкана, з якога ў любы міг магла ашчэрыцца вогненная лава.

Гасударава карэта кіравала ў Летні сад. Гэты маршрут назіральнікам «Народнай Волі» вядомы. А колькі прадоўжыцца яго прагулянка, куды цар паедзе пасля?

Соф'я і Ігнат паспяшаліся за карэтай...



Аляксандр II у паніцы: 5 лютага 1880 года адбыўся выбух у Зімнім палацы. Ён спазніўся на яго на якіясь лічаныя хвіліны. Збіраўся ісці ў сталоўку, але госці затрымліваліся, ён чакаў іх. У гэты час і адбыўся выбух пад царскай ядальняй.

— Крамола! — першае, што вырвалася з вуснаў цара.

Манарх не памыліўся: выбух наладзіў рабочы Сцяпан Халтурын, які працаваў сталярам пры царскім палацы. Накіроўвалі і падрыхтоўвалі замах народавольцы Андрэй Жалябаў і Аляксандр Міхайлаў.

Для барацьбы з крамолай цар утварыў вярхоўную распарадчую камісію. Яе ўзначаліў «хітры ліс» Лорыс-Мелікаў.

Няўпэўнены і раздражнёны Аляксандр II звярнуўся да Дзяржаўнага сената і святога Сінода з кароткай прамовай:



— Спадзяюся, што Бог нас не пакіне. Маліцеся разам са мною, і Гасподзь выведзе нас з таго цяжкага становішча, у якім мы цяпер знаходзімся. Бог ды выратуе нас усіх! На яго ўскладаю, як заўсёды, усю сваю надзею. Ды будзе воля Яго!..

Яго «богам» па тым часе стаў Лорыс-Мелікаў, які абвясціў сваю галоўную задачу: задушыць крамолу!

Аляксандр II прыняў тэрміновыя меры, на якія быў здатны, — пачаў мяняць «вернападданых». Міністра народнай асветы графа Талстога замяніў на генерала Сабурава. Обер-пракурорам святога Сінода паставіў свайго прыбліжанага юрыста, выхавацеля наследніка, натхніцеля крайняй рэакцыі Пабедаcostsава...

Не парушаючы сваёй шматгадовай звычкі, Аляксандр II выехаў летам у Лівадзію. Адтуль «пожаловал» Лорыс-Мелікаву ордэн Андрэя Першазванага. Цар у рэскрыпце да ўзнагароды напісаў: «Настойліва і разумна прытрымліваючыся на працягу шасці месяцаў указанага мною шляху да ўціхамірання грамадства, усхваляванага дзёрзкасцю зламыснікаў, вы дасягнулі такіх паспяховых вынікаў, што стала магчымым калі не зусім адмяніць, то значна змякчыць дзеянні часова прынятых надзвычайных мер, і цяпер Расія можа зноў спакойна ступіць на шлях мірнага развіцця».

Цар памыляўся і на гэты раз. Ён вярнуўся ў Пецярбург пад Новы год. За кожным яго крокам у сталіцы пачаў сачыць атрад назіральнікаў «Народнай Волі», які ўзначальвала Соф'я Пяроўская. Актыўным выканаўцам гэтага партыйнага задання стаў Ігнат Грынявіцкі...

## ВЫБУХ ЛЯ КАНАЛА

За чатыры дні да галоўнай падзеі ў пакоі Ельнікава на вуліцы Сімбірскай у доме № 59 сабраліся Андрэй Жалябаў, Соф'я Пяроўская, Мікалай Рысакоў, Цімафей Міхайлаў, Іван Емяльянаў.

Жалябаў і Пяроўская, фактычныя кіраўнікі «Народнай Волі», вырашылі сустрэцца з чатырма хлопцамі, якіх выканаўчы камітэт прызначыў на ролю кідальшчыкаў снарадаў. Кандыдатаў у кідальшчыкі, ці, як іх яшчэ называлі, мятальшчыкі, набралася больш за пяцьдзесят чалавек. Доўга прыкідвалі: каму даверыць?

Ад гэтага выбару, ад цвёрдасці і мужнасці выканаўцаў волі партыі залежаў поспех справы, да якой даўно рыхтавалася «Народная Воля». Усе члены выканкома, а яго пасяджэнні ў тыя дні праходзілі на канспіратыўнай кватэры па Вазнясенскаму праспекту, дзе гаспадарамі былі прызначаны Вера Фігнер і Рыгор Ісаеў, аднадушна вырашылі: сярод удзельнікаў замаху на цара не павінна быць ні яўрэя, ні паляка, бо пачнуцца пагромы гэтых народаў, і царскія дыпламаты не прамінуць выкарыстаць такі факт, каб апраўдаць дэспатызм.

Кіпеў самавар у пакойчыку Ігната. У адзінае акенца даўно зазірала зорнае неба. Непадалёк стаяла, закутая ў тоўшчу лёду, маўклівая, але гатовая ўзарвацца ад вясновага разводдзя шырокая Нява. Даўно спала гаспадыня кватэры, удава Артамонава. Толькі на кухні брынчэла посудам маладая кухарка, салдацкая ўдава Акуліна Смялкова. Яна, ведаў Ігнат, не ляжа, пакуль не пойдуць госці. Ёй трэба прыбраць самавар, сказаць «дабранач» яму.

Ігнат адчуваў: падабаецца ён Акуліне, маўклівай і добрай маладзічцы. Яна, як і ён, гаротная, бяздомная, няшчасная. Шкадаванне Акуліны абарочвалася яе сімпатыяй да пастаяльца. Яна пачала ненадакучліва аказваць Ігнату сваю пяшчоту, увагу, а гэта яго раздражняла, бо, здавалася, кухарка сочыць за ім: калі выходзіць з кватэры, калі прыходзіць, хто да яго завітвае. Падалося, што яна ціха раўнуе да ўсіх, асабліва жанчын, якія наведвалі Ігната.

Гасцей Ігнат пасадзіў каля стала так, каб Акуліна, калі ўвойдзе, не змагла ўбачыць іх твары. Гаварылі ціха, дый не толькі таму, што размова канспіратыўная, а быў ужо позні час. Жалябаў і Пяроўская тактоўна і ўмела давялі да хлопцаў рашэнне выканкома, скіравалі іх настрой на рашаючы крок.

На развітанне Андрэй Жалябаў падышоў да Ігната, глыбока зазірнуў у вочы і гэтым позіркам сказаў усё: «На цябе спадзяюся, Ігнаце!», а ўслых вымавіў:

— Адпачывай, Міхаіл Іванавіч, няхай сняцца добрыя сны!..

Андрэй Жалябаў, як брату, падаў руку Ігнату, а пасля прыгарнуў да сябе, паляпаў рукой па плячы:

— Да заўтра, Ельнікаў!

Яны, атрымліваласл, развіталіся назаўжды. Назаўтра Жалябаў і Пяроўская разам выйшлі з дому. Андрэй не вярнуўся вечарам. А існавала правіла ў канспіратараў: да дванаццаці ночы, дзе б ні быў, вяртацца на кватэру. Не прыйшоў, значыць — бяда.

У той жа дзень Лорыс-Мелікаў спяшаўся данесці цару: «Усепадданейшым абавязкам лічу давесці да Вашай Імператарскай Вялікасці, што вечарам арыштаваны Трыгоні (ён жа «Мілорд») і суправаджаючая і нежадаючая назваць сябе другая асоба. Хаця па ўсіх прыкметах у асобе гэтай можна пазнаваць Жалябава, але, да канчатковага высвятлення, не бяру на сябе смеласці сцвярджаць гэта...»

Што рабіў у той дзень Ігнат Грынявіцкі?

Вядома: у 13.00 Грынявіцкі, Міхайлаў, Рысакоў і Емяльянаў сустрэліся ў рэстаране Дэтроа, пасядзелі разам за абедзенным сталом. Кожны меў іншае імя і прозвішча. У жыцці кожнага чакалася нешта такое, што павінна рэзка змяніць цяперашняе становішча. Пагаварылі, абмяняліся думкамі, як лепш і калі сабрацца заўтра, каб ехаць у ваколіцу Пецярбурга на правядзенне пробнага ўзрыву снарада.

У той дзень Ігнат не прыехаў начаваць на Сімбірскую, дарэмна яго чакала Акуліна. Дзе ён быў?

Працаваў на Малой Садовай, у сырнай лаўцы Кобазевых. Там, пад гэтым прозвішчам, гандлявалі сырамі нарадавольцы Юрый Багдановіч і Ганна Якімава. З іх лаўкі вёўся падземны падкоп пад вулічны брук Малой Садовай. Па гэтай вуліцы, як устанавіў назіральны атрад, кожным нядзельным днём праязджаў Аляксандр II, накіроўваючыся ў Міхайлаўскі манеж на развод. Тут, на рагу Неўскага і Малой Садовай, і вырашылі рабіць падкоп, каб устанавіць міну.

Пра гэта ведалі нямногія. Ігнату Грынявіцкаму даверылі такую тайну, можа, не да канца, не ў дэталях, ды гэтага ніхто і не патрабаваў. Яму даверылі капаць падземны ход.

Астатак ночы Ігнат правёў у свайго сябра Антона Барэйшы. Не было ва ўсім Пецярбурзе больш блізкага чалавека, чым Антон. Нейкі час яны нават жылі разам на адной кватэры. Вялікая і шыкоўная раскоша для канспіратараў! Сябрам было пра што пагаварыць. Ігнат шукаў такой сустрэчы, бо прысутнічала ўсярэдзіне нейкае незразумелае пачуццё развітання.

28 лютага, субота. Як дамовіліся зараней, у дзесяць гадзін раніцы на рагу Неўскага і Міхайлаўскай сустрэліся Кібальчыч, Грынявіцкі, Міхайлаў і Рысакоў. Селі ў конку, даехалі да Смольнага інстытута, а там перайшлі Няву, накіраваліся ў бліжэйшы лясок. Кібальчыч яшчэ раз давёў хлопцам сістэму свайго ўзрыўнога апарата. Пазнаходзілі камяні, прыкладна фунтаў па чатыры, пад вагу ўзрыўной бляшанкі, пачалі трэніравацца.

Вярнуліся з «палігона» пасля шаснаццаці. Усе ўжо ведалі: заўтра аперацыя. Трэба ўбачыцца з Жалябавым, ён жа прызначыў сустрэчу на Цялежнай. Цярпліва чакалі важака. Ніхто ж яшчэ не ведаў, што Жалябаў ужо арыштаваны.

У сілу ўступала новая дамоўленасць (звычайна абгаворвалася зараней некалькі варыянтаў любога рашэння): збірацца заўтра, 1 сакавіка, тут, на Цялежнай, у восем гадзін раніцы. З тым і разышліся.

— Начуйце сёння дома, хлопчыкі, — папрасіла гаспадыня канспіратыўнай кватэры Геся Гельфман, па яе ўстрывожаных вачах Ігнат зразумеў: нешта здарылася.

Пасля васемнаццаці, калі ўжо добра пачало змяркацца, Ігнат прыйшоў на Сімбірскую вуліцу. Акуліна ласкава сустрэла яго, але не прамінула спытаць:

— Дзе ж вы, Мікалай Сцяпанавіч, загулялі, учора не начавалі дома?

— Справы, дарагая Акуліна Анікееўна.

— Я чайку вам зараз пастаўлю. А можа, супу наліць?

— Лішак яды, Акуліна Анікееўна, мяшае тонкасці розуму. Мне сёння шмат працаваць трэба. Чакаецца бяссонная ноч. Лепш чайку.

— Я хуценька.

Ігнат увайшоў у пакой. Цішыня зазвінела ў вушах. Скінуў лядашчы палітончык, шапку, апусціўся ў крэсла. Прадумаць усё да дробязей! Заўтра можа не хапіць часу, заўтра можа быць позна! Ён звычайна любіў цішыню, а сёння яна нейкая гнятлівая, даўкая.

Наліў у кубак чаю, глытнуў некалькі разоў. Адкусіў кавалачак цукру, бо нейкая гаркавасць сядзела ў роце. Так, што ж трэба зрабіць?

Найперш знішчыць усе паперы. Ігнат выцягнуў з-пад канапы свой чамаданчык, паставіў на стол, раскрыў.

Пісьмы з дому. Розныя почыркі на іх: бацькаў, мамін, Янаў, Юлін, нават Юльян даслаў два пісьмы, навучыла пісаць яго жонка, панна Казіміра. Як жа развітацца з імі?

Ігнат узяў сіні канверт з Юліным почыркам. Самае балючае пісьмо. «Братка мой, Ігнасёк, ляці дамоў на крылах, з мамкай нашай вельмі блага...»

Якраз жа была гарачая пара, рыхтаваліся да выпуску першага нумара «Рабочай газеты». Але Жалябаў прыняў рашэнне:

— Ты ведаеш, Ігнат, як ты мне патрэбен цяпер. Але кліча маці. Слухайся святога чалавека!..

Жалябава падтрымалі Міхайлаў, Пяроўская. З партыйнай касы выдалі Ігнату грошай на дарогу.

Ігнат застаў маму паміраючай. Паспеў пачуць яе развітальныя словы:

— Ігнаська мой родны, будзь шчаслівы, дзіцятка.

— Матулька, даруй, што рэдка прыязджаў.

— Пасталееў, мой хлопчык. Ці ж ёсць нявеста?

— Будзе, мама... Усё часу няма...

— Не спазніся, Ігнаська, на ўсё свая пара.
— Хачу сваю, адзіную знайсці, мама.
— Правільна... Адзіную... І шчаслівa жывіце...
— Я хачу, мама, каб усім добра жылося...
— Які ж ты добры ўрадзіўся, Ігнаська...

Пахавалі Бальбіну Андрэеўну на могілках у Бельску. Усе тыя пяць кіламетраў да могілак Ігнат ішоў за вазком з труной і ўпершыню з горыччу адчуў: якім сіратою зрабіўся, як глуха абарвалася жыццёвая струна.

Цяпер вось Ігнат павінен, проста абавязаны аддаць агню ўсе пісьмы з дому. Ён падышоў з пачкай канвертаў да грубкі, адчыніў дзверцы, чыркнуў запалку. У сінім вогніве нібыта гарэлі яго дні, а разам і ўспаміны аб іх.

Дагарэлі пісьмы. Пачаў знішчаць квітанцыі, рахункі, білеты, адрасы. На стале ляжала «Праграма рабочых членаў партыі «Народная Воля». Сам дапамагаў набіраць яе і друкаваць. Па літарцы, па слоўцу, па радочку спасцігаў гэту праграму. Яна, здаецца, прапушчана праз сэрца. Тут падкрэслена багата радкоў: тлумачыў іх рабочым на Выбаргскай старане. Хіба можна такую праграму знішчыць? Рука не падымаецца. Няхай застаецца ў маім чамаданчыку. І што б са мною заўтра ні здарылася, нават калі загіну, няхай гэта «праграма» стане сведкай маіх ідэалаў, няхай стане маім сведчаннем грамадзяніна, забытай богам і царом Беларусі!

Падышоў Ігнат да акна. Ноч уладарыць над Пецярбургам, цьмяна паблісквають рэдкія ліхтары. Няўжо спакойна спіць Аляксандр? А калі спіць, то няўжо не мроіцца заўтрашняя сустрэча?

Ігнат рэзка павярнуўся ад акна, прысеў за стол, падсунуў да сябе аркуш паперы, абмакнуў пяро ў чарніла, прыгожым почыркам напісаў пасярэдзіне «Запавет».

Задумаўся: што сказаць нашчадкам?

Трэба напісаць праўду, каб ведалі, як і за што гінулі іх аднагодкі, каб ні ў якім разе не лічылі нас, як лічыць цяпер цар, крамольнікамі, тэрарыстамі, крывапіўцамі. Мы тыя людзі, энтузіясты, якіх мо некалі назавуць сумленнем эпохі. Во што трэба падкрэсліць у запавеце!

Ігнат абмакнуў высахлае пяро і пачаў пісаць:

«Аляксандр II павінен памерці. Дні яго злічаны. Мне, ці іншаму каму, давядзецца нанесці страшны апошні ўдар, які гулка разнясецца па ўсёй Расіі і рэхам адгукнецца ў самых аддаленых кутках яе, — гэта пакажа будучае.

Ён памрэ, а разам з ім памрэм і мы, яго ворагі і забойцы. Гэта неабходна для справы свабоды, гэтым самым значна скалыхнецца ўсё тое, што хітрыя людзі завуць праўленнем — манархічным, неабмежаваным, а мы — дэспатызмам. Раскошнае дрэва свабоды патрабуе чалавечых ахвяр...»

Задумаўся Ігнат: «Хто я і што паспеў зрабіць? Жыў сумленна, а гэта ўжо нямала. Гатоў аддаць жыццё за свой народ, за сваю айчыну, а гэта ўсё, што ў маіх магчымасцях. Ці мала?»

Паліліся самі сабой новыя радкі запавету:

«Я не ўбачу перамогі, не буду жыць ніводнага дня, ніводнай гадзіны ў светлы час урачыстасцей, але лічу, што сваёй смерцю зраблю ўсё, што павінен быў зрабіць... Справа рэвалюцыйнай партыі — запаліць назапашаны ўжо гаручы матэрыял, кінуць іскру ў порах і зрабіць усё, каб наступіла жаданая перамога...»

Ігнат дакончыў пісаць глыбокай ноччу. Склаў запавет у канверт, заклеіў.

Дзьмухнуў на газоўку, прылёг на канапу. Пачаў перабіраць у памяці ўсіх і ўсё: пабываў у Басіна і Грынявічах Вялікіх, у Беластоку, Алькеніках, на Магілёўшчыне, у Іванава-Вазнясенску. Нібыта слухаў бацькаву скрыпку і бачыўся з Юльянам, Янам, сёстрамі. Змроілася з юнацкіх гадоў Марыся, толькі цяпер яна была вельмі падобная на Соню Пяроўскую.



Прыемныя ўспаміны перайшлі ў салодкі сон, і апынуўся Ігнат у сонечным, мазаічным храме. Ён у чорным касцюме, на белай кашулі пад каўняром — чырвоная бабачка. Побач — дзяўчына ўся ў белым, а на галаве ў яе вянок з лугавых кветак, усміхаецца, кліча: «Пайшлі, Ігнасёк, з намі Купалле спраўляць». Ігнат памкнуўся за дзяўчынай, але зверху храма як бы хто забарабаніў па іскрыстым купале. Ігнат зірнуў уверх, на яго з бажніцы пазіраў вясёлы барадач — Жалябаў!..

Ігнат вінавата падхапіўся з канапы. У шыбіны стукаўся шэры світанак. Хуценька апрануўся. Акінуў позіркам пакой. Бывай, Акуліна Анікееўна, салдацкая ўдава. Сёння табе не давядзецца частаваць чаем свайго пастаяльца. Бывай і дзякуй за ўсё!

Над Пецярбургам уздымаўся новы дзень. Нядзеля. Першы дзень вясны — 1 сакавіка 1881 года.

Прыемная прахалода бадзёрыла Ігната. Пашырыў крок, каб сагрэцца. Вось і Нява. Перайшоў мост, апынуўся на Ліцейным праспекце. Тут ужо сноўдалі рамізнікі, гандляры. Няма для іх выхадных. Прыкінуў Ігнат: пешкі можа не ўправіцца. Махнуў рамізніку.

— На Падольскую! — загадаў возчыку.

За ўсю дарогу — ні слова больш. Дворнікі і рамізнікі — тыя ж філёры.

На Падольскай хутка знайшоў кватэру Барэйшы, разбудзіў:

— Што здарылася, Ігнась?

— Усё добра, Антоне... Я нейкі час буду адсутнічаць, вазьмі вось гэта пісьмо...

— А што рабіць з ім?

— Нічога, Антоне... Няхай у цябе паляжыць. А калі што, пачытай і сам вырашы, што рабіць...

— Што з табой, брат?

— Усё добра, Антоне, — сябры абняліся.

Цяпер — прамым ходам на Цялежную, 5. Ігнат падхапіў новага рамізніка. Сустрэла ўстрывожаная Гeся, але нічога не сказала. Моўчкі наліла чаю:

— Глытні, Ігнаська.

Пачуліся крокі ў калідоры, і Гeся насцярожылася, выцягнулася ўся. Ігнат зазначыў сабе: «Госпадзі, што толькі не прыходзіцца перажываць гаспадыні канспіратыўнай кватэры?!»

У кватэру, з пэўнымі інтэрваламі, увайшлі Міхайлаў, Рысакоў, Емяльянаў. К дзевяці гадзінам, як было і дамоўлена, прыйшла Соф'я Пяроўская. Стомленая. Бледная. Усхваляваная. Асцярожна паклала на стол белы вузельчык з дзвюма бляшанкамі, апусцілася ў крэсла. Глуха прагучалі яе словы:

— Тараса няма.

Ігнат адчуў, як нешта абарвалася ўсярэдзіне: Жалябаў арыштаваны. Ён зірнуў на Соню, і яе душэўныя мукі перадаліся яму.

— Будзем дзейнічаць па намечанаму плану, — сказала Пяроўская.

Пакуль яна малявала на канверце план дзеянняў, у кватэру зайшоў Кібальчыч, прынёс яшчэ два снарады. Не ведаў Ігнат, што ўсю ноч на кватэры Веры Фігнер працавалі тэхнікі Кібальчыч, Грачэўскі, Суханаў. А ў гэты час Ісаеў закладваў міну на Малой Садовай...

З Цялежнай Ігнат выйшаў узброены. Перасек дварамі вуліцу і апынуў-

ся на шумным Неўскім праспекце. Пад пахай адчуваў прахалодную бляшанку, і яна як бы рабіла яго адказным за кожнага чалавека.

У дванаццаць гадзін Рысакоў і Емяльянаў стаялі на рагу Неўскага і Малой Садовай, а Грынявіцкі і Міхайлаў — у канцы невялікай вуліцы. План Пяроўскай быў такі: царская карэта паварочвае з Неўскага на Малую Садовую, першыя кідальшчыкі Рысакоў і Емяльянаў прапускаюць яе, далей дзейнічае ў падкопе міна Ісаева. Калі ж яна не спрацоўвае, уступаюць у барацьбу самыя надзейныя хлопцы — Грынявіцкі і Міхайлаў, якія стаялі ўглыбіні Малой Садовай.

Маршрут Аляксандра II, на жаль, не супаў з планам Пяроўскай. Цар праехаў у манеж на агляд сваёй гвардыі іншым шляхам.

У падвальную кандытарскую Андрэева на Неўскім, насупраць Гасцінага двара, сабраліся Пяроўская, Грынявіцкі, Рысакоў, Емяльянаў. Міхайлаў згубіўся дзесьці ў натоўпе. Заказалі каву, піражкі.

— Частуйцеся, — прапанаваў Ігнат.

— Няма апетыту, Міхаіл Іванавіч, — адказаў збляднелы Рысакоў.

— А мне проста не хочацца, — пастаралася ўсміхнуцца Пяроўская.

— Тады я за ваша здароўе! — Ігнат глытнуў кавы.

Яму нічога не хацелася таксама, але ж не сядзець звесіўшы насы, трэба падтрымаць дух сяброў. Асабліва шкадаваў Соню. Яна сёння па-асабліваму прыгожая. Ігнат разумеў: выконвае ролю Жалябава, гатова ўзяць у рукі снарад ад любога з іх, хто ўздумае збаяцца. Сёння Пяроўская выконвала не толькі волю партыі. Яна ваявала і за сваё каханне. Дык ведай жа, мілая Соня, Ігнат Грынявіцкі сёння не проста кідальшчык снарада. Ён заступнік за тваё каханне з Жалябавым, ён абаронца вашых чыстых пачуццяў.

Выходзілі з кандытарскай па аднаму. Сустрэліся на Кацярынінскім канале. Дамовіліся: хлопцы будуць стаяць на павароце з Інжынернай вуліцы на Кацярынінскі канал, а Пяроўская — на тым баку канала і падасць ім сігнал, як будзе ехаць царская карэта, — махне белай хустачкай.

На канале Ігнат сустрэўся з Соняй. Кінуў кароткі позірк на яе, усміхнуўся: усё будзе добра! Соня абдала яго такой ласкавай пяшчотай, што ў Ігната на нейкі міг прыпынілася сэрца, гатоў быў паверыць, што адбылося нейкае вельмі таемнае прызнанне. Але гэты міг душэўнай асалоды хутка знік. Наступаў самы рашучы міг яго жыцця.

Праз пэўны час Ігнат хутчэй адчуў, чым убачыў, што едзе цар. Ускалыхнуліся і замерлі ўсе, хто знаходзіўся ля канала. На павароце з Інжынернай на набярэжную царская карэта сцішыла ход. І раптам грымнуў выбух. Ігнат як стаяў каля парапета, так, здаецца, і прыліп, упіўся ў яго.

Гэта Мікалай Рысакоў кінуў снарад у «хвост» карэты. Відаць, помніў словы Кібальчыча, што снарад знішчае ўсё наўкол на пятнаццаць сажняў, таму і кідаў як мага далей ад сябе, каб уцалець, зберагчыся. Але яго ўжо скручвалі салдаты. А з пашчапанай карэты выходзіў, як выпаўзаў з патрывожанага кубла бухматы чмель, сам цар. Ігнат упершыню так блізка ўбачыў яго надзьмуты вусаты твар.

На тым баку канала сярод мноства людзей Ігнат вылучыў Пяроўскую з белай хустачкай у руцэ. Твар яе такі ж белы. Перавёў позірк на цара. Ён нешта гаварыў з Рысаковым, а пасля рэзка павярнуўся да карэты, якая стаяла якраз жа насупраць Ігната.

Аляксандр II ішоў прама на Ігната Грынявіцкага. Крок. Яшчэ крок. Зямлісты твар з пышнымі бакенбардамі набліжаўся. Ігнат зазірнуў у чырвоныя вочы манарха, убачыў у іх раз'юшанасць і злосць. Страшная віхура





адарвала яго ад парапета. Зрабіў некалькі крокаў насустрач сваёй ахвяры. Рэзка ўскінуў рукі ўгору і кінуў снарад паміж сабой і гасударом.

Выбух, як салют, скалануў набярэжную Кацярынінскага канала. У барвова-чорным мроіве Ігнат паспеў убачыць, як цар апускаўся перад ім на калені...



Праз год у Лондане, у Вольнай рускай друкарні, выйшла кніга «На родине». У ёй упершыню абнародавана біяграфія Ігнація Грынявіцкага. Відаць, пісаў нехта з рускіх нарадавольцаў, хто добра ведаў Ігната. Звесткі па свежых слядах памяці вельмі дарагія цяпер, гучаць партыйнай характарыстыкай рэвалюцыянера Грынявіцкага:

«...Ваенны чалавек, гледзячы на яго, прыгадаў бы правіла: на службу не напрошвайся, ад службы не адмаўляйся, а нябожчык Дастаеўскі абавязкова ўбачыў бы ў Грынявіцкім асноўныя рысы свайго любімага рускага тыпу: багатыя ўнутраныя сілы, з'ядналыя з найвялікшай сціпласцю і поўнай адсутнасцю самалюбства».

Нягледзячы на гэта, Грынявіцкі, аднак, быў не рускі. Сам сябе ён называў «літвінам», палякі ж лічылі яго сваім суайчыннікам; апошняе, аднак, наўрад ці правільна, бо Грынявіцкі нават гаварыў дрэнна па-польску, рускай жа мовай валодаў, як прыроднай. Нарадзіўся ён у Мінскай губерні...

Ён рабіў справу, якая, па яго перакананнях, вяла да карысці народа. Наладжваў адзін гурток, дапамагаў другому, збіраў грошы на ссыльных, распаўсюджваў выданні, вучыўся рабіць пашпарты, збіраў пячаткі і г. д. Вельмі рана пачаў знаёміцца з рабочымі і агітаваў таварышаў весці сярод іх прапаганду. Ціхі, сціплы, негаваркі, ён быў бачны, аднак, адусюль.

Ён быў цудоўны таварыш і чалавек незвычайна добры і мяккі. Самалюбства ў яго і слядоў не было, а адносна свайго розуму і здольнасцей трымаўся сціплай думкі. Ён хацеў усяляк дапамагчы ўсім, хто жыў у нястачы. Не адзін з таварышаў прыгадваў з удзячнасцю яго братэрскую клапатлівасць, якую ён умудраўся сумяшчаць са справамі. Дабрадушнасць Грынявіцкага і яго незвычайная цярплівасць да ўсялякага сумленнага перакананія яшчэ больш схілялі да яго нават тых, хто з ім не пагаджаўся. Адзіная якасць, якую ненавідзеў Ігнат Грынявіцкі,— было фразёрства. Яго ён заўсёды выводзіў на чыстую ваду і выкрываў...

Надзвычайныя здольнасці Грынявіцкага да работы, яго абгрунтаванасць і рэдкая самаахвярнасць прымушалі старшых і вопытных людзей берагчы яго, як вельмі каштоўную сілу. Ігнацій Яўхімавіч «на службу не напрошваўся», але нясцерпна жадаў яе...

Гэта быў малады, але сапраўды цудоўны чалавек. Тое, што трэба зрабіць, ён рабіў так, як бы на гэта было яго асабістае жаданне. Небяспечна ці не, прыемна ці непрыемна — для яго не існавала розніцы. «Трэба зрабіць!» — і ён рабіў...

І ўсё-такі тыя, хто ведаў Ігната Грынявіцкага, безумоўна, адчуваюць сум: гэты чалавек вядомы як знішчальнік тырана. Але чаму ж ён невядомы як рэдкая маральная асоба, чаму гэтая чыстая, шчадралюбная, самаадданая душа не паспела праявіць сябе ва ўсім сваім харастве, чаму яна не можа служыць людзям маяком на шляху іх маральнага ўдасканалення?..»

У 1884 годзе беларускія рэвалюцыянеры-народнікі пачалі выдаваць у Пецярбурзе нелегальны гектаграфічны часопіс «Гоман». У другім нумары чытаем:



«Мы беларусы, і мы павінны змагацца ў імя мясцовых інтарэсаў беларускага народа і федэратыўнай аўтаноміі краіны; мы — рэвалюцыянеры, бо, далучаючыся да праграмы барацьбы «Народнай Волі», лічым неабходным прыняць удзел у гэтай барацьбе. З «Народнай Воляй» мы ўжо звязаны традыцыямі: Грынявіцкі быў адным з гарачых заснавальнікаў беларускай мясцовай фракцыі...»

З ленінградскім пісьменнікам Юрыем Зарудневым прагульваемся па Ленінграду, па мясцінах рэвалюцыйных падзей. Завіталі ў Тэхналагічны інстытут. Ідзём па шумных калідорах. Насустрач — сучасная моладзь, модная і вясёлая. Прыпыняем некаторых, цікавімся:

— Выбачайце, тут некалі вучыўся Ігнат Грынявіцкі, ці не ведаеце штонебудзь пра яго?

Вінавата паціскаюць плячыма. І толькі адзін студэнт адказаў:

— Гэта нехта з нарадавольцаў. Іх тут багата вучылася...

Непадалёк ад царквы «Спас на крыві» — мост Грынявіцкага цераз канал Грыбаедава. Стаім у роздуме каля сіняй шыльды. Міма праходзяць юнакі і дзяўчаты. Цікавімся:

— Хто такі Грынявіцкі, імем якога названы гэты мост?

— Невядомы...

*Мікола Ермаловіч*

ГІСТАРЫЧНЫЯ НАРЫСЫ



# Старажытная Беларусь

Падзеі 1277 г. зноў яскрава высветлілі цэнтральнае становішча Навагародка і яго вобласці ў дзяржаве. Гэтым найперш і тлумачыцца, чаму супроць Навагародскай зямлі накіраваны паходы галіцка-валынскіх і татарскіх войскаў. Па ўсяму відаць, што мэтай іх пакуль што з'яўлялася не заваяванне, а абрабаванне і гэтым самым знясіленне гэтай зямлі, што магло прывесці яе ў далейшым да ўпадку, у выніку чаго яна стала б у далейшым лёгкай здабычай для іх. І хаця гэта апошняе, як убачым далей, не ажыццявілася, аднак вайсковыя ўдары галіцка-валынскіх князёў, асабліва балючыя ў саюзе з татарамі, далі сябе знаць у страце Навагародскай зямлёй свайго цэнтральнага значэння ў дзяржаве. Падзеі 1277 г. зноў пацвердзілі, што Гараддзеншчына ўваходзіла ў склад Навагародскай зямлі і што Гародня пасля Навагародка была важнейшым горадам у дзяржаве і таму таксама з'яўлялася адным з аб'ектаў галіцка-валынскіх нападаў.

Аднак узаемаадносіны з Галіцка-Валынскай зямлёй хоць і былі галоўнай, але не адзінай знешнепалітычнай праблемай Навагародскай дзяржавы. На захадзе яе інтарэсы сутыкаліся з інтарэсамі Польшчы. І таму зразумела, чаму ў 1278 г., калі не прадбачылася галіцка-валынскае ўварванне ў яго зямлю, Трайдзень робіць паход на ляхаў. Упамінанне (дарэчы, вельмі няяснае) яцвягаў у сувязі з гэтай падзеяй можа пэўным чынам гаварыць, што ў паходзе ўдзельнічалі і яны. Нездарма ж у пазнейшых беларускіх летапісах XVI ст. Трайдзень называўся яцвяжскім князем. Паход Трайдзеня і яго брата Сірпуція, накіраваны пад Люблін, прынёс вялікую ўдачу. Гэта перш за ўсё выявілася ва ўзяцці шматлікага палону [100], што і з'яўлялася тады галоўнай мэтай паходу. Трэба ж было кампенсаваць страты, у тым ліку і людскія, нанесеныя ў 1274 і 1277 гадах.

Але хаця Навагародская зямля і была дамінуючай у дзяржаве і забеспячэнне яе ўнутраных і знешніх інтарэсаў з'яўлялася галоўнай задачай Трайдзеня, аднак пад уладай яе знаходзіліся іншыя землі, і іх інтарэсы таксама нельга было ігнараваць, тым больш, што ўлада над імі не была яшчэ трывалая, як, напрыклад, у Нальшчанах, дзе прыйшлося распраўляцца з непакорнымі феадаламі. Адзін з іх — Суксе — уцёк у Ордэн, дзе прыняў каталіцтва і скора быў выкарыстаны рыцарамі для барацьбы з сваімі былымі суайчыннікамі. Дзесьці ў прамежку 1272—1274 гадоў ён прыняў удзел у паходзе на землі Аўкштайціі і Нальшчанаў, дзе і загінуў [101]. Менавіта крыжацкая агрэсія заставалася галоўнай пагрозай для паўночна-заходніх земляў дзяржавы. Рыцары імкнуліся ўсё глыбей па Дзвіне пранікнуць на ўсход. Асабліва гэта стала відавочным са збудаваннем імі крэпасці Дынабург (Дзвінск, сучасны Даўгаўпілс), у якім засеў моцны гарнізон. Усё гэта не магло не выклікаць рашучых дзеянняў з боку навагародскага ўрада. І вось недзе каля 1277 г. паводле Рыфмаванай хронікі Трайдзень са сваім войскам аблажыў нямецкую крэпасць. Асабліва тут вызначыліся беларускія стралкі (russen schutzen), якія перабілі многіх рыцараў, што абаранялі крэпасць. Аднак яна была так добра ўмацавана, што аблога, якая цягнулася чатыры тыдні, не была паспяховая, і Трайдзень вымушаны быў адступіць [102]. Забягаючы наперад, зазначым, што пазней, у 1281 г., Трайдзень змог захапіць Герцыке (ранейшую полацкую крэпасць у Ніжнім Падзвінні) і гэтым самым адрэзаў Дынабург ад Лівоніі, што і прымусіла Ордэн абмяняць захопленую крэпасць на Дынабург. Праўда, у 1313 г. рыцары яго зноў вярнулі сабе. І ўсё ж, нягледзячы на няўдачу, дзеянні Трайдзеня прынеслі немалую шкоду крыжакам, і яны рашылі адпомсціць яму ўварваннем зімою 1278 г. у сучасныя літоўскія землі. Ім удалося пранікнуць аж да Кернава (на беразе Віліі). Горад крыжакамі не быў узяты, але тэрыторыя вакол яго была страшэнна спустошана. Супраціўлення ніякага не было, і ордэнскія атрады ішлі ад вёскі да вёскі і знішчалі ўсё, што траплялася на іх шляху. З вялікай здабычай у лютым 1279 г. пайшлі крыжакі назад. Але яны не былі пакінуты без пакарання. Мясцовыя насельнікі, сабраўшыся ў вялікае войска і пайшоўшы ўслед за рыцарамі, 5 сакавіка 1279 г. пад Ашэрадэнам нанеслі ім паражэнне. На жаль, гэты поспех не быў замацаваны далейшымі ўдарамі па крыжаках, што і выратавала іх той раз ад катастрафічнага разгрому.

Крыніцы ў асноўным данеслі да нас звесткі аб вайсковай дзейнасці Трайдзеня. Але ў іх мы знаходзім і паведамленні, праўда, адзінкавыя і вельмі цьмяныя, пра яго дыпламатычныя захады. Так, можна меркаваць па ўскосных сведчаннях, што ім у прамежку 1273—1278 гг. быў заключаны гандлёвы дагавор з Ордэнам [103]. Вядомы таксама і яго дагавор 1279 г. з плоцкім князем Баляславам, што ўстанавіў мір паміж ім і Мазовіяй, і што дало магчымасць яму ўзмацніць барацьбу з Ордэнам.

Як бачым, перыяд княжання Трайдзеня (1270—1282 гг.) быў часам умацавання Навагародскай дзяржавы, якое праходзіла і ў барацьбе з унутранай рэакцыяй і асабліва ў пераадольванні знешняй пагрозы, якая ішла з поўдня ад галіцка-валынскіх князёў і з захаду — ад Ордэна. Усё гэта і не дало магчымасці Навагародку значна пашырыць тэрыторыю сваёй дзяржавы ў параўнанні з тым, што было зроблена пры Войшалку. Толькі з позняга Васкрасенскага летапісу мы даведваемся, што Трайдзень далучыў да сваіх уладанняў яцвягаў [104]. І гэтаму можна верыць. Далучэнне часткі яцвяжскай тэрыторыі непасрэдна павялічвала тэрыторыю Навагародскай зямлі, забеспячэнне інтарэсаў якой было, як мы бачылі, галоўным клопатам Трайдзеня.

---

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 7—12 за 1988 г. і ў №№ 7—8 за 1989 г.**

# Заняпад Навагародка
# і чарговае ўзвышэнне Полацка

Удалейшай гісторыі Вялікага княства Літоўскага, асабліва ў дзесяцігоддзе пасля смерці Трайдзеня, маецца таксама нямала цёмных месцаў. Мы нават не можам упэўнена сказаць, хто змяніў Трайдзеня на велікакняскім пасадзе. У П. Дузбурга пад 1291 г. упамінаецца пра Лютувера, князя літоўскага, як бацьку Віценя [105]. З гэтага можа вынікаць, што ён пасля смерці Трайдзеня стаў вялікім князем. Аднак у Іпацьеўскім летапісе пад 1289 г. паведамляецца: «Тогда же Литовский князь Будикид и брат его Будивид даша князю Мстиславу город свои Волковыеск, абы с ним мир держал»[106]. Дык вось другі з гэтых князёў, Будзівід, выступае ў некаторых нямецкіх крыніцах пад імем Путувера [107]. У сваю чаргу Лютувера некаторыя нямецкія крыніцы называюць Путуверам [108]. Усё гэта дае пэўную падставу атаясамляць з Будзікідам Лютувера і лічыць яго побач з Будзікідам вялікім князем, што змяніў Трайдзеня. Нічога нельга сказаць пра тое, ці належалі гэтыя князі да яго роду. Бясспрэчна толькі, што як і яго, так і іх імёны сведчаць пра іх славянскае паходжанне. Застаецца незразумелым, чаму Ваўкавыск быў уступлены ад імя двух братоў, чым тлумачыцца такі дуумвірат. З-за адсутнасці інфармацыі на гэтыя пытанні немагчыма знайсці адказ.

Больш пэўнае меркаванне можна выказаць аб факце перадачы Ваўкавыска валынскаму князю Мсціславу. Прызначэнне гэтай ахвяры ясна ўказана: для ўстанаўлення мірных адносін з Валынню, якая побач з Галічам была да гэтага часу заўсёдашнім праціўнікам Навагародка. І што самае важнае, уступка была зроблена за кошт яго зямлі. А гэта ўжо сімптаматычна, бо магло азначаць паступовую страту ёю свайго дамінуючага значэння, што ў далейшым яскрава і выявілася.

Калі Будзікід і Будзівід з'яўляюцца найменш вядомымі нам князямі, то іх наступнік Віцень належыць да ліку самых вядомых і славутых імёнаў у нашай гісторыі. Мы ўжо ведаем, што гарадыў аб яго паходжанні П. Дузбург. Аднак у іншых крыніцах пра гэта гаворыцца інакш. Так, у летапісах XVI ст., прасякнутых ідэяй услаўлення жамойцкіх князёў, Віцень таксама адносіцца да іх роду. Тут даводзіцца, што нібыта яго, яшчэ малога, убачыў Трайдзень, праязджаючы праз належачую яму Эйраголу, разгледзеў яго розум і кемлівасць і ўзяў да сябе, дзе ён вызначыўся сваёй рупнасцю, дабрачыннасцю і ўмельствам, за што і быў пастаўлены маршалкам, а пасля смерці свайго патрона заняў яго месца [109]. Заслугоўвае здзіўлення тое, што ў гэтых летапісах пасля такога дэталёвага апавядання аб перадгісторыі Віценя нічога не гаворыцца аб яго справах як вялікага князя. Тлумачылася гэта тым, што Навагародскі летапіс заканчваўся часам Трайдзеня, і таму складальнікі пазнейшых летапісаў не мелі патрэбных звестак пра Віценя [110]. Але з гэтым нельга пагадзіцца, бо пра Трайдзеня звесткі браліся не з Навагародскага, а з Галіцка-Валынскага летапісу, як і ўсё пра ранейшых вялікіх літоўскіх князёў. Менавіта таму, што апошні летапіс абрываўся 1292 г., г. зн. часам, калі Віцень не быў яшчэ вялікім князем, і тлумачыцца, чаму ў складальнікаў пазнейшых летапісаў не было нічога пра Віценя, і яны змаглі выдумаць толькі яго перадгісторыю. Праўда, у Густынскім летапісе, у якім адбіўся і пазнейшы час, мы знаходзім паасобныя звесткі пра Віценя, але яны запазычаны з замежных крыніц. Для складальнікаў летапісаў XVI ст. важней за ўсё было паказаць у інтарэсах тых магнатаў, якія адносілі сябе да роду Калюмнаў, што з гэтага роду паходзіць Віцень і ўсе далейшыя за ім вялікія князі. Выдуманая гісторыя пра паходжанне Віценя і з'явілася падставай для многіх даследчыкаў лічыць яго пачынальнікам новай дынастыі вялікіх літоўскіх князёў. Але ж фактычна новая дынастыя пачалася з Трайдзеня, і таму не выпадкова складальнікі летапісаў XVI ст. імкнуліся нейкім чынам звязаць з ім і Віценя, толькі прыпісаўшы яму жамойцкае паходжанне.

Зазначым таксама, што ў «Сказании о князьях Владимирских», складзеным у І пал. XVI ст. у Маскоўскай дзяржаве, Віцень (яго тут імя «Віцянец») паказаны як адзін са смаленскіх князёў, якому ўдалося выратавацца ад татарскага пагрому і ўцячы ў Жамойць (так тут называецца Літва)[111]. Беларускія гісторыкі XIX ст. М. Без-Карніловіч [112] і А. Кіркор [113] выказвалі думку, што Віцень, як і Гедымін, быў сынам полацкага князя Гердзеня. Пры такой разнастайнасці звестак і думак аб паходжанні Віценя зноў-такі рашаючае значэнне мае яго славянскае імя [114].

У адносінах Віценя, як і Трайдзеня, вельмі мала захавалася сведчанняў пра яго ўнутраную палітыку. Дарэвалюцыйныя гісторыкі (Б. Антановіч, М. Дашкевіч, М. Любаўскі) супрацьпастаўлялі нібыта літоўска-язычніцкай палітыцы Трайдзеня руска-хрысціянскую палітыку Віценя і Гедыміна. Але і тыя адзінкавыя факты без ніякага выключэння гавораць, што Віцень, як і ранейшыя князі, змагаўся за ўнутранае ўмацаванне дзяржавы, праціўнікамі чаго былі феадалы балцка-літоўскіх земляў, у прыватнасці Жамойціі. Нямецкія крыніцы захавалі і прозвішча аднаго з заклятых ворагаў Віценя—Пялюзы. Ён як быццам з'яўляўся нават сынам Трайдзеня, скінутым з княскага пасаду Лютуверам (па іншых звестках ён быў сынам Доўманта, што больш верагодна). Пасля гэтага ён у 1286 г. уцякае да крыжакоў і на працягу многіх гадоў робіць свае разбойніцкія напады на пагранічныя землі былой радзімы. У адзін з такіх набегаў у Нальшчанах ён захапіў і забіў 70 старэйшын, якія сабраліся на вяселле. Важна падкрэсліць, што справа тут не ў асабістых амбіцыях Пялюзы, але, і гэта галоўнае, у падтрымцы яго з боку жамойцкіх вярхоў. Яму нават удалося схіліць да здрады трох вайсковых начальнікаў (Драйка, Спуда і Світрыла), якія здалі свае крэпасці крыжаносцам. Толькі ў 1314 г. Пялюза быў захоплены Гедымінам і пакараны смерцю [115]. Або вось яшчэ больш яскравы факт. У 1294 г. у час нападу крыжакоў на Жамойцію яе старэйшыны схілялі народ да саюзу з немцамі і паднялі паўстанне супроць Віценя. Хаця яно і было задушана, аднак Віценю так і не ўдалося схіліць жамойтаў да згоды і сумеснай барацьбы з крыжакамі [116].

Як бачым, па меры далейшага прасоўвання Навагародскай дзяржавы ў глыб балцка-літоўскіх земляў працягвалася і іх супраціўленне. У той жа час як пры Міндоўгу, Войшалку, Трайдзеню, так і пры Віценю мы не знаходзім у крыніцах ніводнага факта супраціўлення ўладзе вялікіх князёў у беларускіх землях.

Паколькі дзейнасць (і выключна вайсковая) Віценя адбілася толькі ў заходніх крыніцах, то мы ведаем у цэлым толькі аб яго барацьбе з крыжакамі і часткова з палякамі. Менавіта першае ўпамінанне пра Віценя ў 1291 г., калі ён яшчэ не быў вялікім князем, і гаворыць аб яго паходзе на Польшчу. Там сказана, што Лютувер паслаў яго супроць палякаў у зямлю Брэсцкую [117]. Цяжка сказаць, чаму тут ідзе гаворка пра паход на Польшчу, калі Бярэсце ў гэты час знаходзілася ва ўладзе валынскага князя Мсціслава [118]. Трэба зазначыць, што ён перад гэтым вёў упартую спрэчку са сваім пляменнікам Юрыем Львовічам за Бярэсце. Жыхары гэтага горада выказалі былі сваю сімпатыю да яго саперніка і былі за гэта пакараны. Мсціслаў, не хочучы праліваць іх крыві, рашыў абкласці іх цяжкой данінай, аб чым і загадаў пісцу запісаць у летапіс: «. . . уставляю ловчее на Берестьяны и в векы за их коромолу: со ста по две лукне меду, а по две овце, а по пятинадесять десятков льну, а по сту хлебов, а по пяти цебров овса, а по пяти цебров ржи, а по 20 куров, а по горожаны 4 гривны кун, а кто моё слово порушить, а станет со мною перед богом. А вопсал есмь в летописець коромолу их»[119]. Вядома, усё гэта не магло выклікаць прыхільнасці берасцянаў да валынскіх князёў і ў далейшым побач з іншым мела ўплыў на ўваходжанне Берасцейскай зямлі ў склад Вялікага княства Літоўскага. Іпацьеўскі летапіс пад 1291 г. апавядае аб дапамозе Льва Галіцкага польскім князям Баляславу, Кандрату, Лакоту пад Кракавам, але там Віцень не ўпамінаецца. Аднак магчымасць барацьбы Віценя за Бярэсце нельга выключыць. Берасцейская зямля, у склад якой уваходзілі, апроч Бярэсця, Камянец, Кобрын, Драгічын, Мельнік, клінам урэзвалася паміж Мазовіяй і навагародскімі ўладаннямі, і таму барацьба за яе



Пячаткі полацкага епіскапа Грыгорыя і полацкага князя Глеба (Нарымунта) з выявай «пагоні» (1338—1341 гг.).

Жаночыя ўпрыгожанні з Вішчынскага скарбу XII ст.

Фота Г. Штыхава.





**Паліхромны абразок-складзень, г. Полацк.**



**Залаты пярсцёнак XII—XIII стст. Проба 958°, устаўка — натуральны сапфір, г. Полацк.**

**Фота Г. Сагановіча.**

была жыццёва неабходная для дзяржавы. Да таго ж гэта зямля была адгароджана ад Валыні балотамі і пушчамі. Усё гэта аблягчала яе ўключэнне ў склад Вялікага княства Літоўскага, што і адбылося ў 1315 г. Цікава, што ў познім Васкрасенскім летапісе ў заслугу Віценю, які там называецца сынам Трайдзеня (Прайдзеня), і ставіцца тое, што ён «прибавил земли Литовские много и до Бугу»[120]. Магчыма, што далучэнне Берасцейскай зямлі было найбольшым тэрытарыяльным прырашчэннем у час Віценя. На жаль, крыніцы не даюць магчымасці ўстанавіць, ці пашыралася ўлада Віценя на Тураўскую і Пінскую землі.

Пра паход Віценя супроць Польшчы гаворыцца і пад 1293 г., калі ён стаў вялікім князем. Уварваўшыся з вялікім войскам у Сандамірскую зямлю, ён спачатку меў поспех, захапіўшы багатую здабычу і тысяч шэсць палону, але пасля адыходу пацярпеў паражэнне[121].

Ужо адзначалася, што ў Вялікае княства Літоўскае беглі, ратуючыся ад крыжакоў, прусы, дзе іх прымалі і сялілі найперш у раёне Гарадзена. Так, напрыклад, адзін з апошніх прускіх старэйшын Скурда з усімі сваімі людзьмі пакінуў радзіму. Для рассялення іх каля Ліды была адведзена зямля (в. Кержышкі). Вось гэтым і тлумачылася, чаму прускі Ордэн пачаў свае набегі на Гарадзенскую зямлю. У 1284 г. рыцары напалі на яе. Яны аблажылі Гародню, пасля жорсткага бою авалодалі яе акольным горадам (самога цэнтра не змаглі ўзяць), пабілі безліч людзей і пасля са здабычай, якую нарабавалі па навакольных вёсках, вярнуліся назад[122]. І гэта быў толькі пачатак. Шматпакутная Гарадзеншчына цярпела ад нападаў рыцараў у 1295, 1296, 1305, 1306 (двойчы), 1311 (тройчы), 1314, 1324 і 1328 гадах[123].

Аднак не ўсе гэтыя паходы прыносілі ўдачу агрэсару. У 1314 г. крыжакі нечакана рушылі на Новагародак, узялі яго і спалілі, а пасля сталі штурмаваць замак. І вось тут упершыню вызначыўся выдатны беларускі дзяржаўны дзеяч і палкаводзец Давыд Гарадзенскі. Гэта быў чалавек, надзелены незвычайнай энергіяй, прадпрымальнасцю і вайсковымі ведамі, таму карыстаўся высокай пашанай і займаў пасля вялікага князя першае месца ў дзяржаве. Нездарма ж пасля Гедымін аддаў за яго замуж адну са сваіх дачок. Будучы гарадзенскім старастам, ён займаў адно з ключавых месцаў у абароне дзяржавы з боку Мазовіі і Тэўтонскага Ордэна.

Палкаводчы талент Давыда Гарадзенскага ўпершыню яскрава выявіўся пры абароне Новагародка ў 1314 г., калі ён са сваім войскам з'явіўся на выручку крэпасці, якую аблажылі крыжакі. Ён авалодаў іх лагерам, перабіў у ім варту, захапіў коней і харчовыя прыпасы. Крыжакі вымушаны былі адступаць, але на зваротным шляху не знайшлі ў пэўных месцах сваіх складаў з правіянтам, бо тыя былі загадзя разбураны Давыдам. Крыжацкае войска, церпячы ад голаду, рассыпалася і амаль усё загінула ў непраходных лясах[124].

Цяжка сказаць, ці быў яшчэ ў гэты час Новагародак сталіцай дзяржавы. Пісьмовыя крыніцы пра гэта маўчаць. Праўда, у летапісах XVI ст. гаворыцца, што Гедымін стаў княжыць «на прастоле бацькі свайго Віценя ў Кернаве»[125]. Аднак гэтаму цяжка паверыць, бо пасля мы даведваемся, што Гедымін княжыў у Вільні, і таму значэнне Кернава як сталіцы дзяржавы пасля Новагародка не мае пад сабой падставы. Але незалежна ад таго, ці знаходзіўся Віцень у Новагародку, дамінуючая роля яго і яго зямлі ў дзяржаве стала відавочна падаць. Найперш прычынай гэтага былі вельмі неспрыяльныя знешнія ўмовы. Калі ў 50—70-х гадах XIII ст. Новагародскай зямлі прыносілі разбурэнні і спусташэнні галіцка-валынскія войскі, то пачынаючы з 80-х гадоў яна становіцца аб'ектам узмоцненых нападаў прускіх крыжакоў, што не магло не падарваць эканоміку, а разам з тым і палітычнае значэнне зямлі. Трохразовы захоп, абрабаванне і разбурэнне Новагародка ў 1274, 1277 і 1314 гадах таксама не маглі адмоўна не падзейнічаць на лёс яго як сталіцы дзяржавы.

У той час, як роля Новагародскай зямлі ў дзяржаве паніжалася, зноў усё больш узрастала значэнне Полацкай зямлі. На жаль, інфармацыя аб ёй пасля яе аб'яднання з Новагародкам таксама вельмі бедная. З гэтага часу да пачатку XIV ст. захаваліся толькі лічаныя і разрозненыя звесткі аб полацкай гісторыі.

Адным з гэтых сведчанняў з'яўляецца невялікі літаратурны твор пад назвай







«Семена епископа тферского наказание». Змест яго вельмі важны і выразны, і мы таму яго прывядзем поўнасцю і ў арыгінале: «Константин князь Полоцкий, нарицаемый Безрукий у собе в пиру, хотя укорити тивуне своего о чем, рече попу пред всеми: владыко, где быти тивуну на оном свете? Семен поп отвечае: где и князю. Князь же не улюбив того, молвит попу: тиун неправду судит, мзду емлет, люди продает, мучит, лихое всё деет, а аз что дею? И рече поп: аже будет князь добр, богобоин, жалует людей, правду любит, избирает тиуна или коего волостеля мужи добре и богобойне, страха божия помне, разумна, праведна, по закону божию всё творяща и суд ведуща—и князь в рай и тивун в рай. Будет ли князь без Божия страха христиан не жалует, сирот не милует и вдовицам не печалуется, поставляет тивуна или коего волостеля—человека зла, Бога не боящася и закона Божия не ведуще, и суда не разумеюще, только того деля, абы князю товара добывал, а людие не щадил, аки бешена человека пустил на люди, дав ему меч, тако и князь, дав волость лиху человеку избити люди,—князь во ад и тиун с ним во ад»[126].

Гэты твор з'яўляецца адзіным сведчаннем пра полацкага князя Канстанціна. Паколькі тут выведзены Сімяон, які з'яўляўся цвярскім епіскапам з 1271 г. па 1289 г., то гэта можа арыенціровачна ўказваць на час, калі княжыў Канстанцін. Відаць, Бязрукім яго празвалі таму, што ён быў у сапраўднасці такі, хутчэй за ўсё ў выніку ўдзелу ў вайне. Не выключана, што ў яго асобе мы маем таго ж самага Канстанціна, які княжыў у Полацку ўжо раней, перад Гердзенем, як стаўленік Траняты і прыйшоў зноў да ўлады пасля Ізяслава.

Хаця твор, напісаны ў форме размовы князя з епіскапам, мае багаслоўскі характар, тым не менш ён—адзін з вельмі рэдкіх дакументаў, у якіх знайшлі сваё адбіццё сацыяльныя парадкі таго часу, у прыватнасці сваволле цівуноў, якія, атрымаўшы ўладу ў валасці, «не па праўдзе судзяць, бяруць хабары, людзей прадаюць, мучаць, ліхое ўсё дзеюць», і ўсё гэта толькі дзеля таго, каб «князю прыбытак здабыць, а людзей не літаваць». Што ж, даволі дакладная замалёўка грамадскага зла, тыповага не толькі для Полацкай зямлі, як лічыў В. Данілевіч[127], але і для ўсіх земляў, дзе панавалі феадальныя парадкі. І ўжо калі такія цівуны-ліхадзеі былі ў такога унікальнага на той час князя, якім з'яўляўся Канстанцін Бязрукі, то можна ўявіць, якія былі яны ў іншых князёў, дзеля карысці якіх найперш і тварыліся бясчынствы. Можна думаць, што калі Канстанцін не абмяжоўваўся толькі нараканнем на несправядлівасць такіх парадкаў, а і імкнуўся іх выкараніць, то наўрад ці мог ён доўга сядзець на княскім пасадзе. Роля белай вароны яўна не падыходзіла для князя, і ўсе тыя цівуны-валадары, якіх ён так асуджаў, не маглі не паставіць яго перад выбарам: або змірыцца з тым, што яны тварылі, або развітацца з княскім пасадам. Магчыма, што апошняе і адбылося з Канстанцінам, і ён апынуўся ў Віцебску, дзе пазней быў князем, як можна меркаваць, яго сын Міхаіл Канстанцінавіч.

Была выказана думка, што дзесьці ў II пал. XIII ст. полацкім князем мог быць Яраслаў Ізяслaveravіч[128], грамата якога Барысаглебскаму манастыру захавалася[129]. Сапраўды, такі князь мог быць, ён прыходзіўся сынам Ізяславу, які княжыў у Полацку пасля Гердзеня. І ўсё ж гэта меркаванне адпадае, бо ў грамаце ясна сказана, што яна дадзена ў 1396 г.

Але самай цёмнай і заблытанай з'яўляецца гісторыя, што захавалася ў нямецка-лацінскіх крыніцах і ў М. Стрыйкоўскага аб князю, імя якога засталося невядомым і які нібыта быў у Полацку недзе ў канцы XIII ст., і аб падзеях, што адбыліся пасля яго смерці. Тут паведамляецца, што гэты князь з'яўляўся язычнікам, г. зн. літоўцам, але, захапіўшы Полацк, прыняў каталіцтва і, паколькі быў бяздзетны, то завяшчаў Полацкую воласць крыжакам, і яны пасля смерці яго ў хуткім часе нібыта захапілі Полацк, навадзнілі яго рознымі каталіцкімі служкамі, якія прымушалі пераходзіць у іх веру праваслаўных палачанаў, што ў дадатак да гэтага цярпелі ўціск і ад лівонскіх рыцараў. Усё гэта вывела палачанаў з цярпення, і яны нібыта звярнуліся каля 1307 г. да літоўскага князя (імя яго не называецца) з просьбай дапамагчы ім вызваліцца ад улады немцаў, на што ён ахвотна згадзіўся і лёгка расправіўся з крыжакамі, карыстаючыся тым, што яны былі ўцягнуты ва ўзаемную барацьбу.

Аднак праўдзівасць гэтай гісторыі выклікае вялікія сумненні. Асабліва насцярожвае тое, што князь, спачатку язычнік, а пасля заўзяты католік, застаўся безыменны, хаця такога не магло быць, калі ён сапраўды пісаў дарчую грамату. А гэта значыць, што яе не было, а калі і была падробленая, то ўсё роўна імя князя павінна было там стаяць, як гэта мела месца ў аналагічных граматах Міндоўга. Апроч таго, супастаўляючы дзве граматы, у якіх апавядаецца пра полацкую гісторыю, мы знаходзім у іх супярэчнасці. У адной гаворыцца, што немцы прадалі Полацк Літве, у другой—што яны былі выгнаны літоўцамі па просьбе палачанаў. Між тым з матэрыялаў Рымскай курыі, якая расследавала гэтую справу, відаць, што абвінавачванні Ордэну ва ўціску палачанаў прад'яўлялі толькі яго ворагі [130].

М. Стрыйкоўскі, выкладаючы ўсю гэту гісторыю, заўважыў: «Я знайшоў звесткі ў старых рускіх летапісах, некалькімі экземплярамі якіх карыстаўся, што Літва ў 1307 г. (толькі ў яго і ўказана гэта дата) авалодала Полацкам, але няма звестак аб тым, якім чынам гэта здарылася і хто тады валодаў Полацкам»[131]. Прызнанне красамоўнае! Нават для М. Стрыйкоўскага, які не грэбаваў фальсіфікацыяй, гэтыя звесткі былі няпэўныя, ён не бачыў у іх дэталяў, якія б рабілі іх праўдзівымі. Трэба таксама зазначыць, што некаторыя з рускіх летапісаў, якімі карыстаўся гэты храніст, дайшлі да нас, але ні ў адным з іх няма апісання полацкіх падзей 1307 г. Усё гэта ставіць пад сумненне, што такія летапісы былі. Вось чаму яшчэ ў канцы XIX ст. было даказана, што «Полацкае княства ніколі не было пад уладай Ордэна, ніколі і ніхто не дарыў яго Рыжскай царкве, і ніхто не вызваляў яго ад нямецкага ўціску ў 1307 г.»[132].

І вось апошні сведка полацкай гісторыі таго часу. Гэта грамата полацкага епіскапа Якава. На жаль, яна засталася недатаваная, і таму час яе напісання выклікаў супярэчлівыя меркаванні. В. Васільеўскі прывёў даволі важкія аргументы ў карысць таго, што грамата напісана ў 1309 г.[133], з чым згодны быў і У. Пашута. Аднак апошні на падставе таго, што ў грамаце Якава робіцца спасылка на дагавор Віценя з Рыгай каля 1298 г.[134], адносіць яе і да гэтага часу. Але хіба мог Якаў так гаварыць пра дагавор, заключаны 10 гадоў назад, звяртаючыся да рыжанаў: «...а ныне есмь уведале любовь праве вашае с сыном моим Витенем»[135].

Гэтыя словы вельмі добра сведчаць аб тым, што Полацк каардынаваў сваю знешнюю палітыку з усёй дзяржавай, з якой ён наўрад ці перарываў еднасць з часоў Войшалка. Апроч таго нельга не ўбачыць, што наладжванне мірных сувязей і асабліва гандлёвых з Рыгай было найперш у карысць Полацка, звязанага з ёю сваёй галоўнай жыццёвай дарогай па Дзвіне. А гэта не магло не ўказваць на ўсё большы ўплыў Полацка на палітыку ўсёй дзяржавы. Вышэй ужо гаварылася, што перадача Будзікідам і Будзівідам Ваўкавыска ўказвала на паступовае змяншэнне ролі Навагародскай зямлі ў дзяржаве. Праўда, У. Пашута лічыў, што гэтага патрабавала найперш барацьба з Ордэнам, які разгарнуў наступленне на Жамойцію [136]. Аднак супраціўленне Ордэну было пастаянная жыццёвай неабходнасцю новай дзяржавы, чым і дыктавалася яе ўтварэнне. Дарэчы, у гэты час, як мы бачылі, і Навагародская зямля нямала цярпела ад крыжацкіх нападаў. Таму перадачу Ваўкавыска Валыні побач з прыязнымі адносінамі епіскапа Якава да Віценя больш дакладным будзе лічыць як выяўленне ўзрастаючага значэння Полацка ў дзяржаве. Выяўленнем гэтага можа быць тое, што ў 1285 г. «литва Ловоть воеваша»[137]. А гэта значыць, што сілы дзяржавы паступова пераключаюцца на ўзнаўленне ранейшай палітыкі Полацка ў адносінах да суседніх усходніх земляў, вынікам чаго ў далейшым і з'явіцца пашырэнне тэрыторыі дзяржавы на ўсход. Праўда, сам Полацк не стаў сталіцай усёй дзяржавы, але ёй стане другі даўні цэнтр крывіцкай каланізацыі ў балцка-крывіцкіх землях—Крывічгорад-Вільня. Так закончыўся навагародскі перыяд нашай гісторыі.

Тое, што Навагародак у II пал. XIII ст. заняў дамінуючае значэнне ў нашай гісторыі, не было, як мы бачылі, выпадковасцю. Гэтак жа сама і тое, што ён стаў першай сталіцай новай дзяржавы, добра тлумачыць яе назву як Літоўскай. Звычайна ў гістарычнай літаратуры гэта тлумачыцца як вынік заваявання Літвой (у дадзеным выпадку пад ёю разумеецца тэрыторыя сучаснай Літвы) беларускіх земляў, і ў першую чаргу Навагародка і яго зямлі. Але, як мы бачылі, ніводнага факта ў карысць гэтага не было прыведзена, што і зразумела, бо ўсё адбывалася наадварот. Не Літва заваёўвала Навагародак, а ён яе заваяваў, як гэта было намі паказана на аснове гістарычных матэрыялаў. І калі беларускія землі далучаліся да Навагародка мірна на глебе іх эканамічнага, палітычнага і культурна-этнічнага збліжэння, то балцка-літоўскія землі падначальваліся гвалтоўна, аказваючы моцнае супраціўленне навагародскай аб'яднаўчай палітыцы. Яшчэ рускі гісторык Н. Надзеждзін адзначыў у 1843 г., што перамагла не Літва, а яе назва [138]. І гэта так. Старажытная Літва, як сведчаць гістарычныя крыніцы і тапаніміка, знаходзілася ў Верхнім Панямонні, на тэрыторыі Беларусі. І хаця яна была заваявана суседнім Навагародкам, але захавала сваю назву і ў далейшым нават пашырыла яе. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што яна займала цэнтральнае месца сярод беларускіх гістарычных абласцей: Полацкай, Тураўскай і Навагародскай. З назвай Літвы атрымалася прыблізна тое ж самае, што і з назвай другой балцкай зямлі—Прусіі. Размешчаная на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, паміж вусцяў Нёмана і Віслы, яна ў канцы XIII ст. была заваявана нямецкім Ордэнам, але таксама не страціла сваёй назвы і стала пашыраць яе на захад аж да Берліна. І як пад балцкай назвай «Прусія» існавала буйнейшая нямецкая дзяржава, так і пад балцкай назвай «Літва» хавалася буйнейшая ўсходнеславянская дзяржава. Як усходнія немцы называліся прусакамі, якіх нельга блытаць з прусамі, так панямонскія беларусы называліся літвінамі, якіх нельга блытаць з літоўцамі. Вялікае княства Літоўскае было шматэтнічнай дзяржавай, аднак па гісторыі свайго ўтварэння на тэрыторыі Беларусі, дзе знаходзілася яе ядро, па панаванню ў ёй беларускай культуры і мовы яна была найперш беларускай дзяржавай. Нездарма як яшчэ ў летапісах XVI ст. гаворыцца аб «Новогородской державе, над Немном лежачее», якой належалі Гродна, Драгічын, Брэст і ў якую ўваходзілі «вси краины русские от Вилны аж до жродел (вытокаў) Неменовых, где ся за Копылем начинается»[139]. І нездарма ж у летапісах XVI ст. у Навагародак заднім чыслом саджаліся жамойцкія князі, якія з гонарам насілі тытул Вялікага князя Навагародскага [140].

Вялікае значэнне Навагародка ў нашай гісторыі падкрэслівае і тое, што яго герб «Пагоня»—коннік з мячом над галавой [141]—стаў дзяржаўным гербам Вялікага княства Літоўскага. І Вільня, зрабіўшыся пасля сталіцай, пераймае гэты сімвал, а за ёй і многія беларускія гарады. З гэтага часу «Пагоня» становіцца выяўленнем дзяржаўнай самабытнасці Беларусі, вайсковай доблесці яе мужных барацьбітоў за волю радзімы. Усё сказанае вышэй пераканаўча паказвае, што Вялікае княства Літоўскае ў II пал. XIII ст. і пачатку XIV ст. існавала найперш як Навагародская дзяржава.

# Крыніцы і літаратура


100 ПСРЛ, т. 2, сл. 878.
101 Рыфм. хр., вершы 8087—8148.
102 Таксама, вершы 8208—8230.
103 Пашуто В., указ. кн., с. 277—278, 345.
104 ПСРЛ, т. 7, с. 253.
105 Дузбург П. Гісторыя Прускай зямлі (на лац. мове), ч. 3, с. 241.
106 ПСРЛ, т. 2, сл. 933.
107 Пашуто В., указ. кн., с. 37, 298, 389.
108 Антонович В., указ. кн., с. 37.
109 Хроника Быховца, с. 48.
110 Пашуто В., указ. кн., с. 72.
111 Дмитриева Р. Сказание о князьях Владимирских. М., 1955, с. 109.
112 Без-Корнилович М., Исторические сведения о примечательных местах Белоруссии. СПБ, 1855, с. 10, 11.

[113] Живописная Россия, 1882, т. 3, с. 299.
[114] Морошкин М. Славянский имянослов, СПБ, 1867, с. 67.
[115] Дузбург П., указ. кн. ч. 3, с. 273, 294; Стрыйкоўскі М. Кроніка (на польск. м.), т. 1, 1846, с. 354.
[116] Дузбург П., указ. кн., ч. 3, с. 252.
[117] Таксама, с. 241.
[118] ПСРЛ, т. 2, сл. 932—933.
[119] ПСРЛ, т. 2, сл. 932.
[120] Таксама, т. 7, с. 253.
[121] История Ливонии. Рига, 1884, т. 2, с. 120.
[122] Таксама, с. 121.
[123] Дузбург П., указ. кн., ч. 3, с. 223, 260, 266, 267, 292, 308, 322, 349.
[124] Антонович В., указ. кн., с. 41—42.
[125] Хроника Быховца, с. 49.
[126] Памятники старинной русской литературы, вып. 4, СПБ, 1860, с. 185.
[127] Данилевич В., указ. кн., с. 151.
[128] Таксама, с. 152.
[129] Сапунов А. Витебская старина. Т. 5, ч. 1, с. 9, № 5.
[130] Пашуто В., указ. кн., с. 392.
[131] Стрыйкоўскі М., указ. кн., т. 1, с. 319.
[132] История Ливонии, т. 2, с. 176—177.
[133] Журн. Мин-ва народн. просвещ., 1872, ч. 159, № 2, с. 151.
[134] Пашуто В., указ. кн., с. 150.
[135] РЛА, с. 21.
[136] Пашуто В., указ. кн., с. 384.
[137] НПЛ, с. 326.
[138] Журн. Мин-ва внутр. дел, 1843, № 3, с. 230.
[139] ПСРЛ, т. 32, с. 19, 20, 22, 25.
[140] Таксама, с. 19, 130.
[141] Татищев В. История Российская, т. 1, с. 357, 440; т. 2, с. 311.

1985—1986, 1988 гг.



# Публіцыстыка

# ЭЛЕКТРОННЫ «ЧАЛАВЕК»

## ЦІ ЗДОЛЬНАЯ МАШЫНА ДУМАЦЬ?

Аднойчы вучні спыталі Арыстоцеля:

— Чаму чалавек вышэй за малпу?

Мудрэц на хвілінку засяродзіўся і адказаў:

— Ён пачаў задумвацца, як бы аблегчыць сабе жыццё.

У дасціпных словах бессмяротнага філосафа тоіцца глыбокі сэнс. Увесь час для існавання і развіцця нам, людзям, чагосьці не хапала. Спачатку хоць бы адзення, каб затуліцца ад дажджу ці холаду. Потым сырое мяса настолькі абрыдла, што барадаты продак начэй не спаў, усё меркаваў, як бы яго засмажыць. Затым вылез з сырой пячоры і зрабіў будан, за ім пачаў ставіць курныя хаціны, драўляныя, нарэшце, каменныя дамы, палацы.

Надакучыла хадзіць пехатой, і ён змайстраваў сабе першае кола, ад якога пайшлі-пакаціліся воз, веласіпед, аўтамабіль, цягнік, параход. І гэтак ва ўсім. Прагрэс, як вучыць філасофія, нараджаўся з неабходнасці пераадолення аб'ектыўных перашкод і цяжкасцей. Адкрываючы новыя гарызонты, чалавек нярэдка наіўна меркаваў: вось і ўзняўся да апагея, вынайшаў нябачаную лятаючую «птушку»—аэраплан. Ніхто і ніколі гэтага не перасягне. Але праходзіў час, і аэраплан перарос у турбавінтавы, рэактыўны лайнер. З'явілася «вогненная птушка»—ракета. І ў апошнія дзесяцігоддзі ўжо нікога з вучоных пры жыцці не абвяшчаюць сусветным карыфеем накшталт Дарвіна альбо стваральніка першых вакцын Пастэра. Бо колькі такіх выпадкаў: сёння — вучоны, скажам, нобелеўскі лаўрэат, першаадкрывальнік, а заўтра, глядзіш, яго прозвішча выцеснена іншай, яшчэ большай славутасцю. Навукова-тэхнічны прагрэс рухаецца сапраўды сямімільнымі крокамі, шалёнымі тэмпамі. Ідзе зацятая гонка ў асяроддзі вучоных і ў сферах прымянення навейшых тэхналогій. І вось чалавецтва падышло да яшчэ адной, нечуванай раней мяжы — стварэння свайго электроннага двайніка са штучным інтэлектам. Навошта ж гэта спатрэбілася? Вучоныя і спецыялісты адчулі, што топяцца ў інфармацыйным віры. Лавіна ведаў з безлічы крыніц абрынулася на спецыялістаў, чалавецтва ўвогуле. Здавалася, дапамогуць камп'ютэры. Але яны, на жаль, ускладнілі становішча, захліснуўшы вучоных, вобразна кажучы, «дзевятым валам» сырой інфармацыі. Чаму? Праграмы, запісаныя ў памяці ЭВМ, вузка спецыялізаваныя, прызначаны для выканання толькі аднаго віду канкрэтнай дзейнасці. Напрыклад, ЭВМ здольна даказаць галаваломныя матэматычныя тэарэмы, але не ў стане зрабіць элементарнага ходу ў шашкі. Іншымі словамі, назапашванне праграм не прыводзіць да якасных зрухаў у магчымасцях ЭВМ і не дапамагае машыне авалодваць іншай разумнай дзейнасцю, чым гэта прадугледжваў стваральнік праграмы. Набор такіх заданняў для камп'ютэра нагадвае вялізную бібліятэку. У кожнай з кніг захоўваюцца тыя ці іншыя звесткі. Але з'яўленне новых тамоў у кнігасховішчах ніяк не ўплывае на гэтыя звесткі і не павялічвае «інтэлект бібліятэкі».

Да таго ж, прыходзіш у бібліятэку і доўга не можаш адшукаць патрэбную кніжку.





Рабочы момант з жыцця даследчыкаў «штучнага інтэлекту».

А калі і знойдзеш навінку, шмат каштоўных гадзін ляціць на раскопкі цытат, вынятак, высноў... З праграмамі атрымліваецца яшчэ горш. Толькі ў нашай рэспубліцы іх дзейнічае сотні тысяч. Парадку, нейкіх правілаў узаемадзеяння няма. Напісаны праграмы нярэдка на розных машынных мовах. Прызначаныя да аднаго тыпу ЭВМ, як правіла, не стасуюцца з другім. Пераважнай большасцю гэтай прадукцыі нельга карыстацца масавым спажыўцам. Вось чаму кібернетыкі, у тым ліку і беларускія, паставілі пытанне аб стварэнні камп'ютэраў новага пакалення, машын са штучным інтэлектам, ці, як іх яшчэ назвалі, «электронных людзей». Адрозненне гэтай тэхнікі ад звычайнай ЭВМ прасочым па аналогіі той жа «бібліятэкі». Сённяшнія машыны бяруць з яе «памяці» «кніжкі-карткі» і, вобразна кажучы, уручаюць чалавеку. А ЭВМ 5-га і 6-га пакаленняў павінны самі аналізаваць, вывучаць кніжкі-карткі і выдаваць спажыўцу загадзя заказаны артыкул, макет, праект, чарцёж і г. д. Такім чынам, новая ЭВМ адразу ж узнімаецца на ўзровень чалавека-аналітыка, чалавека-творцы. Стварае такі электронны цуд група маладых кібернетыкаў з Мінскага радыётэхнічнага інстытута. Душа гэтага калектыву — Уладзімір Васільевіч Галянкоў, кандыдат тэхнічных навук, гарачы прыхільнік і прапагандыст захапляючай ідэі. Вакол яго збілася чародка таленавітых праграмістаў, кібернетыкаў, выхадцаў з Белдзяржуніверсітэта і Акадэміі навук рэспублікі. Апрача хлопцаў Галянкова ў калектыў пад умоўнай назвай «ЭВМ-5» увайшлі і лінгвісты прафесара Віктара Уладзіміравіча Мартынава з Інстытута мовазнаўства АН БССР. Даследчыкі аснашчаюць камп'ютэр мовай, з дапамогай якой ён мог бы гутарыць з чалавекам па-руску ці па-беларуску. Прафесар аддаў гэтай справе дзесяткі гадоў жыцця, напісаў бібліятэку манаграфій і, са свайго боку, таксама зразумеў неабходнасць стварэння «ачалавечаных», ці, дакладней, інтэлектуальных, сістэм.

Цікавую галіну «машыннага розуму» — аўтаматызацыю рашэння інжынерна-вынаходніцкіх задач на аснове спецыяльнай глыбокай тэорыі — распрацоўвае і дацэнт Мінскага радыётэхнічнага інстытута Валерый Міхайлавіч Цурыкаў.

І не выпадкова, што ўсе гэтыя тры розныя групы зліліся ў адзін калектыў і пачалі працаваць разам. Падкрэслім: спачатку без афіцыяльнага статусу і, лічы, без падтрымкі. Як кажуць, не за грошы, а за сумленне. У аднаго з мінскіх прафтэхвучылішчаў узялі ў арэнду памяшканне. Неяк я завітаў да іх на чарговы семінар і так захапіўся, што прасядзеў да вечара. Атмасфера нагадвала сяброўскую сустрэчу: спрэчкі перапыняліся кароткімі паведамленнямі, справаздачамі з'яднаных адной мэтай даследчыкаў. Цяжка было разабрацца ў іх пакручастых маналогах-формулах, але да галоўнага, на мой погляд, дайшоў. Кібернетыкі будавалі «мозг-памяць» новай машыны. Будавалі доказна, лагічна, з гатовымі картамі-схемамі ў руках. Прынцып яе рэзка адрозніваўся ад сучаснай камп'ютэрнай і блізка падыходзіў да чалавечай. Размяшчэнне і злучэнне элементаў нагадвала мозг вышэйшай жывой істоты.

Перапляценне апрацоўваючых інфармацыю элементаў надзвычай складанае. Злучэнні іх утвараюць сапраўднае павуцінне, накшталт сеткі нервовых клетак розуму чалавека. І калі звычайныя ЭВМ апрацоўваюць інфармацыю паслядоўна, крок за крокам, згодна з раней складзенай матэматыкам праграмай, дык новыя сістэмы «пераварваюць» часткі яе аднгачасова і паралельна.

Скажам, памяць у машыны Галянкова—Мартынава—Цурыкава аналітычная, асацыятыўная. Яна здольна падсумоўваць, выконваць лагічныя вывады, «корпацца» ў сваёй базе ведаў і з лабірынта магчымасцей прапаноўваць аптымальны варыянт рашэння той ці іншай задачы.

Нашы даследчыкі пакуль яшчэ на пачатку шляху і нельга выразна акрэсліць усю глыбіню праблемы, падняць якую яны адважыліся. Але, скажам, у ЗША ў Балтымарскім універсітэце ўжо стварылі камп'ютэр ачалавечанага напрамку пад назвай «Нетак». Ён дэманструе здольнасць да самаравучання і складання праграм на аснове ранейшага вопыту. Калі звычайнай ЭВМ не хапае звестак, яна не можа кампенсаваць гэта нейкім чынам і спыняе работу. Ачалавечанай жа машыне тое асабліва не перашкода. Яна прыдатная там, дзе трэба «разважаць».

Больш таго, адна з лабараторый зрабіла камп'ютэр, які ўслых вучыць самога сябе чытаць. Спачатку машыне далі тэкст з 500 слоў і яго гукавы запіс. Спярша чулася нейкае мармытанне, але па меры таго, як ЭВМ вучылася распазнаваць галосныя і зычныя, яна пачала выразна вымаўляць словы. Расшыфраваўшы электронныя запісы, зробленыя ў час эксперыментаў, даследчыкі прыйшлі да вельмі цікавага вываду. Для дасягнення аднаго і таго ж выніку камп'ютэр кожны раз выбіраў новы шлях, дзейнічаў, лічы, як творчы чалавек. Але ці пад сілу Галянкову і яго калегам з Мінскага радыётэхнічнага інстытута зрабіць сваю машыну з «ачалавечаным інтэлектам»?

— Калі б вы задалі гэта пытанне гадоў дзесяць назад, сумненні былі б, — адказаў даследчык, — а сёння трэба працаваць і не ўпусціць час. Машына будзе. Вопыт продкаў, вопыт пакаленняў логікаў, матэматыкаў, біёлагаў, кібернетыкаў нас падштурхоўвае, выводзіць на дарогу.

## БАЦЬКА КІБЕРНЕТЫКАЎ — АРЫСТОЦЕЛЬ

Сам таго не ўсведамляючы, чалавек вякамі вынаходзіў сабе падобнага штучнага двайніка, які мог бы думаць, гаварыць, хадзіць. Пачаўся гэты працэс яшчэ ў Старажытнай Грэцыі. Вялікі Арыстоцель задумаўся, чаму пры спрэчцы-гутарцы з іншымі людзьмі мы ці то перамагаем, ці то прайграём? І стварыў тэорыю сілагізмаў, авалодаўшы якой можна заўсёды быць «на кані» і сёння, праз вякі. Сутнасць метаду мудрага грэка ў тым, што высвятляюцца прычыны, якія знаходзяцца ў аснове атрымання правільнага ці няправільнага выніку, скажам, у час размовы-спрэчкі. Дасягаецца гэта пры дапамозе элементарных вывадаў, калі думка рухаецца ад агульнага да прыватнага ці наадварот.

Логіка Арыстоцеля азначала велізарны крок наперад для ўсяго чалавецтва. Людзі атрымалі своеасаблівы компас, які дазволіў меркаваць аб праўдзівасці ці памылковасці вывадаў з правільных пасылак. Гавораць, што ў XIX стагоддзі другі выдатны вучоны англійскі матэматык Джордж Буль, спасцігшы тэорыю Арыстоцеля, так узрадаваўся, што бегаў па горадзе нібыта хлапчук і галёкаў на ўсё горла: «Знайшоў! Знайшоў!» Было ад чаго захапляцца. З логікі старажытнагрэчаскага калегі Буль лёгка выключыў расплывістыя моўныя азначэнні і звёў яе да дакладных і адназначных формул. Атрымлівалася, што нашы з вамі вылічэнні, меркаванні можна перакласці на фармальную мову матэматыкі ці наогул запраграмаваць увесь працэс мыслення і паводзін у абстрактных сімвалах.

І калі ў адным з нядаўніх інтэрв'ю вядомы савецкі вучоны Мікіта Майсееў вобразна зазначыў, што сёння матэматыкі кіруюць светам, дык, трэба прызнаць, ён не памыляўся. На логіка-матэматычную мову зараз пакладзены і пераведзены ў памяць ЭВМ безліч мадэлей акаляючага свету і ўяўленняў чалавека.



Электронны розум ствараюць дваццацігадовыя. На здымку інжынер-праграміст Андрэй Кур'ян і аспірант Яўген Лескавец.



**Валерый Міхайлавіч Цурыкаў — загадчык лабараторыі «штучнага інтэлекту» Мінскага радыётэхнічнага інстытута.**

Неяк у таго ж Галянкова пацікавіўся: а ці здольная машына ўспрыняць, напрыклад, казку альбо асэнсаваць газетнае паведамленне?

— Пытанне для пачынаючага праграміста,— усміхнуўся Уладзімір Васільевіч і ўзяў першую, што трапілася пад рукі, карэспандэнцыю пра пажар. У ёй было мноства звестак: дзе і калі ўзнік агонь, з-за чаго, як стыхія адрэзала шлях да выратавання дзіцяці, хто выратаваў хлопчыка і г. д. За мінуту субяседнік склаў фрэйм, ці, у перакладзе з англійскай, асноўную «рамку», «шкілет» гэтага паведамлення, пазначыў яго матэматычнымі сімваламі і даверыў да фармальнага ўзроўню аналіз сюжэтнага ходу. Адразу ж фрэйм можна ўкладваць у машыну і выкарыстоўваць паведамленне з рознымі мэтамі: праслухоўваць, аналізаваць паводзіны пажарных, прасачыць, ці не нарабілі яны памылак, і г. д.

Тады, памятаю, я шчыра падзівіўся магчымасцям звычайнай ЭВМ. Гадоў дзесяць назад, пазнаючы гэтыя ісціны на больш тонкім матэматыка-кібернетычным узроўні, у такое ж захапленне прыходзіў і сам Галянкоў. Ён адчуваў сябе як бы ля вяршыні велізарнага генеалагічнага дрэва штучнага інтэлекту. Зірнеш уніз — галава кружыцца, дыханне перахоплівае ад неабсяжнасці чалавечых пошукаў, яго спрадвечнай цягі да расшыфроўкі нязведанага.

Яшчэ ў XVIII стагоддзі з'явіліся першыя механічныя людзі — андроіды. Найбольш вядомыя былі мадэлі французскага механіка Жака дэ Вакансона. Ён зрабіў робатамузыканта, які браў сапраўдную флейту, падносіў яе да вуснаў і, перабіраючы пальцамі, іграў адну з адзінаццаці мелодый. Многія да хрыпаты даказвалі, што перад імі не механізм, а жывы чалавек. Як жа ствараўся фокус? Сакрэт дасягаўся за кошт памяці — пэўным чынам з'яднаных элементаў механізма. Мянялі парадак злучэння — іншая станавілася мелодыя. Потым андроідаў удасканалілі, назвалі робатамі і прымянілі для іх зменную «памяць». Ідэя гэтай памяці, дарэчы, атрымала другое нараджэнне з развіццём ЭВМ.

Пачалі збліжацца дзве галіны ведаў: логіка з матэматыкай і кіруемыя механічныя сістэмы. Заставалася іх злучыць. І гэта зрабіў у 50-х гадах даследчык Аляксандр Гаўрылаў — пачынальнік новага навуковага напрамку «тэорыі лагічнага сінтэзу дыскрэтных прыстасаванняў». Ён заўважыў, што лагічныя паводзіны чалавека, якія матэматыкі сціснулі да абстрактных сімвалаў і фармалізавалі, маюць адпаведных партнёраў — прадстаўнікоў у пэўных тыпах электрычных схем. Неверагодна, але ўзнікла цесная сувязь паміж жывой і нежывой прыродай, паміж палётам чалавечай думкі, пачынаючы ад Арыстоцеля, і даволі зямнымі, звычайнымі для кожнага інжынера электрарэлейнымі схемамі. У гэты самы момант і нашага героя азарыла незвычайная, быццам шаравая маланка, здагадка: час і табе, браток, узнімацца вышэй па генеалагічным дрэве кібернетыкі да сваёй «ачалавечанай» машыны перапрацоўкі ведаў.

Але ж нездарма ў народзе заўважылі: лёгка казаць, ды далёка ісці. Захапленне Галянкова штучным інтэлектам, яго апантаныя вышукі спачатку не надта падзялялі на кафедры электронных матэматычных машын БДУ імя У. І. Леніна. Услед за Галянковым вілася нябачная «слава» сучаснага алхіміка ад кібернетыкі. Душа ва Уладзіміра Васільевіча шчырая, адкрытая, ён заўсёды з людзьмі. Студэнты вакол роем уюцца. Але неяк так здарылася, што па «важкай» прычыне студэнтаў ад яго адабралі. Лекцыі не далі чытаць па яшчэ больш «важкай» прычыне. Падтэкст забароны вынікаў адзін: ты алхімік і не збівай з панталыку моладзь.

Але, як ні дзіўна, чым больш забаранялі і не пушчалі, тым больш «шчыльней» вакол Галянкова арэол цікавага і неардынарнага даследчыка.

Ды, як і заўсёды бывае ў жыцці, на шляху трапляліся не толькі церні, але і кветкі ўдачы. З першага дня яго падтрымлівалі член-карэспандэнт АН БССР, дэкан факультэта радыёфізікі і электронікі БДУ імя У. І. Леніна А. М. Шыrокаў, дырэктар Інстытута прыкладных фізічных праблем пры Белдзяржуніверсітэце А. Ф. Чарняўскі. Дзякуючы іх старанням Галянкоў і здолеў займацца сваёй неардынарнай тэмай.

Знайшліся саюзнікі і ў Маскве. Валодзя падаўся ў сталічны электронны інстытут, захапіў з сабой такія цяжкія і такія «салодкія» распрацоўкі. Як там прыйшлося?

— Моцна дапамагалі японцы,— смяецца ён цяпер.

А калі сур'ёзна, дык надрукаваныя замежныя прагнозы і формулы Галянкова супадалі. Вядома, гэта былі не «сіямскія блізняты», але кожнаму ўдумліваму кібернетыку было відаць: мінскі даследчык знаходзіцца на магістральна правільным напрамку. Прыкладна так, рашуча і беспаваротна, заявіў найпершы аўтарытэт у галіне штучнага інтэлекту маскоўскі прафесар Д. А. Паспелаў. Да яго далучыліся астатнія. Дысертацыя была паспяхова абаронена.

Новаспечаны кандыдат тэхнічных навук вярнуўся ў Мінск ва універсітэт і адчуў сябе як рыба, выкінутая з вады на гарачы пясок. Яго аргументы, доказы аб тым, што японцы да 1990 года плануюць стварыць ЭВМ пятага пакалення, мала краналі універсітэцкіх «мэтраў». Праўда, цяпер ужо Галянкова адкрыта не абвяшчалі фантазёрам ці, горш таго, шарлатанам. Выстаўляліся больш грунтоўныя «прычыны»: адсутнасць матэрыяльных сродкаў, лімітаў, фондаў зарплаты на пашырэнне даследаванняў і г. д. Ад такога непрабіваемага фармалізму Уладзімір Васільевіч ледзь не запанікаваў, крычаў сябрам: «Да д'ябла! Закіну свой штучны інтэлект, буду весці «лікбез» для студэнтаў і не рваць нервы» — пару такім чынам пакрысе выпускаў і працаваў з яшчэ большай апантанасцю.



**Інжынер-праграміст Андрэй Салавей «мёртвыя матэматычныя сімвалы» перакладае на «жывыя знакі» для камп'ютэра-вынаходніка.**

## «ШТУЧНЫ ІНТЭЛЕКТ» СУПРАЦЬ БЮРАКРАТЫЗМУ

І ўсё ж перамены пачалі адбывацца. Яны непарыўна злітаваны з перабудовай, абнаўленнем прэзідыума рэспубліканскай Акадэміі навук. Тут сфарміравалася новае Аддзяленне фізікі, матэматыкі і інфарматыкі, якое ўзначаліў буйны вучоны-электроншчык, правадзейны член Акадэміі навук БССР прафесар У. А. Лабуноў. Ён зразумеў: справы з развіццём усёй індустрыі кібер-

нетыкі, інфарматыкі вядуцца, мякка кажучы, пазалеташнімі метадамі. Вучоныя акадэміі корпаюцца самі па сабе, даследчыкі з ВНУ, галіновых інстытутаў таксама сядзяць па ведамасных буданах. Асобныя дасягненні ёсць, а цэласны вынік — не праглядваецца. Стварыць высокаэфектыўныя, надзейныя электронна-вылічальныя машыны, сродкі аўтаматызацыі праектавання, робататэхнічныя сістэмы і комплексы з такой разнамаснай камандай немагчыма. І Лабуноў павёў вялікую, дзяржаўную работу па каардынацыі сіл усёй рэспубліканскай навукі. І адразу ж звярнуў увагу на даследаванні па штучнаму інтэлекту. Без яго, лічыць акадэмік, нельга абысціся сёння, а заўтра наогул адкоцімся на «перыферыю» тэхнічнага прагрэсу.

Кібернетыка без штучнага інтэлекту — аўтамабіль без рухавіка. Да таго ж тэорыя «чалавечага» розуму — навука асаблівая. Яна карысная ў той меры, у якой укараняецца ў практыку. Таму і звярнуліся нашы героі на адзін з заводаў. Практыкі, людзі разважлівыя, далёкія ад эмоцый і празмерных захапленняў, ухвалілі ідэю. Больш таго, прапанавалі матэрыяльную падтрымку. І гэта не выпадкова. Сёння ва ўсім свеце працы нават з пачаткамі штучнага інтэлекту прыносяць велізарны эканамічны эфект. У прыватнасці, гадавы прыбытак амерыканскай фірмы ДЭК, якая пастаўляе на рынак яшчэ даволі прымітыўныя сістэмы штучнага інтэлекту, дасягае штогод 20 мільёнаў долараў. Ужо сёння яны дыягнастуюць дзейнасць атамных электрастанцый, геолагаразведку, машынабудаўнічы цыкл, праектныя распрацоўкі, становяцца экспертамі ў доктара, энергетыка, інжынера, кіраўніка і г. д.

— Значыць, побач з жывым чалавекам ты хочаш пасяліць электронна-механічнага? — дапытваўся я ў Галянкова.

— Лічы, што так,— згадзіўся той і дадаў: — Штучны інтэлект прынясе для чалавецтва новую рэвалюцыю: суцэльную камп'ютэрызацыю грамадства, утварэнне новых інфармацыйных тэхналогій, на аснове якіх будзе ажыццяўляцца аўтаматызацыя ўсіх аспектаў жыцця. На работу і ў кватэру прыйдуць інтэлектуальныя, бытавыя і прафесіянальныя камп'ютэры. Яны на чалавечай мове пачнуць гутарыць з гаспадаром, выконваць чарцяжы, перакладаць замежныя тэксты, складаць службовыя дакументы, маляваць самыя розныя карціны і г. д.

Слухаючы ўзнёслую тыраду маладога даследчыка, я здзіўляўся, наколькі далёка ён глядзіць наперад, як правільна намацвае кропкі апоры для сваіх «інтэлектуальных» машын.

Без «розуму» яны сёння і тым больш заўтра пачнуць моцна «кульгаць». Нават самы сучасны сярод айчынных персанальны камп'ютэр ЕС 1840/41, які выпускае Мінскі завод вылічальнай тэхнікі, паводле апошніх водгукаў з'яўляецца «сляпым» і «глухім». Чаму? Адзін з вядучых у краіне спецыялістаў па пісьменнасці камп'ютэраў доктар тэхнічных навук наш зямляк Б. М. Лабанаў сцвярджае, што і гэта ЭВМ мала прыстасавана для аператыўных зносін з чалавекам. Асабліва цяжка ўсім некібернетыкам і нематэматыкам. Прыходзіцца ўга колькі папацець, пакуль навучышся ўходжвацца з клавіятурай, шмат часу ідзе на праграміраванне, увод, атрыманне і аналіз інфармацыі.

А ўсё гэта, несумненна, зніжае эфектыўнасць выкарыстання камп'ютэраў. Ужо даўно, скажам, назіраецца выбух паператворчасці «тэхнічнага характару». Сучасныя аўтаматызаваныя сістэмы кіравання завальваюць кіраўнікоў рулонамі ўсемагчымых табліц. Але часцей за ўсё яны трапляюць у кошык для смецця. На аналіз выданых машынамі папер у людзей нярэдка не хапае ні сіл, ні часу. Атрымліваецца, што неверагодная хуткасць падліку, велізарная памяць сучасных ЭВМ, малыя габарыты, ашчаднае энергаспажыванне і іншыя перавагі, на вялікі жаль, недастаткова прыстасаваны для супрацоўніцтва з намі, людзьмі.

Вось і ставяць Лабанаў, Галянкоў і іншыя кібернетыкі слушнае пытанне. Чаму мы павінны зубрыць пісьменнасць ЭВМ, а не ЭВМ — чалавечую грамату? А каб камп'ютэр атрымаўся такі пісьменны, неабходна навучыць яго валодаць нашай мовай, гутаркай. Дасягнуць мэты без «штучнага інтэлекту», які стварае Галянкоў з групай таварышаў, зазначым, ніяк нельга. Яшчэ гадоў з дзесяць назад падобная пастаноўка пытання была магчымая толькі ў фантастычным рамане. Сёння ж, аднак, на Сусветнай выстаўцы ЭКСПО ў Японіі наведвальнікам дэманстравалі ўзоры машын, якія гавораць і слухаюць, здольны весці з чалавекам гутарку. І таму Уладзімір Васільевіч не бачыць у «жывым» розуме ЭВМ чагосьці звышнатуральнага. Што пажадае чалавек, тое і можна стварыць з дапамогай сучасных матэматыка-кібернетычных метадаў. На электронную мову, як ні дзіўна, лёгка перакладаецца і такая вышэйшая катэгорыя чалавечага інтэлекту, як творчасць. Псіхолагі вылучаюць тут некалькі момантаў. Адзін з асноўных — інсайт, што ў перакладзе з англійскай азначае азарэнне. Нашы кібернетыкі ў ім бачаць пераход ад аднаго лабірынта магчымасцей, думак і меркаванняў да другога і пабудову новага сімвалічнага лабірынта, у якім знаходзіцца рашэнне творчай задачы. Складаныя алгебраічныя формулы плаўна апісваюць палёт думкі, патокі мазгавых нейронных сігналаў і імпульсаў накшталт тых, што вылучае наш мозг. Праўда, чалавек у час інсайту адчувае моцныя станоўчыя эмоцыі, радасць з нагоды знойдзенага рашэння, адным словам, вялікае творчае задавальненне. Машына нічога такога, зразумела, не зведвае. Яна «халодна», па зададзенаму «рэцэпту» кампіліруе творчы працэс.






Інжынер-праграміст лабараторыі «штучнага інтэлекту» Андрэй Кур'ян.

І ўсё ж гэты «халодны» розум, у сваю чаргу, вучыць многаму і нас, людзей. Скажам, машына ніколі не спыняецца на застылым варыянце, адной схеме ці звыклым шаблоне. А што робіцца ў нашых інстытутах? Нярэдка дзесяцігоддзямі на кафедрах і ў лабараторыях не відаць прыкметных структурных змен, усё ўстаялася і ўтрэслася. Прычым да такой ступені, што даследаванні вядуцца гадамі, дзесяцігоддзямі, а канкрэтных вынікаў няма. Сапраўды меў рацыю славуты рускі даследчык і падарожнік М. М. Міклуха-Маклай, калі пісаў: «Ёсць людзі, што адносяцца да навукі, як да дойнай каровы, якая абавязана забяспечваць іх штодзённым харчам. Гэта робіць з вучоных — рамеснікаў ці, іншы раз, проста шарлатанаў. У такім выпадку навуковая ісціна — справа дзесятая...»

Да калектыву, які стварае «штучны інтэ-

лект», гэта адмоўнае вызначэнне зразумела, не датычыцца. Тут адсутнічаюць звычайны адміністрацыйны падзел на начальнікаў і падначаленых, старэйшых навуковых супрацоўнікаў і «мэнээсаў». Разбураны іншыя традыцыйныя іерархічныя перагародкі. Працаваць па старынцы не можам, сцвярджае Галянкоў. Нават цені падобнай да фармалізму не павінна быць. Калі ўсё жорстка зарэгламентаваць і пастаянна не перабудоўвацца — калектыў загіне. Спайка павінна быць, не раўнуючы, што ў экіпажы касманаўтаў. Тыя дзейнічаюць ва ўмовах галактычнай бязважкасці, мы ва ўмовах хісткасці вынікаў. Мэта ўцякае, як недасяжны жораў у неба, літаральна рвецца з рук. Каб яе злавіць, трэба пастаянна адчуваць локаць, плячо суседа — электроншчыка, праграміста і г. д. Гэта дасягаецца толькі ў таварыскай творчай абстаноўцы. Калі ж нехта пачынае станавіцца ў позу начальніка і дыктаваць — праца гіне, горача пераконваў Уладзімір Васільевіч.

І нечакана пад фінал адной з гаворак заўважыў:

— Як бачыце, і наш «штучны інтэлект» супраць бюракратызму. Увогуле кібернетыкі сцвярджаюць, што, стварыўшы маладзёжны калектыў новага псіхалагічнага тыпу на глыбока дэмакратычных прынцыпах, яны абавязкова дасягнуць сваёй ідэі «фікс» — выдадуць прамысловасці праз 5—6 гадоў гатовы ўзор першай машыны — «чалавека» са штучным інтэлектам.

Упэўнены: поспех прыйдзе да нашых герояў абавязкова. Пераконвае ў гэтым і нядаўняя гутарка на адным з семінараў у АН СССР з вядомым кібернетыкам, доктарам фізіка-матэматычных навук В. Е. Котавым. Дарэчы, праца ўзначальваемага ім маладзёжнага калектыву па стварэнню суперміні-ЭВМ новага пакалення са «штучным інтэлектам» атрымала высокую ацэнку ў выступленні М. С. Гарбачова на XX з'ездзе ВЛКСМ. Дык вось вучоны, знаёмы з даследаваннямі беларускіх калег, надзвычай высока іх ацэньвае. Ён, дарэчы, выказаў нечаканую, але жыццёвую думку. Пры рэалізацыі праектаў ЭВМ новага пакалення выяўляецца нявырашаная кадравая праблема. Аснову калектыву павінны складаць маладыя спецыялісты, не абцяжараныя кансерватыўным вопытам работы з састарэлымі камп'ютэрамі і мовамі праграміравання, але здольныя хутка засвойваць тэарэтычныя і практычныя вынікі, мысліць арыгінальна, самастойна, прымаць праектныя рашэнні, аператыўна ўвасабляць іх у жыццё. І дадаў: усё часцей даводзіцца сутыкацца з выпадкамі, калі вопытныя «мэтры», увайшоўшыя ў групу маладых распрацоўшчыкаў, аказваліся ў становішчы пераросткаў, якім цяжка весці праектную работу ў агульным тэмпе, зразумець моладзь.

Такія людзі, кансерватары, як іх ахрысцілі, у нашым мінскім калектыве таксама былі, але не вытрымалі і пайшлі шукаць больш зацішнае месца. Засталіся маладыя, надзвычай упартыя і рызыкоўныя.

**Алесь ШАГУН**

Фота **Я. Пясецкага.**



**В. БАРАНАЎ.** «Чаму ты, зязюля, чаму, шэрая мая, чаму не кукуеш» (алей, 1989).



**Л. ШЧАМЯЛЁВА. Мастацкі савет** (алей, 1989).



**А. МАЦІЕВІЧ. Восеньскі сад** (алей, 1982).



**П. НАЗАРАНКА. Студэнцкі дэсант** (алей, 1987).

*На шляхах перабудовы*



# АРАНДАТАРЫ І ГАСПАДАРЫ

Едучы ў «Дамавіцкі», я паволі адматваў у памяці стужку ўспамінаў і спрабаваў зразумець: чым жа зацікавіў мяне Сідралёнак, гэты знешне непрыкметны, негаваркі, як большасць механізатараў, чалавек? Не тым жа, сапраўды, што ён крыху болей за астатніх камбайнераў намалочваў збожжа? Тады што?

Чым болей я паглыбляўся ва ўспаміны, тым мацней пераконваўся ў тым, што Сідралёнак звычайна трапляў у поле майго зроку тады, калі я спрабаваў узні-

мацъ нейкія больш-менш значныя вясковыя праблемы. Напрыклад, надзённая размова пра тыя ж неперспектыўныя вёскі, да якіх у свой час далучылі і Дамавіцк. Або такія ж сумныя разважанні вакол міграцыі моладзі ў горад, будаўніцтва жылля на вёсцы... Дзіўна, але механізатар Сідралёнак меў да ўсяго гэтага нейкае дачыненне.

Той, хто вырас у вёсцы, напэўна, ведае народную прыкмету: буслы звычайна ладзяць сваё жытло там, дзе жыве рупны, дбайны гаспадар. Бо як інакш растлумачыць тое, што ўпадабалі яны зялёную купу Сідралёнкавай ліпы? Здаецца, ліпа з буслянкай, як і моцная яшчэ сялянская хата, былі тут заўсёды, і без іх ужо нельга ўявіць старую вёску, якая, пакуль у ёй жывуць Сідралёнкі, Мількевічы, Чарнякі, Бандаровічы, ні ў які нябыт адыходзіць не збіраецца. Без ліпы з буслянкай, бадай, не будзе чагосьці хапаць і сённяшняму Дамавіцку, цэнтр якога ў апошнія гады перамясціўся да двухпавярховай школы-дзесяцігодкі, дзіцячага садзіка, новых будынкаў канторы і клуба, ад якіх стрэламі ва ўсе бакі разлятаюцца вуліцы з белых катэджаў.

Ліпа, буслянка... Дробязі?.. Не ведаю. У жыцці Леаніда Сідралёнка і яго сям'і гэтыя «дробязі» заўсёды займалі і займаюць сваё трывалае месца. Не дзіўна, што ў размовах Сідралёнкі, а іх у Дамавіцку на сённяшні дзень без малога душ трыццаць, лёгка, я б сказаў, неяк натуральна пераключаюцца з пытанняў вытворчых, гаспадарчых на старога сабаку Амура, які нешта занядужаў (праз тыдзень радоўка, а як ля кароў без сабакі?), на тых жа буслоў, якія сёлета занадта рана пакінулі гняздо...

Так, буслоў я ўжо не захапіў.

— Ды дзе ж ім быць?—трохі здзіўлена зірнуў на мяне гаспадар, на хвіліну адарваўшыся ад смалення ладнага парсюка.—У полі зараз. Збіраюцца ў чароды, важака прыглядаюць, падсілкавацца перад дальняй дарогай таксама трэба.

Сідралёнак весела падміргнуў мне.

— Добра, што нарэшце заехаў. Адпачывай пакуль. Трохі, бач, засталося...

— Як справы, кажаш?—перапытаў ён, калі свежына ўжо смажылася на патэльні, а мы прымасціліся адпачыць на лавачцы перад хатай.—Кепскія, браце, справы.

— Чаму так?—усміхнуўся я, міжволі баронячыся гэтай усмешкай ад нейкай унутранай насцярожанасці, якая раптам закралася ў душу.

— А ты не спяшай пасміхацца,—сур'ёзна заўважыў ён мне.—Тут не да жартачак, калі ў магазіне паліцы пустыя... Хоць шаром пакаці! Тут плакаць трэба. Калі гэта было, каб я ў верасні кабана біў?

— Дык звычайна ў снежні, калі трохі падмерзне...—я паспешліва прадэманстраваў сваю кампетэнтнасць у гэтым пытанні.

— А як жа!—пагадзіўся Сідралёнак, не адводзячы ад мяне абуранага позірку, у якім прабліснула і радасная іскрынка, што я разумею яго.—Пад самыя каляды. А тут во не вытрымаў... мусіў забіць. Нешта ж есці трэба. У нас нават хлеба не заўсёды ўдаецца заспець, бо ў полі з ранку да вечара, жонка з дзецьмі таксама на рабоце, а ў райцэнтр або Мінск за прадуктамі не наездзішся. Гэта ў каго свая машына, а што рабіць астатнім? Мы спачуваем розным там заакіянскім абарыгенам, і справядліва, але чым мы, вяскоўцы, адрозніваемся ад іх? Мяне асабліва абурае, калі маладое дзяўчо па радыё ці тэлебачанню дурыць галаву пажылой сялянцы, сама ж нешта адказвае за яе, дэманструючы сваю універсітэцкую адукацыю і атрымліваючы пры гэтым вялікае задавальненне.—Ён моцна зацягнуўся цыгарэтай, саркастычна ўсміхнуўся.—Тая сялянка, з якое ты выціскаеш словы, табе ў маці гадзіцца, а ты лічыш, што разумней за яе... На каго гэтая паказуха разлічана? Дакуль, скажы, нас будуць за дурняў лічыць? Ладна. Неяк сюды, упершыню за столькі год, завезлі машыну кавуноў, якія, відаць, не надта ўжо ішлі ў сталіцы, дык ты б, братка, пабачыў, што тут рабілася!—Сідралёнак на гэты раз быў нечым узбуджаны, таму, відаць, хутка пераключыўся з аднаго прадмета на другі, хаця нітку размовы трымаў моцна.—Бралі па два мяхі. Але хто? Тыя, хто пры канторы, хто дома корпаецца, хто з ранку да вечара лайдачыць. Такіх у нас апошнім часам таксама развялося. А хто прывязаны да поля або фермы, той так і не паспытаў...



Дробязь? Вядома. Але ці не за гэтымі дробязямі, падумалася мне, стаяць нейкія сацыяльныя і маральныя праблемы нашага часу? Зрэшты, чаму нейкія? Гэтыя праблемы нам усім добра вядомы, яны на слыху ў кожнага зараз. Можа, таму так горача і гаварыў мне Сідралёнак пра гэтыя кавуны, да якіх ён не такі ўжо і вялікі ахвотнік. Бо ў тым жа магазіне днём давялося пабыць і мне і, акрамя дзесятка слоікаў з пазалеташняй салатай і ўкраінскім баршчом, сякіх-такіх рэчаў хатняга ўжытку і пыласоса, які невядома як трапіў сюды, я таксама нічога не ўбачыў на пустых паліцах. Нічога не сказала мне і сумная жанчына за прылаўкам. Затое так шмат сказалі незадаволеныя твары людзей, якія раз-пораз наведваліся да магазіна ў чаканні машыны з хлебам.

А потым сярод дарослых з'явіўся і гэты хлопчык. Ён, падкідваючы на далоні некалькі медзякоў, ад парожка нацэліўся блакітнымі вачанятамі туды, дзе ў скрынках звычайна ляжалі цукеркі. Але там каторы ўжо месяц пуста. Ён збянтэжана зірнуў на медзякі ва ўспацелай руцэ, што няйнакш як сэканоміў на школьным сняданку.

— Ну, чаго табе, салдат?—бадзёра папыталася ў яго жанчына за прылаўкам.

— Мне б, цёця...—«салдат», пазіраючы ў брудную падлогу, выціснуў—штонебудзь салодкае.

У краме на момант зрабілася ціха-ціха.

— Няма нічога, хлопчык,—ціха адказала прадаўшчыца, і з яе твару знікла штучная бадзёрасць.

— А вафлі?

— І вафлі скончыліся на тым тыдні.

— Дык, можа, ёсцека цукар... кускавы?—не адыходзіў ад прылаўка «салдат».

Жанчына за прылаўкам, пазіраючы некуды ўбок, маўчала. Тады нехта з чаргі паспрабаваў усё перавесці на жарт.

— Ды які з яго салдат, калі ён так любіць салодкае? Зубы пакрышацца...

Але ніхто ў краме не адгукнуўся на гэты жарт, не засмяяўся. А мне раптам зрабілася горача ад сораму, як даўно ўжо не рабілася. Настолькі зніякавеў я, дарослы чалавек, ад просьбы гэтага хлапчаняці...

— Вось такія, братка, справы,—быццам падвёў вынік майму роздуму Сідралёнак.—Храновыя, калі разабрацца. Мы, бач, прывыклі, што нас апошнім часам па галоўцы пачалі гладзіць, як паслухмяных школьнікаў, маўляў, малайцы, беларусы, у прыклад ставяць, адусюль едуць за вопытам... Мы і задаволены. У далоні гатовы пляскаць. Сапраўды, як тыя дзеці. А да апладысментаў яшчэ далёка, хаця, не сакрэт, тое-сёе пачало атрымлівацца. Але значнага кроку наперад мы так і не зробім, калі не пачнем плаціць людзям па канчатковых выніках. Стаяў на гэтым і буду стаяць. Але сама форма арганізацыі працы, будзь яна хоць арэндная, хоць залатая, не вынесе нас, як плынь, на шырокі шлях дастатку, пакуль мы не разбудзім у сабе гаспадара. Бо я ведаю людзей, якія падаліся ў тыя ж арандатары выключна дзеля вялікіх грошай. Таму ў краме, бачыш, пуста і на стале не густа. І прызнаюся табе шчыра—можа, па гэтай прычыне не грэюць пакуль мяне мае тры ордэны Славы. Чакай,—ён перапыніў мяне энергічным узмахам рукі.—Ведаю, што зарабіў, але ці ж гаворка сёння пра мяне?..

**Для даведкі:** Ордэны Працоўнай Славы 1 і 2 ступені Леанід Пятровіч Сідралёнак атрымаў па выніках уборкі збожжавых яшчэ ў 1975 і 1976 гадах, намалаціўшы на сваёй «Ніве» адпаведна па 750 і 800 тон зерня. Да трэцяй Славы ён ішоў доўга і напружана аж цэлых адзінаццаць год. У 1987 годзе на нямецкім камбайне Е-516 намалаціў 2026 тон зерня. Столькі не намалочваў яшчэ ніхто ў рэспубліцы.

— Людзі ніяк не могуць зразумець, чаму гэта яны, занятыя ў жывёлагадоўлі, не бачаць у краме мяса. Раней яшчэ можна было тады-сяды выпісаць які кілаграм у канторы, а зараз і гэтае акенца наглуха прыкрылі. Сваё трэба гадаваць? Правільна! Сёння, жывучы ў вёсцы, толькі апошні лайдак і, прабач, дурань не разумее сваёй жа выгоды. Усё гэта так... А ведаеш, з чым я прыехаў з Масквы? З выступленнем старшыні калгаса імя Кірава Херсонскай вобласці Маторнага. Яно, гэтае выступленне, заўсёды пры мне, бо кожнае слова супадае і з маімі думкамі. А думкі гэтыя набалелыя: вярніце сялянству даўгі. Сапраў-

ды, колькі можна на гэта закрываць вочы?! За кошт вёскі ў сціслыя тэрміны праводзілася індустрыялізацыя. Голад у 1933 годзе выкасіў сялянства самых хлебных раёнаў краіны. Майго дзеда, добрага гаспадара, які яшчэ быў да ўсяго неблагім шаўцом, у рэшце рэшт зрабілі «класавым ворагам» і раскулачылі... Калектывізацыя загубіла лепшую частку сялянства—гаспадароў. Гэта факт, які сёння ўжо не абмінеш. Або ўзяць пасляваенныя гады... Бацьку я не дачакаўся з вайны, было мне ўсяго чатыры гады. Маці білася як рыба аб лёд, каб неяк падняць на ногі чацвёра дзяцей. Праца на полі і на ферме была, па сутнасці, прыгонная і дармавая... Якая там пенсія ці дапамога? Запомнілася: маці, каб неяк падтрымаць кароўчыну да першае травы, палезла разбіраць страху, дык адкуль наскочыў п'яны брыгадзір і з лаянкай пачаў сцягваць маці за нагу пад рогат сваіх хаўруснікаў... Ды ці толькі гэта трэ было пераЖыць?

Я ўжо памкнуўся быў напомніць Сідралёнку, што сёння яго заробак, як і заробак яго таварышаў, абнадзейвае, але своечасова ўспомніў пра вясковую краму з пустымі паліцамі, пра чаргу на «Жыгулі», якая прыкметна пасунулася толькі пасля таго, як ён быў абраны дэлегатам на XIX партканферэнцыю, пра дамы адпачынку, куды ён нешта ніяк не збярэцца, хаця стан здароўя даўно патрабуе «капітальнага рамонту», пра іншыя выгоды, якія нельга набыць за заробленыя нават гераічнай працай грошы...

— Ну, добра,—кажу.—Выдаткуе дзяржава сродкі, скарацііўшы, напрыклад, прамысловае будаўніцтва ў горадзе, але ці паменее лічба саўгасаў, якія цяпер знаходзяцца на дзяржаўнай датацыі?

— Не паменшыцца да тае пары, пакуль мы самі ж не перастанем іх пладзіць, саўгасы-ўтрыманцы, плануючы ад дасягнутага!—разлявана ўскінуўся на лавачцы Сідралёнак, утаптаў абцасам цыгарку ў гразь.—Бульба летась не ўрадзіла, вымакла ў чэрвені, але гэта нікога ў тым жа РАПА не ўсхвалявала, бо там даўно прывыклі працаваць з паперкамі—рахунак своечасова падбілі. Паўсюдна, у тым ліку і там, куды гэтая паперка пайшла, добра ведаюць, што планаванне ад дасягнутага—заганная практыка, тормаз, які на руку толькі махроваму бюракрату, але ж паперак не паменшала... Як кажуць, вочы ўсё бачаць, але ж рукі робяць сваё.

— Ну, а член бюро райкома Сідралёнак шмат разоў выступіў, каб з гэтай заганнай практыкай скончыць назаўсёды?

— Пытанне на засыпку?—паблажліва касавурыцца ён на мяне.—Быццам ты не ведаеш, што ад Сідралёнка пакуль не ўсё залежыць? Выступаць даводзілася на ўсялякіх узроўнях, і хаця гаварыць я не мастак, быццам разумеюць. Але вось гэта якраз і насцярожвае. Словы застаюцца словамі. Пакуль за справу як след не возьмуцца Саўмін і Дзяржплан—на месцах мы будзем буксаваць у старых каляінах, бо занадта яны глыбокія. Іншымі словамі, гаспадарчая самастойнасць павінна быць узаконена. Толькі тады, калі за ёй замацуюць адпаведныя правы, можна будзе гаварыць аб яе рэальным існаванні.

— Зараз паняцці «арэнда» і «падрад», бадай, самыя хадавыя ў размовах гаспадарнікаў, эканамістаў, журналістаў...

— Што тычыцца вашага брата—згодны. Не паспела нешта такое з'явіцца ў паветры, як вы падхопліваеце яго, быццам сцяг,— і напралом наперад. Даеш арэнду! Не той час, разумееш? Кавалерысцкія наскокі ўжо шмат нарабілі шкоды ў сельскай гаспадарцы. Пачакай, я ж не супраць арэнды... Але лічу, што сляпа хапацца за любы новы павеў часу—лішні раз распісвацца ў сваёй бездапаможнасці. Прымяраць на сябе гэты новы павеў трэба грунтоўна, без спешкі. Я ўжо не кажу пра пэўную долю рызыкі з боку кіраўніцтва гаспадаркі... Ну вось свежы прыклад. Дзве нашы даяркі параўнальна нядаўна ўзялі ў арэнду на пяць гадоў па 40 цялят. Мінуў нейкі час. У адной штодзённая прывага 500 грамаў, у другой—адвес... Што тут рабіць? Дагавор падпісаны, і тыя два месяцы, якія дазваляюць яго скасаваць, мінулі. Судзіцца з гэтым арэндатарам? Таксама не выйсце...

— Так то яно так. Але, з другога боку, чаму мы павінны пазбаўляць чалавека, можа, яго апошняга шанцу?

— Якога шанцу?—неяк адразу насцярожыўся Сідралёнак.



— Каб нарэшце вясковец праявіў сваё здольнасці, адчуў адказнасць за даручаную справу, якая і разбудзіць у ім гаспадара, чалавечую годнасць...

— Чакай. Гэта ўжо атрымліваецца нешта зусім па Макаранку,— пацiснуў плячыма Сідралёнак.—Але ж у нас вытворчасць, а не выхаваўчая ўстанова. Мы павінны даваць мяса, малако, бульбу...

— Вось і Анатоль Суша, галоўны аграном саўгаса «Краснадарскі»...

— Ну ведаю!—нецярпліва ўзмахнуў рукой Сідралёнак.—Сам з суседняе Асінаўкі, а жонку, Зіну Кацько, узяў з нашага сяла... Ага. Дык што Суша?

— Таксама вось скардзіцца, што ў асноўным даводзіцца займацца не агранаміяй, а выхаваўчай работай.

— Вунь як!—у задуменні пахітаў галавой Сідралёнак.—Дык што ж тады атрымліваецца?—Ён дапытліва зірнуў на мяне.—Вось адкажы мне: чым адрозніваецца арэнда ад іншых дзяржразліковых форм?

— Ды тым, што рабочыя саўгаса атрымліваюць у арэнду асноўныя сродкі вытворчасці пад сваю адказнасць. Напрыклад, даяркі арандуюць каровы, скажам, на пяць год, механізатары—трактары, шафёры—машыны... Вынік у наяўнасці!

— Выходзіць, што «вынік» забяспечаны нават таму, каго аграном Суша павінен штодня выхоўваць?—з'едліва запытаў мяне Сідралёнак.—Нешта не верыцца.

— Дык сілком ніхто нікога пакуль не запрагае ў аглоблі арэнды—справа добраахвотная. Але ж, як паказалі першыя крокі, менавіта за ёй будучыня саўгаснай вытворчасці. І выхоўваць людзей, паступова рыхтаваць іх да пераходу да новых творчых адносін павінны ў першую чаргу спецыялісты.

— Я не супраць новых вытворчых адносін. Я—за, разумееш? Але да таго часу, пакуль эканомікай у нас будуць кіраваць не законы рынку, а нейкае кола людзей, пакуль дабрабыт грамадства будзе залежаць ад нечае волі, а не ад самога грамадства, усе нашы пачынанні выніку не дадуць. Пачынаць трэба з Саўміна. Патрэбны законы, якія вярнулі б мне, селяніну, зямлю назаўсёды, а не толькі на пяць гадоў. Той жа арандатар—яшчэ не гаспадар на зямлі ў поўным сэнсе гэтага слова, хутчэй—спажывец. Не зусім, кажаш, згодны? А ты глядзі ў корань справы... Вось узяць мяне. Ці ж я не першы год працую на тым жа арэндным падрадзе? А мае напарнікі Мікалай Лепеш, Яўген Шышонак, Уладзімір Гусеў, Франц Мількевіч, Сяргей Шышонак, Генадзь Лепеш... Гэта ядро механізатараў «Дамавіцкага», якое штогод абрастае моладдзю, таму што ёсць з каго прыклад браць. Кожны з іх працуе па 15 гадзін у суткі: а каб добра працавалася, трэба трактар лепш, як уласныя «Жыгулі», даглядаць... Вось яно і атрымліваецца, што асаблівай розніцы паміж намі няма. Згодны, на дагаворы атрымлівалі б болей. А пакуль жа на нашай шыі сядзяць розныя паганялы, бухгалтарскі штат, спецыялісты-праграмісты, усіх цяжка пералічыць... Тут згодны з табой. Не разумею толькі аднаго: як гэта можна выхоўваць чалавека да пенсіі? Мяне, напрыклад, выхоўвала само жыццё, і я па сённяшні дзень удзячны гэтаму суроваму, але мудраму настаўніку..

Тут гаспадыня паклікала нас вячэраць.

...Назаўтра, ледзь пачало шарэць у вокнах, гаспадары былі ўжо на нагах. У вёсцы першы і найгалоўнейшы абавязак—накарміць жывёлу, а потым ужо можна і самому паснедаць. Яшчэ праз якой паўгадзіны мы крочылі ўжо на машынны двор, дзе механізатары і шафёры атрымліваюць дзённае заданне. Тут як звычайна: першая ранішняя цыгарка, гамана, успleскі смеху...

— Ты гэта каго, Сідар, прывёў? Навабранца? Ды ў нас як быццам сваіх дублёраў няма куды саджаць...

— Чаму няма? Брыгадзіра ж, Поршня, за п'янку выгналі—няхай займае вакансію. Можам і прагаласаваць. Чалавек збоку—тое, што нам і трэба...

— Ага. Гэта трэба вар'ятам быць, каб згадзіцца вамі кіраваць. Хлопец, не слухай! Га-га-га!

— З газеты, кажаш?—перапытаў бранзатвары брывасты дзядзька, выпускаючы клуб дыму.—Колькі ж іх тут перабыло ля цябе, Сідар? Быццам адзін ты працуеш, а астатнія лайдака ганяюць. Дзіва, дый годзе! Няхай лепш паслухае

народ, ад цябе ўсё роўна слова не выцягнеш. А чалавек, раз прыехаў, хоча нешта зарабіць. Таксама работа...

Я адзначыў, што Сідралёнак за гэты час паспеў заліць ваду ў свой «калёснік» з навешанай на яго капалкай, нешта там падкруціць, падмазаць, карацей, на тое, што ў «народа» пасля нарады пойдзе яшчэ з паўгадзіны, а то і гадзіну, ён ужо паспеў зрабіць, хаця як быццам нікуды і не адлучаўся, паспяваў нават свае «тры грошы» ўставіць у агульную гаварыльню.

У гэты момант у парк завіталі дзве жанчыны-нарміроўшчыцы, адна нешта запытала ў брывастага.

— Не ведаю!—рэзка адказаў той.—І ведаць не хачу. Я падпісаў дагавор на пяць гадоў? Кропка. Не чапіцеся да мяне.

— У цябе дагавор, а ў нас дык не работа?—пакрыўдзіліся жанчыны; адна з іх, маладзейшая, была цяжарная.

— А мне кантралёры і паганялы цяпер не трэба!—раз'юшана кінуў жанчынам у твар брывасты.—Хопіць, я цярпеў вас дваццаць год... А зараз я сам сабе кантралёр! Ясна? Ідзіце ў кантору—там ваша месца, а ў парку вам рабіць няма чаго.

Я злавіў позірк Сідралёнка, і той у адказ толькі моўчкі пацісну плячыма: маўляў, сам усё бачыш. Пакуль не прыцерліся...

Сідралёнак адзін з першых выехаў з парку, а я накіраваўся ў кантору, спадзеючыся захапіць некага з кіраўніцтва. За апошні дзесятак гадоў у «Дамавіцкім» чацвёрты па ліку дырэктар... І хаця саўгас даўно ходзіць у моцных серадняках, кіраўнікоў тут мяняюць не ад лёгкага жыцця.

Аляксандра Мікалаевіча Зыля, які дагэтуль працаваў галоўным аграномам у саўгасе «Ніва», рабочыя саўгаса запрасілі самі. Бо ведалі яго, хлапца з суседняй Чарнавы, як саміх сябе. У райкоме пайшлі насустрач пажаданню дамавічан, бо таксама не першы год прыглядаліся да маладога спецыяліста, ведаючы, што ён не выпадковы чалавек у сельскай гаспадарцы.

Застаў дырэктара на месцы. Той, ужо ў прыёмным пакоі, падпісаўшы старой жанчыне даведку на цэглу для рамонту печы, прапанаваў мне ў мэтах эканоміі часу выкарыстаць для размовы машыну, заадно—паездзіць, паглядзець, як кажуць, на свае вочы, а не пачуць з чужых слоў.

— Калі закончыце дом механізатара, Аляксандр Мікалаевіч?—звярнуў я ўвагу дырэктара на бязлюдныя рыштаванні вакол узведзеных напалову цагляных сцен.

— Цяжка сказаць,—уздыхнуў той, нават не зірнуўшы ў бок «замарожанага» аб'екта.—Даводзіцца, па сутнасці, расхлёбваць кашу, якую заварыў мой папярэднік... А гэта ж будаўніцтва.

— З чужога шалу галава баліць?

— Ды не кажы! Давялося напачатку сутыкнуцца з гора-будаўнікамі, якія думалі палавіць рыбку ў мутнай вадзіцы... Для іхняга брата чым часцей мяняюцца кіраўнікі, тым лацвей здзіраць з гаспадаркі дурныя грошы. Спрабавалі і мяне паставіць перад фактам, нават нейкую дагаварную ліпу пад нос сувалі, судом пагражалі... Ды не на таго напалі. А вунь, справа, раённыя будаўнікі Палац культуры ўзводзяць на трыста месцаў. Варочаюць як чэрці. Абяцаюць праз год пад ключ здаць. У мяне да іх даверу прыбавілася, калі даведаўся, што даўно перайшлі на гаспадарчы разлік...

Мы ехалі ўздоўж поля, на якім чысцюткім аксамітавым дыванам красавала маладая рунь.

— Не шкадуеце, Аляксандр Мікалаевіч, што адносна спакойную плынь жыцця агранома змянілі на дырэктарскую дзейнасць, у якой столькі віроў і ям? Мой знаёмы, галоўны аграном саўгаса «Краснадарскі», напрыклад, не адважыўся ўзначаліць «Дамавіцкі», калі гадоў некалькі назад яму прапаноўвалі, і трэба сказаць, настойліва. Таксама праявіў характар. Прычына? Як ні дзіўна, усё тыя ж людзі. Маўляў, кіраваць людзьмі, якія цябе з дзяцінства ведаюць, няўдзячная справа. Для іх ты па-ранейшаму хто? Анатоль, Толік... А пры выпадку, калі не ўгодзіш, могуць і паслаць куды далей.

— Сапраўды, дзіўна. Я таксама, лічы, тутэйшы, і мяне тут ведаюць во з та-





кенькіх, аднак нічога, акрамя карысці, як кіраўнік ад гэтага не бачу. Не, не шкадую,—дадаў ён упэўнена.—Тут, у «Дамавіцкім», вельмі моцны падбор механізатараў. Таму не бачу нічога дзіўнага ў тым, што менавіта яны вылучылі з свайго асяродку такога лідэра, як Леанід Сідралёнак.

— Учора я паспрабаваў выведаць у яго, як у гаспадарцы прыжываецца арэндны падрад, аб якім так сёння многа гавораць і пішуць,—пачаў я крыху здалёк.

— Ну і як?—Зыль, не адрываючыся, напружана пазіраў на цёмную стужку шашы, якая імкліва ляцела пад колы «газіка».

— Ды не надта быў гаваркі на гэту тэму. Можа, няма аб чым?

— Чаму ж... Ёсць. Чым мы горш за людзей?—Зыль з нейкім юнацкім выклікам у вачах зірнуў на мяне.—Васільковы, напрыклад, Міхаіл і Валянціна. Пераехалі да нас з Мінска, дзе ён працаваў токарам на заводзе, а жонка загад-

вала сталоўкай. Узялі падрад на 150 цялят. Пакуль не скардзяцца, і мы задаволены. Або ўзяць сям'ю Капыловых... Таксама былыя мінчане. Ён, таксама Міхаіл, рабіў слесарам на заводзе, жонка таксама без работы не сядзела, а от жа пацягнула на бацькаўшчыну. Мусіць, неадольная гэтая цяга, калі людзі без агляд-кі кідаюць гарадскія камфартабельныя кватэры, едуць да нас. Зараз таксама паўтары сотні цялят гадуюць. Ідуць са штодзённай прывагай амаль 500 грамаў. З імі спаборнічае сям'я Забаўскіх, якая ўзяла на адкорм 130 галоў маладняку. Першыя ластаўкі. Дапамагаем, безумоўна, усяляк падтрымліваем. Але і не фарсіруем новую форму вытворчых зносін, я тут добра разумею Сідралёнка, бо важна, каб людзі не на словах, а на жывых прыкладах спачатку пераканаліся ў перавазе гэтых зносін. Бо, не сакрэт жа, з'явіліся і такія ахвотнікі, што гатовы дзеля вялікіх грошай, пра якія недзе чулі, падмахнуць любы дагавор, як след не падумаўшы, рэальна не ацаніўшы свае магчымасці. Карысці ад такіх «энтузіястаў» новай справы, як паказвае практыка, ніякае... Тут, як кажуць, спярша сем разоў адмерай... Сур'ёзная справа патрабуе сур'ёзнага падыходу. Таму мы па магчымасці стараемся заключаць дагаворы з тымі сем'ямі, пераводзіць на арэнду тыя звенні, якія ў хуткім часе не скампраметуюць саму ідэю... Разумееш? Бо колькі іх ужо было, гэтых пачынанняў? А дзе яны? Не засталося і следу... Станоўчы вопыт?—перапытвае Зыль, хвіліну думае, затым усміхаецца і паціскае плячыма.—Пра гэта, думаю, лепей папытаць у саміх арандатараў. Не мая кампетэнцыя. Па сутнасці, цяпер мы раўнапраўныя партнёры. Скажу адразу, нічога, акрамя карысці, у нашым партнёрстве пакуль не бачу...

— Пакуль. А не атрымаецца так, калі паспрабаваць зазірнуць у дзень заўтрашні, што арандатар, працуючы па 15 гадзін у суткі, даволі хутка выпампуе з зямлі ўсе сокі, наб'е кішэні грашыма—і бывайце здаровы?.. Ці не разбэсцім дарэшты мы селяніна даўгім рублём? Нам жа патрэбен сёння не дачаснік на зямлі, а гаспадар!

— Згодны наконт гаспадара,—горача падхапіў Зыль і, крыху счакаўшы, дадаў.—Не згодзен з тым, што зароблены рубель быццам разбэсціць селяніна... Папершае, гэты рубель будзе выкарыстаны на набыццё новага абсталявання, трактара, аўтамабіля; па-другое, калі было селяніну за працай разбэшчвацца? Ён разбэсціўся тады, калі яго, па сутнасці, пазбавілі ўсяго таго, чым ён спрадвеку жыў: зямлі, жывёлы, самастойнасці... Не, не баюся я за арандатара! Вось табе просты прыклад. Раней у нашых механізатараў ніяк не даходзілі рукі да тэхнікі, яна гадамі захламляла парк, таму што спісаць яе і адправіць на пераплаўку таксама нельга... ведаеш, аб чым гавару. Зараз гэтая тэхніка амаль уся працуе. У людзей пачалі даходзіць рукі да кожнай жалязякі, якая раней валялася пад нагамі, таму што арэнда прымушае лічыць кожную капейку. Пераканаўча?

— Калі арэндны падрад атрымаў у саўгасе прапіску і перад ім адкрыта зялёная вуліца, чаму вашы лепшыя механізатары пакуль убаку?—запытаў я.

— А я не ўпэўнены, што і заўтра яны будуць убаку. У тым і справа, што ўбаку яны ніколі не стаялі... Заўсёды наперадзе. Узяць таго ж Сідралёнка, Мількевіча, братоў Шышонкаў або Лепешаў.

...Пасля некалькіх гадзін, праведзеных на колах, захацелася размяць ногі. Над Дамавіцкам дагараў халаднаватым агнём адзін з нешматлікіх дзянькоў бабінага лета. Я паволі кіраваўся да прыціхлай, асветленай вечаровым сонцам сядзібы. Нязвыкла было бачыць гародчык і прасторны двор у маладой крапіве і бур'яне, цёмныя правалы вокнаў без фіранак адпужвалі, не чутна мыку жывёлы, бразгання падойніка, ласкавага голасу гаспадыні...

Я наблізіўся да студні, з якой столькі разоў наталяў смагу крынічнай вадой. Вядро глуха пляснула ўнізе, быццам у лужыну, нават не патанула, колькі я ні тузаў за ланцуг, і калі выцягнуў тое лёгкае вядзерца наверх, вада ў ім была застаялая, мутная, непрыгодная для пітва... Вось яна, горкая ісціна, падумалася тады: без чалавека старэе, прыходзіць у заняпад не толькі пабудова, але і зямля, і вада...

У загародцы, праўда, гойсаў на драціне галодны сабака—мусіць, нехта навязаў, а пакарміць забываў. Не дай божа, будучыя гаспадары, кальнула думка.

Вось і карэнных дамавічан, Чарнякоў ды Сідралёнкаў, непакоіць гэтая думка: хто заўтра паселіцца побач?.. Ім, вясковым людзям, у адрозненне ад гараджан не ўсё роўна, хто будзе дыхаць з імі адным паветрам—лайдак ці гаспадар...

— Вось нядобра зрабіла напаследак старая Аляксеіха,—з горыччу гаварыў мне на лавачцы за вячэрнай цыгарэтай Сідралёнак.—Ведаю, што пра нябожчыкаў дрэнна не гавораць, але ж, як кажуць, з песні слова не выкінеш. Дзевяць дзяцей узгадавала, жывучы за мужам-калекам, а прыйшоў час адпісваць маёмасць—хапіла розуму не на ўсіх дзяцей адпісаць, а малодшаму сыну. А той узяў гарадскую жонку, пайшоў працаваць трактарыстам на гароднінную фабрыку. Ды нешта ж там у іх не склалася, раз хлопец запіў, ды так, што з усяго гэтага залез у сіло. Двое дзетак засталося. Кажуць, жонка вінавата... Можа, яно і так. Бачыў яе тут усяго разы са два, гэта калі хату прыязджала прадаваць. Дык, зноў жа, дзе былі ў яго вочы? Можа, там, у горадзе, такія зломкі і могуць існаваць на ўсім гатовым?.. Але ці табе, вясковаму хлапцу, яна пара? Або, калі не склалася тое, што і не павінна было скласціся, дык рукі на сябе налажыць трэба? Каб жа я не ведаў яго або з якой ён сям'і... І вось на табе! Не магу гэтага зразумець, дый годзе.

Летам, бывала, дзяўчаты з сем'ямі наедуць сюды, да маці, хату прыбяруць, наварадь грыбоў, варэння—амаль усе свае адпачынкі праводзілі тут. А зараз няма куды прыехаць. Стаіць хата, а ўжо быццам і не іхняя. Бо нявестка, гарадская фарсістка, атрымала за яе тры тысячы—і дзякуй не сказала...

Вярнулася са школы, дзе працуе піянерважатай, малодшая Алена. Вучыцца завочна на трэцім курсе Мінскага педінстытута. Хоча застацца ў родным Дамавіцку, таму і пайшла піянерважатай, каб накіравалі потым у сваю школу.

Старэйшая Наташа два гады назад выйшла замуж за хлапца з Чэрвеня—там, у райцэнтры, пабудаваліся і жывуць. Ужо ўнуку хутка год. Я даведаўся аб гэтым толькі зараз, таму, хоць і запознена, павіншаваў маладога дзеда з гэтым ганаровым званнем.

— Дзякуй,—не хавае Сідралёнак ціхую радасць.—Усё, ведаеш, не магу прывыкнуць...

— Ну а што вырашана наконт малодшага з роду Сідралёнкаў—Сяргея?—пытаюся ў яго бацькі.

— Механізатарам будзе, кім яшчэ?—пытаннем на пытанне адказвае Сідралёнак. Хлопец сам вырашыў, куды прыкласці рукі, хаця Мая спачатку і была супраць. Чамусьці ўсе жонкі механізатараў лічаць, што раз іхнія мужы век ходзяць па вушы ў мазуце, то дзецi абавязкова павінны кідацца ў вучобу, або калі на работу, дык далей ад машыннага двара! Не, цяпер і яна не супраць,—махнуўшы рукой, смяецца Сідралёнак.—Бацьку ж дапамагае, а гэта, што ні кажы, для маці прыемна.

Я пазіраю на зялёную, яшчэ не кранутую фарбамі восені купіну ліпы на вечаровым фоне неба і ледзьве распазнаю ў ёй знаёмыя абрысы буслянкі.

— Трэба неяк узлезці ды падправіць,—перахапіў мой позірк гаспадар.—Тут з-за гэтага жытла вясной бойка разгарэлася... Некалькі год запар сялілася адна і тая ж пара. Падымалі буслянят на крыло, і ўсё было добра. Потым, неяк у навальніцу, бусліху забіла маланкай. Вясной бусел пасяліўся адзін... Ды, мабыць жа, адзін, калі нават удавец, не мае права займаць гняздо? Не ведаю... Прыляцела неўзабаве маладая пара (ці не ягоныя дзеці?) і сагналі старога з жытла. Дзе ён, небарака, да наступнае вясны перамагаў—невядома, толькі ў канцы красавіка зноў завітаў сюды, спадзеючыся, мабыць, сустрэць былую сяброўку... Зноў маладыя выперлі яго, праўда, і ён спрабаваў разы са тры атакаваць няўдзячную моладзь, ды толькі куды там—давялося бараніцца ў куратніку... Ледзь крыла, бедалага, не паламаў, калі Мая аслабаняла яго. Мяне якраз дома не было. Здавалася б, птушкі, а лёс амаль чалавечы... Хіба не так?

Над намі было ўрачыстае зорнае неба, якое можна ўбачыць толькі ў вёсцы, ліпавы купал над галавой і буслянка, такая блізкая да самых далёкіх сусветаў...

Саўгас «Дамавіцкі»
Чэрвеньскага раёна

**Уладзімір ГЛУШАКОЎ**

**Фота В. Ждановіча.**

# 1939—1989

## Праз 50 гадоў: успаміны, думкі, сённяшні погляд

*1. Як вы ацэньваеце акт 17 верасня 1939 года?*
*2. Што дало ўз'яднанне Заходняй і Усходняй Беларусі беларускаму народу?*
*3. Як адбілася на Вашым асабістым лёсе тая падзея?*

### Мікалай АРЭХВА

Мікалай Сямёнавіч Арэхва родам з вёскі Баруны Ашмянскага раёна. У КПСС з 1920 года. Удзельнік грамадзянскай вайны. Прайшоўшы папярэдне вялікую школу камсамольскага кіраўніцтва ад сакратара павятовай арганізацыі да сакратара ЦК КСМБ, ён у студзені 1925 года пераходзіць на падпольную работу ў Заходняй Беларусі: сакратар Віленскага акруговага камітэта КПЗБ, член ЦК КПЗБ, а ў 1934—35 гадах узначальваў краявы сакратарыят ЦК КПЗБ. Пяць гадоў адседзеў у турмах буржуазнай Польшчы. У 1936 годзе накіраваны ў Прагу прадстаўніком Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі пры арганізацыйным бюро ЦК Камуністычнай партыі Польшчы.

Калі ў сакавіку 1939 года фашысцкая Германія акупавала Чэхаславакію і абвясціла стварэнне т. зв. пратэктарату Чэхіі і Маравіі, гестапа арыштавала Арэхву. Ён апынуўся за кратамі турмы Панкрац, той самай, дзе пазней Юліус Фучык напіша свой бессмяротны «Рэпартаж з пятлёй на шыі».

— Мне пагражала дэпартацыя ў Германію на прымусовую працу, але гестапа, так і не даведаўшыся пра маю сапраўдную дзейнасць, выпусціла мяне пад нагляд паліцыі,— успамінае Мікалай Сямёнавіч.— Я ўладкаваўся на будаўніцтва пражскай каналізацыі, на чорную, цяжкую працу, і спачатку кожны вечар, а пасля праз дзень абавязкова адзначаўся ў каменданта. Так я сустрэў 17 верасня. Цяжка зараз перадаць мае пачуцці. З аднаго боку — невыказная радасць: адбылося нарэшце ўз'яднанне, за якое столькі год мы змагаліся. А з другога—душэўны боль, чорная самота, бо я апынуўся за дзве мяжы ад Радзімы, нядзейсны, бяззбройны, пад пагрозаю новага палітычнага праследавання.

Мяне выратавала легенда: я ўсяго толькі беларускі інтэлігент, які змагаўся супраць польскага панавання ў Заходняй Беларусі. Ну а калі так, то я не вораг Германіі, «чыя армія разам з Чырвонай Арміяй перамагла Польшчу»,—як сказаў мне нямецкі камендант, дазваляючы адзначацца раз на тыдзень.

Гэтая дэталь пацвердзіла мае здагадкі, што паміж СССР і Германіяй існуе дамова — ды і тое, як акуратна прасоўваліся нямецкія войскі на ўсход, не ўступаючы ў ваенны канфлікт з Чырвонай Арміяй, даволі празрыста асвятляла палітычную сітуацыю.

З дапамогай савецкага генеральнага консула ў Празе Якаўлева, які шчыра клапаціўся пра мой лёс, бо меў прамыя ўказанні з Наркамата замежных спраў, 30 лістапада 1939 года я легальна вярнуўся на Радзіму з пашпартам, выдадзеным савецкім консульствам.

Цяжка перабольшыць значэнне ўз'яднання. Калі азірнуцца на гісторыю станаўлення БССР, калі нагадаць, што ў 1918 годзе ў склад Савецкай Беларусі ўваходзіла ўсяго 6 паветаў (Мінскі, Ігуменскі, Барысаўскі, Слуцкі, Бабруйскі, Мазырскі) і толькі значна пазней былі далучаны сучасныя тэрыторыі Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцей, а гэта ўсё разам складала палову сённяшняй Беларусі — па плошчы і па насельніцтву (я добра памятаю, як у свой час жадалі «ўсходняга» ўз'яднання Калінін, Тухачэўскі, Домбаль, Кон, Ігнатоўскі, Пічэта), то 17 верасня завяршыла працэс гэтага станаўлення. Удвая павялічыліся тэрыторыя і насельніцтва—БССР зраўнялася з многімі еўрапейскімі краінамі. А зліццё нацыі! А спадзяванне працоўных былых «усходніх крэсаў» на сацыяльную і палітычную роўнасць, на гарантаваную працу і зямлю!.. А нацыянальны і культурны суверэнітэт!...

Але свята азмрочвалася. Яшчэ ў жніўні 1938 года Камуністычная партыя Польшчы была несправядліва абвінавачана ў пранікненні варожай агентуры ў яе кіраўніцтва і рашэннем Выканкома Камінтэрна распушчана, а разам з ёю КПЗБ і КПЗУ—яны ўваходзілі ў склад КПП. Спатрэбілася 18 год, каб аднавіць справядлівасць і вярнуць членства тым камуністам, якія ацалелі пасля другой сусветнай вайны, перажылі сталіншчыну. А ў 1939 годзе былыя падпольшчыкі недаверліва не дапускаліся да кіраўніцтва, у лепшым выпадку іх назначалі на нізавую работу. А яны ж карысталіся поўным даверам народа, яны былі выпеставаны народам, бо выйшлі з яго і змагаліся, пакутавалі ў турмах за яго. Тут справа не ў асабістай кар'еры: кар'ера ў рэвалюцыянера адна—барыкады. НЕДАВЕР вісеў над кожным былым членам КПЗБ (у партыі ўзнавілі ўсяго невялічкую групу), і гэта кожнаму было вельмі



цяжка перажываць, бо можна распусціць партыю, але нельга распусціць перакананні.

Прайшло шмат год. Я працаваў у Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ. У архіўных дакументах знайшоў анкеты дэпутатаў Народнага Сходу, які прымаў рашэнне пра ўз'яднанне. Многіх тых дэпутатаў я ведаў асабіста па нелегальнай партыйнай рабоце, ведаў як членаў КПЗБ. А ў анкетах было пазначана б/п.

Мяне таксама нейкі час трымалі пад падазрэннем. У маі 1941 года, калі на бюро ЦК КПБ(б) вырашалася пытанне пра маю партыйную прыналежнасць, нядобрай памяці Цанава спытаў:

— А как это вы смогли выбраться из немецкого протектората и не были завербованы гестапо?

На мой катэгарычны адказ ён нечакана заявіў, што паміж Выканкомам Камінтэрна і НКУС вялася перапіска, што маю справу ў Празе вёў консул Якаўлеў. Ведаў Цанава пра мяне, мусіць, больш, як я сам, а ўсё ж не прамінуў «закінуць вуду»...

...Не паспела скончыцца вайна, як нажніцы Сталіна зноў прайшліся па карце... Зараз адказаць напэўна, чым кіраваўся Сталін, робячы такі крок, немагчыма, тым болей, што ён, здаецца, ніколі не ахвяраваўся добраахвотна. Можа быць, разлічваючы далёка наперад палітычныя хады, ён не захацеў адразу пасля Перамогі вырашаць на сваёй тэрыторыі спакон веку набалелае для Расіі так званае польскае пытанне. Ён жа павінен быў добра памятаць ленінскае выказванне наконт таго, што фіны і палякі па сваёй культуры вышэй, таму лепей, каб не «крыўдзіць» Фінляндыю і Польшчу. Ды, відаць, існавалі іншыя розныя прычыны, у тым ліку і загульванне, як тады, у 1939 годзе, толькі ж не з Польшчай, а з буржуазнай Літвой.

Усё ж палякаў даволі засталося пасля вайны на зямлі былой Заходняй Беларусі. Але нічога дзеля захавання іх культуры, мовы не рабілася. Мала робіцца і зараз. Мы ў гэтым вінаватыя перад нашымі суайчыннікамі-палякамі.

...Праз паўстагоддзя пасля тых незабыўных падзей, нягледзячы ні на якія выдаткі палітыкі, цвёрда ўпэўнены, што яны мелі вялікае гістарычнае значэнне для далейшага лёсу беларускага народа. Перабольшыць гэтае значэнне наўрад ці магчыма.

г. Мінск

## Уладзімір КАЛЕСНІК, крытык і літаратуразнаўца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа

У маю памяць 17-е верасня 1939 года ўрэзалася днём гістарычнага цуду: раптам нечакана ўз'ядноўваўся народ, знікаў прывід вайны, вярталіся мабілізаваныя ў польскае войска дзецюкі і мужчыны. К нам прыходзіў, як дарунак неба, новы лад, які ўяўляўся грамадствам сацыяльнай роўнасці, антыподам грамадства ўласніцкага, элітарызаванага, падзеленага сацыяльнымі і нацыянальнымі прывілеямі, рэлігійнымі забабонамі на паверхі і перагародкі, дзе мне давялося нарадзіцца і жыць.

Я не належаў да самай беднай часткі таго грамадства, вучыўся ў гімназіі, меў шанц стаць прынамсі настаўнікам пачатковай школы, а тады гэта было нямала, таму прыход Савецкай улады я не ўспрымаў як права на рэванш, помсту крыўдзіцелям ці доступ да сацыяльных прывілеяў. Для мяне гэта быў акт гістарычнай справядлівасці, які даваў роўныя сацыяльныя, нацыянальныя правы людзям, сярод якіх я жыў, і гэта супакойвала маё сумленне.

Мяне радавала, што з заходнебеларускіх вёсак хлынулі ў сярэднія школы, у тэхнікумы і на розныя курсы пераросткі, якім доступ да сярэдняй адукацыі ва ўмовах буржуазнай Польшчы быў абмежаваны або зусім закрыты. Гэта была скаваная рэжымам санацыі даравітая частка беларускай працоўнай вёскі, закапаныя без пары чужацкаю рукою таленты народа, яго надзея, яго слава. У мяне як сына даволі моцнага гаспадара ды яшчэ славутага плытніка і вазака, які мог мяне вучыць у гімназіі, спала з душы міжвольная віна перад тымі равеснікамі, што былі, можа, нават здальнейшымі за мяне, але марнаваліся, мадзелі пасля сканчэння сямігодкі, пакутавалі з-за бесперспектыўнасці, пастухавалі, парабкавалі, кідаліся ў палітыку, траплялі ў лапы паліцыі і дэфензівы, спазнавалі допыты, катаванні, нажывалі сухоты ў турмах.

Па лініі нацыянальнай і рэлігійнай я сам, як беларус і праваслаўны, знаходзіўся да 17 верасня ў дыскрымінацыйным становішчы, таму вітаў час, калі ўсё станавілася на свае месцы: беларусы атрымалі статус карэннай нацыі, а беларуская мова доступ у школы і ўстановы, нацыянальныя ж меншасці ўраўняліся ў правах з беларусамі, атрымалі свае школы і ўстановы культуры. Здавалася, што зусім знікла нацыянальная грызня, сціхлі звадкі за тое, у каго лепшая гісторыя, у каго багацейшая культура, чыя мова больш развіта, у каго больш выдатных людзей—дзяржаўных мужоў, вучоных, мастакоў, паэтаў. Аказалася, іх можна не дзяліць, не штэмпеляваць собскім таўром, а прызнаць роўна карыснымі чалавецтву ўсіх прагрэсіўных і бескарысных або шкодных—рэакцыйных. Тое ж з верамі, са святарамі: іх ураўнялі, аддзяліўшы ад дзяржавы і прызнаўшы роўна неабавязковымі, а для людзей адукаваных зусім непатрэбнымі. Усё гэта выглядала цудоўна. Народ наш уз'яднаўся, мы, «заходнікі», атрымалі такую новую, цалкам навуковую канцэпцыю грамадства, што часам займала дух ад узрушэння і слабеў у чалавека гуманістычны інстынкт. Праўда, памятаю, са сваім земляком і сябрам па педвучылішчы Косцем Балабановічам мы смуткавалі, што цудоўная ідэя часам на практыцы скажаецца. Але спісвалі гэта, як і нястачу мыла, запалак, мануфактуры, на недалужнасць гаспадарнікаў. Увогуле прыезджыя з БССР савецкія і партыйныя функцыянеры выгодна адрозніваліся ад польскіх тым, што былі даступныя простым людзям, умелі гаварыць з народам. Але ўстрывожыла не аднаго мяне кампанія ссылкі пагалоўна ўсіх польскіх асаднікаў, хоць гэтая дыскрымінацыя была пакрыта высылкай леснікоў, пераважна беларусаў, якіх, як і асаднікаў, прапаганда выдавала за супрацоўнікаў польскай тайнай паліцыі—дэфензівы, даносчыкаў і чужакоў. Канечне, асаднікі і былі накіраваны з Польшчы ў Заходнюю Беларусь, каб стаць апорай урада на «ўсходніх крэсах» польскай дзяржавы, яны не проста жылі тут, але і дэнацыяналізавалі беларусаў: трапляючы ў дзяржаўныя ўстановы, стрымлівалі беларускую грамадскую самадзейнасць, змагаліся супраць «камуны». Таму мне здавалася, было б справядлівым адаслаць самых шкадлівых туды, адкуль яны прыехалі. На жаль, вывезлі ўсіх і не на Захад, а на Усход. З нашай вёскі выслалі двух былых членаў КПЗБ, вязняў польскіх турмаў, за тое, што яны, адбыўшы пакаранне, падпісалі дэкларацыю, што не будуць займацца палітыкай.



Адпаведна ўспрыняў я савецкі лад тэндэнцыйна, цераз прызму лёсу блізкіх маіх родзічаў: бацькавага малодшага брата, які рабочым уступіў у Петраградзе ў Чырвоную Армію і даслужыўся да камандзіра палка, а таксама сям'і матчынага брата, у якой к таму часу загінулі два сыны ў змаганні за свабоду і справядлівасць; адзін з іх, Арсен, вязень польскіх турмаў, быў маім ідэалам і духоўным настаўнікам. Ён загінуў пад Скідалем у баі з адступаючымі польскімі пагранічнікамі. Я, бясспрэчна, ідэалізаваў новае савецкае жыццё, але не стаў фанатыкам і не прымаў усяго існага за належнае. Наогул, па польскіх традыцыях, лічыў палітыку зусім не ідэальнаю ў маральных адносінах дзейнасцю, таму не разумеў тых землякоў і школьных сяброў, што абавязкова імкнуліся ўступіць у камсамол, калі ж іх не прымалі—пакутавалі ад паніжэння і недаверу.

Я заставаўся на пазіцыі гуманістычнай сціпласці, хварэў мастацтвам, не жадаў ніякіх прывілеяў для сябе, не дапускаў і для многіх. Тое, што камсорг Навагрудскага педвучылішча, дзе я вучыўся, быў прысланы з усходніх абласцей рэспублікі і пастаўлены на дзяржаўную зарплату, а яго мясцовы намеснік Швэд аказаўся халуістым выпяндзерам, выклікала ў мяне засцярогу да маральных якасцей самой арганізацыі. З другога боку, мае сябры і землякі, якіх прынялі ў камсамол, як сыноў беднаты, маючы розум, не рабілі са сваёй камсамольскасці фетыша, заставаліся па-ранейшаму сябрамі. Я не разумеў перажыванняў сябра па інтэрнацкім пакоі Аляксея Карпюка, якому адмовілі ў прыёме за тое, што ў яго бацькі было зямлі больш за серадняцкую норму. Як Аляксей ні тлумачыў, што бацька пры Польшчы быў сакратаром падпольнай ячэйкі КПЗБ, а

большая частка яго хутара—гэта няўдобіца, нічога не памагло. У майго бацькі таксама было на два гектары больш за серадняцкую норму, але то аказаўся лес, які ва ўсіх сялян адышоў у дзяржфонд, таму абрэзку бацькавай гаспадаркі не рабілі, толькі, відаць, у мясцовых сельсаветчыкаў узніклі благія спакусы і манеры, ці не ўзяцца за Андрыяна, бо на сходзе адзін фанатычны актывіст адвёў бацькаву заяву аб прыёме ў Асаавіяхім. Раней такі смелы і незалежны, бацька так праняўся, што стаў баяцца высылкі. Пайшлі чуткі, што следам за асаднікамі будуць высылаць у Сібір кулакоў. Як вывозілі асаднікаў, бацька ведаў: яго тою снежаньскай ноччу вызначылі ў падводчыкі, абавязалі весці ў Гарадзею, на станцыю, сям'ю нейкага мнагадзетнага, але небагатага асадніка. Расчуліўся суровы плытнік, гледзячы на малых, дрэнна апранутых дзяцей, якіх цэлы вывадак яму напіхалі ў развалы, накрыў іх сваім кажухом ды ўрэшце і аддаў бедалагу-асадніку той кажух назусім. Расказваў ён мне пра гэта шэптам. Але я быў такі легкаверны, што не дапускаў думкі, каб Савецкая ўлада стала рэпрэсіраваць бацьку немаведама за што. Мая бескалапотнасць была вынікам веры ў прынцыповую справядлівасць сацыялістычнага ідэалу, значыць, савецкага ладу жыцця. А тое, што гэтая справядлівасць у канкрэтных выпадках пераходзіла ў фанатызм і жорсткасць ды станавілася нялюдскай, я лічыў праявай нейкага фатальнага разладу паміж ідэяй сацыялізму і яе недалужным баламутным ажыццяўленнем. У бацькі было больш сумненняў, больш трывогі: аднойчы ў спрэчцы ён выдаў мне дзядзькаву тайну: расказаў, што ён у 1937 годзе, калі служыў у Слуцку камандзірам дывізіёна ў казацкім палку, трапіў пад арышт і да лета 1939 года яго мучылі ў Бабруйскай крэпасці, патрабуючы, каб падпісаў прызнанне, быццам пераходзіў употай граніцу і цераз брата, г. зн. бацьку, перадаваў тайныя звесткі палякам. Гэты факт мяне моцна страсянуў, але не зламаў, свядомасць схапілася за шчаслівую развязку: «Ну што ж, што западозрылі, але ж не пакаралі нявіннага...» На шчасце, лёс не разбурыў маёй веры ў справядлівасць сацыялізму, дазволіў данесці яе да вайны і ўмацаваць у часы акупацыі і «партызанкі», калі давялося бачыць, як з непараўнальна большым фанатызмам, чым сельсаветчыкі, помсцілі за крыўды тыя, каго яны ў свой час палохалі ці прыціскалі імем Савецкай улады. Пастаўшы актывістамі акупацыйнага рэжыму, антысаветчыкі праглі крыві, станавіліся здзічэлымі, бруднымі пачварамі, падручнымі катаў. Гэта былі, як я сёння разумею, праявы сацыяльнай паталогіі і горкія плады гістарычнай занядбанасці нашага народа. Наведваючы ПНР пасля вайны, я не раз з зайздрасцю слухаў расказы партызан аб тым, як там, у іх, усведамляючы нацыянальны характар пагрозы, лёгка прымiраліся патрыёты розных палітычных арыентацый. У нас таксама праходзіў працэс нацыянальнага паяднання, прыкладам можна назваць антыфашысцкія падпольныя камітэты ў заходніх абласцях рэспублікі, у якія ўваходзілі камуністы і беспартыйныя. Але рух гэты ахопліваў пераважна партызанскія зоны, а ў зонах гарнізонаў мы былі «сталінскімі бандытамі», якіх не грэх і прадаваць, а злоўленых параненымі кідаць галавой уніз у гарнізонныя прыбіральні.

У камсамол мяне прынялі ў партызанах і залічылі стаж з першага дня акупацыі, калі мы, група студэнтаў Навагрудскага педвучылішча, камсамольцы і проста антыфашысты, пастанавілі збіраць зброю, кінутую ў часе адступлення нашымі салдатамі на нёманскіх пераправах, утварыць баявыя дружыны, вучыцца страляць, каб дапамагчы Чырвонай Арміі выгнаць захопнікаў. Мірскі падпольны райком КПБ па рэкамендацыі Уладзіміра Зянонавіча Царука прыняў мяне ў 1943 годзе кандыдатам у члены партыі, якую я лічыў адзінай палітычнаю сілай у свеце, здольнаю падняць і павесці ўсё жывое на смяротную барацьбу з фашызмам. Былі моманты, калі я і мае сябры трацілі надзею, што наша возьме ў гэтай вайне, але заўсёды верылі, што ў гістарычнай перспектыве камунізм пераможа, бо ён справядлівы, а партыя па праву застанецца яго галоўным архітэктарам. Мы прагнулі перамогі больш, чым уласнага жыцця, хоць і ў партызанскай штодзённасці бачылі недапушчальныя факты разладу паміж ідэалам і рэальнасцю. Бачылі і змагаліся са злом унутры нас і супраць нас.

Да смерці будуць мучыць мяне ўспаміны пра сяброў, якія заплацілі жыццямі за хібы ў свядомасці і за раз'яднанасць нашага народа. Глядзяць мне ў вочы з дакорлівым пытаннем нябожчыкі-хлопцы, якіх выдавалі багатыя хутаранцы, нацыянальныя недапёкі, апраўдваючы подласць правам на рэванш за праследаванні, абкладванні кулацкім падаткам, абрэзку зямлі, што рабілі неабачліва напярэдадні вайны актывісты Савецкай улады. Я сам не аднойчы трапляў у пасткі і толькі цудам застаўся жывы. Пра ганьбу недаразвітага патрыятызму, фатальнай атрафіі нацыянальнай годнасці і пра ганьбу самазнішчэння нагадваюць мне ўласныя раны, атрыманыя ў баях з нямецка-паліцэйскай набрыддзю. Прыгадваюцца і маральныя траўмы, калі ў раённай сталоўцы, куды партызанскія інтэнданты паздавалі ўвесь запас скаромніны, наведвальнікаў падзялілі на «саўпартактыў» і не «саўпартактыў», адных кармілі засквараной баландой, а другіх нішчымнай. І гэта людзей, якія кінулі на ахвярнік свабоды, роўнасці і справядлівасці маёмасць бацькоў, падверглі небяспецы родзічаў. У атрадах яны мелі па крайняй меры элементарную дружынную роўнасць—усе елі з аднаго катла, радавыя і камандзіры, усе дружна ішлі ў бой, усе роўна стаялі перад смерцю. І даваяваліся да сацыялізму рэгламентаванага з вульгарнымі класавымі і кланавымі падзеламі. Асобныя не вытрымлівалі. Мне заўжды будзе шкада гэтых ахвяр недасканаласці, залганасці адносін.

К нам, скажам, добраахвотна пераходзілі прасвятлелыя паліцаі, служачыя акупацыйных устаноў. Мы ім абяцалі адпушчэнне віны, давалі небяспечныя заданні, і яны іх выконвалі, але пасля вызвалення рэгіёна дзеяння іх прыцягвалі да адказнасці ўжо органы легальнай Савецкай улады, давалі па 5 гадоў лагерных работ. Наша партызанскае дараванне віны не прызнавалася.

Нацыянальныя маштабы шкоднасці, якую прычыніла народу і ідэі сацыялізму сталінская рэпрэсіўнасць, класавая варажнеча, я пачаў усведамляць яшчэ ў партызанах, калі мне даводзілася вербаваць сувязных з ліку добра знаёмых паважаных рэвалюцыянераў, былых членаў КПЗБ. У 1941—42 гг. многія з іх баяліся ісці супрацоўнічаць. Савецкая дзяржава і ВКП(б) здаваліся ім настолькі несправядлівымі і здагматызаванымі, рэпрэсіўнымі, што адтуль можна было чакаць чаго хочаш, а ўжо кары за ахвярнасць, то напэўна. Мае размоўцы, людзі старэйшыя і больш вопытныя, браліся ўгаворваць мяне: перастань ты ўцягваць людзей у падполле, а тым больш у атрады, бо падвядзеш пад манастыр. Прыйдуць Саветы і спытаюць: «А хто табе даў права, хто даў заданне?» І возьмуць за машынку. Засцярогі падобнага характару даводзілася чуць і ад акружэнцаў. Не дапамаглі і спасылкі на заклік Сталіна па радыё. Патрабавалі нашых паўнамоцтваў з Вялікай зямлі. А іх не было. Служачыя савецкіх устаноў і партыйных, камсамольскіх органаў пагалоўна ўсе паўцякалі на Усход, адкуль у масе сваёй паходзілі. Носьбіты Савецкай улады паўтарылі ў горшым выкананні той ганебны пасаж, які прыпісалі пасля верасня 1939 года ўраду буржуазнай Польшчы, ураду, які, як высветлілася, усё ж паспяваў, уцякаючы, пакінуць сваіх паўнамоцнікаў і адразу пачынаў кіраваць падпольнай барацьбой супраць акупантаў.

Выключэнне хіба складае Пружаншчына, дзе былы сакратар Баранавіцкага і Брэсцкага акругкомаў КПЗБ Юзік Урбановіч першы стварыў антыфашысцкі камітэт Брэсцкай вобласці. Ён дзейнічаў як упаўнаважаны ЦК КПБ і ўрада БССР, прысланы з Гомеля. Але нават і ў яго арганізацыю не ўсе былыя сябры па КПЗБ і Грамадзе рашаліся ісці да 1943 года, калі сувязь партызан з Вялікай зямлёй стала шырока вядомым фактам.

У вайну мы, маладыя антыфашысты, тлумачылі лішнюю асцярожнасць былых «капэзэбоўцаў» перанесенымі імі раней пакутамі і мудрым узростам, траўмай недаверу, якую прынёс ім роспуск Камінтэрнам КПЗБ. А яшчэ тлумачылі тым, што за ўдзел у антыфашысцкім падполлі немцы расстрэльвалі або вешалі, палілі нашы хаты, забівалі родзічаў, тады як за ўдзел у камуністычным падполлі пры буржуазнай Польшчы звычайна саджалі ўдзельнікаў у турмы, дзе можна было чытаць філасофскія кніжкі, у тым ліку класікаў марксізму, ды, як кажуць, падкоўвацца на ўсе капыты.

Жахлівыя маштабы ідэалагічнай і палітычнай шкоднасці сталінізму і сталіншчыны для справы сацыялізму мне пачалі адкрывацца ў аспірантуры, калі я натыкаўся на страшную рэч: нідзе, у ніводным творы рэпрэсіраваных, знішчаных сталіністамі заходнебеларускіх пісьменнікаў-рэвалюцыянераў—М. Гарэцкага, Л. Родзевіча, А. Салагуба, Б. Тарашкевіча, С. Рак-Міхайлоўскага, І. Дварчаніна, У. Жылкі і іншых—я не знаходзіў ніякіх антыкамуністычных настрояў, наадварот—сімпатыі да БССР, ідэя ўз'яд-

 

нання народа гучала яўна ці ў падтэксце ў кожным іх творы ці выступленні. Не знаходзіў я і ў архівах слядоў супрацоўніцтва каго-небудзь з іх з польскай дэфензівай, у чым пастанова Камінтэрна абвінавачвала актыў КПЗБ і гэтым абгрунтоўвала роспуск праверанай рэвалюцыйнай партыі. Пакутамі я падзяліўся з навуковым кіраўніком, прафесарам Гутаравым. Той, былы партызанскі камісар, гаварыў са мною па-свойску. Незраўнаны аптыміст, ён, нібыта даўно ведаючы тое, што я адкрыў і чым пакутаваў, засмяяўся на ўвесь рот і, пляснуўшы мяне па плячы, сказаў: «Ну і што, абыдзеш тыя завалы. Бяры аднаго Танка, ён ва ўсіх адносінах чысты. Вось і будзе дысертацыя, ніхто не падкапаецца. Тэму я перазацверджу». Але гэтае саламонава рашэнне не супакоіла мяне. Сябры-аспіранты, што працавалі над тэмамі па савецкай літаратуры, таксама не знаходзілі і ценю віны рэпрэсіраваных савецкіх беларускіх пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, мастакоў і акцёраў. Сябры, якія вучыліся ў Мінскім педінстытуце да вайны, расказвалі неверагодныя рэчы: абрыджванне арыштаваных пісьменнікаў з кафедраў, пагоню і праследаванні работнікамі рэпрэсіўных органаў тых студэнтаў, якія пратэставалі супраць недаверу любімым мастакам слова. Гэта ўразіла мяне да душы. Неяк у гутарцы са знаёмай аспіранткай я сказаў з горыччу, што літаратурны могільнік у Беларусі 30-х гадоў большы за сучасны Саюз пісьменнікаў. Яна пачала ўнікаць мяне, стала баяцца, што гэтая размова — правакацыя.

Толькі пасля азнаямлення з закрытымі дакументамі XX з'езда КПСС, якія давадзіліся да ведама камуністаў на партсходах вясна ў 1956 годзе, пачала афіцыйна адкрывацца жахлівая трагедыя. Канчатковая карціна яшчэ і сёння недзе маячыць у цьмянай далечыні. Дасюль не магу зразумець, як гэта палітычны орган, складзены ж з былых рэвалюцыянераў — сталінскае палітбюро — пачаў думаць і жыць не толькі амаральна, злачынна, а ірацыянальна, абсурдна кіраваць грамадствам, весці краіну на скрут галавы, запэўніваючы сябе і народ, што кіруе караблём навукова, па-марксісцку. Дасюлешнія палітычныя партрэты Сталіна і яго паплечнікаў не даюць мне пераканальных адказаў на пытанне: якія ж прычыны такога звырадненне? Застаецца хіба паверыць у біблейскую легенду пра недасканаласць чалавека, тварэння божага. Але, думаецца, недасканалая была і ёсць усё ж наша сацыяльная псіхіка, нездаровая, нялюдская сацыяльная псіхалогія, догма і практыка класавай барацьбы, здзічэлыя, бяздушныя сталі норавы, на бяду, нават у прафесійна-партыйным асяроддзі.

А ўсё ж і сёння, калі адкрылася больш фактаў жахлівага разыходжання рэальнага сацыялізму ў сталінска-берыеўскім выданні з ідэаламі, не зняверыўся я ў сацыялізме. Наадварот, пераконваюся, што сацыялізм здольны самаачышчацца. Сацыялізм — такі лад жыцця, якому пад сілу вызваліць чалавецтва, раскрыць магутныя духоўныя патэнцыі асобы, даць свабоду талентам, забяспечыць усім права на поўнае духоўнае самавыяўленне. Капіталізм, якім я яго памятаю і ведаю, на гэта не здольны, хоць ён і хваліцца, што можа смачней накарміць, лепш абуць і адзець грамадзян, лепш забяспечыць камфортам. Пакуль што гэта так, але ўсё датычыць тут толькі цела, а душы патрэбна роўнасць шанцаў, роўнасць лёсу, роўная годнасць для ўсіх нас.

Веданне адмоўнага пра наш рэальны сацыялізм не бянтэжыць мяне, не раззбройвае, а мабілізуе на барацьбу са злом. Бадзёрыць тое, што барацьба за гуманізацыю сацыялізму, за маральнае яго адраджэнне вядзецца ў нас унутры партыі, у яе кіраўніцтве і ў нізах, а не толькі звонку. Тут надзея на бяскроўнасць гэтага аздараўленчага працэсу. Я веру, што партыя можа хутка ачысціцца ад кланавасці, замкнёнасці, чэрствасці і ўвядзе ў практыку зносін давер, таварыскасць, верне слову таварыш яго першародны сэнс, апарат стане сапраўды выканаўчым органам усёй партыі, а не алігархічнаю закрытаю элітай ці кланам, якім быў добрыя паўвека. Жыццё навучыць партыю ствараць палітычныя эліты метадам адкрытага адбору, так, як гэта робіцца ў спорце, навуцы, мастацтве.

г. Брэст

## Пятрусь МАКАЛЬ, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, літаратурнай прэміі імя А. Куляшова

У жыцці кожнага народа ёсць дні, якія не забываюцца. Такім стаў для беларусаў дзень семнаццатага верасня 1939 года — дзень, які назаўсёды перакрэсліў мяжу гістарычнай несправядлівасці, мяжу, што на працягу амаль дваццаці гадоў падзяляла нашу Бацькаўшчыну. Пяцідзесяцігоддзе ўз'яднання Заходняй Беларусі ў адзінай Савецкай дзяржаве — не толькі свята братэрскага яднання народа, але і нагода зірнуць на гэтую падзею з адлегласці часу.

Паспрабую расказаць пра гэту падзею так, як я яе ўбачыў вачыма сямігадовага хлопчыка ў вёсцы Крушыняны былога Беластоцкага павета, якая мала чым адрознівалася ад іншых заходнебеларускіх сяліб.

...Ціснуцца адна да другой драўляныя хаціны з саламянымі стрэхамі, парослымі мохам. Насупраць кожнай — вузкая палоска гародчыка, абнесенага парканам, а далей — гумно... Галоўны сродак асвятлення ў дамах — лучына. Газавыя лямпы мелі толькі некалькі самых заможных гаспадароў. Агонь здабывалі крэсівам — крэмень аб крэмень. Як у першабытны век. Запалкі лічыліся раскошай, якую можна было дазволіць толькі ў рэдкіх выпадках. Вёска даволі вялікая — каля двухсот двароў, некалькі вуліц. І адна з іх мае назву Макалі (такое прозвішча мелі амаль усе яе жыхары). На гэтай вуліцы і прайшло маё маленства. У вёсцы была пачатковая школа, і калі мне споўнілася шэсць гадоў, я стаў яе вучнем. Навучалі ў школе галоўным чынам закону божаму і польскай мове. Шляхам акаталічвання беларускага насельніцтва ўрад Пілсудскага разлічваў выбіць з яго дух непакоры, нацыянальнай годнасці, ператварыць у паслухмяных халопаў. І тут асаблівая роля адводзілася так званай паўшэхнай (пачатковай) школе. Настаўнікі і ксяндзы ў сваёй «выхаваўчай» рабоце шырока практыкавалі фізічныя пакаранні — білі вучняў лінейкамі, цягалі за вушы, ставілі на калені ў куток, пасыпаны грэчкай. Асабліва даставалася тым, хто не праяўляў старання ў зазубрыванні дагматаў закону божага. Вядома, не абходзіў сваёй ласкай «святы айцец» і мяне: не раз мае далоні смылелі ад яго гнуткай лінейкі. Першы верш, які мне належала завучыць, выконваючы заданне настаўніка, пачынаўся так:

— Хто ты естэсь?
— Поляк малы.
— Які знак твуй?
— Ожэл бялы.



Здаецца, усё зразумела і без перакладу. Натуральна, што знаёмства з такой «паэзіяй» не выклікала ў мяне энтузіязму. Але сапраўднае маё знаёмства з літаратурай адбылося дома. Зімовымі вечарамі ў нас у самадзейным парадку працаваў своеасаблівы «універсітэт культуры». Слухачы — я, мае браты і сёстры. Выкладчыкі — бацькі. Праграма заняткаў была даволі разнастайная. «Курс палітыкі» вёў, вядома, бацька... Ён расказваў пра Вялікую зямлю, пра нязвыклую краіну, у якой няма багатых і бедных, краіну, якая адгароджана ад нас дзяржаўнай мяжой. Маці чытала нам вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа і Міхася Васілька (па беларускім календары, які выдаваўся ў Вільні). У Заходняй Беларусі тады вельмі шырокай папулярнасцю карысталіся сатырычныя вершы М. Васілька. На мяне асабліва моцнае ўражанне зрабіў яго верш «Як я пана перанёс» — дасціпны, перасыпаны народным гумарам расказ аб тым, як селянін, страціўшы цярпенне, скінуў з сябе ў ваду абрыдлага ездака — свайго прыгнятальніка...

Такім чынам, да падзей семнаццатага верасня я быў падрыхтаваны ўжо, але

 

 

тым не менш насталі яны нечакана. Маланкай разнеслася па вёсцы чутка: Саветы перайшлі граніцу і рухаюцца, каб вызваліць нас ад «апекі» белапольскіх паноў... Увесь гэты дзень сяляне не працавалі, збіраліся на падворках вялікімі натоўпамі, мітынгавалі; з гарачымі прамовамі выступалі нават тыя, хто да гэтага двух слоў не ўмеў звязаць. Здавалася, да нямых вяртаецца дар мовы. З высокага слупа на пляцы каля школы па волі вяскоўцаў зляцеў бела-чырвоны сцяг Рэчы Паспалітай, замест яго затрапятала вялікае чырвонае палотнішча, што фактычна азначала ўстанаўленне Савецкай улады яшчэ да прыходу Чырвонай Арміі. У наступны дзень на досвітку вёску ўскалыхнуў неверагодны аглушальны ляскат: гэта набліжаліся савецкія танкі. З хат высыпалі літаральна ўсе жыхары—ад старога да малога. Не паспеўшы нават апрануцца, людзі ў кашулях, басанож беглі па золкай зямлі да гасцінца, па якім ішло вызваленне. Напярэймы танкам выраслі горы агністых кветак, якія немаведама адкуль браліся ў асенні час...

Калі быць да канца шчырым, нельга не сказаць, што гэтае ап'яненне свабодай, першапачатковая эйфарыя неўзабаве змянілася маўклівай стрыманасцю, якая пераходзіла ў задумлівую занепакоенасць. На тое былі свае прычыны. У невялікай прыватнай краме Вэльвеля, што працавала ў вёсцы, а таксама ў магазінах бліжняга гарадка Крынкі пачалі пусцець прылаўкі. Людзі з асцярогай перашэптваліся аб тым, што вайскоўцы адпраўляюць дамоў вельмі многа пасылак. Не прайшло і некалькі месяцаў, як у вёсцы з'явіліся ўпаўнаважаныя па арганізацыі калгасаў, ад чаго, разумеецца, сяляне не прыйшлі ў захапленне. Логіка ў агітацыі прадстаўнікоў улады была простая: хто не хоча ўступаць у сельгасарцель, той супраць Саветаў, і з ім будуць абыходзіцца належным чынам. Выкананне гэтай пагрозы не прымусіла сябе чакаць. Па начах да некаторых двароў пачалі падкатваць «чорныя вораны», якія паглыналі «непаслухмяных» хлебаробаў...

Пасля трохгадовай фашысцкай акупацыі наша вёска зноў апынулася на тэрыторыі Польшчы—згодна нанова ўстаноўленай мяжы, якая прайшла ў ста метрах ад сялянскіх гумнаў, адрэзаўшы вялікую частку палеткаў і лугоў. Узнікла неверагодная сітуацыя: сяляне касіць сена хадзілі за мяжу. «Парушальнікаў» пачалі затрымліваць пагранічнікі... Пра недарэчнасць становішча неўзабаве даведаліся дзяржаўныя ўлады, і мяжа была перанесена на некалькі кіламетраў на ўсход.

Калі я прыгадваю тыя далёкія дні, міжволі думаю пра неспакойны сённяшні свет, які падзяляюць такія шматлікія межы, граніцы, якія адгароджваюць не толькі дзяржаву ад дзяржавы, але і людзей адной нацыі, аднаго народа. Межы, якія ахоўваюцца ўзброенымі сіламі, і межы без вартавых—граніцы дзяржаўныя і нацыянальныя, расавыя і ідэалагічныя, класавыя і астрожныя... А беды, якія навісаюць над людствам, адны і тыя ж, агульныя—небяспека ядзернага і эканамічнага знішчэння, СНІД і голад...

Мне хочацца закончыць свой роздум радкамі з верша «Крушыняны», якія, здаецца, датычацца не толькі лёсу маёй роднай вёскі:

Я нікога, вядома, не лаю,
Толькі сэрца мне точыць іржой,
Што радзіма мая малая,
Мая вёска цяпер за мяжой.
Як мне дому бацькоў пакланіцца?
Я аднойчы ў світальны туман
Працягну руку праз граніцу:
— Добры дзень, землякі з Крушынян!

г. Мінск

### Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы



Адказ на пастаўленыя пытанні знаходзіцца ў дакументах, у архівах. А калі так, з жыцця...

У выніку далучэння Заходняй Беларусі да Усходняй нацыя аб'ядналася ў адну дзяржаву—і гэта станоўчы факт. Але заадно і заходнія беларусы атрымалі магчымасць трапіць у Курапаты разам з братамі па крыві з Усходу, лагеры смерці былі ўтвораны тут. Колькі эшалонаў і колькі душаў знішчана? Дзе тыя спісікі? Памерлі самыя працавітыя, хто ўмеў думаць, засталіся розныя, у тым ліку і гультаі. Адбілі ахвоту ад працы. У нашай вёсцы вельмі баяліся калгаса. Баяліся гэтаксама, як вайны. Хаваліся з каровамі і свіначкамі ў лес, выкручваліся, колькі маглі.

Пачала размаўляць пра ўз'яднанне са старэйшымі людзьмі, пачалі ўспамінаць працэсы, калі за вершы давалі па дзесяць гадоў вучням дзевятых-дзесятых класаў. Усплыло шмат імёнаў малавядомых ці зусім невядомых паэтаў—Анань Радзевіч, Віця Кардаш, Федзя Макаранка, Эрык Сабіла, Самсон Пярловіч, Васіль Супрун. Віталія Губарэвіча з Навальні таксама забралі з дзесятага класа; у Варкуце, Інце перапісваўся з Ларысай Геніюш. Хварэў на сухоты ў лагеры. У 1956 годзе быў накіраваны ў Калужскую вобласць. У Беларусь не вярнуўся.

Усей Расеі цар чырвоны
з сярпом і молатам ў руках
пачаў ржынаць людзям галовы
і сеяць мукі, слёзы, жах...

Пісаў ён па смерці Сталіна.

У Заходняй Беларусі выходзіла каля 20 назваў часопісаў, прытым рознага накірунку: «Шлях моладзі», «Студэнцкая думка», «Саха», «Беларуская борць», «Калоссе»... Пасля аб'яднання засталіся толькі раённыя і абласныя газеты, органы абкомаў ды райкомаў, ніякіх дыскусій, ніякага плюралізму. Шматпартыйнасць знішчана. Заходнебеларускія дзеячы да кіраўніцтва дзяржавай не дапускаліся. Замест колішняй шматсоттысячнай «Грамады» і ТБШ толькі зараз узнікаюць нешматлікія беларускія суполкі, пераважна з інтэлігенцыі ды студэнцтва, духоўна моцныя, але без падтрымкі народа, без правоў, не маюць памяшканняў для дзейнасці, пастаянна пад абстрэлам партыйных кіраўнікоў, на ўсіх мажлівых ідэалагічных сходах так ці інакш іх асуджаюць. «Мая ты дачушка, добра, што прыехала, а то я ўжо думала, што цябе ў турму пасадзілі, бо ў Дакудаве быў партыйны сход, дык на ім сказалі, што «эта поэтесса подговорила десять пацанов и какую-то Белорусь с ними создаёт...». У вёсцы ўсе бабы толькі пра гэта і гавораць...»

У заходнебеларускай вёсцы на ласцы ўсіх заўжды нехта грэўся, карміўся, выконваючы пасільную працу. Цяпер нават беларускія суполкі не здольныя зліт авацца над змучанай душою. Перш за ўсё ледзь канцы зводзяцца. Але і не ў гэтым справа. Суполкі толькі працаваць талакой бескарысна ўмеюць.

Некалі людзі дапамагалі, прынамсі, там, дзе гэта не каштавала ніякіх затрат,— падвезці на возе, пусціць да вогнішча, да гарачай печы. Некалі жылі ад каляд да грамніц, ад вербніцы да Вялікадня. Цяпер жывём па кварталах.

У вёсках спіліся мужчыны ды і жанчыны п'юць, зусім перасталі цешыцца, весяліцца, збірацца вялікай радзінай. Знікла народная песня. Не спраўляем дажынкі. Купалле спраўляюць суполкі. А за Дзяды нас «частуюць» дубінкамі.

Можна таптаць жыта—яно нічыё, можна красці ў калгасе нічыё дабро. Многія так думаюць.

Кожную вёску ці мястэчка ўпрыгожвалі вежы касцёла ці царкоўкі. Цяпер на пагорках і на берагах рэчак высяцца шматтысячныя жывёлагадоўчыя комплексы. А ў Слонімскім барочным касцёле склад солі, у Волчыне, дзе пахаваны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, склад мінеральных угнаенняў. Ілгаць стала мод-

на. Ніхто не стрымоўвае дадзенага слова. А што ж, калі Таразевіч з трыбуны з'езда заяўляе, што ён ведае родную мову,—кожны, хто з ім гутарыў аднойчы, пацвердзіць, што гэта, мякка кажучы, не так.

«Нацыянальнасць — інтэрнацыянальнае»,—прачытала я ў адным рабочым інтэрнаце. Юнацтва, мабыць, жорсткае, злоснае, бо ў яго падсечаны ўжо карані. Паўсюдна практыкуецца на старых могільніках будаваць новыя мікраёны. Навошта вывучаць гісторыю сваёй зямлі, калі на вачах нішчацца магілы дзядоў? Бога забралі—знікла надзея і духоўнае ўстрыманне ад неабмежаванай распусты. Усе займаемся святататцтвам.

На калені прад Духам стаць
здольны моцны адно чалавек.
Хто ж ілжывасць ідзе спаталяць,
таму кара нябёсаў лек.

Так напісаў малады паэт Вячаслаў Клебан. Але не ідуць яны зусім туды, да Духа. Зрэшты, няма ў нас беларускага касцёла, толькі Уладзіслаў Чарняўскі ў Вішневе і Ян Матусевіч у Барунах у сваіх парафіяльных малітвах просяць Бога заступіцца за беларускую моладзь, якая змагаецца за адраджэнне сваёй мовы. Раней у нас ішоў сляпы дождж, цяпер, на маю думку, сляпыя сталі нашы хаты, асабліва на хутарах. І народ наш сляпы, нямко.

г. Гродна

## Алесь БЕЛАКОЗ, настаўнік беларускай мовы і літаратуры

У маёй роднай вёсцы Ляткі, якая цяпер злілася з Гудзевічамі, быў у 30-х гадах адзін лямпавы і некалькі дэтэктарных радыёпрыёмнікаў. У кагосьці з суседзяў 17 верасня тата даведаўся, што мы будзем далучаны да БССР. Гэта выклікала вялікую радасць у сястры Веры (1922 года нараджэння). Яна танцавала ад радасці. Мама паўшчувала яе: «Не цешся вельмі: я ў час рэвалюцыі ў бежанстве працавала ў Харкаўскай гарадской бальніцы кухаркай, то мне вельмі не падабалася, што ўладу ў бальніцы адразу ўзялі зладзеі. Ашуквалі хворых. Повара, які не дазваляў красці, у мяшку на тачцы вывезлі за вароты бальніцы і выкінулі. Як толькі прыйдуць чырвоныя, то адразу знікаюць у горадзе ўсе прадукты, бо ўсе харчы рэквізавалі бясплатна. Кожны дзень расстрэльвалі людзей. А я шкадавала і чырвоных, і белых: не павінны расстрэльваць свае сваіх».

Тата запярэчыў: «То гэта ж была рэвалюцыя. Цяпер, можа, навялі ўжэ парадак».

«А за што расстралялі ў 37-м брата Івана? Ён жа ж быў такім заядлым камуністам?»—адразу загарэлася мама.

«Гэтаго і я зразумець не магу. Усе камуністы з нашых вёсак, што паўцякалі да Саветаў, пагінулі. Тут штосьці невыразнае. Але ж цяпер хоць будзям мець адноолькавыя правы. А то пры Польшчы беларусам ні зямлі купіць, ні вучыцца, ні працу атрымаць. Адна нам была дарога: турма альбо вечнае парабкоўства. Добро, што я зьездзіў у Амэрыку і зарабіў трохо грошай, та Верачку вучылі хоць у Вільні ў беларускай гімназіі. Аля ж гэтую адзіную і апошнюю гімназію зачынілі палякі. Куды ёй цяпер? А пры Саветах дазволяць вучыцца».

«Не цешся моцно,—зноў запярэчыла мама.—Кажуць, бальшавіке калхозы робяць. Людзі працуюць усенек год, а платы амаль ніякай. Кажуць, там з голаду паміраюць».

«Та можа гультай які і памёр. А як чалавек працаваў, та мусяць заплаціць. Гэта ж улада працоўных»,—зноў не згадзіўся тата.

У гэты ж дзень ён разам з аднавяскоўцамі пайшоў у гміну «браць уладу». Выявілася, што паліцыя ўцякла, так што пераход улады адбыўся без ахвяр.

А праз некалькі тыдняў тату вельмі не спадабалася, абурыла яго, што члены сялянскага камітэта рэзалі то панскіх кароў, то свіней і ўсё выпраўлялі балі. Аднойчы ён, выпіўшы для большай рызыкі, зайшоў у сельсавет і закамандаваў:

«Выходзьце на дарогу строіцца!»

«Чаго?»—запытаўся старшыня сялянскага камітэта.

«Вы тут пераелі панскіх каровак! Паганю да рэчкі паіць! Хутчэй выходзьце: няма мне часу тут з вамі выбрэхамі забаўляцца».

«За абразу ўлады» тату пасадзілі ў халодную маленькую турму часовага заняволення пры гміне.

Назаўтра раненька яго выпусцілі, мусіць, улічылі ягоныя лаяльныя адносіны да Савецкай улады. Трэба прызнаць, што ў сялянскім камітэце былі былыя грамадаўцы, члены КПЗБ, паважаныя падпольшчыкі, якім тата часта дапамагаў.

Віленскую беларускую гімназію перавялі ў Наваградак. У інтэрнаце амаль не палілі, хоць зіма ў той год была вельмі суровая. Пасадзілі іх у восьмы клас дзесяцігодкі, хоць па многіх прадметах гэтыя вучні маглі паспрачацца нават з цяперашнімі настаўнікамі. Сястра, напрыклад, без слоўніка чытала раманы панямецку. А калі ў час нямецкай акупацыі фашысты забіралі ў нас для коней збожжа, крупы, то сястра так з імі сварылася, што салдаты хапаліся за зброю.



А тут маці не стрывала. Калі ў 1940 годзе прыехаў Выгадзір Абрам арганізоўваць у нашу вёску калгас, то маці звярнулася да сходу:

«Людзі, ён жа хоча на нас хамут адзець!»

Праз некалькі дзён зайшоў да нас адзін з прывозных начальнікаў і сказаў:

«Хацелі вас вывезці, але людзі, асабліва былыя падпольшчыкі, гарой за вас. І я падтрымаў. Але так доўга не пацягнецца. Будзьце гатовы да самага горшага. Прыйшоўшы да вас, падстаўляю пад кулю сваю галаву, але я ўпэўнены, што пра мой візіт нікому, ніколі не скажаце».

Паехала мама па Веру ў Наваградак. Як вывезуць, то каб быць разам. Тата, мусіць, з тыдзень хаваўся, бо мы ўжо ведалі, што ў час вывазаў мужчын садзяць у турму. Аднак праз дзён шэсць вярнуўся дахаты.

«Няхай што хочуць робяць, а на сваёй зямлі я хавацца ня буду!»

Мне тады было ўжо гадоў дванаццаць. Рыхтаваўся да вывазу і я. Склаў сабе ў торбачку беларускую і рускую граматыкі, зборнік задач па арыфметыцы (надта ж любіў рашаць задачы), аловак, асадку, сшыткі і бутэлечку чарніла.

Пачаліся трывожныя дні чакання самага страшнага. Тата пасвіў вясковыя каровы, а мама вяла гаспадарку. Часта даводзілася замяняць ля кароў тату мне. Гэта былі вельмі радасныя дні. Такіх «штрафных сем'яў» у нашай маленькай вёсачцы было тры.

Нямецкую акупацыю тата ўспрыняў насцярожана:

«Там усё ж былі свае, а гэта захопнікі».

Лічу, што далучэнне да Савецкага Саюза дало нам магчымасць вучыцца пабеларуску, ратавала ад паланізацыі і знішчэння нацыі, аднак несла русіфікацыю. Беларусы і палякі сталі роўныя. Мы адразу забыліся пра ўсе крыўды і да палякаў ставіліся таксама прыхільна, як і да ўкраінцаў, рускіх, літоўцаў або іншых народаў.

Думаю, што найбольшы нацыянальны прыгнёт мы заўсёды цярпім, бо з усімі і заўсёды шчырыя, даверлівыя. Нам у 39 годзе казалі:

«А какая разница, на каком языке разговаривать и учиться?» І я ў гэта шчыра верыў. Цешыўся, што можна вучыцца і па-беларуску.

А цяпер мне кажуць:

— Белорусский язык не нужен: я же приехал издалека. Как мне быть, если белорусский объявить государственным?

А як быць мне, маім дзецям, якія не могуць вучыцца ў ВНУ па-беларуску, бо няма ў Савецкім Саюзе ніводнай беларускай вышэйшай навучальнай установы? Як быць маім унукам, якіх у дзіцячым садзіку адвучваюць размаўляць па-беларуску?

Мой тата лічыў, што нам шчасця не можа даць ні царызм, ні буржуазная Расія, ні Польшча. Усё гэта мы паспыталі на сваім карку.

Здаецца, пэўныя колы ў Амерыцы, Англіі, Францыі і цяпер зацікаўлены, каб адгарадзіцца ад «рускага мядзведзя» магутнай і вернай сабе дзяржавай. Для іх страшная Беларусь, бо яна, нягледзячы на яе нацыянальны нігілізм, і сёння з сімпатыяй ставіцца да рускага народа, які, вядома, не вінаваты за цяперашнюю сітуацыю, за вялікадзяржаўны шавінізм некаторых тых, хто ва ўладзе.

Нам патрэбна сапраўдная дзяржаўнасць беларускай мовы, праўдзівая гісторыя Беларусі, росквіт беларускай культуры, сапраўдныя беларускія школы ў вёсках і гарадах, беларускія вышэйшыя навучальныя ўстановы. Толькі пры такіх умовах СССР можна называць саюзам рэспублік. Нам патрэбен саюз суверэнных савецкіх рэспублік, дзе ўсе народы і нацыі мелі б усе шанцы для гарманічнага развіцця. Гэта адзіны разумны шлях для нас.

в. Гудзевічы Мастоўскага раёна

**Матэрыялы падрыхтаваў**
**Валянцін ЖДАНОВІЧ.**



# Усё жыццё і сустрэча, якая не адбылася

Калі б у мяне хто запытаў: як найбольш поўна ацаніць і коратка выразіць жыццё Андрэя Ягоравіча Макаёнка, я б адказаў адным словам — гарэнне. Гарэнне ва ўсім: і ў выкананні службовых абавязкаў, і ў адносінах да творчых задум, і ў шматлікіх сяброўскіх сувязях, без якіх ён не ўяўляў свайго жыцця, і ва многім іншым.

Сяброў у Андрэя Ягоравіча было багата. З аднымі ён крочыў поплеч у суровыя гады вайны, з другімі ён пазнаёміўся ў цяжкі пасляваенны час, з трэцімі яго сутыкнуў лёс — лёс таленавітага драматурга — на далейшым, ужо творчым шляху. Але галоўнае, у чым быў асабліва зацікаўлены, без чаго не ўяўляў жыцця,—дык гэта ўсё тое, што было навокал яго, што адбывалася ў нашай краіне і за яе межамі. Так, ён не быў абыякавы ні да адной больш ці менш важнай падзеі, якая мела месца нават дзе-небудзь далёка, але стала яму вядомай. У тыя раннія маладыя гады, гады вучобы, збірання сіл, ён, безумоўна, не меў магчымасці выказваць усё тое, што было ў яго на душы, скажам, у перыядычным друку ці ў літаратурным творы. Але ў коле сваіх сяброў Макаёнак адкрыта і па-партыйнаму прама выказваў свае думкі, свае адносіны да розных падзей.

Ён адчуваў пастаянную прагу да ведаў, пастаянна гарэў на працы, быў прыцягальнай сілай, своеасаблівым факелам сярод сяброў. У любой кампаніі, вялікай ці малой, ён умеў быць заўсёды ў цэнтры ўвагі: і сам не сумаваў, і другім не даваў. Дзе Макаёнак — там заўсёды весела: жарты, гумар, смех.

Яго высакародная палкасць добра відаць і ў тых шматлікіх таленавітых драматургічных творах, што добра вядомы не толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй нашай краіне і нават за яе межамі, у якіх сатырык-драматург, барацьбіт-камуніст Андрэй Макаёнак вядзе бескампрамісную размову з шматлікай аўдыторыяй гледачоў, клічучы савецкіх людзей на змаганне супраць зла і несправядлівасці, за сваё шчаслівае сённяшняе жыццё і за яшчэ больш шчаслівае будучае.

З Андрэем Ягоравічам Макаёнкам я пазнаёміўся ў першыя гады пасля Вялікай Айчыннай вайны, калі, дэмабілізаваўшыся з радоў Савецкай Арміі, паступіў у 1947 годзе ў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ. Шчаслівы лёс звёў нас у адну, дзесятую, групу — групу газетных работнікаў. І хаця гэта быў ужо другі двухгадовы набор слухачоў, яго склад, асабліва газетных груп, па-ранейшаму быў неаднародны: поруч з прадстаўнікамі перыядычнага друку, якія ў суровыя гады вайны ў падполлі, у партызанскіх атрадах, у невымерна цяжкіх умовах заклікалі савецкіх людзей на свяшчэнную вайну з чалавеканенавісніцкім фашызмам, вучыцца газетнай справе прыйшлі і былыя партыйныя і камсамольскія работнікі, настаўнікі і дэмабілізаваныя воіны.

Увогуле прыйшлі ўсе тыя, хто па прызванню, з пачуццём абавязку хацеў прысвяціць сваё жыццё служэнню прэсе. І трэба адзначыць, што, нягледзячы на неаднароднасць складу, група склалася дружная, баявая і, галоўнае, працалюбівая: па паспяховасці навучання ішла наперадзе іншых груп школы. Мяне выбралі старастам групы, і я з прычыны гэтага абавязку меў дачыненне да таго, хто і як з слухачоў займаецца. Дысцыпліна была, трэба сказаць, суровая. Атрыманне тым ці іншым слухачом двойкі было надзвычайным здарэннем не толькі ў групе, але і на ўсім курсе. Яно станавілася тэмай сур'ёзнай размовы і на партыйным бюро курса, і на пасяджэннях парткома школы. Некаторых двоечнікаў запрашаў да сябе ў кабінет і дырэктар школы, былы камандзір партызанскага злучэння Ілья Паўлавіч Кожар. Пасля размовы з Ільёй Паўлавічам, які па свайму характару быў некалькі флегматычны, але вельмі чулы і ўважлівы чалавек, за што яго слухачы не толькі паважалі, але і любілі, віноўнік сустрэчы выходзіў у такім стане, быццам ён некалькі гадзін без перапынку цягаў цяжкія грузы: чырвоны, успацелы, з жаданнем тут жа куды-небудзь знікнуць, адасобіцца. І калі яго таварышы раптам пыталіся: «Ну як там, бацька здорава лаяўся?» — ён, не падымаючы галавы, адказваў: «Лаяўся? Лепей бы ён лаяўся! Мне лягчэй было б, нават каб не тое лаяўся, а твар расквасіў,— нікому б і слова не сказаў бы! А то!.. Ды што гаварыць!» Такі слухач пасля рабіў усё, каб толькі зноў, у другі раз, не трапіць на гутарку з паважаным усімі кіраўніком школы. І двоечнікаў, у прыватнасці ў нашай групе, не было. Я сам здзіўляюся, як ужо немаладыя людзі, якія прайшлі праз суровыя гады вайны, з усімі яе жахамі і цяжкасцямі, як яны ўпарта і настойліва займаюцца. Праўда, неабходна адзначыць, што клопатам Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі і кіраўніцтва школы ўмовы для заняткаў у тыя нялёгкія гады былі створаны прыстойныя. У такіх умовах не займацца сумленна мог толькі безадказны або бяздарны чалавек, а такіх у партыйную школу не бралі.

Два гады мы з Андрэем Ягоравічам вучыліся ў партыйнай школе, два гады, дзень у дзень, вядома, акрамя выхадных і канікул, сустракаліся за партамі, слухалі адных і тых жа выкладчыкаў. Я сядзеў з Іванам Цімашэнкам за другой партай, Андрэй Ягоравіч ззаду, за трэцяй,— з Іванам Вераб'ёвым. Вучыўся Макаёнак паспяхова, пацеў, як і другія, а можа быць, нават і больш другіх, таму што калі ён адказваў на ўроках ці экзаменах, выступаў на семінарах, дык заўсёды гаварыў тэмпераментна, яго смуглаваты твар разрумяньваўся, пакрываўся буйнымі кроплямі поту. Мне здаецца, што менавіта ў гэтыя гады, гады вучобы ў партыйнай школе, ён ужо намеціў свой далейшы творчы шлях — шлях драматурга. Праўда, нам, сябрам, ён аб гэтым нічога не гаварыў. Але мы ведалі, што над невялікімі сатырычнымі творамі ён працаваў ужо. Адну з такіх п'ес, «Быць бычку на вяровачцы», мы нават збіраліся паставіць на школьнай сцэне сіламі сваёй групы.

Андрэй Ягоравіч іншы раз так захапляўся сваімі літаратурнымі вобразамі, што часам забываўся, дзе ён знаходзіцца. Ні з таго ні з сяго раптам сярод урока ён мог узарвацца такім гамерычным рогатам (Макаёнак заўсёды рагатаў гучна), што ставіў у няёмкае становішча выкладчыка, а заадно і самога сябе. Пасля такога непрадбачанага «ўзрыву» Макаёнак чырванеў, прасіў прабачэння ў выкладчыка і ўсёй групы. Але іншы раз гэтыя прабачэнні не вычэрпвалі канфлікту. У нашай групе рускую мову і літаратуру выкладала незамужняя жанчына (не буду называць яе прозвішча), якая, як гаворыцца, засядзелася ў дзеўках. Яна была цікавая асоба і па тым часе апраналася з густам. Адчувалася, што камусьці з нас, таксама халасцякоў са стажам, яна хацела спадабацца. А Андрэй вазьмі ды і «ўзарвіся» двойчы запар на адным тыдні на яе ўроках, як ён потым казаў, «сваім дурацкім рогатам». Першы раз выкладчыца, нервовая па сваёй натуры, аж падскочыла з крэсла, пачырванела, прымусіла Андрэя ўстаць і тут жа за няправільныя паводзіны прабрала. Другі ж раз, рашыўшы, што Макаёнак смяецца менавіта з яе, яна, не скончыўшы ўрок, грукнула дзвярыма і пабегла ў выкладчыцкі пакой. А на наступны дзень не Андрэя, а мяне, як старасту групы, выклікаў да сябе дырэктар школы. Я, вядома, здагадаўся, дзеля чаго мяне выклікае начальства, і, безумоўна, хваляваўся, перажываў. І не столькі за сябе, колькі за Андрэя. Адчувалася, што размова будзе аб учарашнім выпадку. Яно так і здарылася. Калі я зайшоў у кабінет, Ілья Паўлавіч не сядзеў у сваім дырэктарскім крэсле, як звычайна, а расхаджваў па кабінеце. «Наганяе злосць»,— падумаў я. Ён пасадзіў мяне ў крэсла, што стаяла каля масіўнага пісьмовага стала, а сам апусціўся ў такое ж крэсла насу-





А. Макаёнак на сустрэчы з чытачамі. 1981.

праць. Гледзячы на мяне сваім пранклівым поглядам, ён павольна, робячы паўзу амаль пасля кожнага слова, запытаў:

— Таварыш Дзялец, вы хто: староста ці не староста ў сваёй групе?

— Староста,— не вытрымліваючы яго погляду і апускаючы галаву, адказаў я.

— Дык чаму ж у вас урокі зрываюцца? Гэта ў лепшай групе школы!

— Група тут не вінавата.

— А хто ж? З выкладчыка пасмешышча робяць, і група не вінавата?! Здорава атрымліваецца!

Ён забарабаніў пальцамі правай рукі па стале і раптам спытаў:

— Што сабе думае гэты ваш Макаёнак?

Я крыху асмялеў, рашыў вылажыць усё начыстату. Прызнаўшы, што факт сам па сабе кепскі і што група яго не адабрае, я ў той жа час падкрэсліў, што і Макаёнка нельга так безапеляцыйна абвінавачваць. У яго гэта здараецца міжволі. Ён і сам асуджае свой учынак. Але што вылецела, таго ўжо не зловіш.

— Дык што, ён гэта ненаўмысна робіць? — перапытаў Ілья Паўлавіч.— Выкладчыца сцвярджае, што смяецца Макаёнак менавіта з яе.

— Ну што вы, Ілья Паўлавіч,— працягваў я,— з ім адзін такі выпадак быў нават на агульным сходзе групы. Абмяркоўвалі мы вынікі вучэбнай чвэрці. Я выступаю з дакладам. Раптам ён як зарагоча, як закрычыць: «Бабанькі, бабанькі, крапівой яго!» Толькі калі зарагатала ўся група, Макаёнак апамятаўся, зразумеў, дзе ён, і, вядома, пачаў прасіць прабачэння.

— Выходзіць, ён ярка выражаны халерык,— сказаў Ілья Паўлавіч.

Я, прызнацца, тады яшчэ не ведаў, што такое халерык, і, каб не пытацца ў дырэктара аб гэтым, адказаў няпэўна:

— Штосьці ў гэтым родзе.

Ілья Паўлавіч хітравата ўсміхнуўся, падняўся з крэсла, прайшоўся па кабінеце.

— Сітуацыя, скажу, лепш не прыдумаеш,— разважаў ён, нібыта сам з сабой.— У групе зрываюцца заняткі, а вінаватых, выходзіць, няма. Адзін міжволі зарагатаў, а другі без прычыны збег з урока...

— Ілья Паўлавіч,— перапыніў я яго,— вы ж таксама іншы раз на лекцыі, дзеля разрадкі, расказваеце забаўныя выпадкі. Хіба яна не магла выкарыстаць выхадку Макаёнка для разрадкі?

— Магла, вядома,— пагадзіўся і дырэктар,— ну а калі і яна па характару таксама, як і ваш Макаёнак, халерык? Тады як?

Я не знайшоў што адказаць і прамаўчаў. Ілья Паўлавіч таксама некаторы час моўчкі хадзіў па кабінеце. Потым падышоў і спыніўся ззаду крэсла, на якім толькі што сядзеў.

— Вось што, дарагі староста,— ужо патрабавальным тонам працягваў ён,— халерык ці не халерык слухач таварыш Макаёнак, і я таксама не ведаю, якія літаратурныя вобразы ён выношвае ў сваёй галаве, але падобнае не павінна паўтарыцца на занятках. Для гэтага ёсць свабодны час: тут твары колькі хочаш і як хочаш. Калі ж кожны слухач на лекцыях ды ўроках пачне займацца, чым яму ўздумаецца, у што тады ператворацца заняткі?! Што ж тады гаварыць аб дысцыпліне?!

Дырэктар зноў трохі памаўчаў, нешта абдумваючы, і потым заключыў:

— Прапясочце Макаёнка на трохкутніку,— у трохкутнік групы ўваходзілі: сакратар партгрупы, прафсаюзны арганізатар і староста.— Упэўнены: крытыка сяброў пойдзе яму на карысць.

З гэтым Ілья Паўлавіч і адпусціў мяне.

На пасяджэнні кіраўніцтва групы, дзе прысутнічаў і Макаёнак, я далажыў аб змесце размовы ў дырэктара школы, папракнуў Андрэя за нястрыманасць. Ён даў слова, што падобных фактаў больш не будзе. «Папрашу,— сказаў,— Вераб'ёва, каб штурхаў мяне ў бок, калі я незнарок пачну замыкацца ў сабе, ляцець у аблокі».

Хаця ў далейшым новых непрыемных інцыдэнтаў на занятках у Андрэя не было, работу над стварэннем новых сатырычных вобразаў ён, несумненна, працягваў. У гэтым мы пераканаліся, калі перад выпускным экзаменам пісалі заключную работу па беларускай мове. Гэты прадмет у нашай групе выкладаў Куляшоў Іван Васільевіч. Чалавек ён спакойны, разважлівы, з вялікім жыццёвым вопытам. Беларускую мову ведаў дасканала і нам прывіваў любоў да яе. Хаця матэрыял сам па сабе сухі, але заняткі Куляшоў праводзіў цікава, падбіраючы заўсёды вельмі арыгінальныя прыклады.



На гэты раз, перш чым даць нам заданне, выкладчык зрабіў невялікую прадмову. «Два гады, дарагія сябры, праскочылі неяк непрыкметна,— пачаў Іван Васільевіч.— Мы, можна сказаць, па-сапраўднаму толькі пазналі адзін другога, так-так...— Словы «так-так» Куляшоў ужываў вельмі часта,— а ўжо расставацца неабходна. Праз некалькі месяцаў з новымі слухачамі я буду вывучаць свой курс з самага пачатку, а вы пойдзеце ў вялікую жыццёвую і, мне хочацца верыць, так-так, творчую дарогу, да чаго вас абавязвае выбраная прафесія. Не магу сказаць, што ўсе вы станеце славутымі, так-так, але цвёрда веру, будуць сярод вас і таленавітыя журналісты, і вялікія рэдактары, а можа быць, і масцітыя пісьменнікі. Усё можа быць, так-так. Усё будзе залежаць ад вас, ад вашай працаздольнасці. Талент, які дадзены чалавеку, сам па сабе не раскрываецца. Ён патрабуе працы, працы і яшчэ раз працы.

Куляшоў уздыхнуў, падняў уверх галаву, быццам хацеў угледзецца ўдалечыню, убачыць нашу будучую дарогу, і працягваў:

— Не ведаю, ці будзеце вы памятаць пра мяне. Я, здаецца, стараўся ўсё рабіць, каб вас зацікавіць сваім прадметам, так-так, а мне хочацца захаваць памяць аб вашай дружнай, здольнай групе, у якой, на мой погляд, ёсць добры творчы патэнцыял. І вось я вырашыў,— Куляшоў загадкава ўсміхнуўся,— не даваць вам звычайнага дыктанта, як мы рабілі раней. Усё роўна памылак, дапушчаных у ім, мы ўжо не паправім, так-так. Вы напішаце сачыненне на вольную тэму. Пісаць можна аб усім, што каго хвалюе: перажытае ў гады вайны, цяперашняя рэчаіснасць і заўтрашні дзень, вашы мары і імкненні... Адным словам, ніякіх абмежаванняў. Адно толькі пажаданне: пішыце з душой! І тэрмін даю вам на сачыненне не дзве вучэбныя гадзіны, а творчы тыдзень. Праз тыдзень работы здаяце старасту.

Безумоўна, пасля такога настаўлення ўсе мы без выключэння стараліся паказаць, што два гады вучобы ў партшколе не прайшлі бясследна для нас і што мы ўжо чаго-небудзь варты.

Праз тыдзень сачыненні былі ў Куляшова, а яшчэ праз тыдзень ён прынёс іх на заняткі прачытаныя ўжо. На нашы нецярплівыя пытанні: «Ну як сачыненні?» ён, усміхаючыся, адказаў:

— Нядрэнна, нядрэнна ўвогуле, так-так. А вось у некаторых нават вельмі нядрэнна. Асобныя сачыненні мне хацелася б нават зачытаць. Узяць, да прыкладу, сатырычнае апавяданне таварыша Макаёнка. Гэта, я вам скажу, хаця і невялікі, але ўжо літаратурны твор, так-так. Яго можна смела друкаваць.

Куляшоў пачаў з выразам, было відаць, што ён да гэтага ўжо не раз прайшоўся па сачыненню Андрэя Ягоравіча, чытаць забаўную гісторыю аб тым, як у спякотны летні дзень старшыня калгаса «Бярозавы гай» Арсен Нестаравіч Берднікаў дабіраўся з раённага цэнтра дамоў. Сюжэт зусім просты: старшыня на сваёй калымазе знаёмай дарогай, па якой матляўся сотні разоў, едзе дамоў. Што тут можа быць цікавага, смешнага? Але Макаёнак паставіў свайго героя ў такія камічныя сітуацыі, што не смяяцца было нельга. І ўся група, у тым ліку і сам Макаёнак, рагатала. Нам здавалася, што гэта была першая ацэнка будучага таленту. Мы радаваліся за свайго таварыша.

Кончыўшы чытаць, Куляшоў некаторы час углядаўся ў нашы расчырванелыя ад смеху твары, а потым коратка заключыў:

— Напісана, можна смела сказаць, выдатна!

Пасля заканчэння партыйнай школы Андрэй Ягоравіч Макаёнак застаўся працаваць у Мінску, у часопісе «Вожык», мяне накіравалі ў Баранавіцкую абласную газету «Чырвоная звязда». З гэтага часу нашы сустрэчы былі рэдкія, эпізадычныя. Так атрымалася, што Макаёнак, працягваючы журналісцкую працу, пачаў сур'ёзна займацца драматургіяй. Я ж, пасля загартоўкі газетнай працай, пачаў потым працаваць у мясцовых савецкіх і партыйных органах. У гэты перыяд прыпамінаецца толькі адзін выпадак, калі мы, тры былыя слухачы дзесятай групы партшколы, Цімашэнка Іван Восіпавіч, Вераб'ёў Іван Пятровіч і я, выпадкова сустрэліся ў гасцініцы «Беларусь» у Мінску. Вераб'ёў, у той час рэдактар Навагрудскай раённай газеты, чалавек з выгляду вельмі просты (дакладней сказаць, ён толькі прыкідваўся праставатым, а на самой справе разумны, з гумарам у душы), раптам ні з таго ні з сяго прапанаваў:

— Хлопцы, а ці не завітаць нам усім да Макаёнка ў госці? Ён жа цяпер вядомы драматург! Вунь п'есы па ўсёй краіне разышліся.

— Гэта правільна,— пагадзіўся і я,— але вось таму, мне здаецца, нам і не трэба нязванымі ламацца ў кватэру.

Цімашэнка мяне падтрымаў. Але Вераб'ёў не здаваўся:

— Якія ж вы сябры? Колькі гадоў не бачыліся і сустрэцца баіцеся.

— Мы тут спрачаемся і, магчыма, дарэмна,— заўважыў я.— А раптам яго і дома зусім няма?

— Чаго прасцей,— сказаў Іван Восіпавіч,— спачатку пазваніць па тэлефоне, даведацца, ці дома, а калі дома, у гутарцы высветліць, ці ёсць у яго магчымасць з намі сустрэцца.

— Глядзі ты,— усміхнуўся Вераб'ёў,— далікатныя людзі цяпер у міліцыі працуюць (Цімашэнка ўжо служыў у органах МУС). Пазваніць, даведацца... Чорт з вамі, зараз пайду, пазваню... Чакайце...

Ён выйшаў з нумара, дзе мы знаходзіліся. Тады ў звычайных нумарах гасцініцы тэлефонных апаратаў не было, ён стаяў толькі на стале ў дзяжурнай па паверху. Мінут праз пяць-дзесяць Іван Пятровіч вярнуўся:

— Ну, што я сказаў?! — яшчэ не закрыўшы дзвярэй, узбуджана загаманіў ён.— Сапраўдных сяброў высокае становішча не псуе. Андрэй ёсць Андрэй, той, якога мы добра ведаем. І ён чакае нас у сваёй кватэры.

Мы моўчкі выслухалі ўзвышаную тыраду нашага сябра, і потым я сказаў:

— Раз ён чакае, дык мы затрымлівацца не будзем.

Макаёнак жыў тады па вуліцы Карла Маркса непадалёк ад гасцініцы «Беларусь». Праз якіх-небудзь паўгадзіны мы ўжо былі ў яго. За некалькі гадоў нашай разлукі Андрэй нікольні не змяніўся. Такі ж, як і раней, рухавы, усмешлівы. Кожнага з нас ён па чарзе моцна абняў, прыгаворваючы:

— Нічога, нічога, хлопцы, дабрэеце на мясцовых харчах.

— Жывём па закону сацыялізму,— адказаў за ўсіх Іван Пятровіч,— хто працуе, той і есць.

— Ведаю, ведаю, Ваня,— заўсміхаўся Макаёнак,— яшчэ па партшколе ведаю, што ты гэты закон любіш. Не раз і мяне хатнім салам і каўбасой частаваў.

— Я і зараз магу пачаставаць,— прызнаўся Вераб'ёў.— Гэты харч у мяне ніколі не выводзіцца.

— На гэты раз, дружа, твой фокус не атрымаецца,— Макаёнак злёгку паляпаў Вераб'ёва па плячы.— Вы мае госці — частаваць буду я.

Андрэй запрасіў нас у суседні пакой, дзе каля стала ўжо завіхалася яго мілавідная гаспадыня. Жонка з намі павіталася даволі лагодна, і як толькі мы ўселіся за сталом, яна, шапнуўшы нешта Андрэю Ягоравічу на вуха, тут жа выйшла.

— Гаспадыня што, з намі не прысядзе? — спытаў Цімашэнка.

— Не хоча ўмешвацца ў мужчынскую гамонку,— жартаўліва адказаў Макаёнак і больш сур'ёзна дадаў.— Ёй па справе ісці трэба.

Мы засталіся адны, і сапраўды пачалася мужчынская размова. Успаміналі партшкольныя часы, сяброў, якія раз'ехаліся па ўсёй рэспубліцы, гаварылі аб тым, дзе і як хто ўладкаваўся, аб нялёгкай працы раёншчыкаў. Нарэшце дабраліся да драматургіі. Калі гаворка зайшла пра п'есу «Лявоніха на арбіце», Макаёнак раптам спытаў:

— Ну, як вам, падабаецца мая Лявоніха?

Я, к свайму сораму, толькі чуў, што п'еса вельмі актуальная, вострасатырычная, а вось глядзець яе не глядзеў.

Цімашэнка з адказам таксама не спяшаўся. І толькі Вераб'ёў упэўнена адказаў:

— Выдатная п'еса!

— Чым ты можаш гэта пацвердзіць? — Андрэй Ягоравіч паглядзеў ва ўпор на Вераб'ёва і ўсміхнуўся, маўляў, сказаць «выдатная п'еса» для драматурга мала. Ён хоча ведаць больш: якую рэакцыю ў душы яна выклікала, якія практычныя вывады глядач для сябе зрабіў.

— Да чаго заахвоціла цябе мая п'еса?

— Да чаго? — Вераб'ёў таксама ўсміхнуўся.— Я прыйшоў дамоў пасля спектакля і паганяў цешчу.

Адказ быў такі дзіўны і нечаканы, што ўсе мы, зразумела, акрамя Вераб'ёва, зайшліся смехам. Асабліва заразліва рагатаў Макаёнак. Не перастаючы рагатаць, выціраючы насавіком слёзы з вачэй, ён дапытваўся:



— Ваня... дарагі... пры чым тут цешча? За што ты яе?

Вераб'ёў, як ні ў чым ні бывала, нават не ўсміхнуўшыся, адказаў:

— Каб болей не ўтыкала свой нос, куды не патрэбна.

Макаёнак ізноў заліўся смехам:

— Вось гэта вывад, вось гэта эмоцыі! Абавязкова патэлефаную ў Кіеў майму сябру Заграбельнаму, ён аднойчы цікавіўся, як гледачы рэагуюць на мае п'есы. Цяпер я з поўнай падставай скажу яму, што самым рашучым чынам!

Гутарка наша працягвалася, як раптам зазвінеў у калідоры званок, Андрэй Ягоравіч выйшаў і тут жа вярнуўся з двума невядомымі таварышамі. Адзін з іх, вышэй сярэдняга росту, поўны, шыракатвары мужчына, як мы потым пры знаёмстве даведаліся, быў галоўным рэжысёрам тэатра Савецкай Арміі, а другі, хударлявы і намнога маладзейшы,— галоўны мастак тэатра. Андрэй Ягоравіч запрасіў іх да стала. Але яны катэгарычна адмовіліся, растлумачыўшы, што зайшлі толькі на хвіліну перад спектаклем.

— Спектакль сёння ў нас незвычайны,— паведамілі масквічы,— «Лявоніху на арбіце» ставім дзвесце пяцідзесяты раз. Своеасаблівы юбілей. Вось калектыў тэатра і даручыў нам запрасіць аўтара на сустрэчу пасля спектакля. Вельмі просім, Андрэй Ягоравіч, уважыць нашу просьбу.

Макаёнак паглядзеў на масквічоў, якія па-ранейшаму стаялі каля стала, потым кінуў погляд на нас:

— Ведаеце, якая тут штука, вельмі хацелася сёння вечар правесці са сваімі старымі,— ён слова «старымі» падкрэслена расцягнуў,— сябрамі. Але і вам таксама адмовіць нельга, не адзін год ужо сябруем.

— Правільна,— пагадзіліся масквічы.

— Што ж тут прыдумаць? — гаспадар задумаўся, забарабаніў пальцамі па стале.

— Нічога не трэба прыдумваць,— сказалі мы ўсе разам.— Вось яшчэ з гадзіну пагутарым і пойдзем.

Андрэй Ягоравіч, як быццам нас не чуў, спытаў у масквічоў:

— Мы з вамі дзе павінны сустрэцца?

— У гасцініцы «Беларусь».

— Калі?

— Гадзін у адзінаццаць вечара.

— Вось і выдатна. Я абавязкова буду.

Калі масквічы пайшлі, Андрэй Ягоравіч прапанаваў нам:

— Ведаеце што, сябры, дома ў мяне гарачага на вячэру нічога няма, а паесці неабходна добра, дык ці не лепей нам таксама перайсці ў рэстаран гасцініцы «Беларусь». Тым больш, што ўсе вы ў ёй жывяце. Там, нікуды не спяшаючыся, пасядзім, працягнем нашу размову. Вы не ўяўляеце, як я вам рады і як мне хочацца ўволю з вамі нагаварыцца.

Мы, ведаючы ўжо аб маючай адбыцца сустрэчы, спрабавалі адмовіцца, але Макаёнак і слухаць не хацеў:

— За колькі год першы раз сустрэліся — і ўцякаць?! Гэта, браткі, сорам!

Бачачы нашу нерашучасць, Андрэй Ягоравіч, звяртаючыся да Вераб'ёва, дадаў:

— У гасцініцы ты мяне, Іван Пятровіч, і сваімі хатнімі прыпасамі пачастуеш. Прызнацца, я ўжо даўно сялянскай каўбаскі не каштаваў.

— Гэта іншая справа,— адказаў Вераб'ёў.— У такім выпадку прапанова прымаецца.

Вечар гэты запомніўся назаўсёды. Гутарылі мы доўга, гутарылі аб розным. Успаміналі сяброў, з якімі вучыліся. Андрэй Ягоравіч цікавіўся, як ідуць справы ў калгасах і саўгасах, які настрой у людзей. І мы разумелі, што і яго гэтая тэма хвалюе. У сваю чаргу мы дапытваліся ў Макаёнка аб яго далейшых творчых планах. У канцы Андрэй Ягоравіч сказаў, што ён захапіўся калгаснай тэматыкай. Усё ж мы зразумелі, што працягваць размову на гэтую тэму ў яго не было настрою. І наогул яўна адчувалася, што яго нешта турбуе, што ён штосьці недагаворвае. Нам карцела праясніць гэту акалічнасць, але ў рэстаране з'явіліся маскоўскія артысты, Андрэй Ягоравіч перайшоў да іх.

Толькі праз некалькі гадоў, калі Макаёнак скасаваў шлюб са сваёй жонкай Аленай, я даведаўся, што прычынай тых яго хваляванняў было сямейнае жыццё.

Больш частыя сталі сустрэчы, больш цесныя ўзаемаадносіны пасля таго, як я пераехаў на працу ў Мінск. У сакавіку 1969 года мяне прызначылі рэдактарам рэспублі-

канскай газеты «Звязда». Адным з першых, хто прыйшоў мяне павіншаваць, быў Андрэй Ягоравіч Макаёнак. Ён у гэты час быў ужо галоўным рэдактарам часопіса «Нёман».

— Ну, Міхал,— ён і пасля ўвесь час, калі мы былі не на людзях, называў мяне не Міхаілам, а Міхалам,— ад душы віншую цябе з гэтай пасадай і жадаю найлепшых поспехаў!

Я падзякаваў яму за віншаванні і сказаў:

— Я разлічваю і на тваю дапамогу.

— Маю дапамогу? — перапытаў Макаёнак.— Якую дапамогу я магу табе аказаць? Крытыкаваць «Звязду» «Нёман» не мае права. Наадварот, сам пабойваецца, каб ад яе не дасталося. А што яшчэ?

— Бачыш, мы на адным з рэдакцыйных сходаў аналізавалі становішча, чаму «Звязда» губляе падпісчыкаў. І прыйшлі да вываду: адной з прычын з'яўляецца тое, што ў газеце вельмі рэдка выступаюць вядучыя пісьменнікі рэспублікі са сваімі новымі творамі.

— Дык «Звязда», скажам, раманы ці апавяданні ды і п'есы цалкам жа друкаваць не зможа? — зазначыў Андрэй Ягоравіч.

— Вялікія творы друкаваць поўнасцю ў газеце, безумоўна, нельга,— адказаў я.— Але найбольш яркія ўрыўкі даваць не толькі можна, але і неабходна. Гэтым мы будзем і павышаць аўтарытэт газеты, і папулярызаваць саміх аўтараў, іх новыя творы.

— Выходзіць, калі напісаў дрэнную аповесць або п'есу, дык яе трэба несці не ў выдавецтва, а к вам у газету. Вы друкуеце з яе лепшыя ўрыўкі, і яна потым ідзе за мілую душу? — з'іранізаваў Макаёнак і засмяяўся.— Так я зразумеў?

— Не, не так,— гэта была наша першая размова пасля даволі доўгага расстання, і мне хацелася яе працягваць.— Па-першае, «Звязда» не такая газета, каб друкаваць урыўкі з дрэнных аповесцей ці п'ес, па-другое, я думаю, што дрэнных твораў вы і ў «Нёмане» не друкуеце.

— Калі шчыра сказаць, хацелася б не друкаваць, але даводзіцца.. Іншы раз проста выбару няма.— Андрэй Ягоравіч хітра ўсміхнуўся.— Вось тады і мы друкуем урыўкі, так сказаць, лепшае з горшага.

— Ваш часопіс тоўсты, матэрыялу патрэбна многа, тут сапраўды іншы раз яго не назапасіш,— згадзіўся я.— А для газеты заўсёды што-небудзь цікавае выбраць можна. Вось, скажам, мы крытыкуем многія клубы, што ў іх дрэнна абстаяць справы з самадзейнасцю. Крытыкуем справядліва. А калі паглядзець з другога боку: што можна ўзяць для самадзейнасці з нашай газеты? Не шпарка разгонішся! Цікавыя навела ці апавяданне друкуюцца рэдка. Аб скетчах, невялікіх п'есах і гаварыць не прыходзіцца. Вось, для прыкладу, ты, Андрэй, у апошнія гады, калі стаў вядомым драматургам, напісаў што-небудзь для самадзейных драматычных гурткоў?

— А навошта? — здзівіўся ён.— Я пішу вялікія п'есы.

— Правільна, вялікая п'еса лепей. Але яе паставяць у рэспубліцы ў адным, у лепшым выпадку ў двух тэатрах. А малую маглі б сыграць у сотнях, а то і тысячах самадзейных калектываў. Якая шырыня вядомасці.

— Ды дзе ж цяпер гэтыя калектывы? Іх жа няма!

— У гэтым вялікую віну павінны ўзяць і вы, драматургі, на сябе.

— Ты ведаеш, Міхал, а я аб гэтым не падумаў,— прызнаўся ён.

— Чыстасардэчнае прызнанне змякчае віну,— пажартаваў я.— Раз памылка дапушчана, яе трэба выпраўляць. Калі ты не пярэчыш, я зраблю адну прапанову...

— Якую? — пацікавіўся Андрэй Ягоравіч.

— Ты, не адкладваючы ў доўгую скрынку, пішаш невялікую п'есу для самадзейных калектываў, і мы яе тут жа друкуем у «Звяздзе».

— Бач пад'ехаў! — Макаёнак адкінуў рукой пасмы сваіх чорных валасоў, што звісалі над вачыма.— Разумееш, хацелася якраз брацца за новую вялікую п'есу.

— Пачакай з ёю крыху, панасі ў сабе,— не адступаў я.— Аднаактоўка ў цябе больш месяца-двух не зойме ж?

— Ды не, вядома.

— Дык ці не варта табе ўважыць самадзейныя калектывы, а заадно і сябра? Вось у гэтым твая дапамога і будзе.

На гэтай першай сустрэчы ў рэдакцыі мы дамовіліся, што кожная новая п'еса, якая будзе Макаёнкам напісана, упершыню з'явіцца перад чытачамі «Звязды».



Андрэй Ягоравіч даў цвёрдае слова.

Зноў у рэдакцыі Андрэй Ягоравіч з'явіўся дзесьці праз месяц.

— Ну, Міхал, рыхтуй прэмію! Тваё першае заданне выканаў! — Ён дастаў з папкі і неяк вельмі ўжо ўрачыста паклаў на стол рукапіс, на вокладцы якога было надрукавана: «Трыбунал».

Я запрасіў яго сесці, а сам пачаў гартаць рукапіс. І тут Макаёнак зноў загаварыў:

— Вось толькі аднаактоўка не атрымалася. Сеў пісаць, і ўсё так лёгка пайшло, разумееш, што не заўважыў, як вялікая п'еса вырысавалася. Але клянуся, слова гонару, задумвалася аднаактоўка: і персанажаў мала, і дзеянне праходзіць у адным месцы, так што дэкарацыі мяняць не трэба. Словам, гэтую вялікую п'есу можна ставіць і ў драмгуртках.

Я быў вельмі ўзрадаваны такой пунктуальнасцю сябра і наперад, яшчэ не чытаючы, сардэчна падзякаваў яму за п'есу.

— Якая б яна вялікая ні была,— сказаў я,— мы яе надрукуем цалкам.

— Ты спачатку пачытай, пачытай,— усміхаючыся, казаў Макаёнак,— можа, яшчэ забракуеш?

— На ўрыўкі намякаеш?

— Не, навошта? Самому мне п'еса падабаецца. Аказалася, я яе даўно выношваў. Часта думаў над тым, як паказаць усенародную барацьбу з фашызмам, не выводзячы на сцэну вялікую колькасць людзей. А тут вось гэта задача: напісаць аднаактоўку, што паставіла мяне ў пэўныя рамкі і ўрэшце рэшт дапамагло мне. Увогуле, ты пачытай уважліва, на мой погляд, п'еса атрымалася нядрэнная.

Неўзабаве Андрэй Ягоравіч, спаслаўшыся на якуюсьці сустрэчу ў Саюзе пісьменнікаў, пайшоў. Я адразу ж прыняўся чытаць п'есу. Чытаў і здзіўляўся: які просты сюжэт і як напісана проста, але які глыбокі сэнс закладзены! На абмежаваным плацдарме канфлікту ў адной сям'і паказаны адносіны беларускага народа да гітлераўскіх акупантаў.

Праз тыдзень аддзел літаратуры і мастацтва падрыхтаваў п'есу да друку, і яна была надрукавана часткамі ў некалькіх нумарах. Рэдакцыя пацікавілася, які водгук «Трыбунал» выклікаў у чытачоў. Ён быў самы спрыяльны.

Наступная п'еса, якую Макаёнак прынёс у «Звязду», была «Таблетку пад язык». Андрэй Ягоравіч расказваў мне, што яе сюжэт і прататыпы многіх герояў п'есы знайшоў у калгасе «Новае Палессе» Лунінецкага раёна, дзе, дарэчы, старшынёй быў наш аднакурснік па партыйнай школе Сцепчанка Уладзімір Апанасавіч. Па запрашэнню Уладзіміра Апанасавіча Макаёнак непрацяглы час жыў у гэтым калгасе, цікавіўся і працоўным днём старшыні, жыццём і працай калгаснікаў, побытам і звычаямі палескай вёскі. Многа гутарыў з калгаснікамі — з маладымі і пажылымі. Яго ўжо тады хвалявала пытанне: чаму вёска старэе, чаму ў ёй не затрымліваецца моладзь. Вынікам гэтых шматлікіх сустрэч і з'явілася п'еса «Таблетку пад язык».

Андрэй Ягоравіч, перадаючы мне п'есу, папярэдзіў, што дзён праз дзесяць-пятнаццаць ён едзе на адпачынак, так што калі будуць якія заўвагі, дык пажадана разгледзець іх да адпачынку. У рэдакцыі п'есу мы прачыталі хутка. Заўвагі, хаця і невялікія, але былі. Макаёнак уводзіў у п'есу некаторых палітычных дзеячаў міжнароднага маштабу, прычым у негатыўным плане. З сюжэтам п'есы гэта ніяк не было звязана, упаміналіся яны як бы між іншым. Мы прапанавалі зняць гэтыя ўпамінанні, і Андрэй Ягоравіч пагадзіўся з намі.

Ён паехаў адпачываць, а мы ў «Звяздзе» пачалі часткамі, ці, як у рэдакцыйнай кухні называлася, кавалкамі, друкаваць «Таблетку пад язык». У чатырох нумарах ужо былі публікацыі, і раптам мне пазванілі: публікацыю п'есы часова спыніць. Але чаму, таварыш, які перадаваў мне ўказанне, не мог сказаць. Ён шчыра прызнаўся, што і сам не ведае.

Гэты званок усхваляваў мяне. У той жа вечар я яшчэ раз перачытаў п'есу. Ці не дапусцілі мы з аўтарам якую памылку? Як ні стараўся з рэдактарскага пункту гледжання знайсці што-небудзь падазронае, з двайным сэнсам — нічога не знайшоў. А тут прыкладна дзесьці праз тыдзень у рэдакцыі пачалі раздавацца званкі: чаму спынілі друкаваць п'есу Андрэя Макаёнка? Гэтыя званкі нас, з аднаго боку, радавалі, мы пераконваліся, што п'есу нашы падпісчыкі чытаюць і што яна іх хвалюе. А з другога боку, мы адчувалі сябе няёмка, таму што пераканаўча адказаць, чаму рэдакцыя

спыніла публікацыю п'есы, не маглі. Тады я пайшоў да загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ. Паведаміў яму, што п'есу «Таблетку пад язык» сам перачытваў некалькі разоў, чыталі яе і іншыя супрацоўнікі рэдакцыі і што мы не знаходзім нічога такога, каб яе не публікаваць. Тым больш, што ўжо і званкі раздаюцца ў рэдакцыі: чытачы цікавяцца, чаму спынена публікацыя. Мы павінны або працягваць публікацыю, сказаў у заключэнне я, або растлумачыць чытачам прычыну спынення публікацыі. Другога выйсця няма, калі газета не абыякавая да свайго аўтарытэту.

Загадчык аддзела паабяцаў мне, што пастараецца разабрацца і дасць вычарпальны адказ. І сапраўды. Праз тры дні ён пазваніў мне і сказаў, што п'есу можна працягваць друкаваць.

Макаёнак таксама, як аказалася, хаця і быў у адпачынку, але за публікацыяй сваёй п'есы сачыў. Друкаванне п'есы ў цэнтральным органе Кампартыі рэспублікі было добрай гарантыяй, ва ўсякім выпадку лепш любой станоўчай рэцэнзіі, для далейшага прасоўвання яе на тэатральную сцэну. А тут замінка. Дзесьці на сярэдзіне п'есу перасталі друкаваць. Гэта, безумоўна, не магло не ўсхваляваць такога эмацыянальнага аўтара. Як рэагаваў Андрэй Ягоравіч на гэты факт, мне невядома. Але як толькі ён прыбыў з адпачынку, дык адразу ж з'явіўся ў рэдакцыі. І першымі яго словамі былі:

— Ну як, Міхал, папала за мяне? Будзеш ведаць, брат, як даваць абавязацельствы першым друкаваць п'есы, ды яшчэ настырнага Макаёнка.

— Нічога не папала,— адказаў я.— Проста атрымалася нейкае непаразуменне. Цяпер жа ўсё, як было дамоўлена,— п'еса надрукавана.

— Ведаю, ведаю, дарагі, не скромнічай.— Ён адкінуўся на спінку стула, паглядзеў праз акно кудысьці ўдалечыню. Потым павярнуўся да мяне і працягваў: — Калі на сцэне з'яўляецца нецікавая, нудная п'еса, усе абураюцца: няўжо не знойдзецца чалавек, які б напісаў што-небудзь вастрэй, цікавей! А напішы вастрэй, абавязкова каму-небудзь пакажацца небяспечным, як бы чаго не выйшла. І пачынай тады даказваць, што гэта белае, а не чорнае, і рэжысёру, і ў міністэрстве, а іншы раз і вышэй. Чэсна скажу, вельмі складана і вельмі цяжка быць драматургам-сатырыкам.

— Але затое і прыемна, калі твае п'есы ідуць па ўсёй краіне і ўсюды сустракаюць гарачае адабрэнне,— заўважыў я.

— Апладысменты, вядома, прыемная рэч. Але гледачы ж не ведаюць, колькі поту выльецца ў драматурга, пакуль яго п'еса трапіць на суд грамадскі.

Быццам бы ў пацвярджэнне сказанага Андрэй Ягоравіч дастаў з кішэні насоўку і выцер пот, які пачаў выступаць на твары.

— А перада мною ты чаго пацееш? — пажартаваў я.

— Чорт яго ведае чаго,— сказаў Макаёнак,— у апошні час штосьці часта пачало працінаць потам. Старэю ці што?

— Старэць табе не дазволена,— адрэагаваў я.

— Гэта ж чаму?

— Халасцяк жа ты, а халасцякі заўсёды маладыя.

— Парахня сыплецца, а ён нос угору,— Макаёнак засмяяўся.

— Вядома, так.— Я рашыў высветліць, ці не цяжкавата для Макаёнка халасцяцкае жыццё, таму спытаў: — Андрэй, ці не цяжка жыць табе аднаму?

— Аднаму? — перапытаў ён.— Тут коратка не адкажаш. Усё залежыць ад таго, з якога боку падыдзем да гэтага пытання. Калі ўзяць бытавы бок, дык, вядома, цяжкавата. Тут жонка незаменная. А калі ж падысці з творчага боку — зусім іншая справа. Разумееш, за дванаццаць год сямейнага жыцця я з цяжкасцю напісаў чатыры п'есы. І чатыры мае лепшыя п'есы выдаў, як кажуць, на-гара за чатыры гады халасцякоўства. Свабоды больш, менш матання нерваў.

— Але і да цябе ўвагі менш?

— Эге, браток, не тое толькі сонца, што свеціць у аконца. Увага жонкі добра. Але ты не ўлічваеш увагі гледачоў, грамадскасці. А начальства?! — сказаў ён і рассмяяўся.— Вось ты, Міхал, таксама немалая шышка. А якую ўвагу да мяне праявіў! Як быццам простую справу зрабіў — надрукаваў п'есу. Але ці ведаеш ты, якую процьму клопатаў зняў з маіх плеч. «Звязда» — орган Цэнтральнага Камітэта Кампартыі рэспублікі. Раз яна ацаніла п'есу, надрукаваўшы яе, выходзіць, п'еса патрэбная. Так я разумею?

— Вядома, так,— згадзіўся я з яго думкаю.





З В. Быкавым і М. Матукоўскім.

— Дык вось, калі пасля гэтага якія жукі і пачнуць мне гудзець над вухам, з дапамогай «Звязды» я ад іх хутка адаб'юся.

Калі размова была закончана і Андрэй Ягоравіч ужо збіраўся выходзіць, на развітанне паціснуўшы мне руку, ён раптам затрымаўся, ціха сказаў:

— Слухай, Міхал, ледзь не забыў. Нядаўна быў у дзеда, Кандрата Кандратавіча. Стары напісаў п'есу. Даў мне яе пачытаць, папярэдзіўшы, каб нікому аб ёй не распаўсюджваўся. П'еса, скажу табе, цудоўная. У такія гады і такая п'еса, проста неверагодна! Падкаціся да старога. Думаю, для «Звязды» ён таксама не адмовіць, даўні ж звяздовец.

— Як хоць п'еса называецца? — пацікавіўся я.

— «Брама неўміручасці». Ты абавязкова наведайся да Кандрата Кандратавіча.

Я падзякаваў Андрэю Ягоравічу за падказку. Праз некалькі дзён быў ужо ў кабінеце Кандрата Кандратавіча, а дзесьці праз месяц «Брама неўміручасці» пачала друкавацца ў «Звяздзе».

У памяці захаваўся і такі эпізод, які адбыўся на прыёме ў гонар пяцідзесяцігоддзя Беларусі. Прыём быў вялікі, многа гасцей прыехала з Масквы і Ленінграда, з усіх братніх рэспублік. Мы з Андрэем Ягоравічам сядзелі за рознымі сталамі. Але ў канцы прыёму Макаёнак адшукаў мяне.

— Міхал, пойдзем да нашага стала, я хачу цябе пазнаёміць з украінскімі таварышамі.

Я не стаў пярэчыць, тут жа падняўся і пайшоў за ім. Доўгі стол, да якога мы падышлі, быў разлічаны асоб на дваццаць. Цяпер жа за ім сядзела ўсяго чалавек шэсць. Астатнія, відаць, пайшлі ўжо дамоў. Аднаго з сядзеўшых я адразу пазнаў — гэта быў вядомы ўкраінскі артыст Тарапунька. Андрэй Ягоравіч прадставіў мяне ўкраінскім таварышам, назваў і кожнага з іх, а потым пасадзіў мяне побач з Тарапунькам. Госці — украінскія артысты, якія прымалі ўдзел у святочным канцэрце,— былі ўжо ў добрым настроі: жарты, смех сыпаліся як з рога дастатку. Я стараўся таксама ўнесці свой уклад у гэты агульны добры настрой. І ўсё ж такі хацелася даведацца, якім чынам Макаёнак пазнаёміўся з Тарапунькам.

— Вы даўно знаёмы з Андрэем Ягоравічам? — спытаў я ў яго.

— Дуже даўно,— хітравата ўсміхнуўшыся, адказаў Тарапунька.— З таго часу, калі яшчэ і ў вочы Макаёнка не бачыў.

— Як жа гэта? — здзівіўся я.

— А вось так. Быў я аднойчы на дачы ў свайго лепшага сябра Даўжэнкі Аляксандра Пятровіча. Зайшла размова аб драматургіі. Аляксандр Пятровіч і кажа: «Не падабаюцца мне многія нашы драматургі. Прывязаліся да свайго хутара з белымі мазанкамі ды сланечнікамі і далей гэтага хутара нічога не бачаць. Вунь у Беларусі ёсць такі Макаёнак. Дык ён падымае праблемы ўсёй краіны, на міжнародныя тэмы выходзіць. Вядома, яму і слава і гонар». Вось з гэтай размовы я, можна сказаць, як бы і пазнаёміўся з Макаёнкам. А калі потым Андрэй Ягоравіч завітаў да нас у Кіеў, мы тады з ім пазнаёміліся і асабіста.

Я не ўтойваў ад свайго суседа, як прыемна мне было пачуць ад яго такую высокую ацэнку творчасці Андрэя Ягоравіча з боку такога выдатнейшага кінадраматурга, як Даўжэнка.

У 1973 годзе мяне зацвярджаюць старшынёй Дзяржкамвыда БССР. Я часцей пачаў бываць у Саюзе пісьменнікаў на розных мерапрыемствах. Часцей мы пачалі сустракацца і з Андрэем Ягоравічам. Сустракаліся і ў Доме літаратара, і ў яго на кватэры, і на дачы. У гэты час Макаёнка рэдка калі можна было сустрэць аднаго — ён заўсёды быў разам з Іванам Пятровічам Шамякіным. Вядома, што ў многіх пісьменнікаў ёсць калегі па пяру, з якімі яны сябруюць, абмяркоўваюць творчыя планы, дзеляцца патаемнымі думкамі. Але я не баюся смела сцвярджаць, што такой блізкай, такой чыстасардэчнай, па-сапраўднаму братняй дружбы мне не даводзілася сустракаць. З імі цікава было знаходзіцца ў кампаніі. Мяне яны неяк шкадавалі, менш адпускалі ў мой адрас вострых жартаў і калючак. Затое ніякіх абмежаванняў не рабілі для сябе. Андрэй Ягоравіч, калі быў у добрым настроі, а панурым яго рэдка калі можна было бачыць, проста іскрыўся гумарам, Івану Пятровічу нярэдка даводзілася адбівацца ад нападак свайго дасціпнага друга. І ў той жа час нельга было не заўважыць, што гэта два вялікія пісьменнікі, два сябры, ужо жыць адзін без аднаго не маглі. Гэта іх сяброўства як бы натхняла сваімі сардэчнымі, вельмі чулымі і клапатлівымі адносінамі да Андрэя жонка Івана Шамякіна — Марыя Філатаўна, простая, сціплая, вельмі чулая беларуская жанчына і вялікая-вялікая працаўніца.

Неяк мы з Шамякіным былі на дачы ў Андрэя Ягоравіча. Пасля абеду рашылі прагуляцца па лесе. Калі выйшлі на двор, Андрэй Ягоравіч раптам папрасіў нас:

— Мінутку пачакайце, я загляну ў майстэрню.

— У цябе і майстэрня ёсць? — здзівіўся я.

— Хіба ты ў ёй ні разу не быў? — у сваю чаргу здзівіўся і ён.

— Не быў, вядома,— адказаў я.

— Тады пойдзем глядзець.

Майстэрня знаходзілася з тыльнага боку дачы ў невялікім, добра абсталяваным памяшканні. Мне давялося толькі шчыра здзіўляцца таму мноству інструментаў, розных прылад, што знаходзіліся ў ёй. Тут былі і сталярныя і слясарныя прылады, тачыла і ціскі, станок для свідравання і многае іншае. На палічках, уманціраваных у сцяну, ляжалі розныя вінцікі і болцікі, стаялі банкі з якімісьці растворамі і фарбамі, знаходзіліся і невядомыя мне рэчы. Я не вытрымаў і спытаў:

— Ягоравіч, а ты часта працуеш у сваёй майстэрні?

— Амаль кожны дзень,— адказаў ён.— Эге, калі б не было гэтай майстэрні, я даўно б ужо адрахлеў, заплыў тлушчам. Мая майстэрня — мой целаахоўнік.

З майстэрні мы адправіліся на прагулку. І гулялі даволі доўга. Праўда, доўгіх прагулак Макаёнак не любіў, і не таму, што яны надакучалі яму. У апошні час усё больш і больш давалі знаць параненыя ў час вайны ногі. Хадзіць станавілася ўсё цяжэй, асабліва зімою, па снезе.

У час прагулкі мы гутарылі аб розным: і аб навінах у беларускай літаратуры, і аб апошніх падзеях у свеце. Андрэй Ягоравіч пачаў скардзіцца, што ў яго вельмі многа часу адымае часопіс. Ён працягваў яшчэ працаваць галоўным рэдактарам «Нёмана».

— Чаму ты не адмовішся ад яго? — спытаў я.— Матэрыяльнай патрэбы ў цябе ж няма?

— Не, вядома.

— Дык у чым справа?

— Не адпускаюць.

Ён пачаў тлумачыць, што ўжо двойчы ставіў пытанне ў дырэктыўных органах, але там просяць яшчэ папрацаваць.

— Мне здаецца,— сказаў я,— што галоўная твая праца — пісаць добрыя п'есы. А ўсё, што гэтаму перашкаджае, патрэбна адкінуць.

— Слушна, слушна,— падтрымаў мяне і Шамякін.— Андрэй пытанне гэта ставіў, відаць, няўпэўнена. Ён разумее, што яму з часопіса выйсці неабходна. Але выходзіць самому не хочацца.

— Чакае, каб папрасілі? — сказаў я.

— Вось чаго-чаго, а гэтага я не дапушчу! — Макаёнак нават зрабіў выразны жэст рукой.

— Ну а калі цябе два сябры просяць,— зноў загаварыў я,— аддацца цалкам і поўнасцю драматургіі, ты можаш ім адмовіць?

— І ім не адмоўлю,— Андрэй Ягоравіч зарагатаў.— Іван вунь у саюзе колькі гадоў на сакратарскім крэсле сядзіць і не ўступае маладым. Ого!

— Дык мяне ж уступіць месца ніхто не прасіў,— засмяяўся і Шамякін.

— Не прасіў? — Макаёнак нават спыніўся.— Іване, родны, я магу дапамагчы. Заўтра ж ахвотнікі знойдуцца.

— Добра, добра,— адмахнуўся Іван Пятровіч.— Не будзь ты, Андрэй, усіх мудрэй. Рабі ты, што табе сябры кажуць. Народу патрэбны твае п'есы, вось ты і давай іх.

— Дарэчы, Андрэй, ты над чым зараз працуеш? — спытаў я.

— Ды пакуль што ні над чым. Усё думаю,— ён крыху памаўчаў, потым загаварыў зноў.— Хочацца напісаць п'есу на ваенную тэму. Але не пра вайну, што мінула, а пра сучасныя ваенныя абставіны. Вельмі шмат зараз ахвотнікаў стала раздзьмухваць атамнае кадзіла. І палітыкі замежныя і пентагонаўскія ды натаўскія генералы толькі і трубяць аб гэтым. Эх! — усклікнуў ён.— Была б мая ўлада, абрэзаў бы я гэтым генералам гузікі на іх форме...

— Навошта? — перабіў яго Шамякін.

— Не разумееш? Штаны без гузікаў у руках трымаць патрэбна, каб не апынуцца ў адных споднiках. Вось няхай увесь час і трымаюць свае лампасы ў руках, а не махаюць атамнымі бомбамі.

Пазней гэтую задумку ён здзейсніў у п'есе «Кашмар». Праўда, калі над пастаноўкай яе працавалі ў тэатры імя Янкі Купалы, дык назву п'есы са згоды аўтара чамусьці замянілі на «Святую прастату», што, я б сказаў, не зусім адпавядае зместу твора.

Успамінаецца і такая размова. У Ждановіцкім водным каскадзе ёсць даволі доўгі ўчастак, зроблены спецыяльна для трэніровак водных слаламістаў, з крутымі перападамі, рознымі перашкодамі. Гэты ўчастак сапраўды нагадвае бурлівы горны паток. Аднойчы ў адзін з выхадных дзён мы з Андрэем Ягоравічам ішлі па беразе гэтага

канала. Вада ў ім бурліла, у некаторых месцах рабіла віры, пенілася. Мы крочылі не спяшаючыся, вялі звычайную ў такіх выпадках гамонку аб апошніх навінах, аб падзеях жыцця. Раптам Макаёнак спыніўся, павярнуўся да патоку:

— Глядзі, Міхал, як бурліць, як імкліва нясецца! Колькі тут зігзагаў, паваротаў. А вось спартсмену па гэтай пратоцы трэба так праплысці, каб і човен цэлы застаўся, і самому не апынуцца ўніз галавой, і, галоўнае, апярэдзіць другі, быць першым.

— Ну, гэты від спорту для найбольш адчайных,— хацеў працягнуць размову ў гэтым кірунку і я.— Больш усяго лодачных спаборніцтваў праходзіць на спакойных вадаёмах.

— Гэта так, так...— згадзіўся Андрэй.— Але я хацеў сказаць вось аб чым. Мне такое адчайнае спаборніцтва спартсменаў нагадвае жыццё і дзейнасць драматургаў. Яны таксама, калі хочуць быць сапраўднымі драматургамі, павінны заўсёды знаходзіцца ў бурным патоку жыцця, з усімі яго перападамі і вірамі, з падводнымі каменнямі і перашкодамі, якія нечакана ўзнікаюць на шляху. Яны павінны, як і той спартсмен-слаламіст, пастаянна напружваць сілы, адчайна змагацца, каб на іх прыкладзе, на іх творах людзі вучыліся, як трэба паводзіць сябе ў жыцці, як змагацца са злом, неўтаймаванай стыхіяй, каб быць чалавекам з вялікай літары. А гэта, Міхал, вельмі складаная справа.

Мы зноў нетаропка пайшлі па беразе канала, і Андрэй Ягоравіч працягваў:

— Вось ужо за шэсцьдзесят гадоў пераваліла. А прага пісаць не суцішаецца. Не разумею тых пісьменнікаў, якія да шасцідзесяці яшчэ не дажылі, а ўжо пачынаюць падчышчаць шуфлядкі сваіх рабочых сталоў: друкуюць дзённікі, пісьмы і розную іншую дробязь. Па-мойму, так: пакуль сэрца б'ецца — стварай! А ў дзённіках і пісьмах разбяруцца без цябе.

Ён на некаторы час змоўк, пачаў разглядваць вершаліны стройных хвой, што ўсутыч падступалі да канала, потым загаварыў зноў:

— Праўда, гэтае чартоўскае «без цябе» іншы раз і ва ўласнае сэрца стукае. Часам ні з таго ні з сяго задумаешся: а што будзе без цябе? Хто прыме тваю эстафету?

— Табе, Ягоравіч, яшчэ рана думаць аб гэтым,— уставіў я.

— Яно так, рана. Але ведаеш, калі думка з'явіцца ў мазгу, дык ад яе не адмахнешся. Дык вось і я часам задумваюся. Калі сказаць пра мяне, то эстафету ў драматургіі я прыняў ад нашага старэйшыны — Кандрата Кандратавіча Крапівы. Стараўся несці яе належным чынам. Як-ніяк мае п'есы ставіліся ва многіх тэатрах краіны. Нават выйшлі на замежную сцэну. Гэта ж нядрэнна, Міхал?!

— Нядрэнна тут не падыходзіць,— не пагадзіўся я.— Лепш сказаць, што гэта добра.

— Ну, няхай будзе і так,— працягваў Макаёнак.— Але вось ты скажы, каму мне перадаць сваю эстафету?

Я не чакаў ад Андрэя Ягоравіча такога пытання, таму запярэчыў:

— Аб гэтым гаварыць, думаю, яшчэ няма патрэбы.

— Няма то няма, але калі б, скажам, прыйшлося.— Ён з хітраватай усмешкай паглядзеў на мяне.— А можа, я хачу праверыць цябе, нашага галоўнага друкара, як ты разбіраешся ў драматургіі? А?

Я пачаў перабіраць у памяці вядомых мне драматургаў: Матукоўскага, Петрашкевіча, Дзялендзіка, Васілеўскага... Я ведаў, што ў Макаёнка найбольш цесныя былі сувязі з Мікалаем Ягоравічам Матукоўскім. Ён яшчэ не стары, у росквіце творчых сіл.

— Матукоўскаму, відаць,— адказаў я.

— Матукоўскаму,— машынальна паўтарыў ён.— Так, слушна, ён таксама бярэцца за вострыя тэмы, піша цікава. Але, разумееш, ёсць другая кандыдатура...

— Хто ж такі? — не сцярпеў я, лічачы, што сярод названых мною кандыдатур і самім Макаёнкам Матукоўскі ацэньваецца вышэй.

— У нашай драматургіі гэты чалавек яшчэ невядомы.

— Цікава, цікава,— сказаў я.

— Ён пазнаёміў мяне са сваімі першымі п'есамі. Я іх уважліва прачытаў і зразумеў: у беларускую драматургію ідзе новы, я б сказаў, яркі талент. Сваю эстафету ўжо сёння я гатоў перадаць яму.

— Хто ж гэты малады талент? — не цярпелася даведацца мне.

— Зусім яшчэ малады хлопец,— сказаў Андрэй Ягоравіч,— яго прозвішча Дударaў... Аляксей Дудараў,— паўтарыў ён.



Дударава я сапраўды не ведаў і нават не чуў аб яго п'есах. Тым не менш было прыемна даведацца, што ў драматургію ідзе новы талент і што пуцёўку ў творчае жыццё яму дае Андрэй Ягоравіч Макаёнак.

Апошнім творам Андрэя Ягоравіча, як вядома, была п'еса «Дыхайце эканомна». Я даведаўся аб ёй толькі тады, калі Макаёнак прыйшоў да мяне ў Дзяржкамвыд і паклаў п'есу на стол.

— Вось мой адказ на самую вострую сучасную тэму. І хаця я ведаю, што ты яе, як калісь у «Звяздзе», адразу друкаваць не будзеш, усё ж такі пачытай і, калі будуць заўвагі, скажы.

Гэта было ў канцы жніўня 1982 года. Я, безумоўна, адразу п'есу прачытаў. У ёй выкрываліся і высмейваліся імперыялістычныя маньякі, якія насуперак волі народаў свету, у тым ліку і свайго ўласнага, узвінчваюць гонку ўзбраенняў, падштурхоўваюць свет да новай тэрмаядзернай вайны, спадзеючыся, аднак, што ў гэтай сусветнай катастрофе ім, нешматлікім выбраным прадстаўнікам крывавага бізнесу, у падрыхтаваных загадзя пад зямлёю сховішчах-бункерах усё ж удасца ўцалець. У напружаных да крайнасці міжнародных абставінах выбраная імперыялістычная эліта ізалюецца ад знешняга свету ў падземных сховішчах і адтуль націскае... пагібельную кнопку ядзернага ўдару. Яны ўпэўнены, што праз якіясьці паўгадзіны-гадзіну на планеце жыццё перастане існаваць. У сваіх бункерах гэтыя маральныя ўроды толькі чакаюць, калі на паверхні зямлі знікне радыяцыя і можна будзе выйсці на белы свет на гэты раз адзінымі ўладарамі планеты...

Але, як аказалася, сілы, што выступалі супраць вайны, своечасова адключылі смяротную ядзерную кнопку. На зямлі працягваецца мірнае жыццё, але ўжо без ваеннага псіхозу. Разведчыкі нетраў геолагі выпадкова натыкаюцца на сакрэтны бункер і выяўляюць у ім пячорных уладароў свету. Так заканчваецца п'еса.

У мяне было некалькі заўваг па зместу п'есы. Асабліва слабай мне здалася яе канцоўка. Замест суровага народнага прысуду міжнародным злачынцам, якія, хаваючыся ў падзямеллі, рыхтавалі чалавецтву немінучую пагібель, станоўчыя героі п'есы толькі выказваюць пагарду ім, паведамляючы, што на планеце пануе мір і вядуцца спрэчкі толькі аб тым, як называць жанчыну: гаспадыняй, сеньёрай ці мадамай.

Пры чарговай сустрэчы, гэта было ў кастрычніку 1982 года на ўрачыстым вечары, прысвечаным стагоддзю з дня нараджэння Якуба Коласа, Андрэй Ягоравіч пасля прывітання адразу спытаў:

— Ну як, Міхал, асіліў?

— І даўно,— адказаў я.

— Спадабалася?

— П'еса добрая, галоўнае, зараз, у час такіх абвостраных міжнародных абставін, вельмі патрэбная.

— Вось бачыш, стараюся крочыць з жыццём у нагу. Там, у п'есе, ёсць такое месца: эскадра чырвоных падыходзіць да вострава Уваскрасенне, што і было завязкай канфлікту. Даючы назву востраву, я і не здагадваўся, што такі востраў і на самай справе існуе на карце. А днямі чытаю ў газеце: «Англійская эскадра, якая накіроўваецца да Фалклендскіх (Мальвінскіх) астравоў, збіраецца ля вострава Уваскрасенне». Аказваецца, што не толькі падобны востраў, але і падобная акалічнасць складваецца, якая можа прывесці да міжнароднага канфлікту. Вядома, у дадзеным выпадку справа да крайнасці не дойдзе, воран у ворана кавалак здабычы адабраць можа, а вока не выклюе.

— Гэта, вядома, так,— згадзіўся я і дадаў: — У мяне, Андрэй Ягоравіч, па п'есе ёсць заўвагі.

— І сур'ёзныя? — паглядзеўшы на мяне ва ўпор, спытаў ён.

— Ведаеш, у сур'ёзных рэчах дробязей не бывае,— няпэўна адказаў я.

— Выходзіць, нам трэба сустрэцца?

— Трэба. Выберы час і заедзь да мяне на працу.

— Глядзі, што выдумаў?..— зарагатаў Макаёнак.— Пад'едзь да яго на працу. Там пастаянна службоўцы з паперамі, бясконцыя тэлефонныя званкі. Пагаманіць жа не дадуць! А калі спрачацца яшчэ прыйдзецца? Не, дарагі Міхал, давай зробім па-другому: у любы дзень пасля працы або ў выхадны збяромся на дачы, сядзем, ніхто перашкаджаць не будзе, пап'ём чайку, паталкуем аб тым аб сім, а заадно і твае заўвагі разгледзім. Згодзен?

Я не пярэчыў. Мы дамовіліся, што напярэдадні, калі ў мяне будзе выпадаць вольны час, я пазваню яму.

Да кастрычніцкіх святаў вольнага часу так і не выпала. І толькі пасля святаў, у першую суботу, якая выдалася на рэдкасць дажджлівай, я з раніцы пазваніў Андрэю Ягоравічу на кватэру. Ніхто не адказаў. «Выходзіць, на дачы»,— рашыў я і прыняўся тэлефанаваць на дачу. Але і на дачы ніхто не адказваў. «Відаць, у Шамякіных Макаёнак працягвае свята»,— падумаў я і набраў хатні тэлефонны нумар Івана Пятровіча. Шамякін тут жа адказаў.

— Андрэй выпадкова не ў цябе? — спытаў я.

— Не, Андрэя ў мяне няма,— адказаў ён.

— Тэлефанаваў яму і на кватэру і на дачу — нідзе не адказваюць.

— А на якую кватэру ты яму тэлефанаваў? — пацікавіўся Іван Пятровіч.

— Як — на якую? — не зразумеў я пытання.

— Андрэй перад святам пераехаў на новую кватэру і тэлефон новы паставіў.

Іван Пятровіч даў мне нумар тэлефона Макаёнка, і я адразу ж набраў яго. Трубку падняў Андрэй Ягоравіч.

— Міхал, рады цябе чуць! — адказаў ён на мае віншаванні.

— У мяне сёння свабодны ўвесь дзень,— сказаў я.— Калі табе зручна — я да тваіх паслуг.

Адчувалася, што мой званок з'явіўся для Андрэя Ягоравіча нечаканасцю.

— Ох, Міхал, браток,— пачулася ў трубцы,— тут, разумееш, такая штука, яшчэ ніяк не ўладкуемся ў кватэры, цягаю мэблю, на кухні мазюкаю.— На нейкае імгненне ён замаўчаў, відаць, абдумваючы, як паступіць далей, і потым дадаў: — Ведаеш, Іванавіч, давай перанясём сустрэчу на заўтра. За гэты час я, бадай, з кватэрнымі справамі ўпраўлюся. Ва ўсякім выпадку заўтра раніцой яшчэ сазвонімся.

Я паклаў на рычаг трубку і жонцы, якая была тут жа і чула нашу размову, паведаміў, што Макаёнак пераехаў на новую кватэру.

— Чаму ж ты збіраешся адрываць яго ад хатніх спраў? — папракнула мяне жонка.— Ты не ведаеш, што такое пераезд на новую кватэру?

— Ведаю, ведаю,— адказаў я ёй,— але ж я турбую Андрэя Ягоравіча не па сваёй, а па яго справе.

— Якое гэта мае значэнне, па чыёй справе,— казала далей жонка,— калі кватэру патрэбна прывесці ў парадак, не будзе ж ён з табой гутарыць на нераспакаванай мэблі.

Мне не хацелася працягваць гэтую размову, хаця я і разумеў, што жонка ў нечым мела рацыю. Я сказаў:

— Добра, заўтра я яму тэлефанаваць не буду. Калі ён вызваліцца, патэлефануе сам. А не патэлефануе, будзе вядома, што ён заняты, і тады будзем дзейнічаць па свайму плану.

У нядзелю да дванаццаці гадзін дня чакаў я званка Макаёнка. Але Андрэй Ягоравіч не тэлефанаваў. Пасля дванаццаці мы з жонкай паехалі на сваю дачу — трэба было яе закансерваваць на зіму.

Як расказваў мне потым Іван Пятровіч, яны ўдвух з Макаёнкам у нядзелю сабраліся ехаць на дачу толькі ў чатырнаццаць гадзін. У гэты час Андрэй Ягоравіч і тэлефанаваў мне, але мяне ўжо дома не было. Так у выхадныя дні мы і не сустрэліся.

Я вырашыў на наступным тыдні, не чакаючы выхадных, выкраіць час і абавязкова сустрэцца з Андрэем Ягоравічам, бо ведаў, што п'есу «Дыхайце эканомна» ён перадаў для чытання тэатру імя Горкага. Але 16 лістапада да мяне ў кабінет зайшоў адзін з супрацоўнікаў і гаворыць:

— Вы чулі, Макаёнак памёр...

— Як памёр?! — вырвалася ў мяне.

— Кажуць, памёр у бальніцы.

Вестка гэта так уразіла мяне, што я больш не мог вымавіць і слова. Усяго некалькі дзён назад Андрэй Ягоравіч быў поўны энергіі, творчых сіл, клапаціўся аб пастаноўцы сваёй новай п'есы, паляпшаў, як ён казаў, на старасці гадоў свае бытавыя ўмовы і раптам пайшоў з жыцця. Крыўдна стала і на чалавечую долю, што так заўчасна абрывае жыццё. Мне чамусьці ўспомніўся ўрачысты вечар, прысвечаны шасцідзесяцігоддзю Андрэя Ягоравіча. На гэтым вечары многа гаварылі аб яго творчасці, называлі лепшыя п'есы, якія ставіліся ва многіх тэатрах краіны і за яе межамі. Але Андрэй Ягоравіч, выступаючы ў заключэнне, выказваючы прамоўцам падзяку за высокую ацэнку яго творчасці, за цёплыя словы ў яго адрас, сказаў: «Дарагія сябры, я лічу, што лепшыя мае п'есы тыя, што яшчэ будуць напісаны». І зала бурнымі воплескамі сустрэла гэтую заяву драматурга, таму што перад прысутнымі стаяў на трыбуне чорнавалосы, з пачырванелым тварам, поўны энергіі, я б сказаў, намнога маладзейшы сваіх год Андрэй Ягоравіч Макаёнак.

І вось трагедыя. З засмучанай душы міжволі вырываюцца словы: «Як жа так, родны Андрэй Ягоравіч, што ж ты не стрымаў свайго слова?!» Як жа гэта здарылася? Чаму так рана абарвалася жыццё камуніста-барацьбіта, які быў у вечным гарэнні, у барацьбе за лепшы лёс простага савецкага чалавека, за велічнасць любімай Айчыны?

Якая нечаканая і якая незаменная страта!

Пройдуць гады, утаймуецца ў душы нясцерпны боль, адыдуць у гісторыю падзеі нашых дзён, але яго светлы вобраз будзе доўга жыць у сэрцах усіх тых, хто крочыў побач, хто хоць аднойчы сустракаўся з яго творчасцю. Яго цудоўныя п'есы будуць хваляваць, будуць зваць на барацьбу са злом і цемрашальствам, будуць вучыць жыццю, памагаць упэўнена, з годнасцю ісці па ім не аднаму будучаму пакаленню. І, безумоўна, яго высакароднае імя назаўсёды застанецца ў нашай савецкай літаратуры.

Міхась ДЗЯЛЕЦ

*Кнігі і час*

# ПАЛЁТ ДА ЗЯМЛІ

У гэтым годзе выйшла дванаццатая кніга Уладзіміра Шыціка «Камандзіроўка ў сваім горадзе». Гэта спроба «стэрэаскапічнага» погляду на падзеі, што ўскалыхнулі горад,—серыю дзёрзкіх кватэрных крадзяжоў. У. Шыцік тут як бы дадатковым святлом праяўляе сутнасць таго, што адбываецца. У кнізе прысутнічае звычайны погляд «збоку» і той самы «другі»—знутры. Яго «ажыццяўляе» работнік крымінальнага вышуку лейтэнант Гарбаценка, укаранёны ў групу злачынцаў.

Аўтар шукае прычыны злачынства глыбей, чым мы прывыклі шукаць. І я ўяўляю сабе, як чытач возьме ў магазіне гэты дэтэктыў. Але адначасова з цікавасцю да новых «прыгод» у таго чытача, які знаёмы з творчасцю У. Шыціка, міжволі (я ўпэўнены ў гэтым) узнікне паралельнае пытанне: а калі выйдзе чарговая шыцікаўская кніга фантастыкі? Справа ў тым, што ў гэтага аўтара кнігі названых жанраў пішуцца, як правіла, праз адну: дэтэктыў—фантастыка, зноў дэтэктыў—фантастыка.

Тут жа хочацца пагаварыць пра Шыціка-фантаста.

...Дзіўны ён, гэты настаўнік. Вельмі нават не падобны на ўсіх настаўнікаў, якія з захапленнем і натхненнем расказваюць сваім дзецям пра космас і касманаўтаў. А гэты нават вяртанне экспедыцыі з Тау Кіта не пракаменціраваў. Ён заўсёды пазбягаў размоў пра космас, абыходзіў іх...

Не, так наогул ён нішто сабе, Настаўнік. Добры, уважлівы, і выдумшчык, і вясёлы, і вельмі любіць бываць з дзецьмі на прыродзе. І дзеці яго любяць, нягледзячы на тое, што ён дзіўны. І дамовіліся паміж сабой: не кранаць тэмы космасу, калі ён сам так да гэтага адносіцца. А Сашка не вытрымаў... Але яго зразумець можна: Сашка марыў стаць касманаўтам. Ён і знайшоў стары відэафільм. Там былі кадры, дзе маленькі хлопчык стаіць побач з бацькам, штурманам зоркалёта, у рубцы карабля ў час палёту. Сашка без дазволу Настаўніка ўключыў экран, і дзеці ўбачылі хлопчыка і даведаліся, што ўсё сваё дзяцінства ён правёў на гэтым караблі. Ён і нарадзіўся на ім у час палёту.

— Я ўпэўнены, што калі ён вырас, дык стаў вядомым касманаўтам!—горача ўсклікнуў Сашка, калі экран патух.

Настаўнік даказаў гісторыю «зоркавага» хлопчыка, хлопчыка, які не ведаў сяброў і дзіцячых гульняў, не бачыў хлопчыкаў і дзяўчынак, зямных кветак, мора, палёў, гарадоў... Калі зоркалёт прыляцеў на Зямлю, хлопчык ужо вырас.

«— Ну і што?—сказаў Сашка.—Затое яму лягчэй вярнуцца ў космас.

— Ён застаўся на Зямлі,—адказаў Настаўнік—Таму што ва ўсім сусвеце няма нічога больш прыгажэйшага за Зямлю.

Мне на імгненне здалося... Мне здалося, што наш Настаўнік вельмі падобны да штурмана зоркалёта, бацькі хлопчыка...»



Вось і ўвесь немудрагелісты сюжэт. І само апавяданне «малагабарытнае». А вось жа ж... Нейкі светлы смутак разліты ў ім. Накшталт таго, што стаіш каля свайго старога трухлявага былога дома з трынаццаццю прыступкамі на другі паверх, ля дома, дзе ты вырас у цяжкі час (і ўсё ў цябе ўжо ёсць: і новы дом з усімі выгодамі, і мэбля не раўня той, што тут была, і...)—і так развітальна на душы, так... Дом зараз будуць разбураць, на злом ён ідзе. І больш ніколі... Згублены будзе кантакт з дзяцінствам... Не з новай, толькі што адкрытай цывілізацыяй; не, не так проста—«з нейкай» цывілізацыяй...—з дзяцінствам, з самім сабой, з цэлым светлым светам, дзе жывуць хлопчыкі з «Настаўніка».

Як добра, што яны яшчэ не разумеюць, што гэта такое—Зямля, Дом, Сябры, Каханне... Усё яшчэ наперадзе. І ў гэтым ім дапаможа Настаўнік. (І так хочацца быць нечым падобным да яго...)

Вось і ўся фантастыка.

Проста, дакладна, коратка, і выдумкі ніякай. Чалавечна, таму і хвалюе. Чытачу дадзены «трамплін» для свабоднага палёту. Душу прымусілі «працаваць». Гэта і ёсць літаратура. Суперажыванне. Уяўленне. (Чамусьці ўсё ж успомніўся родны дом у пасляваенным часе...)

Вось такую фантастыку піша Уладзімір Шыцік—пра далёкае будучае, у якім асноўнымі маральнымі каштоўнасцямі (матэрыяльных быццам ужо не будзе) стануць дабрата, гонар, сумленне, мужнасць. Тое, што і сёння ўжо—каштоўнасць.

Цікавым фактам у літаратурнай біяграфіі У. Шыціка з'яўляецца тое, што ў фантастыку ён прыйшоў, ужо будучы аўтарам двух апавяданняў пра маладых заводскіх рабочых, ведаючы гэту тэму не з другіх рук. У час вайны і пасля яе ён працаваў на заводах. Магчыма, тады і вучыўся разумець сапраўдныя каштоўнасці. Потым—вучоба ва універсітэце, праца ў газеце. А ўжо потым стаў пісьменнікам.

«На зямлі ёсць усё, што неабходна літаратару. Папера, пяро і людзі вакол»,—адказаў неяк Уладзімір Шыцік на пытанне чытача, адкуль ён бярэ сюжэты, ідэі. «І людзі»... Галоўнае, што неабходна для фантастыкі.

Уладзімір Шыцік піша фантастыку дваццаць гадоў. І большую частку гэтага нялёгкага шляху (таму што літаратурная праца, калі рабіць яе дастойна, нікольні не лягчэй за любую іншую працу), ствараючы свае кнігі, ён «прайшоў» амаль у поўнай адзіноце. Зрэдку да яго далучаліся «спадарожнікі», але ненадоўга: паспытаўшы «фантастычнага» хлеба, збочвалі з першазімка, і зноў Шыцік ішоў адзін. Вехі гэтага шляху: «Апошняя арбіта» (1962 г.), «Зорны камень» (1967 г.), «Парсекі за кармой» (1970 г.), «У час не вярнуліся» (1975 г.), «Трансплутонавыя афеліі» (1982 г.). У сярэднім на кнігу—чатыры гады. З 1962—гэта ўся беларуская фантастыка ў паліграфічным кніжным афармленні. Адзін ва ўсім полі «тэра інкогніта»—воін, працаўнік.

Цяпер запланаваны ў выдавецтве «Юнацтва» нават серыі фантастыкі (фантастычныя серыі!), штогадовыя зборнікі, і ў тым ліку беларускіх аўтараў (усё ж выгадаваліся ў тым полі, выраслі маладыя парасткі), і савецкіх, і нават зборнікі лепшых твораў зарубежнай фантастыкі. І старонка (цэлая паласа!) штомесячная ў маладзёжных газетах «Знамя юности» и «Чырвоная змена», і, глядзіш, «Неман» (сам «Нёман»!) цэлую падборку маладых беларускіх фантастаў даў...

Больш за дваццаць гадоў прайшло. Лёд крануўся! (Не сурочыць бы...) Паклон Валодзю (так завуць яго сябры-таварышы, «забываючыся» на неюнацкі ўжо ўзрост Шыціка), паклон ад фантастаў пішучых і фантастаў чытаючых. Немалая яго заслуга ў тым, што ў нас, у Беларусі, жанр гэты, здаецца, «пайшоў» не толькі ў магазінах, але і ў выдавецтвах.

Напісаў гэта, і ўспомнілася, што ў сур'ёзнай (першай такой за ўсю гісторыю савецкай фантастыкі) дыскусіі ў «Литгазете» «Фантастыка: сталасць ці старасць?» яе спрабуюць назваць не жанрам, а родам ці відам літаратуры. Усё ж ніяк не могуць нармальна пагадзіцца (прыкладаў процьма! Ці ж не падрывацца са смеху, як райкінскі персанаж, а потым заключаць: «Не смешна!»), што фантастыка ці навуковая фантастыка (што таксама, на мой погляд, не прадмет для спрэчкі, так, як, скажам, «вясковая» проза ці «гарадская», а магчыма, «дарожная»)— што проста літаратура яна, фантастыка! А калі дрэнна напісана, дык проста—не літаратура, якая б фантастыка ні была.

У той жа дыскусіі на апошняй яе старонцы ў дыялогу Сяргея Абрамава і Уладзіміра Губарава ёсць такое месца: «С. А. ...Бястужаў-Лада ў сваім артыкуле заявіў: фантастыка, маўляў, пачынае паміраць. Жанр шукае «шляхі адыходу праз псіхалагічнае, сацыяльнае»... Не адыходу ён шукае, а новых сродкаў кантакту з чытачом і жыццём. Не выпадкова да элементаў фантастыкі ўсё часцей звяртаюцца ў сваёй творчасці такія прызнаныя рэалісты, як Л. Лявонаў, В. Каверын, Ч. Айтматаў, а таксама А. Кім, В. Крупін, В. Арлоў, А. Жыцінскі. А колькі пісьменнікаў у рэспубліках цяпер пасьяхова працуюць «на стыку» фантастычных інтэрпрэтацый самых злабадзённых праблем нашага жыцця! Гэта і Анар (Баку), і Т. Пулатаў (Ташкент), і С. Ягупава (Сімферопаль), К. Сіманян (Ерэван), беларусы У. Шыцік, Г. Папоў, Э. Скобелеў».

Што значыць працаваць «на стыку» фантастычных інтэрпрэтацый злабадзённых праблем», зразумець нялёгка. Але тое, што Уладзіміра Шыціка цалкам і трывала можна аднесці да пісьменнікаў, якія шукаюць (а магчыма, даўно знайшлі?) «шляхі адыходу» ад фантастыкі праз псіхалагічнае і сацыяльнае, гэта факт. Менавіта тое, што ён у Беларусі першы прайшоў шлях ад чыста сюжэтнай («фантастычнай», «страшнай», «даганяльнай» і «блайзерна-бластэрнай») фантастыкі, дзе, па яго ўласнаму выразу, ён спачатку «спрабаваў растлумачыць тое, што не трэба тлумачыць», да сацыяльнай і псіхалагічнай, неабходна аднесці да яго актыву.

Нялёгкі быў гэты шлях, і спакус на ім сустракалася нямала: быў жа час, калі фантастыку чытала ўся краіна: ад, як гаворыцца, і да. І час гэты «прыпадаў» на пачатак працы У. Шыціка ў фантастыцы. Цяжка не паддацца спакусе: гані радок—усё прачытаюць! Пячаць спешкі (але, безумоўна, і піянерства) ляжыць на «Апошняй арбіце», але наступная кніга—праз пяць гадоў—і там ужо апавяданне «Капітан». Яшчэ тры гады—і новая кніга, дзе ёсць апавяданне «Настаўнік».

Яны бачацца мне праграмнымі, гэтыя невялікія апавяданні. Ад іх У. Шыцік адлічвае новы курс у сваёй творчасці: ён цяпер «ляціць» да Зямлі. Хоць яшчэ неаднойчы яго героі будуць накіроўвацца з блакітнай планеты да зорак, але «Настаўнік» і «Капітан» узначаляць цэлы шэраг апавяданняў, дзе «ўдзельная вага» зямлян і зямных спраў (убачаных ракурсам з космасу) будзе рашаючай,— і гэта стане ў творчасці пісьменніка «галоўнейшым» за ўсё астатняе.

Адлятаць, каб прыляцець; палёт, подзвіг, дзеянне, пазнанне—дзеля людзей, дзеля Зямлі; людзі і іх адносіны ў крытычных «фантастычных» абставінах—вось дзе знайшоў пісьменнік сваё і сябе—і ўжо не збочвае з гэтай дарогі. Дваццаць гадоў.

У яго добрыя вочы, яны «выдаюць» яго. Бачна, што Уладзімір Мікалаевіч чалавек добры. Бачна чысціня яго намераў. Ён заўсёды шчыра зацікаўлены ў субяседніку (хто б ён ні быў, гэты субяседнік). Ён умее слухаць.

Хто ведае Уладзіміра Шыціка даўно, не можа не знаць, які надзейны гэты чалавек у дружбе. І яшчэ. Пастаянная гатоўнасць да ўсмешкі: вельмі ён аптымістычны. Такая танальнасць: мажорная, выпрамляльная, светлая. Ці дзіўна, што яго фантастыка лірычная, мяккая і чалавечная? Ці дзіўна, што апавяданні чалавека, які любіць дзяцей, на іх і накіраваны? На людзей, а не на робатаў? Уся «навука і тэхніка» ў Шыціка—дапаможная, як і трэба ў жыцці.

«Літаратурай мары і навуковага прагрэсу» назваў Іван Яфрэмаў фантастыку. Уладзімір Шыцік нібыта ўвасабляе першую частку выказвання. Ён, выкарыстоўваючы «ўжо дасягнуты» сабратамі з ведамства Н. Ф. узровень тэхнікі будучыні,—гарады, веды, апараты,—сваімі кнігамі ажыўляе мару. Яго героі па часе жывуць і дзейнічаюць «далей» за герояў Н. Ф. Яны ўжо абжылі час, за які героі Н. Ф. змагаліся.

Не людзі і тэхніка, не людзі і навука прыцягваюць У. Шыціка, яго інтарэсы рэалізуюцца ў мадэлях «чалавек і людзі», «людзі і абставіны», «чалавек і яго маральны свет»... Мадэлі, рух у якіх хвалюе нас сёння і таксама зацікаўлена будзе хваляваць людзей далёкай будучыні. Гэтыя тэмы вечныя не толькі для літаратуры, але для жыцця таксама.

У. Шыцік ніколі не пісаў пад сваімі апавяданнямі «навукова...», заўсёды толькі «фантастычныя». Аказалася—рэальнасць. Літаратуру «вымяраюць» пачуццямі, а не атрыбутыкай. Пачуцця ва Уладзіміра Шыціка хапіла, бадай, на «добрую» палову напісанага. «ККД» у гэтай спецыфічнай вобласці большы чым дастаткова.

Стабільнасць (а адсюль і натуральнасць) Уладзіміра Шыціка ў такім падыходзе да фантастыкі можна пацвердзіць кароткай цытатай з рэцэнзіі, напісанай дваццаць гадоў назад на кнігу «Зорны камень».

«Пацісну руку свайму сабрату з далёкай галактыкі—мара паэта. Нездарма У. Шыцік вызначае жанр сваіх апавяданняў адным словам—«фантастычныя». Ён не прапануе чытачам—прынамсі, не прапануе сур'ёзна—новых навуковых гіпотэз, не спрабуе глыбока, як, скажам, І. Яфрэмаў у «Туманнасці Андрамеды», аналізаваць светапогляд людзей будучыні. У яго (у Шыціка.—Н. Ц.)—звычайныя «зямныя» справы ў незвычайных абставінах».

Што змянілася за гэтыя гады ў пазіцыі аўтара-фантаста? І ці змянілася? Гэтае і іншыя пытанні мы яму і задалі.

Адказ: Пісаць фантастыку стала цяжэй: чытачы за гэтыя гады «паразумнелі».

Пытанне: А пісьменнікі?

Адказ: Чытачам лягчэй—іх шмат, яны «разумнеюць» калектывам. Пісьменнік жа—у адзіночку. А калі без жартаў, дык патрабаванні дасучаснай фантастыкі—літаратурны і навуковы ўзровень, псіхалагічнасць, вобразнасць—сталі больш жорсткія, адсюль і некаторая змена пазіцыі. А вось выдаўцы і крытыкі засталіся на ранейшых рубяжах, ці, што будзе больш правільным, амаль на ранейшых: «Фантастыка? Ну толькі калі «дзеля касы». «Амаль» датычыцца таго, што ў выдавецкіх планах «Юнацтва» з'явіліся і як быццам больш цвёрда сталі ў шэрагу іншых назвы кніг і фантастычных. Даўно прыспеў час. Хочацца ўспомніць аднаго з энтузіястаў і арганізатараў «фантастычнай» літаратурнай дзейнасці ў рэспубліцы С. Саладоўнікава, старшыню Мінскага гарадскога КАФ—клуба аматараў фантастаў: «Займацца ў наш час фантастыкай значыць думаць пра чалавецтва, пераадольваць правінцыялізм мыслення, бачыць свет ва ўсёй шматграннасці сучасных сувязей».

Пісаць фантастыку не толькі цяжка, але і, як бачыце, адказна. Гэта не «цацкі», як часам лічаць «сур'ёзныя» пісьменнікі, гэта хутчэй гульні, з дапамогай якіх чалавецтва вучыцца жыць у будучыні.

Любы чалавек за 20 гадоў змяняецца. Не толькі знешне. Я не выключэнне. Хутчэй наадварот (фантасты абавязаны ўлоўліваць змены хутчэй і хутчэй за іншых «адказваць» на іх). Мне здаецца, што апошнія мае апавяданні і кнігі сталі яшчэ «бліжэй» да зямлі: да ўнутранага свету чалавека, узаемаадносін людзей, да логікі і «антылогікі» іх учынкаў.

Даўно ўжо не дае спакою пытанне, якое стала сёння цэнтральным ва ўсёй палітыцы ўсіх палітыкаў, клопатам і трывогай усёй Зямлі. Што нам усім рабіць з той фантастычна вялізнай колькасцю небяспечных узбраенняў, якія назапашаны ў падземных ваенных складах як «вялікіх», так і «малых» дзяржаў? Бомбы пад зямлёй, а людзі на зямлі... Відаць, і пра гэта трэба пісаць фантастам, хоць на гэту, цяпер ужо, на жаль, не «фантастычную», тэму і шмат напісана. Але справа ў тым, што ніякая іншая літаратура не можа так відавочна паказаць, што ж будзе з чалавецтвам, калі людзі не ўспомняць, што яны—людзі і што ў іх няма іншага выйсця, як жыць у міры. У савецкіх фантастаў тут перавагі. Яны жывуць і дзейнічаюць у краіне, якая зрабіла мірнае суіснаванне законам сваёй знешняй палітыкі.

Пытанне: Уладзімір Мікалаевіч, вы некалькі гадоў узначальвалі Мінскі КАФ, прадстаўлялі беларускую фантастыку ў Савеце фантастаў і «прыгоднікаў» пры СП СССР. Што вы можаце сказаць аб перспектывах беларускай фантастыкі?

Адказ: Сённяшняя фантастыка выдавецкая, кніжная прадстаўлена нямногімі імёнамі пісьменнікаў старэйшага пакалення—Паўлам Місько, Георгіем Паповым, Эдуардам Скобелевым. А развіццё яе ў нас у рэспубліцы я звязваю з імёнамі маладых, такіх як Я. Дрозд, Б. Зяленскі, Н. Чадовіч і Д. Брадэр, Н. Новаш, Н. Арэхаў, Г. Шышко, У. Цвяткоў, С. Трусаў...

Дастатковая навукова-прыкладная падрыхтоўка, свабода і смеласць выбару, дыяпазон фантазіі—усё гэта ў іх ёсць. Яны не драбняць, праблемы ставяць глабальныя. Часта вырашаюць свае творы смела, часам з парадаксальнага, амаль штучнага: «А што будзе, калі?..» І выходзяць нечакана на такія праблемы, як Вайна і Мір, Экалогія...

Гонар, Сумленне, Каханне, Кампраміс... І—навука і тэхніка.

Яны часта «жорстка» канструююць свае творы. Але што важна: машыны не «задушылі» ў іх людзей. Адзначыць варта прысутнасць у маладых пэўнай літаратурнай школы. Гэта—забеспячэнне рэалізацыі «нафантазіраванага». Мне ў іх усё зразумела, і тое, што амаль усе яны пакуль «ляцяць» да зорак. Але гэта этап, і ў іх ён атрымліваецца лепш, чым у мяне ў свой час. Палятаюць—і вернуцца. Мы ж заўсёды ляцім кудысьці (не важна, ці ў камандзіроўку, ці да Марса), каб вярнуцца. І тут пачынаецца самае галоўнае, пасля вяртання... Галоўнае ў хлопцаў наперадзе. Хацелася б, каб яны ўсвядомілі, што з імі звязваюць надзеі цэлай галіны ў літаратуры.

Пытанне: Як вы пачалі пісаць фантастыку? Што вас у ёй прыцягнула?

Адказ: Перш чым стаць пісьменнікам, любы, хто піша, абавязкова павінен быць вельмі добрым чытачом. Чытаў я шмат і ўсё, што траплялася. У ліку першых пісьменнікаў былі і Жуль Верн, і Аляксей Талстой, і Бяляеў. Дзяцінства і юнацтва майго пакалення выпалі на эпоху стаханаўскага руху, росквіту навукі і тэхнікі, рэкордаў... Мы ўсе былі захоплены тэхнікай, рабілі дэтэктарныя прыёмнікі, планёры. Мы былі зачараваны цудамі сацыялізму. Мара наша пра будучае быццам бы накладвалася на наша захапленне тэхнікай. Пазней, калі я ўжо «начытаўся», скончыў універсітэт, папрацаваў у газетах, паездзіў як журналіст і, нарэшце, як на злом галавы, кінуўся пісаць фантастыку усё гэта мне вельмі дапамагло. Наогул, калі коратка, дык любыя веды—тэхнічныя ці гуманітарныя, узятыя з кніг ці з практычнага жыцця,—будуць карысныя ў любой галіне чалавечай дзейнасці аднолькава, як і ў пісьменніцтве. Веды, па магчымасці шырокія, не могуць перашкодзіць нікому, нават пісьменніку-фантасту. А чаму пачаў пісаць менавіта аб гэтым, на гэтыя тэмы? Ды каму з нас не хочацца апярэдзіць час, паспрабаваць знайсці тайну ці «пажыць» у будучым?

Пытанне: Які лёс вашых кніг?

Адказ: Іх хутка раскупляюць і чытаюць. Гэта вельмі патрэбна ведаць аўтару—гэта надае сілы, упэўненасць, адчуванне патрэбнасці. Атрымліваю шмат пісьмаў. Пасля першай кнігі фантастыкі—«Апошняй арбіты»—пісьмы ішлі на трох мовах: кніга была перакладзена на рускую і румынскую. Гэта было ў 1964 годзе.

Можна сказаць, лёс маіх кніг нармальны. Гэта значыць, што кнігі дасягнулі людзей і людзі прынялі напісанае. Хоць я не лічу, што ў іх і сёння, пасля чвэрткі веку працы ў літаратуры, усё бездакорна.

Пытанне: Што вы можаце сказаць пра «фантастычную» крытыку?

Адказ: Калі нават прынцыповае таленавітае апавяданне Янкі Маўра «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага» ў свой час крытыкі не зразумелі, калі так сурова абышліся з раманам «Шосты акіян» М. Гамолкі—асабліва з першай яго часткаю,—зусім не апошнім для свайго часу раманам...

Не «падабрэлі» нашы крытыкі і сёння. Скажам так, яны па-ранейшаму не заўважаюць фантастыку. А калі заўважаць... На сабе адчуў. Хацелася б, каб крытык быў настаўнікам пісьменніка, сябрам ягоным. І, як мінімум, не менш за аўтара кампетэнтны ў крытыкуемым ім прадмеце.

Пасля выхаду «Парсекаў...» пісьменнік-фантаст У. Шыцік, гаворачы мовай саміх фантастаў, дасягнуў пэўнай вышыні і «лёг» на стацыянарную арбіту. Спакойна і ўпэўнена адчувае ён сябе ў «зямной» тэме. Гэтаму шмат доказаў у яго апошніх кнігах. Што хвалюе ў іх чытача? Цана пазнання; адказнасць чалавека пры сустрэчы з чужым розумам, а праз гэта—адказнасць усёй зямлі; Чалавек у Космасе!—не, не жалезны—і з пачуццём страху і з пачуццём сумнення—проста чалавек. Што яшчэ? Аказваецца, намаганні, затрачаныя на пазнанне, ніколі не бываюць дарэмныя: веды вышэй за смерць, «дальнабойней»—яны вечныя; пакаранне—не страшна, яно не мяжа, мяжа—самапакаранне... Неверагодныя прыгоды: хочаш—вер, хочаш—не. А ў цэнтры ўсяго—чалавек мары, «прыземлены» ўрачамі і ўсё ж чалавек, які здзейсніў свой подзвіг.

Усе гэтыя «выціскванні», вывады, «формулы»—з апавяданняў У. Шыціка «Памылка капітана», «Агеньчык у цемры», «Чаргон ці не?», «Трансплутонавыя афеліі». Гэта нейкі «канспект» пачуццяў і светапогляду аўтара, адкрытая кніга яго душы.

Калі мне прапанавалі напісаць пра каго-небудзь з беларускіх пісьменнікаў-фантастаў, я не вагаўся. Гэтая спроба напісаць пра Уладзіміра Шыціка зроблена не толькі таму, што я дваццаць гадоў ведаю яго як пісьменніка, але і таму, што ведаю, колькі ён зрабіў для беларускай фантастыкі.

Неяк на сустрэчы з чытачамі яго спыталі, што яму не падабаецца ў людзях. Ён сказаў, што з вялікай ахвотай адкажа на пытанне, што яму ў людзях падабаецца.

У такім «аднабаковым» падыходзе да свету—сутнасць Шыціка-чалавека. Гэтым ён цікавы і прыцягальны. У гэтым яго сіла як пісьменніка.

**Навум ЦЫПІС**

# Папытай у кнігарні

**«ЗБОР ТВОРАЎ»** Уладзіміра Караткевіча выпускае выдавецтва «Мастацкая літаратура». На паліцах кнігарняў з'явіўся чарговы, чацвёрты том гэтага выдання. У ім друкуецца першая кніга славутага рамана пісьменніка «Каласы пад сярпом тваім», дзе расказваецца пра падрыхтоўку паўстання 1863 года на Беларусі.

«Я пачаў гэтую кнігу два гады назад. За спіною былі дванаццаць год жыцця ёю, думак аб ёй, ненапісанай. Былі ўспаміны людзей, кнігі зачытаныя і кнігі, да якіх на працягу амаль стагоддзя не дакраналася нічыя рука, акрамя маёй. Я трымаў у руках халодную сталь інсургенцкіх кордаў і канфірмацыі расстрэлаў, якія, здавалася, сачыліся крывёю...» — так прызнаваўся сам Караткевіч у адным з лірычных адступленняў у рамане.

Тэма паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага хвалявала У. Караткевіча даўно, бо продкі пісьменніка мелі дачыненне да драматычных падзей 1863 года і ён яшчэ ў дзяцінстве чуў паданні пра той час.

Пасляслоўе да тома «Мастацкія старонкі гісторыі» напісаў Генадзь Кісялёў.

У кнізе шмат фотаздымкаў.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«КУРГАННАЯ КВЕТКА»** — факсімільнае выданне першага зборніка паэзіі Канстанцыі Буйло, які ўпершыню пабачыў свет у 1914 годзе ў друкарні Марціна Кухты. У ім надрукаваны і вядомы верш паэтэсы «Люблю наш край, старонку гэту», які стаў народнай песняй.

У анатацыі да кнігі гаворыцца: «Шчыры талент», «самабытны талент», «шматабяцаючы талент» — так называлі паэтэсу ў рэцэнзіях, якія з'яўляліся ў «Нашай ніве» пасля выхаду «Курганнай кветкі».

Укладальнікам і рэдактарам кнігі быў Янка Купала. Ён жа таксама папрасіў беларускага мастака Язэпа Драздовіча аформіць зборнік.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ПАЎСТАННЕ СЯЛЯН ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ВАШЧЫЛЫ».** На пачатку гэтай кнігі В. Мялешка і П. Лойка пішуць: «Балотнікаў, Разін, Пугачоў... Гэтыя славутыя, легендарныя імёны кіраўнікоў народных выступленняў у Расіі ведаюць усе. У Беларусі легендарным стала і імя Васіля Вашчылы, які ўзначаліў буйнейшае ў беларускай гісторыі феадальнай эпохі народнае паўстанне. Але ці ведаюць у нас так пра Вашчылу, як ведаюць пра Разіна і Пугачова? Ці ведаюць пра тыя далёкія падзеі? Станоўчы адказ на пастаўленыя пытанні пачуеш не ад многіх. А між тым легенды павінны быць забяспечаны гістарычнымі ведамі. Дык давайце ж зазірнём у XVIII стагоддзе і даведаемся пра падзеі 30—40-х гадоў у Крычаўскім старостве, калі сяляне і гараджане, не сцярпеўшы здзекаў, падняліся на барацьбу супраць сваіх прыгнятальнікаў».

Кніга менавіта і расказвае пра гэтае паўстанне сялян і гарадской беднаты ў Крычаўскім старостве, якім кіраваў Васіль Вашчыла. Тут упершыню падаецца поўная біяграфія народнага правадыра.

Гістарычны нарыс мае падзагаловак «Кніга для вучняў» і рэкамендуецца школьнікам старэйшых класаў.

Даследаванне выдадзена ў серыі «Школьнікам — аб гісторыі БССР».

У кнізе ёсць ілюстрацыйны матэрыял.

Выдавецтва «Народная асвета», Мінск, 1988 г.

**«ВАСТРЫЁ СТРАЛЫ».** Ранейшыя кнігі Алеся Разанава — «Каардынаты быцця», «Шлях-360» — мелі сваіх прыхільнікаў і сваіх праціўнікаў, яны выклікалі ў свой час нават спрэчкі.

Новая кніга паэзіі А. Разанава — зноў жа складаная, своеасаблівая, у ёй спалучаецца апавядальная непасрэднасць з філасофскай афарыстычнасцю.

Зборнік складаецца з трох раздзелаў — вершы-версеты, а таксама паэтычныя мініяцюры «Квантэмы» і «Пункціры».

Выданне з густам праілюстравана У. Цярэнцьевым, змакетавана і аформлена А. Малышавай.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«ЭНЕРГІЯ СЛОВА».** Мастацкае слова, стылістыка літаратурнага твора, выбар героя, размова пра майстэрства пісьменніка, фальклор і літаратура — вось якімі клопатамі жыве гэтая кніга. Літаратурна-крытычныя артыкулы нястомнага даследчыка нашай роднай літаратуры Рыгора Шкрабы, што змешчаны ў зборніку, напісаны цікава і па-навуковаму абгрунтавана, яны несумненна папоўняць набыткі сучаснага літаратуразнаўства.

У сваёй кнізе даследчык звяртаецца да твораў Я. Купалы, Я. Коласа, К. Чорнага, Я. Скрыгана, А. Чарнышэвіча, а таксама маладых пісьменнікаў — Л. Калодзежнага, А. Варановіча, У. Ягоўдзіка, Х. Лялько і інш.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«ПАХВАЛІ ПРАЖЫТЫ ДЗЕНЬ»** — зборнік нарысаў маладога публіцыста Васіля Ткачова, які мае падзагаловак «Кніга-дзённік». У ім змешчаны амаль тузін нарысаў, у якіх расказваецца пра нашых сучаснікаў, даследуюцца праблемы сённяшняй вёскі, робіцца спроба разабрацца ў складанасцях нашага бурнага часу.

Чытач, думаецца, зверне ўвагу на «Маналогі», на хроніку адной камандзіроўкі «Палешукі», на «Два лісты да брата» і асабліва на блакнот чарнобыльскай бяды «Шчасце табе, дом!».

Кніга выйшла ў серыі «Рэспубліка. Час. Людзі».

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

## «БІБЛІЯТЭКА «МАЛАДОСЦІ»

Ужо другі год выдаецца літаратурны дадатак да часопіса «Маладосць». Летась у маладосцеўскай бібліятэцы выйшла шэсць кніжак маладых паэтаў і празаікаў:

**«І НАДЗЕЯ, І ЛЁС, І УСПАМІН»** — зборнік вершаў маладых паэтаў.

**«ЖНІВЕНЬСКІ ПРАСПЕКТ»** — зборнік апавяданняў маладых празаікаў.

**АНАТОЛЬ СЫС.** «Агмень» — першы зборнік вершаў.

**УЛАДЗІМІР САЛАМАХА.** «Кавалёк — лесавая былінка» — аповесць і апавяданні.

**АЛЕСЬ АРКУШ.** «Вяртанне» — вершы.

**ПАВЕЛ САВОСЬКА.** «Запіскі халасцяка» — аповесць.

Падаём кнігі, якія выйшлі сёлета ў першай палове года і якія чытачы могуць спытаць у кіёсках «Саюздруку»;

«Горкі вырай» Міколы Мятліцкага. У анатацыі да кніжкі гаворыцца: «Горкі вырай» — палескі цыкл Міколы Мятліцкага — створаны аўтарам пад уражаннем трагічнай чарнобыльскай вясны. У зоне адчужэння аварыі засталася і родная вёска паэта, развітаннем з якой прасякнуты ўсхваляваныя, поўныя болю і смутку радкі, адрасаваныя пагрозе сягонняшняга ядзернага свету».

«Ноч пацалункаў незалежнасці» Алеся Наварыча. Гэта ўжо другая кніга маладога пісьменніка. Першая — «Рабкова ноч» — выйшла летась у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

У маладосцеўскі зборнік увайшлі апавяданні «Смакотнікі», «Злачынства і кара», «Час ліпеньскіх хрушчыкаў», «Нацыя мурашоў» і інш. Рамантызм, каханне, фантастыка і рэалізм, своеасаблівасць мовы і выкладання матэрыялу — вось што вызначае кнігу А. Наварыча.

«Вочы начніцы» Уладзіміра Ягоўдзіка. Аповесць прысвечана сталенню школьнікаў, чароўнаму адкрыццю свету падлеткамі.

Начніца — казачны сімвал трагічнасці жыцця, але твор, нягледзячы на тое, што герой аповесці зірнуў ёй у вочы, аптымістычны.

Прадмову да кнігі напісаў Уладзімір Конан. Ён гаворыць, што аповесць — «пра станаўленне нацыянальнай свядомасці, пра нараджэнне мастака ў самым шырокім сэнсе гэтага паняцця».

«І не пакіне спадзяванне» Соф'і Шах. Зборнік лірыкі, што выйшаў у бібліятэцы «Маладосці», — першая кніга маладой паэтэсы, якая жыве ў Светлагорску і працуе лагапедам. Шчырасць і даверлівасць, непасрэднасць і праўдзівасць паэтычнай манеры, роздум і пранікнёнасць пачуццяў характэрныя для гэтай кнігі, для ўсёй творчасці Соф'і Шах.

«Здзек» Аляксандра Лукашука. Гэта кніга публіцыстыкі маладога журналіста, у якой, як сцвярджаецца ў анатацыі, «падзеі чатырох месяцаў 1937 года і лёсы чатырох кіраўнікоў Беларусі — Галадзеда, Убарэвіча, Чарвякова, Шаранговіча — дадзеныя на шырокім фоне пакут сялян беларускай вёскі. У публіцыстычных выступленнях аўтар разам з былымі вязнямі ГУЛАГа, гісторыкамі, філосафамі разважае над балючымі ўрокамі нашай гісторыі, страсна палемізуе са сталіністамі».

Прадмову да кнігі «Кроў і праклён» напісаў народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. У ёй гаворыцца: «Аўтар склаў кніжку са сваіх новых і ранейшых газетных, журналісцкіх артыкулаў і нарысаў. Але гэта не звычайная журналістыка. Гэта — летапіс народнай трагедыі. І гэта — аўтарскі подзвіг у многіх адносінах».

«Гісторыя хваробы» Андрэя Федарэнкі. Кнігу склалі аднайменная аповесць і два апавяданні — «Забабоны» і «Сачыненне». Аповесць расказвае пра сённяшняе жыццё студэнтаў, пра вучобу і каханне, пра няпростыя адносіны з аднакурснікамі. Апавяданні таксама прысвечаны сённяшняму дню, яны зноў жа аб пошуках маладымі людзьмі свайго месца ў жыцці.

## БЕЛАРУСКАЯ КНІГА НА МОВАХ СВЕТУ

**«РОДНЫЯ ДЗЕЦІ».** Выйшаў у Маскве і стаў набыткам усесаюзнага чытача вядомы раман у вершах Ніла Гілевіча.

На рускую мову яго пераклаў Уладзіслаў Арцёмаў.

Выдавецтва «Савецкі пісьменнік», Масква, 1988 г.

**«ВОЗЕРА ЛЯ НЕБАСХІЛУ».** Кніга вершаў Рыгора Барадуліна папоўніла папулярную серыю «Савецкая паэзія», якая выдаецца ў Эстоніі.

На эстонскую мову творы паэта пераклаў вядомы паэт Арві Сійг.

Выдавецтва «Ээсці раамат», Талін, 1988 г.

**«КРЫЛО ЦІШЫНІ».** Гэтая аповесць Янкі Сіпакова ўжо выдадзена ў Балгарыі, Грузіі і Эстоніі. Зараз з ёю можа пазнаёміцца польскі чытач.

На польскую мову «Крыло цішыні» пераклаў Андрэй Гацко.

Выдавецтва «Младзежова Агенцыя Выдаўніча», Варшава, 1987 г.

# Нашы аўтары

**АКСАК Валянціна** нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Смолічы Нясвіжскага раёна. Закончыла гістфак БДУ імя У. І. Леніна. Працуе ў Полацкай газеце «Сцяг камунізму». З вершамі выступала ў часопісах «Беларусь», «Работніца і сялянка».
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**ПАШКОЎ Генадзь** нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Ліпавічы на Віцебшчыне. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў на Беларускім радыё. Зараз — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя».
Аўтар кніг паэзіі «Кляновік», «Дыстанцыя небяспекі» і інш. Выступае ў жанры публіцыстыкі. Выдаў кнігу нарысаў «Будзень як свята».
Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

**КЛІМОВІЧ Уладзімір** нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Ігнатаўка на Лідчыне. Там жа скончыў дзесяцігодку. Служыў у Савецкай Арміі. Зараз — студэнт тэатральна-мастацкага інстытута.
Друкаваўся ў перыядычным друку.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**ДРАНЬКО-МАЙСЮК Леанід** нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Працаваў рабочым, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага. Зараз працуе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».
Аўтар паэтычных зборнікаў «Вандроўнік», «Над пляцам».

**МАЛЬДЗІС Адам** нарадзіўся ў 1932 годзе ў вёсцы Расолы на Гродзеншчыне. Закончыў БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у райгазеце, скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы. Зараз — навуковы супрацоўнік гэтага інстытута. Кандыдат філалагічных навук.
У друку выступае з 1954 года. Аўтар многіх зборнікаў і даследаванняў, адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры». Займаецца перакладамі з польскай і балгарскай моваў.

**МІНКІН Алег** нарадзіўся ў 1950 годзе на Хоцімшчыне. Скончыў Маскоўскі энергетычны інстытут. Працуе інжынерам у Брэсце. Вершы друкаваліся ў рэспубліканскім друку.
Аўтар паэтычнага зборніка «Сурма».

**ГАЛЬПЯРОВІЧ Навум** нарадзіўся ў 1948 годзе ў Полацку. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава. Працаваў на заводзе, у рэдакцыях газет, рэдактарам радыёвяшчання, у вытворчым аб'яднанні «Палімір». Зараз — уласны карэспандэнт Дзяржтэлерадыё БССР.
Друкаваўся ў калектыўнай кнізе «Сцяжына».

**КАПУСЦІН Аляксандр** нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Старая Рудня на Гомельшчыне. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Скончыў Мінскую юрыдычную школу, гістарычны факультэт Гомельскага настаўніцкага інстытута, Вышэйшыя юрыдычныя курсы ў Маскве. Працаваў у камсамоле, у органах юстыцыі, у газетах.
Аўтар многіх кніг. Сярод іх «Суд ідзе», «Мерай закона і сумлення», «Покліч сэрца», «Скажу праўду» і інш.

**ЛІПСКІ Уладзімір** нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Шолкавічы на Гомельшчыне. Скончыў Мінскі тэхнікум харчовай прамысловасці і БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў на камсамольскай рабоце, сакратаром праўлення СП БССР. Зараз — галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка».
Аўтар кніг публіцыстыкі і кніг для дзяцей «Рыгоркавы прыгоды», «Марынчына казка» і інш.

**«МОЛОДОСТЬ» № 9 (1—176), 1989 г.**
**Ежемесячный литературно-художественный**
**и общественно-политический иллюстрированный журнал**
(на белорусском языке)

Мастацкі рэдактар **Віктар КАЗЛОЎ.** Тэхнічны рэдактар **Яніна ВАЖНІК.**
Карэктары **Валянціна БАШАК, Мая ВІНАГРАДАВА.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79, выдавецтва ЦК КПБ. Тэлефоны: 31-85-43 — галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 32-82-29 — сакратарыят, аддзелы паэзіі, прозы, крытыкі, 31-76-14 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 39-87-70 — фотакарэспандэнт.

Здадзена ў набор 20.07.89. Падпісана да друку 23.08.89. АТ 05323. Фармат 70×90 1/16. Друк высокі. Умоўн. фарбаадб. 14,77. Умоўн. друк. арк. 12,87. Ул.-выд. арк. 14,62. Тыраж 10 118 экз. Зак. 317.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі пр., 79.









Ілюстрацыі да твораў класікаў беларускай літаратуры, беларускіх народных казак, партрэты сяброў, краявіды роднай Беларусі, нацюрморты — такі жанрава-тэматычны дыяпазон маладой мастачкі **Марты ШМАТАВАЙ.** Яе графічныя аркушы, зробленыя ў эстампных тэхніках (літаграфія, лінарыт, афорт) экспанаваліся на асобных рэспубліканскіх выстаўках, на персанальнай выстаўцы ў Доме літаратара (Мінск, 1989). Асобныя з іх вы можаце ўбачыць у нашым часопісе.

Марта нарадзілася ў 1965 г. у Мінску. Скончыла Мінскае мастацкае вучылішча, зараз займаецца на графічным аддзяленні Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

«Маладосць» зычыць ёй светлых даляглядаў, плёну ў творчасці.

Упершыню ў „Маладосці"



Ілюстрацыя да вершаў М. Багдановіча.